

Былы трактарыст, студэнт IV курса Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі Мікалай Апановіч паспяхова займаецца ўдасканаленнем рухавікоў унутранага згарання.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

12 (106)

Снежань

1961.

Год выдання IX.

У НУМАРЫ:

☆ Артыкул Сакратара ЦК ЛКСМБ Генадзя Жабіцкага «Партыя, табе прысягае юнацтва».

☆ Вершы Кастуся Цвіркі, Аляксея Пысіна, Марка Смагаровіча, Аўгінні Кавалюк, Хаіма Мальцінскага.

☆ Апавяданні Леаніда Гаўрылкіна, Вісарыёна Гарбука.

☆ Заканчэнне дакументальнай аповесці Сцяпана Шутава «Чырвоныя стрэлы».

☆ Нарыс Сцяпана Кухарава «Парасткі будучыні».

☆ Гары, камсамольскі аганёк!

☆ Навука і тэхніка.

☆ Спорт.

☆ Гумар і сатыра.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР
Мінск.

На вокладцы малюнак мастака А. Кашкурэвіча **«Хутка праб'юць куранты...»**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн, друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7480 экз. Цана 40 кап.
АТ. 13238. Здадзена ў набор 1.XI.61. Падпісана да друку 30.XI.61. Зак. 783.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Друкарня выдавецтва «Звязда». Мінск, Ленінскі праспект, 79.

# ПАРТЫЯ, ТАБЕ ПРЫСЯГАЕ ЮНАЦТВА!

XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза знамянуе важнейшы этап у жыцці нашай партыі і краіны, у барацьбе за перамогу камунізма.

Разам з усім савецкім народам камсамольцы, моладзь Савецкай Беларусі з вялікай радасцю і гордасцю за сваю Радзіму, за родную маці-партыю і яе ленінскі Цэнтральны Камітэт сустрэлі і ўсім сэрцам адобрылі гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС. Моладзь, як і ўвесь савецкі народ, аднадушна падтрымала асуджэнне з'ездам культу асобы Сталіна, рашучае выкрыццё злачыннай дзейнасці фракцыянераў-адшчапенцаў Молатава, Кагановіча, Маленкова і іншых.

Новая Праграма партыі — Камуністычны маніфест нашай эпохі. Нібы гіганцкі маяк, яна асвятляе савецкім людзям, усім народам зямлі шлях да запаветнай будучыні. Рашэнні XXII з'езда роднай партыі — баявая праграма дзеяння — радуюць і натхняюць маладых патрыётаў.

З пачуццём велізарнай удзячнасці камсамольцы і моладзь рэспублікі ўспрынялі ацэнку дзейнасці Ленінскага камсамола, дадзеную М. С. Хрушчовым на XXII з'ездзе партыі. У справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXII з'езду партыі гаворыцца: «Усе мы высока цэнім дзейнасць баявога памочніка партыі — слаўнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі. З ім звязана жыццё многіх з нас. Многія камуністы прайшлі школу камсамола. Камсамол — наша будучыня, наш рэзерв. На ўсіх этапах сацыялістычнага будаўніцтва савецкая моладзь, камсамольцы паказвалі яснае разуменне задач, пастаўленых партыяй. Працай сваёй яны пацвярджаюць, што з'яўляюцца дастойнымі наследнікамі вялікіх рэвалюцыйных традыцый, прадаўжальнікамі слаўных спраў сваіх бацькоў».

Такая ацэнка дзейнасці камсамола абавязвае юнакоў і дзяўчат рэспублікі яшчэ з большай энергіяй працаваць на карысць нашай любімай Радзімы, кліча іх на працоўныя подзвігі ў будаўніцтве камуністычнага грамадства. Праграма партыі, гэты вялікі палітычны і тэарэтычны дакумент нашай эпохі, вызначае задачы, якія стаяць перад савецкім народам, перад савецкай моладдзю ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма, развівае марксісцка-ленінскую тэорыю аб выхаванні маладых будаўнікоў камунізма, аб падрыхтоўцы іх да працы і жыцця ў камуністычным грамадстве. Партыя ўрачыста абвяшчае: «Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!» Такім чынам, перад камсамолам паўстае задача навучыць нашу моладзь ужо цяпер жыць і працаваць па-камуністычнаму. Сфармуляваны ў Праграме партыі маральны кодэкс будаўніка камунізма павінен легчы ў аснову гэтай работы.

«Цэнтральнае месца ў рабоце камсамольскіх арганізацый,— га-

ворыцца ў новай Праграме Камуністычнай партыі Савецкага Саюза,— павінна займаць выхаванне ў моладзі бязмежнай адданасці Радзіме, народу, Камуністычнай партыі і справе камунізма».

Вось чаму неабходна, каб моладзь цяпер узбройвалася ідэйна, уважліва вывучала матэрыялы XXII з'езда партыі, новую Праграму КПСС. Гэта — баявая задача кожнай камсамольскай арганізацыі.

У сучасны момант, калі пачаўся перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне, у жыцці нарадзіліся новыя формы прапаганды ідэй камунізма і сярод іх гурткі «Камунізм — практычная задача нашага пакалення». У гэтыя гурткі ахвотна ідзе моладзь, іх лік у рэспубліцы з кожным днём расце, і ўжо налічваецца звыш тысячы гуртко ў. У рэспубліцы каля ста тысяч юнакоў і дзяўчат вывучае канкрэтную эканоміку прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Сёлета ў сетцы камсамольскай палітасветы рознымі формамі вучобы ахоплена 520 тысяч юнакоў і дзяўчат. Цяпер значна больш, чым у мінулым годзе, праводзіцца тэматычных вечароў, дыспутаў на тэмы: «Што такое камунізм», «Нам будаваць, нам жыць у камунізме», «У камуністычных брыгадах мы ў камунізм трымаем шлях» і іншых, больш чытаецца лекцый, больш працуе лекторыяў і кінолекторыяў. У лепшых калгасах рэспублікі створана 250 школ перадавога вопыту, дзе моладзь знаёміцца з жыццём нашых маякоў — перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці, вывучае перадавую агранамічную навуку. Але ў нас зроблена яшчэ далёка не ўсё для таго, каб данесці да кожнага юнака і кожнай дзяўчыны вялікія ідэі камунізма.

Сёння вывучэнне камунізма мае яшчэ адну асаблівасць. Яна заключаецца ў тым, што веданне камунізма патрэбна чэрпаць не толькі з тэорыі, але і з жыцця, з нашай савецкай рэчаіснасці. Моладзь не можа вывучаць камунізм толькі па кніжках, яна павінна прайсці школу камуністычнага выхавання ў практычным жыцці, у працы. Выхоўваць любоў да Радзімы — гэта значыць, рабіць усё для ўмацавання яе велічнасці і магутнасці.

Рыхтуючыся да жыцця ў камунізме, юнакі і дзяўчаты Савецкай Беларусі ўсю сваю энергію і малады запал аддаюць на выкананне і перавыкананне вытворчых планаў, на павышэнне прадукцыйнасці працы, на павелічэнне вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, яны робяць усё, каб наша Айчына была яшчэ багацейшай і прыгажэйшай.

На рахунку камсамола рэспублікі шмат слаўных спраў. Больш 70 тысяч юнакоў і дзяўчат па камсамольскіх пуцёўках працуюць на будоўлях Казахстана, Сібіры, Поўначы, Далёкага Усходу, у Цалінным краі. Рукамі моладзі ўзводзяцца буйнейшыя прамысловыя аб'екты рэспублікі: Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, Салігорскі калійны камбінат, Бярозаўская ДРЭС, Светлагорскі завод штучнага валакна, Гродзенскі азотна-тукавы завод, рэканструюцца і пашыраюцца Ваўкавыскі і Крычаўскі цэментныя заводы. Гэта нашы падшэфныя камсамольскія будоўлі, дзе камсамольцы выступаюць запявкламі спаборніцтва, накіроўваюць намаганні моладзі на стараннуюо працу, змагаюцца за рацыянальнае выкарыстанне тэхнікі і матэрыялаў.

У Беларусі, як і па ўсёй нашай краіне, напярэдадні з'езда разгарнуўся масавы рух сярод моладзі за асабісты працоўны падарунак, за права рапартаваць партыйнаму з'езду аб датэрміновым выкананні трэцяга года сямігодкі. Спаборнічаючы за дастойную сустрэчу XXII з'езда КПСС, камсамольцы, юнакі і дзяўчаты на ўсіх участках будаўніцтва паказалі прыклад стараннай працы, паднеслі партыйнаму з'езду дастойныя працоўныя падарункі.



У падарунак XXII з'езду КПСС салігорскія будаўнікі і шахцёры завяршылі ўсе асноўныя работы па пуску ў эксплуатацыю трох шахт. Ваўкавыскія цаментнікі зманціравалі тэхналагічную лінію. Бярозаўскія будаўнікі завяршылі асноўныя работы да пуску першай чаргі электрастанцыі.

З'езду роднай партыі падрыхтавала свае працоўныя падарункі і сельская моладзь. Вырашаючы важнейшую задачу ўздыму грамадскай жывёлагадоўлі, камсамольцы вёскі ў гэтым годзе паслалі на працу ў жывёлагадоўлю звыш 12 тысяч юнакоў і дзяўчат. Сіламі моладзі за 9 месяцаў гэтага года адкормлена 500 000 свіней, больш 5 мільёнаў галоў птушкі, 300 тысяч трусоў, выгадавана каля 300 тысяч цялят.

Добра папрацавала сельская моладзь, ствараючы трывалую кармавую базу для жывёлагадоўлі. Па-ранейшаму ўдарнай справай сельскага камсамола з'яўляецца вырошчванне кукурузы. Карыстаючыся вопытам мінулых год, сельскія камсамольскія арганізацыі сёлета ўзялі шэфства над усімі пасевамі гэтай культуры. Галоўная ўвага звярталася на ўкараненне комплекснай механізацыі пры вырошчванні кукурузы і барацьбе за зніжэнне сабекошту кожнага цэнтнера кукурузнага сіласу. Большасць звеннявых, механізатараў прайшлі навучанне на спецыяльных курсах. Многія маладыя кукурузаводы па прыкладу камсамолкі Марыі Канцавой пайшлі вучыцца ў школы механізацыі, каб стаць спрактыкаванымі майстрамі механізаванага спосабу вырошчвання кукурузы.

Па меры руху грамадства да камунізма ўсё шырэй адкрываюцца прасторы для камсамольскай ініцыятывы, для ўдарных камсамольскіх спраў. Замацоўваючы за сабой асобныя ўчасткі грамадска-карыснай працы, моладзь гартуе сваю сталасць, развівае пачуццё гаспадара вытворчасці, вучыцца кіраваць ёю і несці адказнасць за яе перад партыяй і народам. Выхоўваючы ў моладзі пачуццё свядомага працоўнага абавязку, камсамол рэспублікі будзе і надалей мабілізоўваць моладзь на актыўны ўдзел у народнагаспадарчым будаўніцтве, будзе лічыць працоўнае выхаванне моладзі адказнай сваёй задачай, бо ў гэтым аснова яго баяздольнасці і аўтарытэту.

Нашы юнакі і дзяўчаты не праходзілі суровай школы рэвалюцыйнай барацьбы, яны не ведаюць нягод ваенных гадоў, цяжкасцей аднаўлення народнай гаспадаркі, як гэта давялося перажыць людзям старэйшага пакалення. Таму адной з важнейшых задач у дзейнасці камітэтаў камсамола па выхаванню ў юнацтва адданасці справе камунізма з'яўляецца выхаванне моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях. Наша моладзь павінна ведаць, якой вялікай цаной, потам і крывёю, мільёнамі жыццяў завявана наша шчаслівае сёння і цудоўнае заўтра. Трэба прывіваць моладзі класавую свядомасць, імкненне памнажаць рэвалюцыйныя традыцыі нашых бацькоў. Камітэты камсамола павінны шырэй прыцягваць да гэтай работы саветы старых камуністаў, запрашаць камсамольцаў 20-30-х гадоў, герояў грамадзянскай і Айчыннай войнаў. Як вядома, Беларусь называюць партызанскім краем, і гэта сапраўды так. У нас шмат гістарычных мясцін. Наша моладзь праявіла масавы гераізм. Камсамольскія арганізацыі павінны больш праводзіць сустрэч з былымі партызанамі, наладжваць паходы па маршрутах былых баёў, распрацоўваць гісторыю камсамольскіх арганізацый, праводзіць мітынгі-шэсці да магіл загінуўшых герояў, устанаўліваць мемарыяльныя дошкі, прысвойваць піянерскім дружынам, школам, вуліцам імёны герояў, якія аддалі сваё жыццё за шчасце народа.

Выхоўваючы моладзь на баявых і працоўных традыцыях, мы аба-

вязаны весці барацьбу з перажыткамі мінулага ў свядомасці асобнай часткі моладзі, змагацца з праявамі буржуазнай ідэалогіі, якая жывіць і падтрымлівае гэтыя перажыткі. Наша моладзь адданая справе партыі. Разам з тым, мы не можам закрываць вочы на тое, што ў нас ёсць нязначная частка юнакоў і дзяўчат, якія занадта захапляюцца заходнімі модамі, фільмамі, джазамі і г. д. Капіталістычныя заправілы робяць усё, каб праз сваіх турыстаў, літаратуру, кіно раскалоць шэрагі нашай моладзі, знайсці ўнутры яе падтрымку. Наша задача — выпрацаваць у моладзі крытычнае ўспрыйманне ўсяго таго, што ідзе да нас з-за рубяжа.

Каб паспяхова вырашаць задачы па камуністычнаму выхаванню моладзі, камсамольскія арганізацыі павінны ўсямерна развіваць самадзейнасць і ініцыятыву юнакоў і дзяўчат. Іменна на гэты бок дзейнасці камсамола звяртаецца ўвага ў Праграме КПСС: «Узрасце роля Камуністычнага Саюза Моладзі як самадзейнай грамадскай арганізацыі моладзі, якая дапамагае партыі выхоўваць моладзь у духу камунізма, уцягваць яе ў практычнае будаўніцтва новага грамадства, рыхтаваць пакаленне ўсебакова развітых людзей, якія будуць жыць, працаваць і кіраваць грамадскімі справамі пры камунізме».

Каб развіваць далей творчую ініцыятыву, камсамольскія арганізацыі рэспублікі яшчэ шырэй будуць прыцягваць моладзь у розныя камсамольскія пасты і рэйды, ствараць штабы і атрады «лёгкай кавалерыі», грамадскія канструктарскія бюро, развіваць грамадскія пачаткі на вытворчасці, у культурным жыцці і быту. За апошні час у камсамольскіх арганізацыях рэспублікі з'явіліся цікавыя формы работы, якія, на нашу думку, заслугоўваюць вялікай падтрымкі. Напрыклад, камсамольскія арганізацыі Магілёўскай вобласці ў апошнія гады вядуць вялікую работу па будаўніцтву культурна-асветных устаноў самадзейным спосабам. У сучасны момант з дапамогай камсамольскай моладзі ў вобласці будуецца каля 200 клубаў. У гэтай справе важна не толькі тое, што моладзь неўзабаве атрымае добраўпарадкаваныя будынкі, дзе можна будзе разгарнуць вялікую работу. Камсамольскія арганізацыі будуюць гэтыя клубы без асаблівых матэрыяльных затрат: самі вышукваюць будаўнічы матэрыял, рыхтуюць кадры будаўнікоў, ствараюць маладзёжныя брыгады і наладжваюць кантроль за ходам будаўніцтва.

Высокай ухвалы заслугоўвае пачын рагачоўскіх камсамольцаў, якія адмовіліся ад платных прыбіральшчыц у клубах і перайшлі на поўнае самаабслугоўванне. І цяпер у клубах стала больш парадку, моладзь інакш пачала адносіцца адзін да другога, павяла непрымірымую барацьбу з парушальнікамі грамадскага парадку.

Самаабслугоўванне — гэта не толькі пачатак камсамольскага шэфства над клубамі ў калгасах. Камсамольцы з'явіліся сапраўднымі арганізатарамі адпачынку моладзі, праводзяць дыспуты, тэматычныя вечары, гутаркі. Клубы сталі цэнтрам культурнага адпачынку моладзі.

Пачын камсамольцаў Рагачоўшчыны знаходзіць усё большую падтрымку ў рэспубліцы. Клубы, якія перайшлі на самаабслугоўванне, паявіліся ў Церахоўскім, Капаткевіцкім, Мсціслаўскім. Шчучынскім і іншых раёнах.

Перавод клубаў на самаабслугоўванне, паляпшэнне культурна-масавай работы сярод моладзі патрабуе кваліфікаваных культасветработнікаў. Падрыхтоўка грамадскіх кадраў для культасветустаноў з'яўляецца надзённай задачай райкомаў камсамола і аддзелаў культуры. З гэтай мэтай камсамольскія арганізацыі ствараюць школы грамадскіх прафесій. Ужо сёння ў рэспубліцы працуе больш 800 такіх школ, дзе займаецца каля 24 тысяч юнакоў і дзяўчат. Школы грамадскіх прафесій створаны пры інстытутах, сярэдніх прафесіянальных навучальных установах, агульнаадукацыйных школах, на буйных прадпрыемствах, у асобных саўгасах і калгасах. У гэтых школах на грамадскіх пачатках рыхтуюцца масавікі-зацейнікі, грамадскія распаўсюджвальнікі літаратуры, лектары, дакладчыкі, суддзі і інструктары па розных відах спорту, старшыні таварыскіх судоў і камандзіры народных дружын, мастакі-дэкаратары, кіраўнікі турысцкіх паходаў, экскурсаводы і г. д.

Трэба аднак прызнаць, што не ўсе раённыя і гарадскія камітэты камсамола зразумелі важнасць гэтай работы. Задача заключаецца ў тым, каб кожны камсамолец набыў тую ці іншую грамадскую спецыяльнасць. Практыка паказала, што стварэнне разнастайных камісій, саветаў і штабаў, няштатных аддзелаў, выбранне няштатных сакратароў поўнасцю сябе апраўдала. Трэба і надалей развіваць гэтыя і іншыя інстытуты камсамольскага самакіравання.

Заслугоўвае ўвагі практыка стварэння няштатных райкомаў камсамола. У Магілёўскай вобласці, напрыклад, у шасці раёнах працуюць такія райкомы. Няштатныя райкомы займаюцца пытаннямі кантролю і аказання дапамогі камітэтам камсамола па пытаннях арганізацыйна-палітычнага ўмацавання камсамольскіх арганізацый, наладжваюць культурны адпачынак моладзі, рыхтуюць юнакоў і дзяўчат да паступлення ў камсамол. Няштатныя райкомы прыцягваюць да камсамольскай работы шырокія масы актывістаў, абапіраючыся на якія, камсамольскія камітэты могуць зрабіць шмат добрага і карыснага. Трэба, каб камітэты камсамола смялей ішлі на арганізацыю няштатных райкомаў, памятаючы, што ў іх моладзь далучаецца да грамадскага жыцця, вучыцца кіраваць грамадскімі справамі.

Шырокае развіццё ініцыятывы і самадзейнасці камсамольскіх арганізацый садзейнічае лепшай прапагандзе ідэй камунізма, выхаванню моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях, барацьбе з перажыткамі мінулага ў свядомасці некаторай часткі моладзі, дапамагае выхаванню ў падрастаючага пакалення адданасці справе камунізма.

Камсамольцы, юнакі і дзяўчаты рэспублікі запэўняюць родную партыю, што не пашкадуюць сіл і старання, ад душы папрацуюць для таго, каб хутчэй заззяла сонца камунізма над нашай краінай.

**Генадзь ЖАБІЦКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі.**

**Кастусь ЦВІРКА**



## ДАРОГІ



Рэйкі граюць, рэйкі гудуць,
Рэйкі, рэйкі...
Зноў пад рэйкі з даляў бягуць
Дарогі, рэкі.

Была ў юнацтве маім цаліна,
Пяскі казахстанскія гралі.
А сёння другая ў сэрцы вясна:
Ангарскія пеняцца хвалі!

Ізноў не стрывала душа: ідзі!
Ізноў было Мінска мала.
Грукаюць колы сто гадзін,
Коцяцца перавалы!

Хораша бачыць сонца ўсход,
Промні, як стрэлы лука.
З траў усплывае лёгкі на ўзлёт
Дым ружовы над лугам.

Зямля, абмытая срэбрам рос,
Вясёлкай шматцветнай заззяла,
І электрычка да сонца наўпрост
Ляціць, не лічачы шпалаў...

Мо некалі стане мой чуб сівым,
Папросяць спакою ногі.
Толькі заўсёды ў сэрцы маім
Будуць грымець дарогі!

## ПАТРЭБНЫ НА ПРАЦУ



Я чуў: дзесь і сёння блукаюць
З аб'явай «Работы шукаю».
А ў нас жа — ля кожнага пляца:
«Патрэбны на працу!»,
«Патрэбны на працу!»



Бетоншчыкі, цеслі, шаферы,
Ўрачы, аграномы, манцёры,
Медсёстры, механікі-знаўцы
Патрэбны на працу,
Патрэбны на працу!

Звіняць і звіняць — што ні ранне —
Ад песень дзяўчат рыштаванні,
Дом здалі — ўзяліся за дваццаць:
Патрэбны на працу,
Патрэбны на працу!

Куды б ні паехаў,— над краем,
Як жоравы, краны, краны...
Хто можа за намі ўгнацца:
Патрэбны на працу,
Патрэбны на працу!

Я чую магутны поступ
У словах аб'явы простых.
Як сонца, яны гараць мне:
Патрэбны на працу,
Патрэбны на працу!

## ЛЮДЗІ



Куды ні пайдзі, куды ні зірні —
Людзі.
На змену спяшаюць дзень пры дні
Людзі.

Сядзяць на лаўках між ліп гаваркіх,
Купляюць бананы і агуркі
Людзі.
Недзе і я растварыўся між вас,
Гуляю з вамі, стаю ля кас,
Людзі.

Нясу да вас я шчасце ці бяду,
Заўсёды і ўсюды я ў вас на віду,
Людзі.
Я прыгажэю пад воч вашых цяплом,
Людзі...
Як добра, што ўсюды кругом
Людзі.

## СОНЦА



Сонца зайшло за лясы...
Зайшло?
Зірніце на свет дзівосны:
Яно рамонкаў ясных святлом
Ззяе на ўзмежку росным.

Ціха-ціха за хлевам шасціць
Мядзяным калоссем з ветрам,
Па дрэве рыпучым, у цёмным лісці,
Ірдзее спелым ранетам,

Яно раўчуком у зялёным яры
Булькоча па цёплым каменні,
Варушыць падзол пад травою ў
бары
Вузламі жывых карэнняў,

Светлым-светлым струменем звініць
У матчынай гулкай даёнцы,
Ды ў сэрцы маім нязгасна гарыць
Сонца.

Леанід **ГАЎРЫЛКІН**

# АПАВЯДАННІ

## ГАРДЗІНЫ

Мал. В. Рамейкі.



Андрэй прачнуўся. У спальні цікаў будзільнік. Цікаў, як і ўчора, і пазаўчора, і месяц назад. На сцяне ад самай столі да ложка звісаў дыван — пышныя ружы. На тумбачцы, дзе стаяў гадзіннік, ляжаў часопіс і тоўсты сшытак з яго, Андрэевымі, запіскамі. Андрэй кожны вечар занатоўваў усё, што здаралася ў калгасе. Праўда, учора нічога не прыйшлося запісаць...

І ўсё ж нешта ў спальні было зусім новае. Андрэй заўважыў, што ў пакоі неяк святлей, чым заўсёды. Можа ён пазней прачнуўся? Ды не, гадзіннік не павінен маніць.

Андрэй глянуў на акно — на ім не было гардзін.

На вішні, што расла ў гародчыку пад самай хатай, шчабяталі вераб'і. Яны радаваліся цяплу і вясне.

Андрэй падняўся з ложка, хуценька апрануўся і выйшаў у залу... Яго вочы, заўсёды светлыя і спакойныя, пацямнелі, густыя бровы сышліся на пераносіцы: ён пачынаў злавацца.

На вокнах у зале таксама не было гардзін.

Святлана, яго жонка, пакавала чамаданы. Яна яшчэ не прычасалася, сабрала толькі паспешна валасы ў вузел. На маленькім прыгожым яе тварыку раптам з'явілася зацятая ўпартасць. Калі Андрэй па-

дышоў да жонкі бліжэй, яна нагнула галаву: не хацела глядзець яму ў вочы.

Андрэй ледзь стрымаўся. Хацелася крыкнуць жонцы: «Дрэнь!» і яшчэ што-небудзь такое, каб на ўсё жыццё прынізіць яе, знішчыць. Але ён ведаў, што гэтым ёй нічога не дакажаш.

— І тут з акон зняла... Так-так, — сказаў ён ціха і заікаючыся. — Мой папярэднік не вешаў нічога на вокны... І людзі адразу сказалі, што старшыня да іх прыехаў не надоўга... Так што пакінь лепш гардзіны. Га? Я заплачу за іх.

— Хай ужо Верачка табе вешае!.. — аж закрычала жонка.

— Слухай, Святлана, няўжо ты за які тыдзень паверыла нейкім плёткам? Я думаў, ты разумная і ведаеш мяне...

— Цяпер ведаю. Ведаю, чаму ты рваўся ў свой калгас. Тут Верачка. Аграном... Кажуць, вас вадой нельга было разліць, калі яшчэ ў школу хадзілі.

Жонка закрыла чамадан і ўзялася за другі.

— Было. Я ж табе расказваў. Ну і што? А цяпер ты ў мяне... Адна. Калі ўмееш верыць, дык вер, — Андрэй падняўся, збіраючыся ісці. — Больш я табе нічога не скажу...

— Ведаеш што, — Святлана адвярнулася ад чамадана і глянула цераз плячо на мужа. — Я ўчора наслухалася тваіх доказаў. Аж цэлы вечар ты на мяне патраціў. Нават свае запісы забыў. Дзякую за ўвагу! — Яна пагардліва ўсміхнулася, памаўчала. — Вось так, даражэнькі! Калі і сапраўды ты кахаеш мяне, то збірайся і паедзем разам. І зараз жа. Гэта маё апошняе слова.

Андрэй толькі ўздыхнуў і выйшаў на кухню.

На стале стаяла ўчарашняя яда. Спрэчка ў іх пачалася ўчора за вячэрай, калі Андрэю зусім не хацелася гаварыць. Не хапала ўгнаення. А дзе яго возьмеш вясной? А без яго ў калгасе і не чакай ураджаю.

Тады і спытала Святлана:

— Што? Верачка з галавы не выходзіць?

І пачалося...

І хто ёй нагаварыў, што ён мае нешта да Веры? Хаця языкі ўсякія ёсць. Крыўдна толькі, што Света паверыла...

А мо яны са Светай ужо ніколі не сядуць разам за стол?

Андрэй вярнуўся ў залу.

— Слухай, Света. Ты яшчэ пастарайся мяне зразумець... Ну, кім я быў там? Жыў за спіной твайго дзядзькі, падбіраў для яго цытаты, пісаў даклады. Ціха, спакойна. А мне хочацца сваёй справы, хочацца зрабіць у жыцці нешта сваё. І я тут патрэбен. Ды і людзі даверылі. Я, нарэшце, адчуў сябе, калі хочаш, чалавекам. Разумееш, чалавекам!

— А маё дзе месца? Табе абеды варыць?..

На двары прасігналіла машына.

— Ну, як хочаш, Света. Едзь. Толькі ведай, я адсюль нікуды не паеду... — Андрэй стаў нервова хадзіць ад сцяны да сцяны. Потым схамянуўся, рашуча махнуў рукой: — Машына ў тваім распараджэнні...

Андрэй заўважыў, што Света была кінулася за ім услед, але спынілася на ганку і далей не пайшла.

На вуліцы была вясна. Гракі ладзілі старыя гнёзды на ліпах. З комінаў у хатах ішлі рэдкія дымкі. Недзе на ферме гула машына.

Але сёння нічога не радавала Андрэя. Маўклівы, насуплены, ён хутка апынуўся ў праўленні. На хаду павітаўшыся з людзьмі, прайшоў у свой кабінет, сеў за стол і абхапіў рукамі галаву...



У кабінет зайшла Вера. Яна ўжо была ў полі: яе гумавыя боты заляпаны гразёю. Вера расчырванелася, была радасная і прыгожая.

— Андрэй Сямёнавіч, дык як жа з угнаеннем?

— Га? — разгублена спытаў Андрэй.

— Прабачце, Андрэй Сямёнавіч, я пазней зайду, — ціха сказала Вера і выйшла.

За дзвярамі гаварылі людзі, ніхто не заходзіў у кабінет, чакалі, пакуль сам, як заўсёды, пакліча старшыня.

«Ну і што, калі так? — думаў Андрэй. — Хай едзе хоць на край свету. Абрыдла кожны вечар слухаць адно і тое... Але...»

Думкі яго перабіў шафёр. Ён уваліўся ў кабінет, загаманіў. Моцна запахла бензінам.

— Як гэта? Так хутка? — здзівіўся Андрэй.

— А хіба на тое шмат часу трэба? Памог, Андрэй Сямёнавіч, ёй новыя гардзіны на вокны павесіць. А гэта вось вам сняданне, — і шафёр паклаў на стол вялікі скрутак у чыстай паперы.

Андрэй, усміхнуўшыся, выйшаў з кабінета:

— Ну, як справы, таварышы?

# ВЯСНА



Мастак Звенігораў звычайна спаў амаль да полудня. У гэты ж дзень стары прачнуўся яшчэ з раніцы. Яго разбудзіла моцная духмянасць. Ён падняў чырвоныя ад пакутнай бяссоннай ночы павекі — на тумбачцы ля ложка стаяў вялікі букет чаромхі.

— Гэта я табе вясну прынесла,— засмяялася, нахіліўшыся над ім, жонка, яшчэ маладая жанчына. Потым яна села ля мужа, паклала сваю маленькую мяккую руку яму на лоб. Стары ўзяў яе сваімі доўгімі пальцамі і пацалаваў

— Вось і вясна... Ну, пайду табе снеданне зраблю. Свежых памідорчыкаў купіла...

Жанчына лёгкай паходкай выйшла з пакоя. Была яна стройная, без той паўнаты, якая многіх старыць у сорак год.

— Эх, мілая Леакадзя...— уздыхнуў мастак.— Як мне трэба стаць на ногі пасля гэтай хваробы, як трэба... Дзеля цябе, дзеля працы.

Жонка хутка вярнулася з талеркай у руках. Яна часта прыходзіла ў спальню з кухні, калі раптам успамінала што неадкладнае.

— А ты ведаеш, каго я сёння сустрэла,— сказала яна.— Не здагадваешся? І не здагадаешся. Анатоля Калчанава. Выйшла з атэлье, а ён бяжыць... Худы такі, вочы як у шалёнага, штаны ўсе ў фарбе... Пытаўся пра тваё здароўе, прасіў кланяцца. Ну, што ты спахмурнеў? Я думала, абрадуешся...

Стары мастак толькі ўздыхнуў.

— Ну, даруй, не думала, што гэта табе непрыемна...— Леакадзя

вельмі часта разумела мужа пазней, чым трэба,— я думала, ты ўсё забыў...

— Такое не забываюць...

... Гады два назад неяк пад вечар Звенігораў вяртаўся дадому з эцюдаў. Ішоў ціхі, задумлівы, разглядаў сустрэчных і не заўважаў, што плячо яго ные ад цяжкага эцюдніка.

Раптам ля тратуара скрыганула тармазамі «Волга» і з яе высунуўся Анатоль Калчанаў.

— Барыс Фёдаравіч, прашу вас! Падвязу, калі ласка... .

У машыне побач з Анатолем сядзела бялявае дзяўчо з прыгожай доўгай шыяй і маленькай кудлатай галоўкай. На дробным тварыку шэрыя вочы здаваліся вялікімі. Яна нечым нагадвала малое кацяня. Яе тонкая, бронзавая ад загару ручка прыліпла да шырокіх плячэй Анатоля. Гэта, відаць, было прыемна яму, бо калі ён гаварыў са Звенігоравым, то стараўся не варушыцца.

— Можаце мяне, Барыс Фёдаравіч, павіншаваць. Пазаўчора купіў гэтую машыну.

— Прыемна, прыемна...

— І ведаеце, не думаў яшчэ... Але так выйшла...— ён глянуў на бялявае дзяўчо.— Так што, Барыс Фёдаравіч, я да вашых паслуг. Магу вазіць вас і на эцюды.

— Прапанова добрая, асабліва для мяне, старога... Дзякую. Але лепш завязі да сябе, а то ніяк я не збяруся. Пакажаш, што там у цябе атрымоўваецца...

Стары не чакаў, што Анатоль можа запярэчыць, адкінуўся на спінку сядзення і закрыў вочы.

— А ці не позна ўжо? Можа лепш заўтра, Барыс Фёдаравіч? Я прыеду па вас.

— Не, не,— цвёрда адказаў стары.— Навошта табе лішні раз турбавацца...

— Я думаў, як лепш,— паціснуў плячыма Анатоль.

Лёгкая ручка капрызліва пакаўзнулася па яго шырокіх плячах і спаўзла ўніз — дзяўчына адхілілася ад Анатоля.

— Не хвалюйся, Алачка. Да кіно яшчэ дзве гадзіны. Паспеем...— пачаў ён суцяшаць яе.

...Уся вялікая веранда была застаўлена дзесяткамі карцін. Цэлымі штабялямі ляжалі гатовыя партрэты.

— Гэта майстэрня мастака ці штамповачны цэх? — Звенігораў халадна глянуў на былога свайго вучня Калчанава. Той стаяў, апусціўшы вочы.

— Гэта ўсё маляваў сам Анатоль,— заступілася за яго Ала.— У яго гэтулькі заказаў, проста тысячы...

— Здраднік...—прашаптаў збялелымі губамі стары мастак і выйшаў.

З таго дня ён працаваў, не пакладаючы рук. Як толькі сонечныя промні пачыналі дрыжаць на дахах высокіх дамоў, Звенігораў браў свой цяжкі эцюднік і ішоў туды, дзе рака яшчэ хавалася ў тумане, а дубровы збягаліся да яе, каб да подыху ранішняга ветрыку выглядзецца ў нерухомае люстэрка вады і ва ўсёй сваёй прыгажосці сустрэць вясёлы дзень.

Аднойчы Звенігораў не вярнуўся дадому. Позна вечарам яго прывезлі трактарысты, якія непадалёк ад гаю сеялі збожжа. Яны знайшлі непрытомнага мастака на ўзлеску.



Звенігораў захварэў надоўга. Ён не ўставаў з пасцелі, не мог ступіць нават колькі крокаў — захліпалася сэрца, не хапала грудзям паветра.

Ён днямі ляжаў і глядзеў у акно. Усю ніжнюю палову акна закрываў іржавы дах суседняга дома. Затое ў шырокую верхнюю шыбу заўсёды свяціла блакітнае неба.

— Эх, прапала мая вясна, Леакадзя,— дзяліўся ён сваім горам з жонкай.

— Я цябе заўсёды прасіла працаваць менш, а ты свету божага не бачыў з-за сваіх фарбаў, — злавалася яна. — Вось і ляжы цяпер. Мо будзеш больш слухаць мяне.

Начамі ён заўсёды не спаў. Не давалі спакою думкі пра тое, што так мала зроблена, так мала... Толькі пад раніцу яго скоўваў цяжкі сон.

За вокнамі чыстае блакітнае неба рабілася зеленаватым. Блізілася спякотнае лета.

Яно надыходзіла хутчэй, чым папраўляўся стары. За восень і зіму ён акрыяў настолькі, што вясною з палкай змог пагуляць па пакойчыку...

... На стале стаіць чаромха.

Ад яе водару кружыцца галава. Стары злазіць з ложка, клыпае з палкаю да акна.

Самая вясна. Таполі кідаюць на тратуары празрыстыя цені. Дзяўчаты ў квяцістых сукенках пырхаюць, як матылькі, радуюцца цяплу, сонцу, сваёй маладосці. Наіўныя, не ведаюць яны, што сапраўдная вясна не тут, у скверы, а там на полі, дзе пыхкаюць у неба дымком шпаркія «Беларусь» і разважлівыя «ДТ».

Там сапраўдная вясна, там яна ва ўсёй сваёй творчай нястрымнасці. Эх, каб не сэрца... Ён бы яшчэ напісаў карціну пра вясну. Вясна — слова з вялікім сэнсам.

Зазвінеў званок. Настойліва, патрабавальна. Хутка ў пакой зайшоў Анатоль у спартыўных шараварах, схуднелы, з маладымі бліскучымі вачыма.

— Ну? — з непрыязню спытаў Звенігораў.

— Вы мне прабачце, Барыс Фёдаравіч! Калі можаце, паедземце да мяне. Я вас вельмі прашу.

— Я хворы.

— Я... На машыне... Туды і назад. Як хочаце, але без вас я не пайду...

— Вы нахабнік, малады чалавек,— Барыс Фёдаравіч цяжка дыхаў.

— Барыс Фёдаравіч, няўжо вы адмовіцеся паглядзець маю новую карціну? Я даў сабе слова вам першаму паказаць яе.

— Ну, з'ездзі ты, Бора. На машыне ж туды і назад. Хоць на свежым паветры разок пабудзеш. Чалавек жа просіць.— І Леакадзя пачала з шафы даставаць выхадны касцюм свайму мужу.

На вуліцы ля пад'езда іх чакала таксі — старая, запыленая «Пабеда».

— А дзе ж ваша «Волга»? — буркнуў стары.

— Прадаў.

Больш не гаварылі. Моўчкі зайшлі ў майстэрню. Анатоль пасадзіў Звенігорава ў крэсла, потым падбег да вялікай карціны, хвіліну пастаяў у нерашучасці і сарваў з яе пакрыўку.

Стары глядзеў, не варушыўся.

Па лузе, звычайным зялёным лузе, ішла дзяўчына. Тая, што тады ехала з Анатолем у машыне.

«Тая і не тая»,— думаў Звенігораў.— Зусім не тая капрызулька...»

Была відаць яе загарэлая шыя, круглае плячо, прыгожая галава, вочы... У іх столькі радасці, шчасця, святла... І ўпэўненасці ў тым, што іменна яна мае права на шчасце і радасць. І не толькі яна. А ўсе... Усе людзі на зямлі.

Нешта было ў карціне новае... І свежыя фарбы, і кампазіцыя. Усё маладое, глыбокае, шчырае.

— Даруй мне, калі можаш... Я пра гэту дзяўчыну тады падумаў дрэнна. Ды і пра цябе...

— Вы правільна падумалі...— азваўся вінавата Анатоль.— Яна пакінула мяне, як толькі я перастаў браць заказы.

— Ну, не хвалюйся... Затое гэтая,— ён кіўнуў у бок карціны,— назаўсёды з табой. І з усімі намі.

І Звенігораў зноў па-бацькоўску ўсміхнуўся Анатолю.

# КВАДРАТЫ



Летні вечар, здавалася, быў зялёны ад цяністых дрэў, што густа абступалі кожную хату. У паветры пахла сухім пылам. Ён падняўся на вуліцы, калі прагналі статак. Усё нібыта вымерла. Доўгі дзень стаміўся і цяпер задрамаў, не дачакаўшыся кароткай ночы.

Рыгор апусціўся на лаўку ля частаколу. На душы ў яго было гэтулькі радасці, што ён не адчуваў ніякай стомы, хоць за дзень засеяў поле, як вокам акінуць. І квадраты атрымаліся, як ніколі. Старшыня з аграномам капаліся, усё драпалі свежую раллю ды мералі. І не змаглі прычапіцца.

— Ювелірная работа, — сказаў Рыгору аграном.

Але не ў гэтым была прычына вялікай радасці... А ў тым, што ўчора Рыгор першы раз у сваім жыцці праводзіў дадому дзяўчыну, ды не каго-небудзь, а Веру.

Вера працавала бібліятэкарам. Прыехала яна ў калгас неяк зімой, і ў бібліятэцы адразу ўсё змянілася: на палічках і століках была заслана белая папера, у маленькім пакойчыку стала ўтульна, што не хацелася яго пакідаць.

У бібліятэцы пачалі цяпер часцей бываць хлопцы. Усе стараліся дагадзіць шэравокай дзяўчынцы з кароткімі валасамі, у джэмперы са стаячым каўнерыкам. З усімі яна аднолькава была ласкавая, нікога не выдзяляла, і нікому ў галаву не прыходзіла, каб да яе заляцацца.

Рыгор прыходзіў у бібліятэку кожны вечар і чытаў, што траплялася пад рукі, покуль не зачынялі клуб. Рыгору чамусьці хацелася ведаць, што дадому Вера заўсёды ходзіць адна...



Вясна не толькі зганяе снег з палёў, яна гоніць зімовы спакой з душы чалавека...

У садах асядаў снег. Ад яблынь пахла сырой карою. На агародах і на вуліцах журчэлі ручайкі і будзілі мары.

На ўзмежку па загуменні пратапталі ўжо сцежку, якая ад сырасці блішчэла ноччу пры месячным святле. Не, па такой сцежцы Рыгору было сумна хадзіць аднаму...

Сум гэты рос, а смеласці, каб што сказаць Веры, не хапала.

Каханне вырасла ў Рыгора такое шчырае і моцнае, што хлопец сам спалохаўся яго і не хацеў, каб іншыя здагадваліся. Нават вечарам у клубе ён не мог танцаваць з Верай. Яму здавалася, што ўсе тады здагадаюцца, што ў яго на душы.

Нарэшце Рыгор адважыўся... Схаваўшыся ў голых яшчэ бэзавых кустах у чымсьці агародчыку, ён праседзеў там цэлы вечар, аж пакуль не скончылася вечарынка. Перачакаўшы ўсіх, ён вылез і стаў хадзіць па сцежцы.

— А чаго гэта ты, Рыгор, адзін туляешся? — пачуў ён у сябе за плячыма дзявочы голас. Але не Верын...

Вера вярталася дадому з сяброўкай.

— Ды так... — выціснуў з сябе Рыгор. — Дыхаю свежым паветрам...

— За дзень не надыхаўся, ці што? — засмяялася тая і знікла за веснічкамі: яна падышла да сваёй хаты.

Калі ж Вера засталася адна, Рыгор доўга не мог загаварыць.

Было ціха-ціха. Толькі скрозь сон шапацела лісце ды між хат бясшумна шмыгалі кажаны.

— Ну, як працуецца?... — нарэшце спытаў ён у Веры.

— Ды нічога, — ціха адказала яна, нечым, відаць, незадаволеная.

Далей яны ішлі моўчкі. Рыгор неяк разгубіўся, хоць і ведаў, што ў такіх выпадках трэба гаварыць хоць што, толькі не маўчаць. Ён не здагадваўся аб тым, што дзяўчына насумавалася ў вёсцы адна і не супраць пахадзіць хаця б з гэтым трактарыстам, які чытае больш за ўсіх і, відаць, нядрэнны хлопец... Але вось...



— Спакойнай ночы...— уздыхнула нарэшце Вера і працягнула яму руку.

Рыгор яшчэ больш разгубіўся, нясмела пацiснуў яе гарачую руку і апамятаўся толькі тады, калі яна ўжо стукнула варотцамі.

— Вера!

Яна пачакала.

— А заўтра цябе можна правесці?

У адказ яна моцна засмяялася. Яму вельмі ж хацелася, каб яна згадзілася. А смяецца яна так шчыра — значыць, згодна...

Вось чаму сёння цэлы дзень у прыжмураных вачах Рыгора хаваецца шчаслівы агеньчык...

...Драўляная падлога хадзіла ходарам ад тупату дзесяткаў ног. У расчыненыя насцеж дзверы і вокны цікавалі падлеткі, якіх не пусцілі дружыннікі. Рыгор прытуліўся да вушака ў дзвярах і стаў шукаць вачыма ў перапоўненай зале Веру.

Яна танцавала з высокім хлопцам у спартыўнай блакітнай куртцы. Гэта быў трактарыст з суседняй брыгады. Яго звалі Адамам. Пра Адама калі што і ведаў Ры-

гор, дык толькі тое, што яго заўсёды ўпаміналі на ўсіх сходах і праўленнях, як пагуляку. Вясковыя мастакі малявалі яго ў насценных газетах у штанах-дудачках, з калматай, як у папуаса, галавой. На самай справе, ён быў прыгожы хлопец, з цёплай усмешкай, з пяшчотай у чорных, крыху гарэзлівых вачах. Гледзячы ў вочы сваёй партнёршы, ён гаварыў ёй нешта вясёлае, бо яна ледзь стрымлівала смех.

Рыгор адразу неяк абмяк і ўжо хацеў быў пайсці з клуба. Але разважыў, што гэта яшчэ нічога не значыць — усе ж дзяўчаты з кім-небудзь ды танцуюць... А на наступны танец трэба запрасіць Веру і не пакідаць яе больш.

Гармонік раптам захліпаў і змоўк. Зрабілі перапынак.

— Чаго нос павесіў? — нейчая цяжкая рука лягла на плячо Рыгору. Ён азірнуўся і ўгледзеў Адама.

— Ды вось толькі з работы... За дзень наматаўся, — Рыгор гаварыў, а вачамі сачыў за Верай. — А ты што тут?..

— Ды выпадкам зайшоў. Прыязджаў па запчасткі. — Адам паправіў свой пышны чуб, пацягнуўся. — А ў вас тут дзяўчаткі — порах. З адной танцаваў, дык так прыціскаецца... Жывая душа, адразу відаць. Эх, шкада, раней не ведаў... Але нагонім сваё. Ну, а ты як? Пакажы, дзе твая дама сэрца?..

Зайгралі вальс. Нехта крыкнуў: «Дамскі». Рыгор выцягнуўся, як струнка, паправіў гальштук — у яго бок ішла Вера. Але яна нават і не заўважыла яго, а можа і не захацела — працягнула свае маленькія ручкі з чырвонымі пазногцікамі Адаму.

...Раніца была празрыстая і свежая. Палі, абмытыя росамі, дыхалі халадком. Загарэўся ўсход, і ўжо сонечныя праменні трапяталі ў агародчыках на кволых бэзавых лісціках.

Рыгор спяшаўся. Ён не спаў цэлую ноч: у галаву лезлі ўсякія думкі. Заснуў толькі на світанні, ды так моцна, што ледзь разбудзіла маці. Ён і паснедаць добра не паспеў.

Учарашнія падзеі здаваліся яму нейкімі далёкімі... Не. Усё будзе добра. Вось толькі варта яму набрацца смеласці і расказаць Веры ўсё, што ён адчувае, і яна зразумее яго.

Увесь дзень з нецярпеннем сядзеў ён за рулём. Падагнаў бы, здаецца, час, каб хутчэй наступіў вечар...

У полудзень пад'ехаў на матацыкле да трактара старшыня.

— Садзіся!..— загадаў ён, нічога добра не сказаўшы.

Праз паўгадзіны яны былі ўжо ў другой брыгадзе ля трактара, што стаяў на поплаве. На траве драмалі двое хлопцаў. Адзін быў Адам. Ён падняўся, пачуўшы людзей, і стаў праціраць заспаныя вочы.

— Ну вось, Рыгор,— сказаў старшыня.— У Адама ніяк не выходзяць квадраты. Паможаш. І будзеш тут, пакуль не наладзіцца ўсё... Зразумеў?

— Тут нешта з мерным дротам не тое...— стаў тлумачыць Адам...

— Паглядзім, лезь на трактар! — загадаў яму Рыгор.

Доўга давялося валаводзіцца. Квадраты то выходзілі, то зноў раптам парушаліся. І толькі пад вечар знайшлі прычыну — аказваецца, прычапны не ўмеў добра нацягваць мерны дрот.

Змораныя хлопцы прылеглі нарэшце адпачыць.

— Ну, якую ты ўчора праводзіў? — спытаў Адам і, не дачакаўшыся адказу, пахваліўся: — А мне, браток, учора трапілася такая вішанька... Эх...

Рыгор падняўся, глянуў зверху на Адама, як на апошнюю на гэтай зямлі істоту.



— Ведаеш, Адам, ты пашляк і... — ён не дагаварыў, павярнуўся і пайшоў, нічога больш не сказаўшы.

Адам толькі здзіўлена падняў галаву...

У гэты вечар Вера ішла дамоў адна. Рыгора не было ў клубе. Не прыйшоў чамусьці на танцы і Адам.

# ПЕРШЫ СНЕГ



З раніцы неба хмурылася, зацягвалася нізкімі густымі хмарамі. Апоўдні ўсхадзіўся вецер, сыпануў калючым снегам. Па асфальтавых платформах ён клаўся вострымі белымі пісягамі; прыліпаў да шпал, буйнымі слязамі збягаў па цёплых шыбах вагонаў.

Лена любіла зіму, асабліва першы снег. Але ж не такі, а ціхі, густы, што асцярожна ахутвае зямлю бялюткай коўдрай, як маці сваё першае дзіця. І таму Лена, уткнуўшыся ў каўнерык шыняля, нецярпліва чакала, калі кранецца цягнік. І як толькі каротка свіснуў паравоз, яна таропка ўскочыла на падножкі.

У вагоне было цёпла і ўтульна. Ад круглай чыгуннай грубкі пахла нечым прыемным, дамашнім.

У першым купэ сядзелі вайскоўцы. Расклаўшы на чамадане каўбасу і кансервы, яны сілкаваліся. Убачыўшы праваднiцу, заўсміхаліся, загаманілі.

— Давай, дзяўчынка, да нас у кампанію. Га? За наша вяртанне, так сказаць, на фронт мірнай працы грамаў колькі...— крайні ўжо быў падняўся і паказаў на сваё месца. Але яна, прыгнуўшыся, праскочыла яму пад рукі.

— Ну вось, пакуль мы служылі, дзяўчаты зусім адзічэлі...— уздыхнуў салдат, і ўсе засмяяліся.

— Лена! Давай да нас! — крычалі дзяўчыне хлопцы з другога канца вагона. Яны былі ў запэцканых цэментам ватоўках. Будаўнікі. Яны даўно ведалі гэтую праваднiцу — прыгожую чарнушку з шэрымі і заўсёды сумнаватымі вачыма. Яна нярэдка гаманіла з імі, але сёння толькі глянула ў іх бок і выскачыла ў тамбур.

Тут было ціха і свежа.

Лене хацелася пабыць адной, хацелася звыкнуцца з той радаснай узрушанасцю, што пасялілася ў яе душы...

Лена вырасла ў дзіцячым доме і можа таму была замкнутая і маўклівая. І хоць ёй мінула ўжо дваццаць пяць, і яна была прыгажэй, чым лічыла сама,— Лена заставалася адзінокай. Так, відаць, сталася таму, што яна чакала ад таго, хто будзе яе выбраннікам, нейкай асаблівай пяшчоты, якой так не хапала ёй цяпер у жыцці. Траплялiся, праўда, ёй хлопцы, але гэта былі выпадковыя людзі, як пасажыры. Можа сярод іх

былі і шчырыя, але паспрабуй разабрацца адразу. І Лена не давярала нікому.

За першай жа станцыяй ад Гомеля—Нававеліцай—пачынаўся лес. Сосны тут нахіляліся адна да другой, гнуліся пад халодным ветрам. Ля самай дарогі рос густы маладняк. Снег у зацішку асядаў на сасновае голле, і на ім раслі маленькія гурбачкі...

Лена не памятала добра сваіх бацькоў... Вайна, дзетдом, курсы, цягнік — вось і ўсё яе жыццё. Здаецца, яно бясклапотнае, акружанае ўвагай добразычлівых пасажыраў. І ўсё ж Лена не памятае, каб хто зірнуў калі на яе з мацярынскай пяшчотай і ласкай.

А ўчора вечарам да яе на кватэру зайшоў Баровіч, які працаваў рэвізорам на чыгунцы. Ён падараваў ёй кулёк цукерак. Пытаўся, як яна жыве, што робіць. Калі развітваўся, затрымаў яе руку, запрасіў у тэатр...

Баровіч быў яшчэ з выгляду малады, хоць і меў больш трыццаці пяці год. Казалі, яго даўно пакінула жонка. Чаму — ніхто не ведаў. І калі гаварылі пра гэта, то заўсёды вінавацілі тую невядомую жанчыну, што пагрэбавала такім чалавекам.

Лена глядзела на завіруху, успаміпала Баровіча.

Высокі. Галава яго крыху адкінута назад, і тоўсты кароткі нос задзіраецца ўгору. Губы тоўстыя, іх рэдка кранае ўсмешка. Затое вочы глыбокія і шчырыя. Глядзяць проста ў сэрца.

Стаяць у вушах яго развітальныя словы:

— Не сумуй, дзяўчынка. Ёсць радасць на зямлі, ёсць...

За вокнамі лес гусцеў і гусцеў. Ён, запарушаны снегам, быў цяпер незвычайна прыгожы. Яна, здавалася, упершыню бачыла яго такім.

Цягнік пайшоў на пад'ём, зачыхаў. Скрыпнулі тармазы. Хвілін пятнаццаць чакалі сустрэчнага цягніка.

Лена саскочыла з падножак на заснежаную зямлю. Было ціха. Толькі сіратліва гудзеў лес ды зрэдку ўздыхаў, астываючы, паравоз. Вецер сюды не далятаў, і сняжок сыпаў роўна, спакойна.

Лена глядзела, як бліскучыя зорачкі на цёплых руках рабіліся крыштальнымі слязінкамі, і радавалася, як малое дзіця.

— А донька мая, а ці можна мне пару астановак, да Насовіч? — спытала раптам яе пажылая жанчына. Яна, відаць, выйшла толькі з лесу і трымала бярэмак тонкіх двухмятровых жэрдачак.— Гэта ж спецыяльна адпрасілася сёння ў брыгадзіра ў саўгасе. Пераехалі ў новую хату, трэба ж і вілачнікі добрыя і чапяла... А лесу ў нас няма.

— Білет ёсць?

— А як жа. Куды ж цяпер без білета праедзеш?

— Ну добра. Толькі каб у тамбуры. У вагон не трэба з гэтымі...— Лена пастукала сцяжком па жэрдачках...

Ізноў колы адстукваюць сваё, лічаць на шляху кіламетры.

Лес недзе знік. Пачалося поле. Па ім доўгімі, жоўтымі пісягамі поўз снег. Вецер мяшаў яго з пылам, замятаў каляіны, няскошаныя купіністыя балоціны, шкробся па дахах вагона.

— Ох і зімачка... Наляцела, як з-за вугла. І не снілі, і не чакалі. А мае ж пабеглі ў школу ў лёгкіх паліто...

Жанчына была гаваркая...

Але тут скрыпнулі дзверы.

— А гэта яшчэ што за дровы? — пачуўся раптам строгі голас. Лена адразу пазнала Баровіча: яна з хвіліны на хвіліну чакала рэвізора. Аглянулася. Баровіч памкнуўся выкінуць жэрдачкі з вагона, але жанчына абхапіла іх абедзвюма рукамі і стала спачатку прасіцца, пасля залемантавала:

— Ды што ты робіш? Ці ёсць у цябе розум? Чалавек ты, ці не? Ды паслухай жа!.. Спецыяльна адпрасілася. У новую хату... Донечка, памажыце! Што гэты звер робіць?..

— Пры чым тут розум...— шыпеў праз зубы Баровіч.— Дровы вазіць забараняецца інструкцыяй. А калі яны пад колы трапяць? Аварыя ж...

— Я ёй дазволіла, Сямён Пятровіч,— уступілася Лена.

Рэвізор нават не звярнуў увагі на яе словы. Ён з усёй сілы рвануў у жанчыны з рук вязку і шпурнуў яе з вагона.

— А цяпер папрашу ваш білецік...— спакойна сказаў ён.

— На, еш! — жанчына кінула яму пад ногі білет і пайшла з тамбура ў вагон.

Наступіла няёмкае маўчанне.

— І навошта ты, Леначка, дазваляеш такое? Гэта ж нельга. Ты ведаеш... Ды ты што? Крыўдуеш? Ты не глядзі так на мяне,— яго губы ледзь кранула ўсмешка.— Я пры выкананні службовых абавязкаў. Служба ёсць служба. Рабі ўсё па інструкцыі. Я чалавек такі... прынцыповы.

Лена глядзела ў акно і да болю кусала губы, каб не расплакацца.

— Ну што ж ты адвярнулася і маўчыш? Што там такое цікавае за акном?

І праўда: за акном толькі завіруха. Халодная сцюжа.

Лена адчыніла дзверы ў вагон. Адтуль дыхнула цяплом.

— Куды ж ты, Леначка? Пастаім тут, пагаворым... А? — Баровіч узяў быў яе за плечы.

— Некалі! Пайду праверу, мо хто яшчэ дзе вязе дровы...

Дзверы ляпнулі перад самым носам рэвізора.

## ЦЫБУЛЬКА



Хоць сонца ўжо кацілася над самым лесам, гарачыня ніяк не спадала. Праўда, ужо не пякло, як апоўдні, калі аж валасы смылелі на галаве, але паветра было сухое і гарачае. Ад зямлі, здавалася, ішоў дух, нібы ад перагрэтай печы.

Лісце на бульбе вісела, як апаранае. Толькі свірэпка цвіла ярка. Яе рэдкія жоўтыя кусцікі здалёку блішчэлі на бульбянішчы.

Босыя Акуліпіны ногі грузлі ў зямлю па самыя костачкі,— пясок, як той прысак.

Акуліна, сагнуўшыся, несла мех травы. Ён быў туга набіты і ад таго цяжкі.

У галаве шумела, кроў стукала ў скронях. Сэрца, здавалася, аж захліпаецца, знямелі рукі.

Ля свайго агароду Акуліна скінула мяшок на зямлю і паволі разагнула спіну.

У жанчыны былі сухія моцныя рукі, абветраны загарэлы твар і засмяглыя губы. Русыя яе валасы, што выбіліся з-пад белай хусткі, выгаралі на сонцы і сталі белыя.

У агародзе пад вішняком была прыемная свежасць, пахла гаркаватым водарам сухой травы. Акуліна памацала свірэпку, што вісела на плоце. Яна аж крышылася ў руках. Жанчына не стала зграбаць з плоту траву, пакуль не ападзе раса: абцярушыцца.

Раптам у спакойных Акуліных вачах мільганула нейкая трывога. Жанчына заўважыла, што на градах стаіць няполатая цыбулька.

«А Ліда ж абяцала...»

Ліда — адзіная дачка ў Акуліны. У вайну нарадзілася, бульбяныя жванкі смактала, зялёная была ад такога харчу. А паднялася — налілася, як той добры яблык. Вырасла, скончыла школу, паступіла ў інстытут. Учора прыехала на канікулы. Сустрэліся яны неяк нязвыкла.

Акуліна пасля работы зайшла ў двор, кінула карове ахапак травы і стала, як укапаная.

У цабэрку з вадой плёхалася, стоячы, стромкая, загарэлая яе дачка. Толькі замест доўгіх кос на галаве ў яе былі мокрыя кудлы.

— Лідачка!

— Мамачка! — дзяўчына кінулася да маці і спынілася.— Ой, якая ты запыленая...

— Нічога, яшчэ раз абмыешся...— Акуліна абняла маладыя пругкія плечы дачкі.— Якая ты стала ў мяне...

— А ты пастарэла...

— Дакуль жа мне быць маладой?

— А ты ўсё траву носіш?

— Трэба ж скаціну падкармліваць, ды і на зіму... Сёлета сена вобмаль. Дажджоў было мала...

Цэлы вечар праседзелі яны з дачкой. Ліда расказвала пра вучобу, пра жыццё ў інстытуце... Маці ўсё слухала і слухала...



— Загаварыліся, а цыбулька стаіць не полатая.

— Нічога, мамачка, я заўтра сама апалю.

... І вось цыбулька як стаяла ўчора, так і стаіць.

Маці ўвайшла ў двор.

Ліда корпалася ля замка. Яна была ў лёгкай празрыстай капронавай кофтачцы, у шэрай вузенькай спадніцы і беленькіх вастраносых туфельках. Уся такая свежанькая, як тая кветка, абмытая начной расой.

— А, мамачка... А я ўжо замыкаю хату...— абрадавалася Ліда.— У кіно пабягу...

— Ты ж хоць вячэрала?— ціха спытала маці.— А то стала такая худзенькая...

— Цяпер, мамачка, мода на худзенькіх... А есці я не хачу. Нядаўна абедала. Так было горача, што я і з хаты не выходзіла... Прыйду, пад'ем. На стале пакінеш вячэру,— Ліда абняла маці, чмокнула ёй малінавымі вільготнымі вуснамі ў шурпатую, абветраную шчаку і хуценька застукала тоненькімі абцасікамі да веснічак.

Маці не стала сёння любавацца ёю. Зайшла ў хату, на хаду з'ела хлеба з малаком, узяла вядро і пайшла даіць карову. Спяшалася, каб яшчэ да цямна хоць трохі апалоць цыбульку.

Аляксей **ПЫСІН**



* * *

Перуны у сто гармат ударылі
Ў гонар юнака, што зняў пагоны...
Звычай на сяле: вярнуўся з арміі,—
Падзь гняздо, вядзі, ў каго ўлюбёны.

Аднагодкі рукавы закасваюць:
Самі цесляры, майстры, прарабы.
Звоняць пілы і сякеры ляскаюць,
Сем дзядоў даюць свае парады.

— З мілай і пад дубам — доля
райская,
Толькі лепш падмурак мураваны.—
Тры вайны, паходы партызанскія
Ўспамінаюць потым ветэраны.

Грукаюць сякеры. Дружна
грукаюць.
(Свята маладое тут—не будні.)
А нявеста і падружкі слухаюць:
— Быццам на вяселлі б'юць у бубны.

* * *

Кірмаш наладзілі гракі,
Аж пошчак грае ў наваколлі.
Чаму трывожны грай такі,
Чаму хістаюцца таполі?

Спякота. Лівень. Сіні гром.
Раскрыла лета ўсе вароты.
І хоча кожны жаўтароты
Дастаць да гэтых дзіў
крылом.

З гнязда на розныя бакі
Зрываюцца ў густое лісце.
— Вярніцеся! — крычаць
бацькі.—
Яшчэ хоць крыху падрасціце...

Ды бачу я: не быць бядзе,
Няхай крыло сваё праверацць;
Магчыма, хтосьці упадзе,
Ўсе іншыя
ў сябе паверацць.

* * *


Я зноў іду у свет мне мілы.
Трымціць над берагам сасна,
Нібы чатыры небасхілы
Трымае на плячах адна.

Відаць, самотна ў дзень
пагожы
Сасонкам на касе крутой,
Калі ў рамонкавым падножжы
Такі грымучы цветабой.

Спускайцеся
на луг
з падхмар'я.
У брод па травах пабяжым.
Сястра і брат — Іван
ды Мар'я —
Раскажуць, як жывецца ім.

Падбел гандлюе цёртым
мелам,
Б'е ў медныя званкі званец,
І ганарыцца, што ён смелы,
Ссівелы ўжо хвалько сівец.

Вунь адуванчык — белы мячык,
Здаецца, просіцца ў руку.
Пазнаем ласку
маці, мачых
Па цеплыні, па халадку,
Хоць на адным яны лістку.

Вада у рэчцы — па калені,
Ды гэтак б'е, пячэ, як лёд.
Памыю ногі на камені,
Каб весялейшым быў паход.

Каб не пякла жарства зямная,
Каб след на сцежцы не згараў.
Прымі букет, рака лясная,
Хоць не табе яго збіраў.

А ты... Ты не прыйшла і сёння,
У чымсьці верная сабе;
Сядзіш у скверы ля газона,
Дзе тлусты чмель сіроп
свой п'е.



Марк СМАГАРОВІЧ

## РАЧУЛКА


В ясновай і летняй парою
Істужкай блакітнай цякла,
Пад снегам глыбокім зімою
Закутая лёдам была,
Марнела, нібы сіраціна...
Было гэта ўсё ды сплыло—
Яе перакрылі плацінай,
Даваць яна стала святло.
І ўвечары гутарыць доўга,
Разліўшы святло над сялом,
З праслаўленай матухнай-Волгай,
З праслаўленым бацькам-
Дняпром.

## СЯБРУ ХЛЕБАРОБУ


Нямала ў родным краі
Ты асушыў балот,
Высокія ўраджаі
Здымаеш кожны год.
А я на іншай ніве
Працую доўгі час.
У творчым жыць парыве
Радзіма вучыць нас.
Дык будзь, браток,
шчаслівы,
Прызваннем даражы!
Не маюць нашы нівы
Ніякае мяжы.

Аўгіння **КАВАЛЮК**

## ЗАЙЗДРОШЧУ

Вятрам я зайздрошчу,
Шляхам я зайздрошчу,
І сінім азёрам, і рэчкам, і зорам,
І той, што з табою сягоння у пары,
Каму давяраеш і думкі, і мары.

* * *

Я прайду па дарогах росных,
Ля кастра заначую...
Там, дзе гонкія сосны,
Памаўчу я.
Нерухомае ўсё ў гэткі ранак.
Адшукаць бы найлепшыя фарбы,
Стаць бы Шышкіным ці
Левітанам,
Перадаць бы маўклівыя скарбы.

## СЯБРОЎЦЫ

Я прыйду к табе ў вечар
вясновы,
Мы пад зоркамі памаўчым.
Можа, зоркі бязгучным словам
Тваймy гору змаглі б памагчы.
Можа, гэта зусім не гора.
Ну, нашто такі сумны настрой?
Можа, проста яшчэ ў гэты горад
Не прыехаў каханы твой.





*Я хачу расказаць пра майго добрага знаёмага, беларускага пісьменніка Вісарыёна Сцяпанавіча Гарбука.*

*У 1935—1936 годзе мне давялося кіраваць гуртком пачынаючых пісьменнікаў, так званай студыяй маладых паэтаў. У гэтай студыі аднойчы чытаў свае першыя творы бялявы юнак. Неяк пасля заняткаў мы разгаварыліся, і я даведаўся, што яго завуць Вісарыён Гарбук і што з малых год ён зведаў шмат гора. Нарадзіўся ён у вёсцы Шкілякі на Палаччыне ў 1913 годзе ў беднай сялянскай сям'і. Пасля смерці бацькі сямігадовага хлапчука ўзяў на выхаванне Іосіф Васільевіч Ключонак — настаўнік пачатковай школы Чашніцкага раёна. З яго дапамогай Вісарыён скончыў школу сялянскай моладзі ў Чашніках, а пасля педагагічнае вучылішча ў Лепелі. Папрацаваўшы пару гадоў настаўнікам пачатковай школы, Вісарыён Сцяпанавіч паступіў на літаратурнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

*З першага дня вайны па 1947 год Вісарыён Гарбук знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі. У складзе інжынерных войск прымаў удзел у абароне Масквы. Пасля вызваляў Беларусь, Варшаву, штурмаваў Берлін і паставіў свой подпіс на сценах разбуранага рэйхстага. За баявыя заслугі мае чатыры ўрадавыя ўзнагароды. Але цяжкая хвароба скруціла яго і прыкавала да шпітальнага ложка. Ды не такі Вісарыён, каб здацца ў рукі смерці жывым. Ён піша апавяданні, нарысы, вершы.*

*Мікола ХВЕДАРОВІЧ.*

Вісарыён **ГАРБУК**

# АПАВЯДАННІ ПРА ДЗЯЦЕЙ

Мал. Ю. Пучынскага.

## ВЯРТАННЕ

Пяцігадовая Леначка гуляла на вуліцы з сяброўкамі. Дзяўчынкі цягалі ў скрынцы самаробную ляльку і невялічкае кацяня. Нечакана Леначку паклікалі.

— Тата прыехаў!



Леначка спалохалася нямаведама чаго і, кінуўшы ляльку, пабегла дахаты.

За сталом сядзелі зусім незнаёмыя дзядзька і цётка ў ваенная вопратцы. Заплаканая маці падхапіла дзяўчынку на рукі і, пасадзіўшы на калені да дзядзькі, загадала:

— Абнімі і пацалуй нашага татку.

— Вось якая ты ў мяне!— сказаў дзядзька.

Асцярожныя моцныя рукі прытулілі дзяўчынку да гімнасцёркі. Леначка адчула ля шчакі халодныя медалі. Яна раптам ускінула хударлявыя, запэцканыя ў пясок ручкі і, абняўшы бацьку за шыю, спытала:

— А ты цяпер, татка, назаўсёды?

Цяжка ўздыхнуўшы, бацька адказаў:

— Але, мая дачушка, назаўсёды.

Вочы яго былі нейкія нерухомыя і дзіўныя.

Калі назаўтра маці пайшла на працу, Леначка засталася дома і ўвесь час бавіла з бацькам. Бацька сядзеў і слухаў Леначку, а яна ўсё апавядала:

— А мы з мамкай чакалі цябе, чакалі... Мамка варэння наварыла... А я пальчык апякла. І язык.

Раптам Леначка таямніча сказала:

— Тата, а я бачыла...

— Што ты бачыла?

— Бачыла, як ты ўчора вочкі вымаў і клаў у шклянку з вадой. Я спалохалася. А чаму мае вочкі не вымаюцца. Тата, чаго ты маўчыш?

— Ідзі, дачушка, пабегай! Пашукай кацяня.

— Не хачу.

— Ну, пакліч маму!

— Ты хочаш палуднаваць? — Леначка ўскочыла. — Я — зараз.

Калі зачыніліся дзверы, у пакоі пачуўся плач.

Шмат чаго перажыў салдат Аляксандр Мацвееў за доўгія пяць гадоў вайны і шпіталяў, але не плакаў, а гэтым разам не стрымаўся. Так захацелася яму ўбачыць дачку...

Праз дзве гадзіны Леначка з мамай вярнуліся з дзіцячага саду, дзе маці працавала выхавацелькай.

— Ну, як ты, тата, не сумаваў без нас адзін? — спыталася маці, падышоўшы да бацькі.

— Што ты, маці, я слухаў жаўранка, — адказаў бацька. — Ён спяваў амаль ля самага нашага акна... А памятаеш, як мы стаялі на дарозе, ля дуба, а над балотцам стагналі кнігаўкі... І ты плакала.

— А я сказала, — перабіла маці, — што ты вернешся... Ты ж памятаеш, я сказала: ты вернешся!

— А я дзе была? — спыталася Леначка.

— А цябе яшчэ не было.

— А мы за вайну з мамкай без цябе так нацярпеліся! — як дарослая, сказала Леначка. — І ты, тата, без нас нацярпеўся?

— І я, дачушка!

Ён падхапіў Леначку на рукі, прытуліў да сябе, пацалаваў і сказаў:

— Нацярпеліся, каб больш ужо ніколі так не цярпець. Пойдзем палуднаваць, дачушка.



# ПАДАРУНАК

Света, нібы клапатлівая ластаўка, носіцца па кватэры. Дзіва што! Заўтра — свята! Ды якое: Свецін дзень нараджэння і сёмае лістапада!

— Мамачка! Якая я шчаслівая, якая я шчаслівая!

Вечарам Света прыпала да рэпрадуктара.

— Паважаны дзядзька дыктар! Будзь ласкавы, перадай: «Дарагія слухачы, заўтра будзе ясная, сонечная пагода»!

Назаўтра раніцай была пагода.

У школьнай калоне Свету паставілі ў першы рад і далі несці цэлую звязку рознакаляровых шароў. І сярод іх самы вялікі і найпрыгажэйшы — блакітны. Ён адразу спадабаўся Свеце, бо і яе берэцік, і стужкі ў косах, і паліто былі аднолькавага з ім колеру. І неба было падобнае на вялікі блакітны шар.

Калі закончылася дэманстрацыя, Света з шарамі пайшла дахаты. Блакітны шар ёй захацелася несці асобна. Але азяблыя пальцы не ўтрымалі нітку, шар вырваўся з рук і, паціху гойдаючыся, пачаў падніммацца ўгору.

Раптам незнаёмая дзяўчынка падскочыла і злавіла шар за нітку.

— Дзякуй табе, — узрадавалася Света і працягла руку.

Незнаёмая дзяўчынка нечакана павярнулася і хацела ісці, але Света ўзяла яе за рукаў паліто.

— Я яго несла... Разумееш? Мне яго далі ў школе.

— А я спаймала... А раз так — то ні твой, ні мой! — І дзяўчынка так цісканула шар, што ён лопнуў. — Ні табе ні мне! — паўтарыла яна і ўцякла.

Азяблая і засмучоная, Света прыйшла дахаты, скінула паліто і туфелькі, кінулася на ложак і расплакалася.

— Што з табой? Замёрзла? — спыталася маці.

— Ды не...

— Каб я магла, я б з ёю не ведаю што зрабіла... — Света ўсё расказала пра дзяўчынку.— Гэта ж быў мой шар.

— Няўжо твой? — здзівілася маці. — А ты падумай.

Света была змораная і хутка заснула. А калі наступіў новы ранак, крыўда ў Светы ўжо не была такой вострай, і дзяўчынка здзівілася, што ўчора плакала.

Праз дзень Света пабегла ў школу. Яна адразу даведалася пра навіну: дзеці з Далёкага В'етнама прыслалі яе класу ліст і падарунак — тоўсты альбом з малюнкамі, фотаздымкамі, вышыўкамі... Кожны школьнік прыслаў сваю лепшую працу. Гэта быў цудоўны альбом.

— А чым жа мы адкажам нашым в'етнамскім сябрам?— спыталася настаўніца, калі ўсё было перагледжана па некалькі разоў.



Дзеці зашумелі:
— Мы пашлём свой альбом!..
— Будзем лепш вучыцца!..
— Каб не было дрэнных учынкаў...
— У мяне ёсць прыгожая самапіска, — сказаў Пеця. — У сярэдзіне яе пад празрыстым шкельцам залатая вежа Крамля з рубінавай зоркай!
— А хіба ты яе сам зрабіў? — спытала Рая. — Вось я пашлю сваю вышыўку.
— А я, я... — раптам гукнуў Пеця, — шпакоўніцу!
Усе засмяяліся, хоць і ведалі, што Пеця майстраваў прыгожыя хаткі для птушак.
— А як жа ты яе ў альбом змесціш?
— Я тады прынясу малюнак, — ажывіўся засмучоны Пеця. — Свой малюнак: голуб міру.
Света ўбачыла ў альбоме куток філатэліста і вырашыла падараваць калекцыю марак. Яна ўжо тры гады збірала іх.
— О, гэта будзе адзін з лепшых падарункаў! — сказала настаўніца.
Радасная, Света заспяшалася дахаты і яшчэ на парозе закрычала:
— Мамачка! Што нам сёння прыслалі!
І расказала пра падзеі ў класе.
— А я вырашыла падараваць альбом з маркамі, — памаўчаўшы, дадала яна і спытала: — Як ты, мама, думаеш, гэта будзе добры падарунак?
— А табе яго не шкада? — нечакана спытала маці.
— Мне шкада? — здзівілася Света. — Што ты, мама?
Маці ўсміхнулася і прытуліла яе да сябе.

# ПАДАРОЖЖА Ў БУДУЧЫНЮ

Лета. Па вуліцы горада ідуць Вадзік і мама. На галаве Вадзіка саламяны картузік з вялікім казырком — абаронай ад сонца. З-пад казырка глядзяць жывыя, цікавыя да ўсяго вочы. Хлопчык штохвіліны прыпыняецца, цікуючы на што-небудзь, і тады маці, злуючы, цягне яго далей.
Маме — трыццаць, Вадзіку — шэсць гадоў. Мама моцна трымае яго за руку, усцішвае, а ён усё гамоніць і гамоніць:
— Мама, глядзі: самалёт! Двухматорны! Гэта «ІЛ»... Як я падрасту, абавязкова буду лётчыкам.
— Кінь ты! — кажа маці. — Ніякім ты лётчыкам не будзеш. Лётчыкі заўсёды разбіваюцца.
Твар у мамы заклапочаны і нават злосны.
— Мама, стой! Бачыш, міліцыянер сігналіць... Мама, а я буду міліцыянерам. Буду цябе вазіць у калясцы на матацыкле.
— От балбатун! — адказвае маці. — Памаўчы хоць хвілінку. Ты думаеш, міліцыянеру добра? І ў мароз, і ў дождж, і ў спёку — стой на вуліцы.
Вадзік не бачыць у гэтым нічога дрэннага, але змаўкае і задумваецца. Ён ужо ўяўляе сябе ў форме міліцыянера. Зімой ён будзе





ў шынялі, летам у дождж — у плашчы, а ў спёку ён будзе, як вунь той чалавек у трусах, які стаіць на даху двухпавярховага дома і мажа яго чырвонай фарбай, абмакваючы пэндзаль у вядро.
— Мама, мама! — радасна крычыць хлопчык. — Глянь хто гэта туды забраўся? Што ён робіць?
— Маляр. Дах фарбуе, каб не цёк.
У небе над домам кружацца белыя галубы. Убачыўшы іх, Вадзік пытае:
— Ён і галубоў можа злавіць?
— Можа.
— Мама, я хачу быць маляром!
— Ты зусім звар'яцеў! — маці тузае за руку хлопчыка. — Хочаш хадзіць такі мурзаты, як гэты мазіла? Ды цябе ўсе добрыя людзі будуць палохацца...
Вадзік бачыў, як палохаюцца сабакі, але як людзі — не бачыў, але жыва ўяўляе: ён махае на іх даўжэзным пэндзлем, а яны падаюць на карачкі і, лемантуючы, скачуць ад яго ў розныя бакі. А лавіць галубоў... Хлопчык ужо з задорам паўтарае:
— Усё роўна буду маляром!
— Свавольнік ты і ўсё! — адразае мама. — Будзеш так казаць, нічога табе не куплю.
Ідучы далей, яны сустрэліся са знаёмай цёткай. Маці пачала з ёй сваю гутарку. Вадзіку было нецікава.
У гэты час да дому, дзе яны прыпыніліся, пад'ехала машына хуткай дапамогі. Дзядзькі ў белых халатах накіраваліся ў брамку. Цётка развіталася з мамай.
— Ідзём! — сказала мама.
— Пачакай! — просіць хлопчык. — Куды гэта дактары пайшлі? Да хворай цёткі? А што з ёй?
Вадзік памятае, як паўгода назад да хворай суседкі прыязджала такая ж машына.
— Да хворай цёткі, — згаджаецца маці. — Яна з'ела многа марожанага і захварэла ангінай.
— Мама, ты мне купіш белы халат і я буду доктарам.
— Яшчэ чаго не хапала! — фыркнула маці. — Усё жыццё няньчыцца з хворымі. Схопіш якую-небудзь заразу і памрэш дачасна... Ды пастой ты, твар абатру!
Зноў Вадзіка вядуць за руку, і ён трапляе на новую вуліцу. Вось будуюць дом: ля машын завіхаюцца рабочыя, згружаючы цэглу, мяшкі з цэментам. А над імі высока ў небе — пад'ёмны кран.
Вадзік у захапленні: вось дзе сапраўды і цікава, і весела!
— Мама, мама! Тата наш тут працуе?
Хлопчык памятае, што яго тата інжынер-будаўнік.
— Тут! — механічна адказвае маці. — Недзе тут!
— Пусці мяне да таты! — просіцца хлопчык. — Я буду яму памагаць!
— І па цэлых тыднях не бываць дома?
Вадзік зусім збянтэжаны. Моўчкі ён ідзе далей і грызе палачку ад марожанага.



# СУДДЗЯ

За вокнамі нашай кватэры, куды ні глянеш — узводзяцца сцены новых дамоў. Аднойчы ранкам непадалёку ад нас падняў у неба сваю магутную руку вежавы кран. Падняў і... замёр.

Я не раз падыходзіў да акна і абураўся: якое бязладдзе, такая тэхніка — і не працуе! Маю прыкрасць заўважыла дачка — пяцігадовая Марынка. Яна паднесла да акна лялькy Наташу:

— Бачыш, Наташа. Ёсць людзі без кватэр. А гэтыя дзядзі-будаўнікі прывезлі такую тэхніку і кінулі. Ім пустымі бутэлькамі ў ларку гандляваць. У газету трэба напісаць...

Я здзівіўся. Так я ніколі не гаварыў.

— Марынка! Ад каго ты чула пра пустыя бутэлькі?

— Мы ж з табой, татка, не адны на свеце,— занятая сваёй лялькай, сказала дачка.

— Цікава...

Аднойчы раніцай я не падышоў да акна, але пачуў радасны голас Марынкі:

— Тата, татачка! Паглядзі, што падняў кран! Цэлую сцяну!.. Тата, гэта ты напісаў, каб кран працаваў?

— А хіба мы з табой адны на свеце? — спытаўся я, каб ухіліцца ад адказу.

— Ты не адзін, але ты самы лепшы, — адказала Марынка і паглядзела на мяне. «Няўжо гэта не так?» — нібы пыталіся яе вочы.

Я на момант сумеўся. Настаў час, калі за свае ўчынкі трэба адказваць не толькі перад сабой. Я падышоў да дачушкі і падхапіў яе на рукі.

— Мая дарагая Марынка! Мой маленькі суддзя! Буду рабіць усё, каб табе ніколі не прыйшлося расчароўвацца ў сваім бацьку.

# ЯЛІНКА Ў КАРОБЦЫ

Гуляючы з сяброўкай у хованкі, Наташа выбегла з пад'езда на вуліцу і сутыкнулася з незнаёмым дзядзькам. Дзядзька ледзь не ўпусціў з рук вялікі букет кветак. На твар Наташы пасыпаліся халодныя расінкі. Дзядзька ўсміхнуўся і падаў ёй кветку гваздзікоў.

Наташа абрадавалася і кінулася дадому, каб паставіць кветку ў ваду. На адной з прыступак лесвіцы яна спатыкнулася і ледзь не ўпала. Прыбегшы ў пакой, беражна паклала кветку на стол, адшукала ў кухоннай шафе шкляны слоік з-пад кампоту, наліла ў яго вады. Узяўшы кветку, убачыла, што сцябло зломана. Адчыніла тады шыфаньер і ў адным з футаляраў знайшла стужку, каб перавязаць кветку. Паставіўшы яе ў слоік з вадой, Наташа нахілілася над сталом.



Ніводныя маміны духі і памады ніколі так прыемна не пахлі.

У гэты момант у пакой увайшла маці.

— Ты чаго на стол умасцілася? — накінулася яна на Наташу. — Зноў насваволіла! Сервант насцеж, шыфаньер насцеж, усе футалары на падлозе, з крана вада хлешча, на абрусе лужына, дзверы не зачынены, — цэлы пагром! Ты што сабе думаеш? Адкуль гэтая кветка? Навошта яна табе? Хіба мала табе кветак, што ўжо ёсць?

Наташына мама не любіла жывых кветак. Яна не раз казала суседкам:

— Толькі адна вільгаць ад іх... А ноччу яны ўвесь кісларод забіраюць. Ад іх нават памерці можна! Былі такія выпадкі.

І пакой Наташынай мамы заўсёды зімой і летам упрыгожвалі вялізныя букеты папяровых кветак, ад якіх нічым, апроч пылу, не пахла.

Наташа ўбачыла, як яе мама схапіла кветку і кінула ў расчыненае акно.

Улучыўшы момант, Наташа ціхенька вышмыгнула на вуліцу. Злавіўшы кошку, яна пасадзіла яе ў кардонную каробку але кошка ўцякла.

Наташа насыпала ў каробку пяску і заглядзелася на маленькую махнатую елачку, якая расла між кветак на газоне ля суседняга дома. Наташа падбегла да дрэўца, выцягнула яго з зямлі і паспрабавала пасадзіць у пясок.

Але і дрэўца не хацела быць у каробцы. Яно вылазіла з пяску і бездапаможна хілілася на бок. Наташа задумалася: чаму так?

— Ах ты хуліганка! — раптам пачула Наташа. — З-за вас такіх нічога нельга ні пасадзіць, ні вырасціць!

Не ўмела Наташа растлумачыць суседцы, што не думала губіць дрэўца. Наадварот, ёй даўно ўжо так хацелася дома вырасціць для дзеда-мароза гэтую елачку. Яна думала, што ў каробцы елачцы будзе лепей. Наташа дзень і ноч клапатліва даглядала б яе!

Кінуўшы каробку, дзяўчынка заплакала. Цяпер і ад мамы дастанецца. Трэба хоць да вечара не папасціся ёй на вочы.

Наташа схавалася ў пад'ездзе чужога дома і прытулілася да поручняў на лесвіцы. Нечакана на пляцоўцы з'явіўся дзядзька, з якім яна ранкам спаткалася на вуліцы, а з ім побач незнаёмая цётка.

— Да каго ты? — ласкава спытаўся дзядзька.

Але Наташа нясмела тулілася да поручняў і маўчала.

— Я ведаю, чаму гэтая дзяўчынка маўчыць, — сказаў дзядзька. — Ёй кошка язык ад'ела.

Наташа ўсё адно маўчала.

— Ды не, — запярэчыла цётка. — Яна, здаецца мне, ніколі не размаўляла.

— Няпраўда! — пакрыўдзілася дзяўчынка.

— А куды ж ты ідзеш? — спыталася зноў цётка.

— Не ведаю.

— Пойдзем да нас. У нас ёсць папугайчык і чарапаха.

— Пакажыце пакупайчыка! — ажывілася дзяўчынка.

— Як ты сказала? — засмяялася цётка і ласкава паўтарыла: — Ну, ідзём!

— Мне маці забараніла хадзіць па чужых кватэрах.

— А калі зойдзеш, што здарыцца? — спытаў дзядзька.

— Мама пазнае і наб'е.

— Вось якая ў цябе мама! — забедавала цётка і запыталася: — А хто табе завушнічкі ўставіў?

— Мама.
— А манікюр хто зрабіў?
— Сама! — з гонарам адказала Наташа.
— Навошта?
— Каб было прыгожа.
— А колькі ж табе гадоў? — пытае дзядзька.
— Не ведаю.

Дзядзька выносіць дзяўчынцы невялічкага, з вераб'я, папугайчыка. Цётка паказвае чарапаху.

— А калі мама дазволіць прыйсці да нас, — кажа цётка, — мы табе пакажам, як яны жывуць у нас.

Але дзяўчынка толькі моўчкі ўздыхае.

— Незразумелая мая мама, — кажа яна пасля. — Усё цікавае заўсёды ад мяне хавае.



**Хаім МАЛЬЦІНСКІ**

* * *


Не кпіце! — язык я апарыў сягоння:
Падзьмухваць на чай не абвыкну ўсё я.
Імпэт мяне, як зацуглянага, гоніць
Умомант пабыць у далёкіх краях.

Пабыць у Бразіліі, — там капітана
«Санта Марыі» убачыць хачу.
Пабыць у Грэцыі, каб запытацца,
Што пра здароўе Маноліса чуць.

На рукі ўзяць сына Лумумбы
Малога,
У вочкі, у лоб цалаваць, несучы.
Якім бы шчаслівым быў я, калі мог бы
Братам сваім мужным хоць чым
памагчы.

* * *


Не спыніш час ніяк.
А ў памяці не гасне:
Нібыта ўчора я
Насіў чырвоны гальштук.

У камсамоле рос
Я жвавую вавёркай.
Вінтоўку першы раз
Валок з манеўраў,
вёрткі.

З тых дзён хто злічыць
з нас
Навалы, навальніцы?
Прызнаюся — падчас
Прыйшлося пахіліцца.

Ды дзякую за лёс,
Радзіма, — твой да кроплі,
Твой сцяг праз дым пранёс
З сынамі ўсімі ўпоплеч.

А колькі праміне
Турбот. Мая якая?
Ды зразумела мне:
Гады — не пачакаюць.

У галаве, нібы
У цеснай дамавіне,
Бо помню, не забыў,
Я людзям шмат павінен.

Хачу ўсіх, хто у баі —
Апошнім падзяліўся,
Хто раны мне гаіў,
Пабачыць, як калісьці.

Мацуюся, дзівак.
Кажу сабе: — не кволіцца!
Ды часу мала так —
На кончыку відэльца.

Не спыніш час ніяк.
А ў памяці не гасне:
Нібыта ўчора я
Насіў чырвоны гальштук.

* * *


Прастора без канца, без краю,
Чарней за дзёгаць неба там.
І гэтак радасна, што нам
Блакіт вясёлкамі іграе!

Адважны, сокале, няйначай,
Твой лепшы друг—зайздросны лёс.
Зямлю, дзе любым сынам рос,
Ты першы твар у твар убачыў.

«Усход» плыў па касмічных хвалях.
Зямлю пазнаў ты —
лёгкі крок,
З праменняў сплецены вянок,
Блакітны паясок на таліі.

Венера,
Марс, падняўшы крыссі,
Услед за караблём ішлі.
Гагарын —
любы сын Зямлі,
Табой, як братам, ганарымся!

* * *


З тае пары,
Калі сказалі мне, як ля дратоў пагнутых
З маім сынком мая стаяла маці ў гета,
І за пярсцёнак абручальны ў тое лета
Яна прасіла бульбіну для ўнука;
А сын мой дарагі, стаяў, як цень,
зніцелы;

З тае пары,
Глядзець на золата я не магу без гневу —
Драты ўпіваюцца мне ў цела,
І плечы зноў дрыжаць — цяжарам гне іх...

Пераклаў з яўрэйскай мовы
**Р. БАРАДУЛІН.**





Сцяпан ШУТАЎ,
двойчы Герой Савецкага Саюза

# ЧЫРВОНЫЯ СТРЭЛЫ

## Дакументальная аповесць

Мал. Ф. Бараноўскага.

8

Дом для танкіста — яго баявая машына, сям'я — узвод, рота, полк, брыгада. Куды б ні закінуў лёс байца, ён заўсёды стараецца вярнуцца ў сваю часць.

Становішча камандзіра часта бывае інакшым. Пра яго месца ў страі думае камандаванне. І вось Вярхоўнае камандаванне палічыла неабходным перавесці мяне камандзірам брыгады, якая дзейнічала на Курскай дузе ў складзе Пятага гвардзейскага танкавага корпуса генерал-лейтэнанта Краўчанкі.

Са сваім камандзірам корпуса я пазнаёміўся яшчэ ў грозную восень сорак першага года пад Масквой. Андрэй Рыгоравіч Краўчанка тады камандаваў брыгадай. Вось чаму ён сустрэў мяне, як свайго старога знаёмага.

— Сядай, Шутаў. Давай адразу прыступім да справы. Брыгада, якую

Заканчэнне. Пачатак у №№ 10 і 11.

ты атрымаеш, — гордасць нашага корпуса. Засячы гэта сабе на носе. Чуеш? Яна першая замкнула кальцо акружэння немцаў на Волзе. Першая! Яна і тут змагаецца храбра. Многа слаўных герояў страціла дваццатая гвардзейская, ох, многа... Пабыла на адпачынку, атрымала папаўненне. Цяпер гатова зноў у бой. Усё. Пытанні ёсць?

— Няма, Андрэй Рыгоравіч.

— Няма? Добра. Тады — дзейнічай. «Тыграў» баішся?

— Не.

— «Фердынандаў»?

— Пабачым.

«Тыгры», «фердынанды»... Увесь друк і ўсе радыёстанцыі свету з жахам перабольшвалі баявыя якасці новых нямецкіх танкаў «тыграў» і самаходных гармат «фердынандаў». Гітлер, можна сказаць, усе свае разлікі ў летнім наступленні 1943 года ўскладваў на гэтую новую зброю. Але нашы «трыццацьчацвёркі» білі і палілі і «тыграў» і «фердынандаў».

Наша брыгада атрымала загад узяць Тамараўку. Нам насустрач кацілася лавіна хваленых гітлераўскіх «тыграў». А «фердынанды» адкрылі па нас агонь з дальнабойных гармат. Прадаўжаем ісці на збліжэнне. Тысяча метраў, пяцьсот... сто! Пачынаем біць варожыя машыны па іх самых слабых месцах. Страты з абодвух бакоў немалыя. Тут і там загараюцца нашы танкі. Але іх экіпажы прадаўжаюць змагацца. Вораг не вытрымлівае такой упартасці: ён выклікае авіяцыю і пачынае адыходзіць назад. «Трыццацьчацвёркі», выкарыстоўваючы сваю манеўранасць, заходзяць яму з флангаў, перагароджваюць дарогу і дабіваюць.

Паяўляецца эскадрылля варожых самалётаў. У неба ўзнімаюцца гіганцкія чорныя грыбы, а потым павольна асядаюць на зямлю. Гусцей за ўсё бомбы кладуцца на ўчастку падраздзялення капітана Васільева. Капітан загадвае экіпажам павялічыць інтэрвал паміж машынамі і пры пікіраванні самалётаў манеўраваць. «Рабіце, як я», — паказвае ён.

Бамбардзіроўшчык разварочваецца і стралой ляціць уніз. Здаецца, вось-вось ён урэжацца носам у танк Васільева. На нейкі момант ён замірае ў паветры, і ад яго адрываецца некалькі бомб. У гэтае самае імгненне танк капітана Васільева робіць рэзкі скачок уперад, і бомбы разрываюцца ззаду яго.

— Шутаў, трымаешся? — пытаецца па радыё Краўчанка.

— Трымаюся.

— Памагчы?

— Хіба толькі неба ачысціць. Іх тут — як мух.

З боку чыгункі вылятаюць «лавачкіны» і «які». Фашысцкія сцярвятнікі хацелі былі ўцячы, але гэта ўдалося толькі аднаму з іх.

Прадаўжаем праследаваць уцалелых «тыграў», якія пасля моцнага ўдару сталі падобныя на палахлівых зайцоў.

Безумоўна, гэты бой, як і ўсе папярэднія, мы не выйгралі б, калі б тут, на Курскай дузе, не было ўзаемадзеяння ўсіх нашых родаў войск. Побач з намі мужна змагаліся супрацьтанкавыя знішчальныя дывізіёны, танкавыя злучэнні, слаўныя артылерысты, героі-пехацінцы, якія, атакуючы ворага, ведалі, што іх падтрымаюць з тылу, што вораг не абыдзе іх з флангаў. Нас прыкрывала авіяцыя, якая к таму часу панавала ў паветры.

На наступны дзень дваццатая гвардзейская прадаўжала паспяхова наступаць. Але неўзабаве мы вымушаны былі спыніцца і акапацца. Фашысцкае камандаванне перакінула на наш участак вялікія танкавыя сілы і наважыла перайсці ў контрнаступленне. Каб затрымаць ворага, трэба было тэрмінова мініраваць дзве небяспечныя дарогі. Але мін не хапала.



Сапёры пайшлі на хітрыкі: самую небяспечную дарогу мініравалі, а на другой зрабілі ўяўнае мініраванне, але так, каб гітлераўцы заўважылі, што тут працавалі сапёры. Сапраўднае мініраванне было зроблена ноччу, уяўнае — на досвітку, калі вораг ужо мог наглядаць за работай сапёраў.

Заўважыўшы сапёраў, фашысты адкрылі па іх агонь, а потым пусцілі танкі па другой, мініраванай дарозе. Наш разлік быў правільны. Некалькі варожых машын падарвалася на мінах, а астатнія павярнулі назад.

Ваенная хітрасць, салдацкая вынаходлівасць сталі магутнай зброяй нашага байца.

Рыхтуючыся да адной з аперацый, мы западозрылі, што на пярэднім краі праціўніка ёсць некалькі магутных агнявых кропак. Але як давядацца, дзе яны размешчаны?

Выканаць гэтую задачу ўзяўся разведчык Іван Барсукоў. Перад світаннем ён падпоўз да пярэдняга краю абароны фашыстаў і выпусціў дзве чырвоныя ракеты. Гітлераўцы ведалі, што звычайна пасля такога сігналу савецкія воіны ідуць у атаку. Убачыўшы чырвоныя ракеты ля самай дротавай загароды, яны адкрылі шалёны агонь з усіх відаў зброі. Нашы артылерысты засеклі размяшчэнне тых агнявых кропак, якія маўчалі раней, і знішчылі іх разам з вядомымі. Толькі тады мы пайшлі ў атаку.

Вечарам у занятым населеным пункце я гутарыў з дасціпным разведчыкам.

— З ракетамі здорава атрымалася! Гэта вы прыдумалі, Барсукоў?

— Ды не... Тут мы ўсе разам...

— Прадстаўляем вас, Барсукоў, да ўрадавай узнагароды.

— Дзякуй, таварыш гвардыі падпалкоўнік. Толькі ж за што?.. Я ж нічога такога...

Вось і пагавары з ім...

## 9

Вызвалены Арол і Белгарад. Сцвярджанне гітлераўцаў, што савецкія войскі нібыта не здольны летам паспяхова наступаць, развеяна ўшчэнт. Бітва пад Курскам паклала пачатак магутнаму наступленню Чырвонай Арміі на шырокім фронце — ад Невеля да Азоўскага мора. Пераадольваючы ўпартае супраціўленне ворага, мы рухаемся ўсё далей і далей на захад.

На нашым шляху — спаленыя гарады і сёлы, трупы расстраляных мірных жыхароў, ваеннапалонных чырвонаармейцаў.

Брыгада спынілася на кароткі адпачынак у вёсцы Лябедзіна на левым беразе Дняпра. Да мяне падышоў камандзір узвода лейтэнант Казак і папрасіў дазволу адлучыцца на гадзіну.

— Бацькі мае тут жывуць, ву-унь за тым узгоркам. І двух кіламетраў не будзе...

«Можа там ужо нікога няма і яму лепш не ісці»... — мільгнула ў мяне думка.

Танкісты, якія прысутнічалі пры гэтай размове, глядзелі на яго са спачуваннем, на мяне — з прытоенаю просьбай.

— Дзве гадзіны вам хопіць? — паглядзеў я на гадзіннік.

— Хопіць! Ды я зараз жа вярнуся! Дазвольце ісці?

— Не марудзьце.

Лейтэнант прайшоў крыху дарогай, павярнуў у стэп і, відаць, палічыўшы, што яго ніхто не бачыць, кінуўся бегчы.

Непадалёку ад нас, ля плоту, успёршыся на кіёк, стаяў сівы, як лунь, стары. Гэты стары першы з жыхароў сустрэў нашы танкі ля ветрака, перахрысціўся і сказаў: «Ёсць бог на свеце. І літасці ў яго многа».

— Таварыш начальнік, можна ў цябе спытацца? — звярнуўся стары да мяне.

— Слухаю, бацька.

Стары кіўнуў у той бок, у які пайшоў лейтэнант.

— Прозвішча таго хлопца не Казак будзе?

— Казак.

— Маладое дрэўца хутка расце. Пяць год мінула, як Федзя ў армію пайшоў, а не пазнаў я яго спачатку. Гэта ён што, да бацькі-маці адпрасіўся?

— Так.

— Не пабачыць ён іх. Толькі нядаўна нямецкі камендант дазволіў нам зняць іх з дрэва ды пахаваць па-чалавечы... Усю зіму віселі...

У мяне па целе пабеглі мурашкі.

— За што ж іх павесілі?

— За жанчыну адну маладзенькую, што па радыё ўсё перадавала нашым: колькі немцаў па дарозе ідзе, ды колькі танкаў.

Пакуль вярнуўся лейтэнант Казак, мы ўжо ведалі да дробязей гісторыю трагічнай смерці яго бацькоў.

У канцы лістапада 1942 года фашысцкія матацыклісты акружылі лес, што знаходзіцца непадалёку ад вёскі. Яны некага шукалі цэлую ноч. А раніцай, абшукаўшы кожны дом, хлеў і склеп, яны нарэшце паехалі. Пасля прыехаў камендант, сабраў усіх жыхароў вёскі і сказаў, што ў лес апусціўся савецкі парашутыст. Калі хто-небудзь дасць яму прытулак, то з кожнага дома будзе расстраляна па аднаму чалавеку.

У тую ж ноч многія вяскоўцы адправіліся ў лес на пошукі парашутыста. Стаялі моцныя марозы, і чалавек мог загінуць. Калі яго нарэшце знайшлі, то ўбачылі, што гэта не парашутыст, а парашутыстка. Маладая, прыгожая. Пры спуску яна зламала нагу. Былы калгасны чабан Мікалай Мікалаевіч Казак узяў яе да сябе ў хату.

— У мяне ёй будзе лепей, — сказаў ён. — Фрося мая добра ўмее рабіць перавязкі. І хата наша на водшыбе стаіць. Аб адным толькі прашу: прыкусіце языкі. Няма ў нас ніякага парашутыста. Не было і няма.

Неяк у канцы студзеня ў вёску прыбіўся чужы чалавек. «З турмы фашысцкай уцёк»,—сказаў ён. Пашкадавалі. Зваўся ён Юхімчук. Ліха яго ведае, можа і прозвішча было выдуманае. Хітры быў, як лісіца. Кожнаму слова ласкавае ўмеў сказаць, кожнаму паспачуваць. Пачалі людзі яму давярацца. Нехта і пра парашутыстку, відаць, прагаварыўся І тады ён адразу знік.

Назаўтра гітлераўцы з усіх бакоў акружылі вёску. Многія кінуліся да Казакоў, каб папярэдзіць, але немцы пачалі страляць па іх.

Казак пачуў страляніну, схапіў хворую парашутыстку на рукі, вынес з хаты і пасадзіў у гурбу снегу за плотам. Зверху снегам прыцерушыў. Потым пабег па радыёперадатчык, але схаваць не паспеў. Фашысты наставілі на яго аўтаматы.

— Што гэта такое? — спытаўся ў Казака камендант, паказваючы на перадатчык. — Адкуль у цябе гэтая цацка?

— У лесе знайшоў, калі хадзіў па дровы.

— А парашутыстку часам не знайшоў?

— Якую парашутыстку? Нічога не ведаю.

Камендант ударыў Казака ботам у жывот і закрычаў:



— Дзе разведчыца? Скажаш — будзеш жывы — і ты, і жонка, і людзі. Не скажаш — смерць табе і з кожнага дома па чалавеку расстраляю.

— Дык я ж не ведаю, дзе яна. Ноччу прыйшлі партызаны і забралі яе ў лес.

— Партызаны? — вытрашчыў вочы камендант. — Яны часта да цябе прыходзяць?

— Прыходзілі... калі радыстку ўзялі.

— Калі, ты кажаш, партызаны яе ўзялі? — умяшаўся ў гаворку Юхімчук.

— Яшчэ ў тую сераду, прадажная шкура, — кінуў яму ў твар Казак.

Юхімчук нешта сказаў каменданту па-нямецку. Фашысты кінуліся на гарышча, у хлеў, у склеп. Па ўсім двары перапаролі штыкамі снег.

— Выводзьце яго і старую, — загадаў камендант. — І з кожнага дома — па аднаму чалавеку.

... Ля клуба стаіць натоўп — старыя, жанчыны, дзеці. На іх нацэлены дулы аўтаматаў. Камендант, відаць, быў чалавек «гуманны» і цвёрда прытрымліваўся прынцыпаў ідэолага германскага мілітарызму Трэйчке: «Вайна не павінна пакінуць пераможанаму праціўніку нічога, акрамя вачэй, каб ён мог аплакваць сваё няшчасце».

— Хто скажа, дзе разведчыца? — пытаецца камендант.

Людзі маўчаць. Тады ён звяртаецца да маладой жанчыны Насці Капыленка.

— Ты жывеш побач з Казаком?

— Я, — адказвае тая, усхліпваючы.

— Колькі ў цябе дзяцей?

— Двое.

— Ты вернешся да іх, як скажаш, калі апошні раз бачыла парашутыстку. Ну?..

— Не ведаю, — загаласіла Насця. — Ніхто яе не бачыў.

— Ах ты, падлюга, — крыкнуў на яе Юхімчук. — Ты ж сама мне казала, што хлеб ёй насіла!

— Аго-онь!..

— Стойце! Не страляйце! — раптам чуецца з-за ўзгорка жаночы крык. — Не стра-ля-айце!

— Яна! — бліскае вачамі камендант і кідаецца разам з салдатамі на голас.

Стрэл... другі... трэці... Радыстка забіла каменданта, салдата і апошнім стрэлам — сябе.

... Танкісты маўчаць. Усіх балюча кранула за сэрца гэтая трагічная падзея.

— А ці не ведае хто, як яе звалі, тую парашутыстку? — пытаецца нехта.

— Ніхто не ведае, — азваўся хлапчук год дванаццаці. — Я толькі фотакартку знайшоў пасля ў доме Казака. Ваенны з трыма кубікамі. Мусіць, муж яе...

— Збегай, Рыгорка, прынясі, — папрасіў хлопчыка стары.

Шустры хлопчык вярнуўся хутка. Я ўзяў з яго рук фотакартку і ад здзіўлення крыкнуў:

— Ды гэта ж — Аўчарэнка!

На адваротным баку фотакарткі быў палінялы ад часу надпіс: «На добрую памяць любімай жонцы»...

Аня Аўчарэнка!.. Як мала мы цябе ведалі! Мы схіляем перад табой галовы, слаўная дачка нашага гераічнага народа.

## 10

За некалькі дзён да пачатку бітвы на Курскай дузе ў наш корпус прыбылі для ўручэння Гвардзейскага сцяга камандуючы фронтам генерал Мікалай Фёдаравіч Ватуцін і член Ваеннага Савета Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Пасля ўрачыстага мітынгу Мікіта Сяргеевіч намякнуў генералу Краўчанку, што яго корпусу, відавочна, прыйдзецца першаму весці баі за вызваленне сталіцы Украіны.

— Для нас, Мікіта Сяргеевіч, гэта будзе найвялікшае шчасце, — адказаў усхвалявана Краўчанка.

І вось наш корпус бярэ напрамак на Кіеў. Адступаючы за Дняпро, гітлераўцы шалёна супраціўляюцца, чапляюцца за кожны метр савецкай зямлі. Яны рабуюць нашы гарады, вёскі, хапаюць усё, што трапляе пад рукі, нават ручкі ад дзвярэй, падаконнікі, аконныя рамы. А што не ўдаецца ўзяць — нішчаць, паляць, разбураюць.

Урываемся ў вёску Жураўлёўку. Нам насустрач з крыкамі «ўра» кідаюцца грамадою ўсе вяскоўцы. А што гэта за аграмадзіну, замаскаваную зялёнымі галінкамі, валакуць гэтыя людзі? Няўжо трафейны танк? Не, танк не зрушыць з месца нават гэтакаю талакой. Ды ён і не такі высокі...

— Што гэта ў вас? — пытаемся ў радасных, усхваляваных людзей, паказваючы на замаскаваную аграмадзіну.

— Малатарня, дзядзька ваенны, — выпальвае маленькая дзяўчынка.

— Малатарня? Дык навошта ж яе маскіраваць?

— А каб фашысты не знайшлі, — адказвае наперабой некалькі галасоў.

— Усё павывозілі, дык няхай хоць гэта застанецца. На разжыву калгасу...

— А дзе вы яе хавалі?

— За Арынінай хатай, пад дрэвамі. Кожны дзень свежымі галінкамі прыкідвалі. Чакалі вас... Ведалі, што ўжо хутка прыйдзеце.

— А адкуль жа ведалі? — пацікавіўся начальнік палітаддзела брыгады падпалкоўнік Маляроў. — Газеты вам трапляліся савецкія, ці мо радыё слухалі?

— Газет мы не чыталі і радыё не слухалі. А праўду ведалі, — адказаў за ўсіх стары з доўгай, да пояса барадой. — Мы ўсё, што навокал дзеецца, ведалі...

— Адкуль жа, дзеду? Хто вас інфармаваў? — дапытваўся Маляроў.

— Шаша, сынку. Гэта такая газета, што хлусіць не будзе. Калі немцы ідуць на ўсход і валакуць з сабой пярыны і дзевак — значыць, справы ў іх добрыя, а нашы — дрэнь. Калі ж фрыцы бягуць назад — значыць, нашы справы палепшыліся, а іх — капут!

— Такая газета, дзеду, іншы раз і падвесці можа...

— А вось жа не падвяла.

— ... і на закрутку непрыгодная.

— Што праўда, то праўда, — смяецца дзед.

Інструктар палітаддзела прынёс пачак свежых газет. Людзі накінуліся на іх, як галодны на хлеб.

— А вам, таварыш гвардыі падпалкоўнік, магу прапанаваць армейскую...

Я падзякаваў, паклаў газету ў кішэню і накіраваўся ў штаб. А там на мяне навалілася столькі работы, што пра газету я і забыў.

Вечарам Маляроў раптам зацікавіўся прозвішчам танкіста з Беларусі, які некалі прасіўся ў маю часць.



— Мяцельскі, — адказаў я. — А табе гэта навошта, Міхаіл Федасеевіч?

— Ты чытаў сённяшнюю армейскую газету?

— Не паспеў.

— Пачытай, — сказаў Маляроў і засмяяўся. — А то ты ў апошнія дні, як той дзед, адною шасейкай цікавішся.

— Хопіць табе... А Мяцельскі тут пры чым?

— Прачытай, будзеш ведаць.

Я дастаў з кішэні газету, разгарнуў яе і падсеў да стала. На першай паласе, побач з перадавой, быў змешчаны вялікі партрэт Юрыя Мяцельскага. Ён глядзеў на мяне сурова, крышку нахмурыўшы бровы, нібы збіраўся нешта сказаць. Пад партрэтам — кароткі подпіс: «Капітан Мяцельскі. Пра яго подзвіг чытайце на трэцяй паласе нарыс «Скачок цераз смерць».

... Праціўнік замініраваў мост цераз раку і падрыхтаваўся яго ўзарваць. Сапёры заканчвалі работу. Яны спяшаліся, бо на праціleглым беразе ўжо былі савецкія танкі.

Як захапіць мост? Капітан Мяцельскі прымае рашэнне: апярэдзіць сапёраў. Ён загадвае па радыё двум «трыццацьчацвёркам», якія ішлі за ім:

— Праз мост на гранічнай хуткасці, уперад! Па сапёрах — асколачнымі!

Фашысты пакідалі інструменты і разбегліся хто куды. Два афіцэры кінуліся да яру.

— Ступакоў — налева, на батарэю! Маркаў — направа! — загадвае капітан Мяцельскі, а сам б'е з кулямёта і асколачнымі па тых двух афіцэрах. Вось адзін з іх, узмахнуўшы рукамі, падае, а другі на момант знікае з вачэй.

— Вунь ён, вунь, — крычыць механік-вадзіцель. — Паўзе да яру. Відаць, там у іх гэтая адская машына стаіць.

Гітлеравец знаходзіцца ў мёртвай прасторы. Савецкія танкісты страляюць па ім з пісталетаў праз рэвальверныя адтуліны.

— Трэба знішчыць тую машыну, — прапануе вадзіцель.

— Навошта? На варожыя ўмацаванні!

Тры савецкія танкі пад камандаваннем капітана Мяцельскага не толькі з ходу захапілі замініраваны і падрыхтаваны да ўзрыву мост. Праскочыўшы яго, яны паднялі паніку ў бліжніх варожых тылах і, па сутнасці, вырашылі лёс амаль усяго старанна ўмацаванага раёна.

## 11

Вялікія надзеі ўскладаў Гітлер на моцную абарону ля Дняпра. Ён сцягнуў сюды новыя дывізіі, танкавыя карпусы, авіяцыю і збіраўся тут перазімаваць, каб улетку зноў перайсці ў наступленне. Разгадаўшы яго намеры, наша камандаванне не давала яму перадышкі. Танкі, артылерыя, пяхота, абозы бурным, імклівым патокам плылі і плылі да берагоў Дняпра. Левы фланг нашых войск дасягнуў Дняпра на плячах праціўніка. Перадавыя часці фарсіравалі раку на поўдзень ад Кіева, у раёне Букрына. Пачаліся жорсткія баі. Фашысты сканцэнтравалі на вузкай палосцы фронта велізарныя сілы. Тады наша камандаванне прыняло рашэнне фарсіраваць Дняпро вышэй Кіева і ўдарам з поўначы вызваліць сталіцу Украіны. Але перш чым перайсці Дняпро, трэба было ўзяць другі водны рубеж — Дзясну.

І вось мы ўшчыльную падышлі да Дзясны. Прыгожая рака. Шыро-

кая, мнагаводная. Плыўцам тут—раздолле, рыбакам—сумаваць няма калі... Але як жа цяжка было нам, танкістам, фарсіраваць гэтую прыгажуню-раку ўвосень 1943 года!

Камандзір корпуса генерал-лейтэнант Краўчанка, залажыўшы рукі за спіну, уважліва аглядае раку. Я стаю побач. Чакаю, што ён скажа. Ён доўга маўчыць. Нарэшце, гаворыць:

— Твая брыгада — галаўная, Шутаў. Будзеш першы фарсіраваць Дзясну. Зразумела?

— Зразумела, таварыш генерал-лейтэнант!

— Вось і добра, а то я баяўся, што не зразумееш,— усміхаецца ён. — А што ў нас няма пераправачных сродкаў табе таксама зразумела?

— Зразумела. Уплынь ісці прыйдзецца.

— Вось іменна — ісці. Задача нялёгкая. Машыны нашы цяжкія, плаваць не могуць...

У якім месцы фарсіраваць Дзясну? Ля самай вады сабраліся камандзіры танкаў, механікі-вадзіцелі. Вырашылі прамацаць дно «ўласнымі пяткамі» і разведаць дарогу на другі бераг.

— Распранайся! — кідае нехта жартам. — Каманда — «Ух», падрыхтавацца да першага заплыву. На старт!..

Байцы распранаюцца і кідаюцца ў ваду. Даюць нырца, усплываюць і зноў знікаюць пад вадой. Смех, жарты, вострыя слоўцы... Здалёк магло здацца, што гэта дзеці спаборнічаюць між сабой, хто глыбей дасць нырца, хто даўжэй прабудзе пад вадой.

Разведка зроблена. Выбрана найбольш зручнае месца. Тут шырыня ракі — восемдзесят метраў. Глыбіня — ад двух да чатырох. Ды нічога, вайна ёсць вайна.

Загадваю заканапаціць люкі, замазаць шчыліны, камандзірам забрацца на башні машын. Адсюль яны змогуць праз танкафон кіраваць механікамі-вадзіцелямі, якія пад вадой у наглуха закрытых танках нічога не будуць бачыць.

Чый танк пойдзе першы?

— Камсамольскі экіпаж малодшага лейтэнанта Шапашніка, — вырашаю я.

За дзень да фарсіравання Дзясны Шапашніка прынялі ў партыю, і на бюро ён сказаў, што калі яму давераць, то першы пяройдзе Дзясну.

Шапашнік забіраецца на башню, выпростваецца на ўвесь рост і чакае каманды.

Генерал Краўчанка моўчкі ківае галавой: можна.

— Уперад!

— Уперад, — перадае Шапашнік па танкафону механіку-вадзіцелю.

Пад прыкрыццём артылерыі і кулямётаў першая машына спаўзае з берага і, нібы вадалаз, павольна апускаецца ў ваду. Грукату варожай артылерыі і сухога трэску кулямётаў мы не чуем. Затаіўшы дыханне, сочым за машынай Шапашніка.

Танк схаваўся пад вадой. Камандзір стаіць па пояс у вадзе на башні. А механік-вадзіцель? Стралок-радыст? Зараджальшчык? Як яны адчуваюць сябе там? Ці жывыя? Слуп вады, які выкідваецца вентылятарам, супакойвае нас: танк ідзе. Побач з танкам разрываецца снарад. Хваля змывае з галавы Шапашніка пілотку. Вось вада даходзіць яму па самыя пахі і тут жа пачынае хутка спадаць. Яшчэ хвіліна, другая, і камсамольскі экіпаж шчасліва выбіраецца на працілеглы бераг.

— Уперад!

З берага адзін за адным спаўзаюць у ваду танкі.

Камандзір корпуса глядзіць на гэтае страшнае і велічнае відовішча і не ведае, дзе падзець свае рукі. Ён то засоўвае іх глыбока ў кішэні, то



пачынае абдзіраць галінку лазы. Між брывей, над пераноссем у яго б'ецца-дрыжыць ад напружання жылка.

Сонца павольна ўсплывае над гарызонтам. Хвалі ракі становяцца чырвоныя; пяшчотна ружавеюць іх пеністыя грывы. Танкі ідуць па дну ракі. То тут, то там чуецца каманда: «Правей!», «Не спяшайся», «Так трымаць!»

— Гэтае світанне на Дзясне я запомню на ўсё жыццё, — міжволі вырываецца ў мяне.

Краўчанка кідае хуткі позірк на сонца, вакол якога ўтварылася залацістая крона з лёгкіх, празрыстых хмурынак, і зноў, не адрываючыся, глядзіць на раку.

Праходзіць роўна трыццаць мінут, і ўся дваццатая гвардзейская, ужо на тым беразе, з ходу кідаецца на ворага.

Камандзір корпуса толькі цяпер з палёгкай уздыхае і ўсміхаецца.

— А ты кажаш — перашкода! Ды калі спатрэбіцца, нашы танкісты мора ўброд пяройдуць! Цяпер пушчу ўвесь корпус.

За дзве з паловай гадзіны пяты танкавы корпус пераправіўляецца на правы бераг Дзясны.

Спыняцца нельга. Нельга даць ворагу апамятацца. Трэба біць, біць і яшчэ раз біць яго.

Разведка даносіць: раніцай, непадалёку адсюль, гітлераўцы патапілі два буксіры. Зразумела чаму: ім яны ўжо не патрэбны. Гітлер пачынае задумвацца. Учора па радыё выступаў Гебельс. Слова «бліцкрыг», відаць, ужо выкінута з нямецкага слоўніка. Нацысцкая прапаганда цяпер гарлапаніць пра другое: «Трыццацігадовая вайна»... «Татальная мабілізацыя...», «Зверствы бальшавізма...», «Перамога або Сібір...»

Нам трэба падняць патопленыя буксіры. Яны паслужаць добрымі сродкамі пераправы. І тут нам на выручку прыходзяць кіяўляне, якія, рызыкуючы жыццём, прабіраюцца сюды, каб хоць чым-небудзь памагчы Чырвонай Арміі.

Для таго, каб наладзіць пераправу праз Дняпро, трэба перш за ўсё далей адагнаць фашыстаў ад правага берага. А там вораг пабудаваў магутныя ўмацаванні. Правабярэжныя населеныя пункты ператвораны ў крэпасці. Уздоўж берага пабудаваны зімовыя бліндажы. Паміж лініяй абароны і Дняпром — пясчаная паласа, зарослая кустарнікам. Якія сюрпрызы чакаюць нас за кожным кусцікам? Паслаць разведку нельга. Усё наваколле кантралюецца праціўнікам і наскрозь прастрэльваецца.

Па беразе Дняпра ідзе малады баец з мотабатальёна. У левай руцэ ў яго — кацялок з вадой.

— Што гэта за вада?

— Дняпроўская, таварыш гвардыі падпалкоўнік. Па глытку вып'ем—можа на душы лягчэй стане. Завязлі мы нешта... Кіеў вунь відаць...

Толькі раніцай гэты салдат пераправіўся цераз Дзясну, а цяпер, бач, ужо скардзіцца: «Завязлі...» Я атрымаў загад: ноччу пераправіць увесь мотабатальён на правы бераг. Можна не сумнявацца: гэты баец будзе там першы!

У зямлянцы — аж сцены дрыжаць ад рогату. Мотапехацінцы дапякаюць жартамі маладзенькага днявальнага, якога празвалі «Мезенцам».

Гэтую мянушку хлопцу прыклеілі не толькі за яго малы рост. Вася

Даўжэнка аднойчы расказаў, як яго параніла яшчэ па дарозе на фронт. Каля іх эшалона разарвалася бомба, і асколак яе адбіў у Васіля мезенец на левай руцэ. За гэта яго і празвалі «Мезенцам» Хлопец ведаў, што таварышы паважаюць і любяць яго за смеласць і адвагу ў баі, але за мянушку моцна крыўдаваў на іх.

Уваходзім з камандуючым фронта Ватуціным у зямлянку.

— Таварыш генерал арміі, першы ўзвод мотабатальёна дваццатай гвардзейскай танкавай брыгады знаходзіцца на адпачынку! Дакладвае гвардыі радавы Васіль Даўжэнка, — адным духам выпальвае днявальны.

— Вольна. Сядайце, таварышы байцы.

Па зямлянцы пранёсся ціхі, ледзь чутны шэпт: «Ватуцін. Камандуючы фронта».

Днявальны ўсё яшчэ стаіць па камандзе «смірна». На яго ілбе выступілі кропелькі поту.

— Вы Васіль Даўжэнка? — перапытвае камандуючы.

— Васіль Даўжэнка, таварыш генерал арміі.

Ватуцін задумваецца, нешта ўспамінае.

— Гм... Даўжэнка... Дык гэта вы, калі не памыляюся, ашукалі праціўніка і знішчылі гармату разам з разлікам?

Шчокі днявальнага становяцца пунсовыя.

— Я, таварыш генерал арміі, — адказвае ён збянтэжана.

А справа была вось як. На адным з участкаў фронта ўзвод нашага мотабатальёна ўночы пераправіўся цераз раку і на світанні ўступіў у бой з ворагам. Схватка адбывалася ў густых прыбярэжных зарасніках. Радавы Даўжэнка заўважыў злева, на палянцы, артылерыйскія пазіцыі ворага. Падкраўшыся бліжэй, ён убачыў, што гітлераўская гармата б'е па нашых войсках, якія знаходзяцца на працілеглым беразе. Вярнуўшыся назад, у прырэчны кустарнік, Васіль Даўжэнка свой узвод ужо не застаў — ён прайшоў далей. Ісці адсюль, з-пад самага носа фашыстаў, не прычыніўшы ім ніякай шкоды, Васілю не дазваляла сумленне. І хлопец пайшоў на хітрасць.

Падкраўшыся да варожай гарматы, ён кінуў у яе некалькі гранат і гучна скамандаваў: «Узвод, за мной!» Раптоўны напад, выбухі і гучная каманда дарэшты напалохалі гітлераўцаў. Яны разгубіліся. А Васіль шпурнуў у іх апошнюю гранату.

Генерал моцна паціскае Васілю Даўжэнку руку і, звяртаючыся да ўсіх, гаворыць:

— Ваенная хітрасць — моцная зброя салдата. І яе трэба ўдасканальваць. Вораг таксама ўжывае ваенную хітрасць, але яна ў яго заканчваецца там, дзе пачынаецца небяспека.

Камандуючы садзіцца між салдат і ўжо трошкі іншым тонам, заклапочаным і задушэўным, пачынае другую размову.

— А цяпер, таварышы, давайце параімся, як нам хутчэй і з найменшымі стратамі перайсці на правы бераг.

План фарсіравання Дняпра зацверджаны Стаўкай. У мяне ёсць загад, у якім дакладна ўказаны месца і час наступлення. А камандуючы фронта, таленавіты палкаводзец, прыйшоў на параду да байцоў? Што гэта: поза, гульня ў дэмакратызм? Ні ў якім выпадку! Для савецкага генерала салдат — не гарматнае мяса, не «скаціна ў шэрым шынялі», а баявы таварыш, які можа даць разумную параду. Палкаводзец і салдат выйшлі з аднаго асяроддзя. У іх—адны інтарэсы.

— Сродкаў пераправы ў нас вельмі і вельмі мала, — шчыра гаворыць байцам генерал. — А фарсіраваць Дняпро мы павінны неадкладна. Што тут рабіць? Парайце...



Салдаты задумваюцца. Потым адзін за адным пачынаюць выказваць свае меркаванні.

— І на сене можна, — як бы сам сабе кажа баец Хадуноў.

— На сене? — паварочваецца да яго генерал. — Як гэта? Растлумачце.

— Ды вось як у нас было аднойчы. Разведка лейтэнанта Мінаева павінна была пераправіцца цераз Дзясну. Сам камандзір — валжанін, добры плывец, ды і астатнія ўмелі плаваць. Адзін толькі сяржант Волгін не ўмеў. Лейтэнант яму кажа: «Ну, што ж, заставайся!» Крыўдна стала Волгіну: медаль «За адвагу» мае, а тут такая гісторыя непрыемная выходзіць. Тады Волгін падумаў добра — і прыдумаў. Знайшоў на беразе абярэмак сухога сена, абгарнуў яго плашч-палаткай і кінуўся ў ваду. Цераз пяць хвілін ён дагнаў таварышаў.

— Здорава гэты Волгін прыдумаў, — усміхаецца генерал. — Трэба і нам скарыстаць яго выдумку.

Я наглядаю за цёплай, таварыскай гутаркай палкаводца з салдатамі і думаю: «Вось у чым сіла нашай арміі!»

Ватуцін дзякуе байцам за парады і ўстае. Усе падхопліваюцца следам за ім і стаяць, не зварухнуцца, гатовыя выканаць любы загад камандарма.

— Я з вамі, таварышы, не развітваюся, — усміхаецца Ватуцін. — Сёння ж сустрэнемся на беразе.

Цёмна. Ракі не відаць, але мы чуем яе дыханне. Мотабатальён выстраіўся на беразе, чакае. Да яго падыходзяць камандуючы фронтам Ватуцін і Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў.

— Вам выпала шчасце, таварышы, быць першымі сярод першых герояў Дняпра. Радзіма ніколі не забудзе вашага подзвігу, — гаворыць Мікіта Сяргеевіч.

— Уперад, таварышы! — аддае загад Ватуцін.

Лепшыя плыўцы самі плывуць на той бераг Дняпра. Астатнія — на мяшках сена, дошках, бярвеннях. Станкавыя кулямёты, мінамёты, супрацьтанкавыя ружжы перапраўляем на сваёй адзінай надзіманай лодцы.

У другім месцы пад моцным артылерыйскім агнём з буксіраў і падведзеных пантонаў робім паром для пераправы танкаў.

Мікіта Сяргеевіч — тут жа, на беразе. І ад таго, што ён з намі, робіцца неяк весялей і сіл нібы прыбаўляецца. Час ад часу ён што-небудзь падкажа, параіць. Проста, па-сяброўску.

Варожы снарад разрываецца ля самага берага. Фантан вады абдае нас з галавы да ног.

— Пачынаецца мёртвы зыб, — жартуе Мікіта Сяргеевіч.

Смяемся. Работа прадаўжаецца.

— Скажыце Мікіце Сяргеевічу, няхай адыдзецца, — з трывогай у голасе звяртаецца да мяне капітан Рошчын. — Тут жа небяспечна...

— Гаварылі, таварыш капітан. Не слухае. А яму ж не загадаеш. Ці ж не так?

— Яно то так, але ж хоць крыху няхай адыдзецца ад берага...

Паром гатовы. Перапраўляем першы танк. Шчасліва. Калі пачынае грузіцца другі, праціўнік адкрывае шалёны агонь. Снарад рассякае буксірны трос, і плынь адносіць «трыццацьчацвёрку» ў бок.

— Спакойна, таварышы, спакойна, — чуецца голас Мікіты Сяргеевіча.

Цяжка пад такім артылерыйскім шквалам наладжваць пераправу,

але мы спакойна, без панікі робім сваю справу. Перапраўляем яшчэ шэсць танкаў, якія адразу ўступаюць у бой і памагаюць пехацінцам шырыць плацдарм на правым беразе.

Да дванаццаці гадзін ночы дваццатая гвардзейская танкавая брыгада падыходзіць ужо да ракі Ірпень. Я па радыё дакладваю камандаванню: задача, пастаўленая перад намі, выканана.

## 12

Люцежскі плацдарм увайшоў у летапіс Вялікай Айчыннай вайны як гістарычнае месца, дзе савецкія воіны праявілі нечуваны гераізм і стойкасць.

Гераічнае фарсіраванне Дняпра і стварэнне войскамі 38-й арміі Першага Украінскага фронта славутага Люцежскага плацдарма ўвекавечана гранітным памятным каменем у вёсцы Нова-Пятроўцы. Такі ж памятны камень устаноўлены ў самім Люцежы ў гонар салдат, сяржантаў і афіцэраў 240-й стралковай дывізіі. На ім высечаны надпіс: «240-я стралковая дывізія 27.9.1943 г. з ходу фарсіравала Дняпро ў Сваром'і ў напрамку Люцеж».

Сціплы надпіс. А які гераізм, якая самаахвярнасць былі праяўлены на гэтым кавалачку роднай зямлі, адваяванай у ворага! Дваццатая гвардзейская пераправілася цераз Дняпро разам з 240-й стралковай дывізіяй. Мы разам вызвалялі Люцеж, разам адстойвалі яго. Ні контрнаступленні праціўніка, ні бомбавыя ўдары, ні масіраваныя артылерыйскія налёты, ні танкі, — нішто не магло зламаць стойкасць нашых салдат і афіцэраў. Мы не толькі паспяхова адбілі шматлікія контрудары ворага, але і палепшылі свае пазіцыі, расшырылі плацдарм.

Пры фарсіраванні Дняпра вялікі гераізм і адвагу праявілі нашы медыцынскія работнікі.

Ідуць жорсткія баі. Многа параненых. Разгарнуць на правым беразе медыка-санітарныя батальёны, а тым больш — армейскія шпіталі, няма ніякай магчымасці. Пакідаць цяжка параненых байцоў на плацдарме таксама нельга. Іх трэба пераправіць на левы бераг. І вось тут сотні санітараў і санітарак, медыцынскіх сясцёр і ўрачоў паказваюць нечуваныя прыклады мужнасці, змагаючыся за жыццё кожнага параненага героя Дняпра.

На Люцежскім плацдарме асабліва праславілася бясстрашная санітарка, камсамолка Шура Азарава. Маладая дзяўчына добраахвотна пайшла на фронт. Клапатліва, як маці, даглядала яна параненых і глядзела на іх з некаторай зайздрасцю: «Яны ў баі былі, а я? Перавязку зрабіць — не вялікі гераізм».

Неяк у час пераправы раненых Шура заўважыла, што ў борт адной з лодак ударылі асколкі варожага снарада. Лодка перакулілася, і ўсе, хто ў ёй плыў, апынуліся ў вадзе.

Шура ў жаху крыкнула:

— Ой, там жа цяжка параненыя! Яны ж патопяцца!

Параненыя бездапаможна бултыхаліся ў вадзе, трацячы апошнія сілы. Шура павярнула сваю лодку да іх, але спахапілася: і яе ж лодка перагружана раненымі!

— Сястрыца, ратуйце! — неслася з усіх бакоў.

— Сюды, сястрыца, сюды!

— Рат...

Шура да крыві кусае вусны. Што рабіць? Узяць іх — і гэтая лодка патоне...



— Сястрыца, што ж ты?..

— Падлюга! Людзей табе не шкада?..

Шура бачыць: па рацэ плывуць бярвенні ад плытоў. Яна кідаецца ў ваду і штурхае іх адно за другім да перакуленай лодкі.

— Хлопцы, лаві!

Людзі хапаюцца за бярвенні, аблепліваюць іх.

— Гэй, рабы! Піхай уперад!

Грубаваты салдацкі жарт. Але Шура ведае, што ў такіх абставінах ён дзейнічае мацней, чым пяшчотнае слова.

— Шур-ка! У нас няма рабых...

— Усе вы паласатыя...

Людзі, якія толькі што глядзелі ў вочы смерці, смяюцца. Ім робіцца смялей з гэтай энергічнай дзяўчынай, якая бултыхаецца побач у вадзе. І яны ўсе да аднаго дабіраюцца да берага.

## 13

Атрымаў пісьмо ад Вані Кісліцы. Хлопец піша: «Жывы, здаровы. Працуем куды лепш, чым раней. Вы гэта павінны адчуваць». Гэта праўда. Мы і сапраўды адчуваем, што тыл прысылае нам танкаў усё больш і больш. Прытым, удасканаленых: зменены калібр, павялічылася пачатковая хуткасць снарада і яго прабіўная сіла. «...Трэба хутчэй фарсіраваць Дняпро, — выказвае свае меркаванні Іван Кісліца. — Як толькі нашы войскі пяройдуць Дняпро, фашысты самі здадуць Кіеў, — пабаяцца трапіць у акружэнне»...

Што яму адказаць, гэтаму юнаму энтузіясту? Дняпро ўжо фарсіраваны, а гітлераўцы і не думаюць пакідаць горад. Наадварот, яны збіраюцца *нас адагнаць назад*, за Дняпро.

— Трэба адказаць хлопцам, — гаворыць падпалкоўнік Маляроў. — Напішы ім праўду: звер падціснуў хвост, але зубы ў яго яшчэ вострыя.

Начальнік палітаддзела ўмеў пра ўсё сказаць вельмі дасціпна і трапна. Зубы ў звера і сапраўды былі яшчэ вельмі вострыя. На абарону Кіева Гітлер кінуў новыя танкавыя дывізіі «СС», авіяцыю, адборныя мотамехчасці. Ён абяцаў узнагародзіць жалезнымі крыжамі і даць шасцімесячны адпачынак тым салдатам і афіцэрам, якія вылучацца ў баях па ліквідацыі савецкіх войск на правым беразе Дняпра.

А тым, хто асмеліцца адступаць, фюрэр дакляраваў расстрэл.

Гітлераўцы вялі бесперапынныя контратакі, спрабуючы раскалоць наш плацдарм. Каб утрымаць яго і расшырыць, савецкія танкісты павінны былі фарсіраваць трэцюю раку — Ірпень і падысці да горада з поўначы.

Здавалася б, пасля такіх рэк, як Дзясна і Дняпро, Ірпень не павінна была нас палохаць. Аж не! Як высветлілася, рачулка гэтая з капрызамі. Мала таго, што мясцінамі яна глыбокая, — дык яшчэ і падступы да яе — тарфяныя, забалочаныя.

Мы пабудавалі пераправу задоўга да світання. Пры падтрымцы нашых «трыццацьчацвёрак» на заходні бераг перайшла мотачасць палкоўніка Шыкалава. К таму часу падаспелі і танкі Кошалева. Прытрымліваючыся святога правіла, — памагай суседу, — мы пусцілі іх цераз сваю пераправу. На жаль, машыны Кошалева былі ў руках не вельмі вопытных танкістаў. Першы танк, яшчэ не дайшоўшы да берага, загруз у багне. За ім — другі, трэці. І гэтак усе кошалеўскія «трыццацьчацвёркі».

А час ішоў. Узышло сонца. Тое, што трэба было паспець зрабіць

да паяўлення авіяцыі праціўніка, прыйшлося рабіць пад яе агнём. Цяпер пераправа не толькі абстрэльвалася з гармат — на яе сыпаліся яшчэ і бомбы.

Хвіліны рашалі лёс Кіева. Калі мы ў час не перарэжам магістраль Кіеў — Жытомір, то вораг, адыходзячы з горада на поўнач, уздоўж правага берага Дняпра, адсячэ нашы войскі ад пераправў, ліквідуе плацдарм і знішчыць на ім нашы стралковыя часці.

Заўважыўшы наша замяшанне, праціўнік узмацніў агонь. Не было таго метра зямлі, які не абстрэльваўся б шасцістволнымі мінамётамі, цяжкай артылерыяй, які б не мясілі бомбы.

Генерал Краўчанка выклікаў мяне ў свой дот, які дрыжэў ад выбухаў. Я чакаў «разносу», але ён моўчкі выслухаў мяне і сказаў:

— Зразумела. Ідзіце. Выклікаць вас сюды больш не буду. Калі сустрэнемся, то толькі на тым беразе.

З дота камандзіра корпуса бягу да тых няшчасных кошалеўскіх танкаў. Тут сабралася многа танкістаў. Яшчэ здалёк, скрозь выццё штурмавікоў чую малады, уладарны голас: «Уперад!» «Стой!» «Лявей бяры!»

Проста на танкістаў пікіруе фашысцкі самалёт: вось-вось ён пройдзе па іх галовах...

— Лажыся, чэрці паласатыя! — крычу я на бягу.

Ніхто не адбягае ўбок, ніхто не кідаецца на зямлю.

— Пайшлі далей! Саша, заходзь, — камандуе той жа малады голас.

Хто гэта? Хто здолеў арганізаваць людзей і ўзяцца за ліквідацыю пробкі ў такім пекле?

Я ўжо бачу яго. Гэта камсорг першага батальёна Аляксей Мядовік. Званне ў яго невысокае, але трымаецца ён, як прадстаўнік Стаўкі.

— Смірна! Таварыш гвардыі палкоўнік,— дакладвае ён,— мы, камсамольцы, парашылі расчысціць дарогу нашай брыгадзе.

— За паспяховае і хуткае выкананне задачы прадставім усіх вас да ўзнагароды.

Людзі прапускаюць мае словы міма вушэй. А ў вачах аднаго танкіста я нават заўважаю затоеную насмешку. І я разумею яго. Людзі цяпер менш за ўсё думалі пра ўзнагароды. Яны толькі адчувалі, што сараз тут, ля гэтай балотнай рачулкі, вырашаецца поспех усяго фронта.

Механік-вадзіцель Сухінін, удала манеўруючы, бярэ на буксір загрузлы танк і адцягвае яго ўбок.

— Наступны! — камандуе Мядовік.

Танкісты хутка адчэпліваюць тросы і Сухінін падыходзіць да другой кошалеўскай машыны.

— Хутчэй! Па-камсамольску!..

Я ніколі не забуду, як камсамольцы Аляксея Мядовіка працавалі пад ураганным агнём праціўніка. Нібы заваражаныя ад асколкаў снарадаў і бомб, застрахаваныя ад мін, яны хутка, без лішніх слоў, расчышчалі пераправу.

Праз дзве гадзіны не толькі наша брыгада, але і кошалеўскія танкі ўжо вялі бой за населены пункт Ракаўку на тым беразе Ірпені. Праціўнік шалёна супраціўляўся. На працягу пятнаццаці кіламетраў ён шэсць разоў пераходзіў у контратакі, але мы ўзялі верх. Гітлераўцы не чакалі такога моцнага ўдару з тылу. Пакідаўшы зброю, яны разбегліся, хто куды.

Ускраіна Кіева. Полымя пажараў асвятляе начную цемру дрыготкімі водбліскамі. Міма нас, з паднятымі ўверх рукамі, нібы просячы літасці ў бога, праходзяць натоўпы ваеннапалонных.



— Гэй, звышчалавекі, ну як, рус капут?

Гітлераўцы ідуць моўчкі, апусціўшы галовы. Куды падзеліся іх цвёрды прускі крок, іх гонар?

— Дык хто капут: рус альбо фюрэр? — не сунімаецца той жа голас.

— Гітлер капут,— адазваўся нарэшце адзін з палонных.

— Гітлер капут, алес капут, — падхапіла некалькі галасоў.

— Ваякі! Далі па мордзе — дык у штаны...

— І такая дрэнь збіралася над светам панаваць!

Я прыслухоўваюся да гэтых размоў, а думаю пра сваё: камандаванне фронта загадала нам адступіць з занятых рубяжоў. Вось каб ведаць, хто гэта дадумаўся да такога! Мы паспяхова пераправіліся праз Ірпень, падышлі да ўскраін Кіева і раптам — вяртайся назад. Як гэта ўспрымуць танкісты? Яны, безумоўна, выканаюць загад, але з якім сэрцам!

Маляроў, як заўсёды ў такіх выпадках, супакоіў мяне:

— Байцы зразумеюць: калі загадана, значыць, так трэба. А таму, хто не зразумее, растлумачым.

— Ты растлумач спачатку мне...

— А тут і тлумачыць няма чаго. Камандаванню відней. А мы з табой, мусіць, глядзім на гэта са сваёй маленькай званіцы.

Праз многа месяцаў пасля гэтага Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў спытаў мяне пры сустрэчы:

— Таварыш Шутаў, вы нас моцна лаялі, калі атрымалі загад аб адступленні?.. На Ірпені, памятаеце?..

Ён глядзеў мне проста ў вочы і чакаў шчырага прызнання.

— Моцна, Мікіта Сяргеевіч,— адказаў я і пачаў абараняцца.— Зразумейце, якое ў мяне тады было становішча: з такімі цяжкасцямі фарсіравалі раку і раптам — назад...

— Разумею. Але другога выхаду ў нас не было.

Мікіта Сяргеевіч расказаў, якое становішча склалася тады на гэтым участку фронта. Нямецкае камандаванне разгарнула наступленне з Кіева на Лютеж. Савецкім войскам пагражала быць адрэзанымі ад Дняпра. Тады камандаванне вырашыла павярнуць дваццатую і дваццаць другую танкавыя брыгады назад з тым разлікам, каб яны «прайшліся» па тылах праціўніка.

— Ірпень прыйшлося зноў фарсіраваць? — запытаўся Мікіта Сяргеевіч.

— Так. І пераправу прыйшлося будаваць новую.

Робячы рэйд у тыле, савецкія танкісты знішчылі многа жывой сілы і тэхнікі ворага. Былі разгромлены чатыры гітлераўскія дывізіі і расшыраны Лютежскі плацдарм.

## 14

На працягу пяці сутак гарачых баёў за Кіеў мы нават думкі не дапускалі пра адпачынак. Калі радавы танкіст яшчэ мог у чаканні загаду задрамаць «адным вокам» у танку, то ў камандзіра і такой магчымасці не было.

Шостая ноч пачыналася адносна спакойна. Да адзінаццаці гадзін я са сваім ад'ютантам Сяргеем Барысавым абышлі лінію абароны брыгады і прыселі на прызбе расколатай папалам снарадам хаты. Мяне адразу ахутаў лёгкі туман дрымоты. З гэтага туману выплыла мая родная вёска Дварэц, маё далёкае дзяцінства.

...Маці будзіць мяне вячэраць:

— Уставай, сынок,— ласкава кліча яна.

Я чую яе голас, але ніяк не магу прачнуцца.

— Уставай, сыночак, вячэра стыне.

— Зараз, мама, зараз....

— ...Таварыш гвардыі палкоўнік, вы спіце?

— Не, што ты, Сяргей!

— ...дык вось, кажу, як было з Марыяй Піліпаўнай...

— З якою Марыяй Піліпаўнай?

— Вы, мусіць, трошкі задрамалі і не чулі. Я ж расказваў.

— Давай спачатку...

Барысаў паўтарыў свой расказ.

...Ляжыць ён з прастрэленай галавой на беразе ракі. Страшэнна хочацца піць, але галаву падняць нельга: у ёй нібы хто вострым нажом калупаецца. Вось аднекуль даносіцца ўсплёск вёсел. Бліжэй, бліжэй, і лодка ўжо шоргае днішчам на пяску. Чуюцца асцярожныя крокі.

— Жывы? — пытаецца нейчы голас.

— Здаецца, жывы.— адказвае другі.

«Жывы»,— хоча крыкнуць Сяргей, але языком паварушыць не можа.

Яго асцярожна кладуць на дно лодкі. Зноў усплёск вёсел.

Потым яго некуды нясуць. Чуваць, як скрыпнула брамка і як нехта тры разы пастукаў у акно.

— Ратуй, Марыя Піліпаўна, чалавека. На беразе знайшлі. Малады...

І вось ужо прыемная цеплыня разліваецца па ўсяму целу. Яго пояць нечым цёплым, і ласкавы жаночы голас прыгаварвае:

— Пі, сынок, пі...

Барысаў засынае. А калі прачынаецца, то заўважае, што на крэсле ля яго ложка, звесіўшы на грудзі галаву, дрэмле пажылая жанчына. Яна прахопліваецца і нахіляецца да яго.

— Вочы расплюшчыў, во маладзец! — гаворыць яна мяккім, пяшчотным голасам.— Толькі гаварыць табе, сынок, нельга. Доктар забараніў.

Два месяцы Сяргей Барысаў знаходзіўся між жыццём і смерцю. У кароткія хвіліны, калі да яго вярталася прытомнасць, ён чуў устрывожаныя галасы — мужчынскі і жаночы.

— Ну, як?..

— Дрэнна, доктар. Ужо чацвёртыя суткі трызніць і гарыць, як у агні...

— Не буду ўтойваць, становішча хворага цяжкае. Я вымушаны звярнуцца за парадай да аднаго спецыяліста...

— А можа абыдземся без яго?..

— Не трывожцеся. Я не павяду яго сюды...

Але доктар больш не прыйшоў.

Прайшоў яшчэ месяц. Марыі Піліпаўне неяк удалося звязацца з падпольнай арганізацыяй, і да хворага прыслалі доктара-спецыяліста. Калі Барысава зноў вярнулі да жыцця, ён быў больш падобны на здань, чым на чалавека. Не лепш выглядала і Марыя Піліпаўна.

— Калі я крыху ачуняў,— прадаўжаў свой расказ Сяргей,— дык наладзіў сувязь з падпольшчыкамі і пачаў выконваць іх заданні. Неяк уночы я пайшоў наведаць Марыю Піліпаўну. Прыходжу і вачам сваім не веру: на тым месцы, дзе стаяла яе хата, ляжыць куча попелу. Я — да суседкі: «Дзе Марыя Піліпаўна?» «Прыехала гестапа, — кажа, — і забрала яе. А дом паліцэйскія аблілі бензінам і спалілі»...

Так загінула яшчэ адна простая савецкая жанчына, патрыётка, якая цаной свайго жыцця заплаціла за выратаванае жыццё савецкага воіна.



15

Дняпро ўжо за намі, а Кіеў яшчэ ў руках ворага. Гітлер прыслаў сваім генералам грозны загад: «Любой цаной затрымаць праціўніка. Парушальнікі гэтага загаду будуць расстраляны».

На станцыі Буча, якую мы павінны былі захапіць, паявіўся фашысцкі браняпоезд. Аб гэтым нам далажыў разведчык Васіль Прычэпа.

— Браняпоезд пыхкае ля самага семафора, а ў трохстах метрах ад станцыі, у бок Ворзеля, стаяць два эшалоны з боепрыпасамі.

Васіль памаўчаў хвілінку і, нібыта ўспомніўшы самае галоўнае, дадаў скарагаворкай:

—Там адзін фрыц на гармоніку грае — вось дае дыхту! Аж па скуры мурашкі бегаюць... Мелодыя такая пяшчотная — мусіць, пра любоў.

Мы ўсе засмяяліся.

— Не. Я праўду кажу. Чэснае камсамольскае. Во грае!

Вася сам цудоўна граў на губным гармоніку. У кароткія хвіліны зацішша мы любілі слухаць пяшчотныя, крышачку нават журботныя мелодыі: Вася Прычэпа сумаваў па тэлеграфістцы Надзі. Яна працавала ў штабе корпуса, была амаль што побач, але сустракалася з ім вельмі рэдка.

Неяк раз я іх бачыў разам на беразе Дзясны. Вася іграў, а чарнавокая дзяўчына, казачка з-пад Растова, задумённа перабіраючы пальцамі свае тоўстыя косы, глядзела на раку.

Я хацеў прайсці непрыкметна, але яны мяне заўважылі, і абое падхапіліся.

— Таварыш гвардыі палкоўнік, праз дзесяць мінут я буду ў поўным вашым распараджэнні,— сказаў юнак і позіркам папрасіў зразумець яго.

«Арап,— засмяяўся я ў душы.— Хоча падняць свой аўтарытэт у вачах дзяўчыны і просіць, каб я яго падтрымаў».

— Добра,— глянуў я на гадзіннік.— Нас, таварыш старшы сяржант, чакаюць неадкладныя справы.

У Надзейкі ледзь прыкметна здрыгануліся куточкі вуснаў: яна зразумела, што мы абодва ў змове супраць яе.

Часамі губны Васілёў гармонік змаўкаў надоўга: Васіль пасля чарговага ранення лячыўся ў шпіталі. Я не ведаў ніводнага салдата, які столькі разоў быў бы паранены і столькі разоў вяртаўся б зноў у сваю часць, як Васіль Прычэпа. Ён быў увесь у рубцах і шрамах. Яму трэба было б даўно служыць дзе-небудзь у тылавых часцях, а ён усякімі праўдамі і няпраўдамі трымаўся пярэдняга краю. Яго цягнула на фронт і, вядома, да Надзейкі. Ён біў ворага ў імя любві да Радзімы і ў імя свайго кахання.

Мы рыхтаваліся да раптоўнага ўдару па станцыі Буча. Танкісты заклапочана корпаліся каля сваіх машын. І раптам у такі сур'ёзны момант, як гарматны стрэл, выбухнуў вясёлы, дружны смех.

— Глядзіце, Прычэпа нейкіх баб вядзе! — гукнуў нехта.

Я азірнуўся. Па шашы да нас ішлі чатыры вясковыя кабеты з паднятымі ўгору рукамі. Ззаду за імі, трымаючы ў адной руцэ звязку гранат, а ў другой — кольт, крочыў Васіль Прычэпа.

— Шнэлер, шнэлер, — падганяў ён сваіх палонніц.

— Звар'яцеў хлопец,— заўважыў капітан Вавілаў.— Навошта ён тых баб у размяшчэнне нашай часці валачэ?

— Не спяшайцеся, таварыш капітан. Прычэпа дарэмна затрымліваць не будзе, — заўважыў падпалкоўнік Маляроў.

Палонніцы падышлі бліжэй. Мы глядзім на іх і дзівімся: якія здаравенныя кабеты!

— Стой! — крычыць Прычэпа.— Таварышы, аўтаматчыкаў сюды хутчэй!

На дапамогу бягуць аўтаматчыкі і ў момант акружаюць кабет.

— Таварыш гвардыі палкоўнік, мною затрыманы чатыры немцы, пераапранутыя ў жаночую вопратку. Разведчыкі ці дэзерціры — не дапытваў. Дакладвае гвардыі старшы сяржант Прычэпа.

Пасля каманды «вольна» Васіль ужо больш спакойна расказвае, як яму ўдалося затрымаць гітлераўцаў. Ён ішоў па вуліцы толькі што вызваленай вёскі і ўбачыў уперадзе сябе чатырох жанчын, якія ішлі побач.

«Чаму яны маўчаць,— падумалася Васілю.— Бабы ж, калі збяруцца разам, маўчаць не будуць. Яны табе такі вэрхал падымуць, што хоць вушы затыкай».

Васіль непрыкметна зайшоў за хаты і, перабягаючы ад аднаго вугла да другога, прыглядаўся да дзіўных кабет. «Бабы звычайна ходзяць уразвалку, а гэтыя нібыта штампы ставяць на зямлі»...

— Тады мне і цюкнула: гэта ж пераапранутыя фрыцы! Я ціхенька падкраўся да іх і з усяе сілы як крыкну: «Хальт! Хендэ гох!» Паслухалі. Адразу рукі паднялі. Я тыцнуў ім пад нос звязку гранат і загадаў па-іхняму: «Форвердс, шагам марш!» Пайшлі. Без усякіх размоў.

Затрыманыя «бабы», як высветлілася, былі дэзерцірамі з гітлераўскай часці, якая займала абарону на паўднёва-заходняй ускраіне Кіева. Двое былі унтэр-афіцэры, трэці — обер-фельдфебель і чацвёрты—маёр.

Дапытвалі іх у прысутнасці Васіля Прычэпы, які сціпла стаяў ля ўваходу ў зямлянку.

Маёр адмовіўся даваць паказанні. Ён свідраваў разведчыка сваімі халоднымі, калючымі вочкамі і хмурыўся. Відаць, грыз сябе за тое, што папусціўся гэтаму кірпатаму, нехлямяжаму з выгляду хлопцу.

Затое обер-фельдфебель аказаўся чалавекам гаваркім. Ён расказаў, што, нягледзячы на суровы загад Гітлера не адступаць, фашысцкія войскі ў Кіеве ахоплены панікай. Палкоўнік адной часці праглынуў нейкую ампулу і кончыўся літаральна праз хвіліну. Генералы раяцца днём і ноччу і патрабуюць ад Берліна новых падмацаванняў. Жыхароў горада «эвакуіруюць» у Германію, а тых, хто хаваецца ад гэтай «эвакуацыі» па каналізацыйных і вадасточных калодзежах, шукаюць з аўчаркамі і расстрэльваюць на месцы, як бальшавікоў. Нямецкія салдаты баяцца рускіх танкаў. Кажуць, што іх тут вельмі многа, ледзь не па дваццаць на кожнага нямецкага салдата.

Мы з Маляровым пераглянуліся: цяпер на кіеўскім плацдарме нашых танкаў у некалькі разоў менш, чым нямецкіх, але, глядзі, якая пра іх думка!

— Навошта вы пераапрануліся ў жаночае адзенне?—запытаўся Маляроў.

— Каб выратавацца ад смерці. У Кіеве мы ўсё роўна загінулі б. Фюрэр загадаў расстрэльваць усіх, хто будзе адступаць. Мы спадзяваліся дабрацца да граніцы, ды нас затрымаў вось гэты, — обер-фельдфебель кіўнуў на Прычэпу.— Смелы салдат, кемлівы. Адзін — і...

— Вы — баязлівец,— злосна перабіў обер-фельдфебеля маёр.

— А вы хто, дазвольце пацікавіцца, пан маёр? — агрызнуўся фельдфебель.— Герой не ўцякае з фронта, ды яшчэ ў спадніцы.

— Заткні горла, Шрайбман! Загадваю!

— Пан маёр, прашу трымацца карэктна,— сказаў я яму.— Вы цяпер не маеце права загадваць.



— Дапусцім, што вам удалося б дабрацца на радзіму. Ну, а далей што? — прадаўжаў допыт Маляроў.— Вас жа там маглі злавіць і судзіць за дэзерцірства. На што ж вы разлічвалі?

— Мы разлічвалі трапіць да амерыканцаў,—адказаў обер-фельдфебель.

— Да амерыканцаў? Яны ж — нашы саюзнікі!

— Вам лепш ведаць, якія ў вас саюзнікі,—усміхнуўся обер-фельдфебель.

Мы з Маляровым зноў пераглянуліся: гэты обер нядрэнна разбіраецца ў палітыцы!

— Амерыканцам мы не прычынілі нічога благога. А Расіі... Пан маёр ведае, колькі ён асабіста спаліў гарадоў, вёсак, колькі знішчыў рускіх...

Маёр з сур'ёзным, спакойным выглядам чысціў пазногці. Пры гэтых словах ён падняў галаву і скрывіўся.

— Нявіннае ягня! Ён ні ў чым не вінаваты!..

— Я выконваў вашы загады, пан маёр. А цяпер кожны з нас атрымае тое, што яму належыць.

## 16

Мая сям'я да вайны жыла па вуліцы Галі Цімафеевай. Дзе яны цяпер — жонка, дзеці?.. Загінулі ці пакутуюць на фашысцкай катарзе? А можа хаваюцца дзе ў вадасточным калодзежы і іх шукаюць драпежныя нямецкія аўчаркі?..

З такімі думкамі іду пасля допыту гітлераўцаў да сваёй машыны.

— Па танках! Уперад!

Імчым да станцыі Буча. Браняпоезд пачынае біць па танках з усіх гармат. Камандзір батальёна Бінеўскі прымае рашэнне: разбурыць снарадамі пуць ззаду і спераду браняпоезда, каб ён не змог манеўраваць. У адным месцы гэта зрабіць удаецца, у другім — ніяк.

Камандзір браняпоезда, відаць, сцяміў, што мы рыхтуем яму лавушку, і прыняў рашэнне адысці на захад ад станцыі. Страляючы з усіх гармат, ён на шалёнай хуткасці памчаў наперад.

— Перараняць! Не даць уцячы! — загадваю я.

Лёгка сказаць: «пераняць». А як яго пярэймеш? Толькі таранам. А таран — гэта чатыры чалавечыя жыцці...

— Сем трыццаць адзін? Сорак першы ідзе насустрач.

Сорак першы? Гэта ж камсамольскі экіпаж малодшага лейтэнанта Мітрафанава! Толькі ўчора я размаўляў з гэтымі дружнымі, смелымі юнакамі і яны дзяліліся сваёю запаветнаю марай: пасля вайны паступіць у педагагічны інстытут, а потым працаваць у адной школе...

«Трыццацьчацвёрка» малодшага лейтэнанта Мітрафанава, грукочучы па шпалах гусеніцамі, імчыць насустрач браняпоезду. Гітлераўцы павярнулі на яе ўсе гарматы.

Маладыя танкісты, якія не адзін ужо раз пабылі ў смяротэльных схватках з ворагам, разумеюць адзін аднаго без слоў. Механік-вадзіцель смела манеўруе, хоць на шпалах гэта не так лёгка. Зараджальшчык спрытна падае снарад за снарадам. Грукочуць гусеніцы, раве матор. Ляцяць уверх кастылі, гайкі, трэскі ад шпал. Адлегласць паміж дзвюма раз'юшанымі сіламі скарачаецца з кожнай доляй секунды. Трыста метраў, дзвесце, сто пяцьдзесят...

Прамым пападаннем снарад трапляе ў бак. Над танкам узнімаецца полымя. Але хадавая частка пакуль яшчэ працуе.

— Прыбавіць хуткасць! — загадвае Мітрафанаў механіку-вадзіцелю. Той націскае на педаль.

Браняпоезд рэзка тармозіць і хоча падацца назад, але не паспявае. Ахоплены полымем танк урэзваецца ў яго бронепляцоўку. Браніраваная аграмадзіна ўздрыгвае, нахіляецца на разварочаных рэйках і коціцца ўніз, пад адхон.

К вечару над станцыяй Буча мы ўзнімаем чырвоны сцяг.

Атрыманы, нарэшце, доўгачаканы загад аб пачатку рашаючага наступлення на Кіеў. Трэцяга лістапада сорак трэцяга года ў шэсць гадзін раніцы танкі дваццатай гвардзейскай дывізіі ўклініліся ў пярэдні край абароны праціўніка і раскалолі яго. У пралом кінулася пяхота.

На вялікай хуткасці ідзём да Кіева. Здаецца, сам горад кінуўся нам насустрач. Пажаданне Мікіты Сяргеевіча адзначыць Кастрычніцкае свята ў сталіцы Украіны акрыліла нас усіх.

Прарвацца ў горад з поўдня — задача нялёгкая. Тут праціўнік добра ўмацаваўся, і трэба будзе выбіваць яго з кожнага дома. А тут яшчэ трэба ўлічыць асаблівасці бою ў горадзе. У лесе і ў полі можна арыентавацца па сонцу, па зорках, па компасу. А ў горадзе збочыш з вуліцы, заскочыш у завулак і — заблудзіўся. Таму я вырашаю наступаць разам з перадавымі падраздзяленнямі.

Варожая авіяцыя спрабуе спыніць нас, засыпае бомбамі. З цэнтра горада б'е артылерыя. Але дваццатая гвардзейская не зважае на гэта і на ўсёй хуткасці ідзе ўперад. І раптам — стоп. Што такое? У чым справа?

Падбягаю да маёра Бінеўскага. Ён стаіць пасярод дарогі і разглядае нешта ў бінокль.

— У чым справа, таварыш маёр? Чаго спыніўся?

Ён працягвае мне бінокль.

— Ды вунь там, куды нам трэба ісці, плот і хляўчук нейкі...

— Які плот? Не разумею...

— Звычайны плот, таварыш гвардыі палкоўнік. Не хочацца крыўдзіць сваіх людзей. Яны і так нацярпеліся...

— Вы шкадуеце плот, а немцы руйнуюць горад, людзей расстрэльваюць! Я вас не пазнаю, маёр Бінеўскі! Уперад! На плот!

Танк камандзіра батальёна трушчыць плот, а за ім — артылерыйскую батарэю. Пракладваючы сабе дарогу, ён наводзіць жах на фашыстаў.

Убачыўшы сваіх, пачалі вылазіць са сховішчаў кіяўляне. Яшчэ свісталі кулі, ірваліся снарады, міны, а тут адбываліся радасныя сустрэчы. Плакалі не толькі вызваленыя з фашысцкай няволі, але і мы, вызваліцелі.

— Дзякуй, родныя! Дзякуй! — кідаліся да танкістаў старыя, жанчыны, дзеці.

— Прабачце, таварышы! Спяшаемся: трэба дабіваць ворага. Пагаворым другім разам!

Танкі ідуць уперад. Згодна агульнаму плану наступлення, мы перасякаем чыгунку і падыходзім да аэрадрома праціўніка. Там — паніка.

Транспартны самалёт вырулiў на ўзлётную пляцоўку і ўжо гатовы падняцца ў паветра. Убачыўшы савецкія танкі, раненыя гітлераўцы — хто кульгаючы на адной назе, а хто паўзком, на карачках, кінуліся да самалёта і, як мухі, абляпілі яго крыллі, бакі. Самалёт зрабіў разбег і падняўся ў паветра. З вышыні адзін за адным пачалі падаць на зямлю параненыя...

Кіеў — увесь у дыме. Недзе ў цэнтры адзін за другім грымяць ма



гутныя выбухі. Адступаючы, вораг усё руйнуе на сваім шляху. А Бінеўскі шкадаваў нейкі плот!

Хутчэй уперад! Нельга даць ворагу знішчыць горад!

Завод «Бальшавік»... Сорак варожых гармат сустракаюць нас вогненным шквалам. Прабіваемся праз яго. Урываемся ў горад. Наш удар настолькі раптоўны і імклівы, што гітлераўскія танкі, якія накіроўваліся ў горад з поўдня, ішлі сабе спакойна, быццам на шпацыр. І ўсе трапілі ў нашы рукі.

Усе дарогі праціўніку адрэзаны. Нам на дапамогу падышлі астатнія часці корпуса Краўчанкі і Першая асобная чэхаславацкая брыгада генерала Свабоды. Сыны Чэхаславакіі разам з намі вызвалялі сталіцу Украіны. Праз паўтара года мы дапамагалі сваім братам вызваляць залатую Прагу.

## 17

Былому сцяганосцу піянерскага атрада Вышня-Дубячанскай школы, мужнаму ўкраінцу-танкісту Нічыпару Шалудзенку ўручаюць чырвоны сцяг.

— Прарвіцеся ў цэнтр горада і ўзніміце сцяг на ўрадавым будынку.

— Будзе выканана! — каратка адказвае капітан Шалудзенка.

Заведзены маторы. Капітан, сціскаючы ў адной руцэ дрэўка сцяга, а другой трымаючыся за скабу башні, чакае каманды.

— Уперад, таварышы!

Галаўная машына з ходу набірае хуткасць. За ёю ідзе ўвесь узвод.

Па правую руку, між двума кручамі, стаіць на ўзгорку царква без купала. «Па гэтай дарозе, здаецца, зусім нядаўна я ездзіў у піянерскі лагер... А з лагера на экскурсію ў Пячорскую Лаўру», — успамінае капітан.

— Віця, ты быў калі-небудзь у Пячорскай Лаўры? — пытаецца ён па танкафону механіка-вадзіцеля.

— Я — бязбожнік,— адзываецца малодшы лейтэнант Хомаў.— Глядзі, вунь фрыцы заварушыліся. Злева, дваццаць пяць градусаў...

Гітлераўская супрацьтанкавая батарэя адкрывае па ўзводу Шалудзенкі агонь.

— Падавіць,— загадвае капітан.

Танкі, не спыняючыся, на хаду расстрэльваюць праціўніка. Гітлераўскія ваякі падымаюць угору рукі: здаюцца.

— Няма часу, панове,— смяецца капітан.— Прашу прабачэння.

Лагчыны, узгоркі, лагчыны. Домікі з нізкімі парканамі, гароды... Баршчагоўская. Фашысцкая батарэя б'е прамой наводкай. Штуршок. Капітан стукнуўся патыліцай аб браню. Перад вачамі — рой залатых мошак.

— Усё ў парадку,— дакладвае механік-вадзіцель.— Пашкоджанняў няма.

— Шрапнельны!

«Цяў-у-ў!..» Танк робіць рэзкі паварот, і крупаўскія гарматы трашчаць пад гусеніцамі, нібы яны не металічныя, а фанерныя.

З другімі батарэямі распраўляюцца танкі, што ідуць следам за камандзірскім. Але чым далей, тым усё узмацняецца агонь праціўніка. А да Крашчаціка ж яшчэ далёка!

Снарады рвуцца спераду, ззаду. Адзін трапляе ў танк лейтэнанта Цыпіна. Слуп агню і моцны выбух...

— Павялічыць хуткасць!
Нічыпар Шалудзенка ведае: ён не адзін. За ім ідзе ўзвод, корпус, увесь фронт. Праз некалькі гадзін Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў будзе дакладваць Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму: «Кіеў вызвалены. На ўрадавым будынку палошчацца чырвоны сцяг. Яго ўзнялі танкісты».
Бульвар Шаўчэнкі. Перапалоханыя фрыцы, як атручаныя пацукі, мітусяцца на вуліцы. Падаюць на калені, падымаюць угору рукі...
— Уперад! Трэцяя хуткасць!
Кіеў — мёртвы. Але нічога. Раніцай ён ажыве, скіне сваю чорную жалобу.
Крашчацік... Што зрабілі з табою бандыты! Адны руіны...
Плошча Калініна. З усіх бакоў б'юць супрацьтанкавыя гарматы.
— Таварыш капітан, спусціцеся ў люк! — крычыць механік-вадзіцель.
Капітан Шалудзенка не чуе. У гэтыя хвіліны шчаслівей за яго няма нікога на свеце. Ён — сцяганосец! Ён першы са сцягам на танку прарваўся ў горад! Першы з усіх савецкіх воінаў вызваляе ад ворага сталіцу сваёй рэспублікі! Чырвоны шаўковы сцяг развяваецца на ветры і ласкава дакранаецца да яго разгарачанага твару.
Узвод уступае ў бой, а капітан Шалудзенка, аддаўшы неабходныя распараджэнні, саскоквае з танка на зямлю.
— Таварыш капітан, куды вы? — спалохана крычыць механік-вадзіцель.
Нічыпар Шалудзенка не чуе. Узбуджаны, шчаслівы, ён ступае некалькі крокаў па роднай зямлі... І раптам заўважае фашысцкіх аўтаматчыкаў, што схаваліся за руінамі Галоўпаштамта.
У Шалудзенкі дзве гранаты. Не задумваючыся, ён кідаецца ўперад і шыбае іх у фашыстаў адну за другою. Стогны, крыкі. А Шалудзенка, не азіраючыся, накіроўваецца да сваёй машыны. Ды, відаць, не ўсіх фрыцаў прыкончыў сваімі гранатамі адважны капітан... З руін суха трэснула аўтаматная чарга, і Нічыпар Шалудзенка, пахіснуўшыся, ухапіўся рукою за браню, каб не ўпасці.
— Сцяг! — крыкнуў ён, не выпускаючы з рукі дрэўка, пакуль яго не падхапілі таварышы...
Загад узняць чырвоны сцяг на ўрадавым будынку быў выкананы дакладна ў вызначаны час.

## 18

Ноччу, у час перадышкі паміж баямі, я наважыў заглянуць на вуліцу Галі Цімафеевай. Падпалкоўнік Маляроў адобрыў маё рашэнне. Ён ведаў, што са жніўня 1941 года я не меў ніякіх вестак пра сваю сям'ю. У апошнім пісьме жонка віншавала мяне з папаўненнем. «У нас,—пісала яна,— нарадзіўся сын. Харошы хлопчык. Назвалі яго Толем».
— Старэйшаму, Валодзю, ужо трынаццаты год пайшоў, а малодшаму — Толіку — трэці. Ці жывыя яны?..
— Не муч сябе, едзь,— адказаў ён.— Я ж цябе ведаю: што б ні здарылася, ты застанешся Шутавым.
Едзем па цёмнай вуліцы. Вокны і дзверы дамоў забіты крыж-накрыж дошкамі. Не вуліца, а нейкі закінуты могільнік.
— А вы пазнаеце сваю хату? — пытаецца мой ад'ютант Сяргей Барысаў.— Цёмна ж.



Маўчу. Чым бліжэй да дома, тым мацней пачынае біцца сэрца.
— Прыехалі! — кідаю цераз плячо Сяргею і першы выскокваю з машыны.
Брамка зачынена на засаўку. Каб не рабіць шуму, пералазім з Сяргеем цераз плот. Падбягаем да дзвярэй. Яны зачыненыя. Перавёўшы дух, ціха стукаю ў дзверы. Нікога. Стукаю моцна, настойліва — ніхто не адзываецца.
Сяргей, у мінулым разведчык, цягне мяне за рукаў і ціха шэпча:
— Таварыш гвардыі палкоўнік, не стукайце больш. Адну хвілінку...
Мы ўслухоўваемся ў цішыню, каб улавіць хоць адзін гук.
— Іх, мусіць, пагналі ў Германію. Альбо...
— Гэта мы зараз пабачым,— гаворыць Сяргей.— Толькі трэба зайсці ў дом. Дазвольце, я адамкну. Цвіком...
Сяргей пачынае шкрэбсці цвіком у замку. Гэтыя секунды мне здаюцца гадзінамі.
— Перастань калупацца! Давай выламім!
— Ды што вы, таварыш гвардыі палкоўнік! Заўтра вернецца ваша сям'я, і хто ёй будзе дзверы прыладжваць?
Пярэдні пакойчык... Святло электрычнага ліхтарыка слізнула па вешалцы. На ёй вісіць пояс ад паркалёвай жаночай сукенкі. Так, мая жонка Галіна Андрэеўна насіла такую сукенку. Але як гэта даўно было!..
У пакоі пуста. Шпалеры паабдзіраны, на абажуры — тоўсты слой пылу.
Сяргей уважліва аглядае ўсё, што валяецца на падлозе. Вось ён паказвае мне каляровую вокладку піянерскага часопіса.
— Бачыце, немцаў тут не было.
— Не гэта мяне цяпер цікавіць, Сяргей. Я хачу ведаць, дзе мае?..
— Некуды сышлі.
— Куды? І няўжо яны ўзялі і мэблю? Не, тут нешта не тое...
Трэба ісці. Але як жа ісці са свайго дома, так нічога і не даведаўшыся?
— Адну хвілінку,— гаворыць Сяргей.— Гародзік у вас які-небудзь быў? Ці садок?
Ківаю за акно. Там — вузкі загончык зямлі, дзе жонка садзіла кветкі.
— Зразумела. Адну хвілінку...
Сяргей адчыняе акно і выскоквае на двор. Праз нейкі момант ён вяртаецца ў пакой, трымаючы ў руках вялы бульбоўнік.
— Вашы нядаўна былі тут. Бачыце, яшчэ бульбоўнік не пасох.
У мяне радасна страпянулася сэрца. А можа яны і цяпер дзе-небудзь тут, непадалёку? Выскокваю на двор і бягу да вадасточнага калодзежа. Чыгунная крышка на ім ссунута ўбок. Яны там! Нагінаюся, адкідваю прэч крышку.
— Ёсць тут хто-небудзь?
Журчыць вада.
— Не бойцеся... Мы — свае...
Усё гэтак жа ціха журчыць вада.
Сяргей апускаецца на калені, нахіляецца над калодзежам і свеціць туды ліхтарыкам.
— Там нехта ёсць,— гаворыць ён устрывожана.
Я хапаю з яго рук ліхтарык і пачынаю свяціць у калодзеж. Прамень выхоплівае з цемры згорбленую постаць. Жанчына! Жывая... Варушыцца... Жонка?!
— Галя, Галінка... Гэта я, Сцяпан...

Жанчына падымае галаву. Пасмы сівых валасоў... худы, зморшчаны твар...

— Хто вы?

Маўчанне.

— Не бойцеся, вылазьце,— мяккім, пяшчотным голасам гаворыць Сяргей.— Мы — савецкія камандзіры. Кіеў ужо наш. Давайце руку, выцягнем.

Жанчына, відаць, доўга сядзела ў калодзежы, бо зусім знясілела. Мы нясем яе ў дом. Сяргей скідае з сябе ватоўку і падкладвае ёй пад галаву.

— Ды гэта ж Праскоўя Цімафееўна, — пазнаю я сваю суседку. Яе адзіны сын, лётчык, загінуў на Халхін-Голе.

Жанчына патроху ачуньвае і расказвае, што гітлераўскія бандыты хацелі і яе разам з усімі пагнаць у Германію, ды ёй удалося ўцячы і схавацца. Восем дзён яна сядзела ў калодзежы. Першыя дні на ноч выбіралася адтуль. А вось ужо двое сутак не выходзіла — сілы не было.

— А хто ж ты такі, што ведаеш мяне? — пытаецца яна раптам.

— Праскоўя Цімафееўна, няўжо вы мяне не помніце? Я — Сцяпан Шутаў.

— Галінін муж?

— Так.

— Помню, чаму ж не! Ты ўсё на танках ездзіў...

Жанчына доўга, моўчкі ківае галавой. Мне здаецца, што вось зараз яна скажа: «Як жа гэта ты сюды Гітлера пусціў!..» Але яна гаворыць другое:

— Галіна Андрэеўна, дзякуй богу, жывая. І дзеткі... Толькі цяжка ім было, ох і цяжка! З голаду пухлі. Калі пачало грымець, Галіна Андрэеўна з дзецьмі ў вёску падалася. Казала, недалёка адсюль. І мяне звала з сабою, дзякуй ёй за добрае сэрца, ды я не пайшла — лішні рот...

Толькі праз два тыдні, калі наша брыгада прайшла дзесяткі кіламетраў на захад ад Кіева, я зноў наведаўся дадому. На гэты раз застаў жонку і меншага, Толіка.

— Ты мой тата, праўда? — спытаўся ён і, горда задраўшы галаву, крыкнуў: — Мой тата — танкіст! Бі фрыцаў, ура!..

— Галя, а дзе ж Валодзя?

Жонка апусціла галаву і заплакала. Валодзя там, адкуль яшчэ не прагналі немцаў. Вёска, у якой хавалася яна з дзецьмі, некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Аднойчы ноччу Галіна схапіла на рукі малодшага і кінулася насустрач нашым. А старэйшы застаўся ў той вёсцы, у знаёмых людзей.

## 19

Кіеў — вызвалены. Над дахамі ўцалелых дамоў закурыліся сінія дымкі. Пайшлі трамваі. Тысячы камсамольцаў расчышчаюць лапатамі Крашчацік. А бітва за Кіеў толькі пачалася.

Гітлер, сцягнуўшы рэзервы з Заходняй Еўропы, зноў кінуў на сталіцу Украіны больш дзесяці танкавых дывізій. Завязаліся цяжкія баі за шашу Кіеў — Жытомір. Савецкія войскі вытрымалі націск, спынілі ворага. Тады ён кінуўся да горада з поўначы. Але і тут танкі перагарадзілі яму шлях.

Днём і ноччу войскі 1-га Украінскага фронта адбівалі магутныя контратакі ворага, а потым перайшлі ў наступленне. Якраз у гэтыя дні быў апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні мне звання Героя Савецкага Саюза за кіеўскую бітву.





Як і кожны савецкі воін, я сустрэў гэтую вестку з радасным хваляваннем і трывогай: «Ці заслужыў я гэтае высокае званне?» Тоячыся ад усіх, дзесяты раз перачытваю сваё прозвішча ў газеце: а ці няма тут якой памылкі? Потым кажу сам сабе: «Гэта табе, Шутаў, далі не за зробленае, а за тое, што абавязаны зрабіць. Трэба ваяваць лепш ды і пазбавіцца ад усіх сваіх недахопаў, а ў цябе іх — процьма!»

Партыя і Савецкі ўрад высока ацанілі мужнасць удзельнікаў фарсіравання Дняпра і вызвалення Кіева. Толькі званне Героя Савецкага Саюза было прысвоена каля васьмістам салдатам, сержантам, афіцэрам і генералам.

— Танкісты нашай брыгады заслужылі, безумоўна, высокую ўзнагароду. Яны першыя фарсіравалі Дзясну і Дняпро, першыя вызвалялі Кіеў. А я? Што я зрабіў такое...— кажу я падпалкоўніку Малярову.

Міхаіл Федасеевіч зразумеў маю шчырасць.

— Гэта добра, што ты так думаеш,— сказаў ён.— Зазнавацца не будзеш.

Праз некалькі дзён у нашай армейскай газеце была надрукавана невялікая заметка пра мой баявы шлях ад радавога чырвонагвардзейца-добраахвотніка да камандзіра танкавай брыгады. Пад заметкай стаяў подпіс: «Гвардыі капітан Юры Мяцельскі».

Мяцельскі! Мы з ім ваюем у адным злучэнні, знаходзімся ўвесь час побач і пасля тых памятных баёў за Ленінград ні разу не сустрэліся! Трэба пабачыцца з ім, тым больш, што выпадак зручны: нашу брыгаду адвялі на кароткачасовы адпачынак.

У штабе корпуса я даведаўся, што Мяцельскі — у суседняй брыгадзе, і паехаў да яго.

Камандзір брыгады сустрэў мяне не вельмі ветліва.

— Які вецер цябе сюды занёс?

— Спадарожны. Земляка хачу праведаць.

— Капітана Мяцельскага? Ён неяк мне гаварыў...

— Дык чаму ж ты не сказаў, што ён у цябе?

Палкоўнік паціснуў плячамі і ўсміхнуўся. Навошта? Сёння жывеш, заўтра — магілка пры дарозе. Зямляк! Усе землякі... Ды і наогул... Сентыментальныя пачуцці на фронце наўрад ці дарэчы...

Мой сусед, пра якога ідзе гаворка, быў храбры танкіст, здольны камандзір. Яго брыгада лічылася адной з лепшых у корпусе. А вось да сваіх людзей ён адносіўся толькі «згодна статуту». Для яго гэта былі: радавы, сержант, лейтэнант, капітан, якія выканалі ці не выканалі загад. А што было ў іх на душы, — гэта ён лічыў сентыментальнай справай, якая не мае дачынення да палявога статуту.

— Дык усё ж я хацеў бы пабачыць свайго земляка.

Палкоўнік надзеў шапку, глянуў у люстэрка і выйшаў за мною на вуліцу. Біла наша артылерыя.

— З учарашняга дня капітан Мяцельскі выконвае абавязкі камандзіра батальёна,— сказаў мне па дарозе палкоўнік.— Да гэтага ён камандаваў ротай. Добры танкіст. Смелы.— Ён глянуў на гадзіннік.— Праз... сорак дзве хвіліны Мяцельскі ўпершыню павядзе батальён.

Мяцельскага мы засталі за картай. Ён, відаць, хацеў яшчэ раз удакладніць, як будзе разгортвацца аперацыя.

Мы знакам папярэдзілі тэлефаніста, што сядзеў ля ўваходу ў зямлянку, каб ён нас не выдаваў, і ціха спыніліся ля дзвярэй. Мяцельскі, схіліўшыся над картай, памешваў лыжачкай даўно астылы чай і сам сабе мармытаў:

— Значыцца, так... На крайнім левым флангу стане Адзінцоў. Уперад рушыць Еўтушэнка...



Ён раптам падняў галаву і заўважыў нас. Далажыўшы свайму камандзіру пра гатоўнасць батальёна да бою, ён кінуўся да мяне.

Мы абняліся і моцна пацалаваліся. У палкоўніка незадаволена апусціліся куточкі вуснаў: на яго вачах рушыліся асновы ўсялякай субардынацыі...

— Як ваюем, Юра?

— Ды не шкодзіла б лепш. Гітлер усё яшчэ шалее.

— Апошняя агонія.

— Ці апошняя, Сцяпан Фёдаравіч?

— Ва ўсякім выпадку, да таго ідзе. Кацюша піша? Як яна?

— Па-ранейшаму працуе ў шпіталі. І вучыцца. За два гады закончыла чатыры курсы. Яшчэ год—хірургам будзе. А ваша як сям'я, Сцяпан Фёдаравіч?

— З жонкай і малодшым сынам бачыўся. А старэйшага яшчэ вызваліць трэба...

— Вызвалім! — і Юра паглядзеў на гадзіннік.

Я пачаў развітвацца, але, на маё здзіўленне, камандзір брыгады сказаў:

— Не спяшайся. Паглядзі, як твой зямляк немцаў б'е. Цяпер мы ваюем і за цябе,— намякнуў ён на тое, што мая брыгада — на адпачынку.

Батальён, вынесшы наперад флангі і адцягнуўшы назад цэнтр, рушыў на ворага. Паколькі на пярэднім краі праціўнік амаль не аказаў супраціўлення, «трыццацьчацвёркі» перанеслі агонь у глыбіню абароны праціўніка.

За Мяцельскім ішлі танкі другіх батальёнаў. Таму ён рухаўся ўсё хутчэй і хутчэй. З узгорка, на якім раскінулася невялікая вёска Ржаніўка, вораг адкрыў па танках моцны агонь. Загарэлася адна «трыццацьчацвёрка», за ёю — другая...

— Мала зрабілі артылерысты, мала,— нахмурыўся палкоўнік.— Увесь ачаг супрацьтанкавай абароны цэлы. І Мяцельскі марудзіць...

Але Мяцельскі не марудзіў. Ён зрабіў хуткі рывок уперад. За ім рушылі суседнія машыны, прыкрываючы свайго камандзіра шквальным агнём. «Трыццацьчацвёрка» Мяцельскага зноў вырвалася ўперад. Страляючы з гарматы, яна на момант знікла з вачэй і паявілася ўжо ў другім месцы.

— Ён на хаду мяняе баявы парадак, — сказаў палкоўнік. — Хвалю!

Мяцельскі асцярожна выставіў наперад правы фланг, цэнтр, а леваму флангу загадаў хутка абысці апорны пункт праціўніка. Задума яго нам была зразумелая: ён хоча, каб левы фланг з тылу расправіўся з артылерыяй праціўніка, а тады ўсім батальёнам уварвацца ў сяло.

Ужо не відаць танкаў Мяцельскага, але радыё праз кожныя пяць хвілін дакладвае нам пра ход бою. Мяцельскі праскочыў на супрацьлеглую ўскраіну вёскі і пачаў біць па ворагу з тылу, флангаў і фронта.

Я не пакідаў суседнюю брыгаду да таго часу, пакуль не была ўзята Ржаніўка і пакуль штаб корпуса не перайшоў у толькі што вызваленую вёску.

## 20

Ішлі апошнія дні снежня. Пасля штодзённых баёў мы рабілі вялікія начныя пераходы. У завіруху, па абледзянелых дарогах. А ў кароткія перапынкі паміж баямі адпачываць таксама не было калі: трэба ж прагледзець і падрамантаваць машыны.

У адзін з такіх кароткіх перапынкаў нам пазваніў генерал.
— Вашы хлопцы вельмі стаміліся? Спяць?
Я адказаў, што мы рыхтуем танкі для выканання далейшых загадаў.
— Калі зможаце выступіць?
— Да раніцы будзем гатовы.
— Добра. Бярыце напрамак на Бражанцы. Ваш сусед справа пераводзіцца ў іншае месца.
Бражанцы! Нават не верыцца, што я буду вызваляць вёску, у якой недзе пакутуе мой сын Валодзя. Яшчэ ўчора я прасіў свайго «суседа справа», каб ён пашукаў Валодзю ў вёсцы і адправіў у Кіеў...
— Чуеш, Сцяпан Фёдаравіч, у інстытуце я вывучаў закон аб стомленасці металу, — задумёна сказаў падпалкоўнік Маляроў. — Дык мы ж даўно перакрылі ўсе вядомыя дасюль нормы эксплуатацыі машын. А старшы сяржант Млінчанка сёння мне гаворыць: «Нашы «трыццацьчацвёркі», калі трэба будзе, і да Берліна дойдуць». Якія ў нас людзі! Згодна статутаў усіх армій свету, пасля трох-, чатырохсутачных танкавых баёў часці адводзяцца на адпачынак. А мы, Сцяпан Фёдаравіч, колькі часу ваюем без адпачынку?.. Ды чаго ты сёння такі кіслы?
Я расказваю яму і пра загад генерала, і пра сваю трывогу. Ён не суцяшае мяне, бо ведае: няма на свеце такіх слоў, ад якіх у мяне цяпер паспакайнела б на душы...
У восем гадзін раніцы вярнуліся з Бражанцаў нашы разведчыкі на чале з сяржантам Прычэпам. Васіль Прычэпа быў настроены аптымістычна: абарона праціўніка — «не надта што...», артылерыя — «у недастатковай колькасці». Наогул, чапляцца ім няма за што.
— Трэба ўдарыць нечакана і моцна, — сказаў Маляроў, азнаёміўшыся з маім планам атакі. — З ротай Гарбунова пайду я.
Раніцай зноў закруціла мяцеліца, ды такая, што не відаць было свету. Пра імклівы ўдар і думаць не было чаго: у такое надвор'е машыны трэба весці вельмі асцярожна.
Зноў пазваніў камандзір корпуса.
— Ідзяце?
— Ідзём.
— Надвор'е не важнае. Людзей і машыны не загубіце?
— Усё будзе добра.
— Веру. Жадаю поспеху!
Я павесіў трубку і паглядзеў на Малярова.
— А можа і праўда крыху пачакаць? У выпадку чаго будуць гаварыць, што я павёў людзей з карыслівай мэтай...
— Якое глупства! — раззлаваўся Маляроў. — А ўчора мы ваявалі ў лепшае надвор'е? Нам няма калі сонейка чакаць!..
Камандзіры «трыццацьчацвёрак» ляглі на танкі і, уважліва разглядаючы дарогу ўперадзе, паказвалі вадзіцелям, куды ісці. Танкі павольна, амаль вобмацкам, абміналі ямы, варонкі, ірвы. Па радыё я прыслухоўваўся да распараджэнняў камандзіраў і ўзгадняў іх дзеянні.
Яшчэ далёка Бражанцы, а я ў думках ужо заглядваю ў кожную хату, у кожны склеп і пытаюся, ці не ведае хто трынаццацігадовага кіеўскага хлопчыка Валодзю Шутава...
Маляроў па радыё дакладвае, што падыходзіць да паўднёва-заходняй ускраіны вёскі. Падцягваю ўсе танкі, пакідаю дзве машыны для прыкрыцця манеўра і загадваю атакаваць.
Завея не сціхае, але жыхары Бражанцаў вылазяць са сваіх сховішчаў і бягуць нам насустрач. Маляроў, Аляксей Мядовік і інструктар палітаддзела кідаюцца на пошукі Валодзі.



Танкі абступаюць старыя, жанчыны, дзеці. Маленькая бледная дзяўчынка, праціснуўшыся ўперад, пытаецца тоненькім галаском:
— Дзядзечкі ваенныя, вы нікуды не пойдзеце, будзеце з намі?
— Пойдзем, — бярэ малую на рукі камандзір роты Гарбуноў. — У Берлін пойдзем, маленькая... Знойдзем тых фашыстаў, што цябе крыўдзілі.
— А вы іх ведаеце?
— А як жа. Ведаем. Усе яны аднолькавыя.
Скрозь натоўп людзей праціскаецца задыханы, абадраны хлапчук. Ён некага шукае вачамі.
— Тата! — кідаецца ён да мяне.
— Валодзька! Сынок!
Я прыціскаю да грудзей худзенькае, дрыготкае цела сына.
— Ціха, Валодзька, супакойся, ты ж мужчына, — кажу я яму, а сам раз за разам глытаю даўкія, горкія камякі, што падступаюць пад горла. — Як жа гэта ты, разява, ад мамы адстаў?
Валодзька пакрыўдзіўся і надзьмуў губы:
— Ніякі я не разява. Добра табе: ты ў танку... А мяне фрыцы з сабакамі шукалі. «Гэта, — казалі яны, — сын вялікага савецкага начальніка»... Мы з дзядулем яму ў лесе выкапалі і чатыры месяцы хаваліся ў ёй...
Мяне—як хто нажом па сэрцы паласнуў. Чатыры месяцы мой сын сядзеў у сырой, цёмнай яме! Чатыры месяцы яго на кожным кроку падпільноўвала смерць!
— Нічога, Валодзя, мы адпомсцім за цябе ворагу, — сказаў падпалкоўнік Маляроў.
— Я сам за сябе адпомшчу! Тата, вазьмі мяне з сабою на фронт. Я ўжо вялікі...
— Паедзем... Мы цябе тут не пакінем.
На другі дзень я пасадзіў яго на машыну, што ішла ў Кіеў.
— А на фронт? Я ж хачу на фронт!
— Едзь, сынок, да мамы. Табе вучыцца трэба, і так два гады прапусціў. А ў Кіеве школы адкрываюцца...
Я глядзеў услед машыне, пакуль яна не знікла ў далечыні. Потым павярнуўся і доўга ўглядаўся ў другую дарогу. Яна вяла на захад.

# ЧЫРВОНЫЯ СТРЭЛЫ

## 1

Настаў 1944 год — год раптоўных, знішчальных удараў па ворагу. У гэтым годзе ўсё часцей і часцей паўтаралася слова «кацёл», упершыню ўжытае пры акружэнні арміі Паўлюса.
Уявіце сабе такі малюнак. Ноччу, па няроўнай, вузкай дарозе ідзе танк. За ім другі, трэці, рота, батальён, брыгада, корпус, танкавая

армія, — дзесяткі тысяч людзей, транспартныя машыны, абозы. Усе—ад байца да камандуючага — імкнуцца да ўказанай мэты, і раптам загад: павярнуць на новы напрамак. Гэта вельмі складаны, цяжкі манеўр, але нашы часці навучыліся рухацца ў такім узаемаразмяшчэнні, якое дазваляла ў любы момант разгарнуцца ў баявы парадак. Дзякуючы такому манеўру, вораг губляў з поля зроку нашы галоўныя сілы. Ён кідаўся з фланга на фланг, трацячы час, а мы наносілі раптоўныя, знішчальныя ўдары там, дзе менш за ўсё можна было іх чакаць.

Сапраўднае майстэрства танкавага манеўра савецкія войскі праявілі пры акружэнні дзесяці гітлераўскіх дывізій у раёне Корсунь-Шаўчэнкаўскага, якія спрабавалі яшчэ пагражаць Кіеву...

Мэта, дзеля якой рабіўся той ці іншы манеўр, была зразумелая кожнаму камандзіру і байцу. Пра гэта клапаціліся палітработнікі. Палымяным словам і асабістым прыкладам яны імкнуліся выхаваць у савецкага байца высокую самадысцыпліну і вынаходлівасць у баі.

У час бою, узбіраючыся на круты ўзгорак, адна з нашых трыццацьчацвёрак саслізнула з дарогі і, нахіліўшыся на бок, скінула правую гусеніцу. Танкі, што ішлі за гэтай машынай, спыніліся: яна перагарадзіла ім дарогу. А ўперадзе, за ўзгоркам, нашу пяхоту атакавалі фашысцкія танкі.

Да месца, дзе завалілася «трыццацьчацвёрка», першы прыбыў начальнік палітаддзела брыгады падпалкоўнік Маляроў. Убачыўшы яго, танкісты з палёгкай уздыхнулі.

— Разгубіліся мы крыху, таварыш гвардыі падпалкоўнік, — прызнаўся камандзір танка малодшы лейтэнант Абухаў. — Бачыце, заселі канчаткова і выхаду — ніякага.

— Ніякага? — перапытаў, усміхнуўшыся, Маляроў.

— Ніякага.

— Ну, гэта вы ўжо нагаварваеце на сябе і на таварышаў, малодшы лейтэнант. Хто на моры быў, той лужы не баіцца. Успомніце хоць бы Каменку...

Пад Каменкай у разгар бою ў камсамольскага экіпажа малодшага лейтэнанта Абухава выйшлі ўсе боепрыпасы. У гэты час гітлераўцы перайшлі ў контратаку. Пакінуць пяхоту без падтрымкі камсамольцы не маглі.

— Ёсць выхад, — сказаў тады камандзір узвода Абухаў. — Возьмем боепрыпасы з падбітага танка Яроменкі. Сяржант Костылеў — да танка!

Падбітая машына Яроменкі стаяла метраў за дзвесце пяцьдзесят ад нашага пярэдняга краю абароны. Механік-вадзіцель Костылеў накіраваў танк туды.

— Выходзь! Усе! — загадаў Абухаў. — Застанецца адзін Костылеў.

Пад агнём варожых аўтаматаў тры камсамольцы папаўзлі да падбітай «трыццацьчацвёркі», і, вярнуўшыся з боепрыпасамі, адкрылі па ворагу, які рушыў у наступленне, агонь. Звыш двух дзесяткаў захопнікаў засталося на полі бою, астатнія адступілі назад.

Лейтэнант Абухаў разумеў, што сённяшняя абстаноўка куды больш складаная, чым тады, пад Каменкай, але падпалкоўнік Маляроў быў побач, і гэтага было дастаткова, каб маладыя танкісты паверылі ў свае сілы.

— Узгорак, таварышы, мы ўзарвем, а машыну возьмем на буксір, — сказаў падпалкоўнік.

Трэба было праявіць выключную вытрымку, каб пад ураганным



агнём праціўніка ўзарваць узгорак, надзець на танк гусеніцу і адбуксіраваць яго.

Неўзабаве заваленая «трыццацьчацвёрка» была выведзена на дарогу, і камсамольскі экіпаж рынуўся ў бой. За ім рушылі і астатнія машыны. Гвардыі падпалкоўнік Маляроў глядзеў ім услед і задаволена ўсміхаўся. Гэтая ўсмешка нібы гаварыла: «Нам было цяжка, але мы адолелі гэтую цяжкасць. І наогул, няма такіх цяжкасцей, якіх бы мы не адолелі...»

У гэтае імгненне непадалёку ад Малярова разарваўся варожы снарад. Асколак трапіў падпалкоўніку проста ў сэрца. Ён упаў. Светлая ўсмешка назаўсёды застыла на яго вуснах. З такою ўсмешкай памірае толькі чалавек, які ведае, што жыццё яго пражыта не дарэмна.

## 2

У гарачцы бою неяк міжволі згаджаешся са старой, горкай ісцінай: «Перамога даецца не лёгка, без страт яе не даб'ешся». І толькі тады, калі змаўкае гул бою, па-сапраўднаму пачынаеш адчуваць усю горыч страт.

Некалькі дзён пасля гібелі гвардыі падпалкоўніка Малярова я не знаходзіў сабе месца. У нашай брыгадзе, якая ўвесь час знаходзілася ў баях, было многа вымушаных замен. Але прывыкнуць да думкі, што майго лепшага франтавога сябра і цудоўнага чалавека Міхаіла Федасеевіча ўжо няма жывога, я не мог.

«Не трэба было пускаць яго... Навошта я пусціў!..» — дакараў я самога сябе.

Мае думкі перапыніў тэлефонны званок.

— Шутаў, да цябе едзе новы начальнік палітаддзела. Спадзяемся, будзеш задаволены. Ён — добры палітработнік, праслаўлены танкіст...

Я горка ўсміхнуўся: «Добры палітработнік, праслаўлены танкіст»... Магчыма. Але такога чалавека, як Маляроў...

— Ты нават не цікавішся, хто ён, — папракнулі з таго канца провада.

— Прыедзе, даведаюся, — холадна адказаў я.

— Маёр Шашла, Герой Савецкага Саюза.

Шашла?! Ён сапраўды праслаўлены танкіст, выдатны палітработнік. Пра подзвігі гэтага слаўнага сына ўкраінскага народа шмат пісалі нашы газеты. Увосень 1941 года парторг роты Цімох Шашла павёў у атаку некалькі «трыццацьчацвёрак» супраць трыццаці варожых танкаў. Разбіў іх, потым падняў пяхоту і адбіў у праціўніка важны населены пункт Штэпаўку, праз які праходзілі дарогі на Харкаў і Сумы.

Калі нашы войскі падышлі да Дняпра, Шашла, які ваяваў на другім напрамку, звярнуўся да Мікіты Сяргеевіча Хрушчова з просьбай даць яму магчымасць удзельнічаць у вызваленні роднай Украіны. Таварыш Хрушчоў, які сачыў за поспехамі маладога храбрага танкіста, падтрымаў яго.

Я ведаў біяграфію Цімоха Шашлы. Сын калгасніка, сельскі настаўнік, ён пачаў вайну старшым сяржантам, памочнікам камандзіра танкавага ўзвода...

Маёр Шашла прыехаў да нас у тыя дні, калі гітлераўская групіроўка, замкнутая ў Корсунь-Шаўчэнкаўскім катле, рабіла спробу вырвацца з яго.

— Прыбыў у дваццатую гвардзейскую на пасаду начальніка палітаддзела маёр Шашла, — сціпла далажыў ён.

— Рад, Цімох Максімавіч, — пацісную я яму руку і чамусьці адразу перайшоў на «ты». Чаму, і па сённяшні дзень сказаць не магу. Можа таму, што ён быў маладзейшы за мяне на трынаццаць гадоў, а мо таму, што многа пра яго чуў, чытаў, і ён здаваўся мне даўно знаёмым, блізкім чалавекам.
— Садзіся і давай разам думаць будзем...
Паблізу вёскі Лісянкі працякала невялікая рачулка Гнілы Цікіч. У мяне закралася падазрэнне, што іменна тут гітлераўскія танкі паспрабуюць прарваць акружэнне. Я сказаў пра гэта маёру і запытаўся:
— А ты як думаеш?
Ён не спяшаўся з адказам. Задумаўся. На ілбе, ля пераносся, залеглі тры глыбокія складкі.
— Згодзен, — сказаў ён нарэшце, узважыўшы ўсе «за» і «супраць».— Камандаванне нямецкай групіроўкі ўдарыць іменна тут.
Зазваніў тэлефон.
— Камандуючы корпусам, — перадаў мне трубку тэлефаніст.
— «Дняпро» слухае. Зразумела. Ёсць. Будзе выканана.
— Фашысты заварушыліся? — спытаўся Шашла, не адрываючыся ад карты. — І там, дзе вы думалі?
— Там. У іх — каля пяцісот машын. Нам загадана заняць пераправы цераз раку. У нас, ведаеш, колькі машын? Семнаццаць. Пазней падашлюць яшчэ, а пакуль...
— Малавата. Але загад выканаем, Сцяпан Фёдаравіч. Толькі трэба іх апярэдзіць.
Брыгада ідзе ў бой. На башні перадапошняй машыны — мы з Шашлам. Бой пачынаецца адразу за вёскай. Праціўнік нас апярэдзіў. Ужо гараць дзве нашы «трыццацьчацвёркі». Вораг асядлаў абедзве пераправы. «Пяцьсот і... пятнаццаць»... Крадком гляджу на начальніка палітаддзела. Ён спакойны. Толькі па бліскучых шэрых вачах можна здагадацца, як напружана ён думае. Мы прыходзім да аднаго вываду: трэба вярнуць танкі за ўзгорак і, карыстаючыся гэтым натуральным укрыццем, рушыць на пераправы.
— Я вазьму на сябе адну пераправу, а ты — другую, — прапаную маёру. Ён згаджаецца.
Наш раптоўны адыход праціўнік успрымае, як хітрасць. Мы ў той жа момант выкарыстоўваем яго разгубленасць і пачынаем атакаваць абедзве пераправы. Умела манеўруючы, каб ні адна бомба, ні адзін снарад не трапілі ў машыну, мы знішчаем каля дваццаці варожых танкаў і адбіваем пераправы. Тут займае абарону наш мотастралковы батальён.
Пачынае змяркацца. З узгорка наглядаем за праціўнікам. Каля нас — сувязныя стралковай часці. Загадваю аднаму з іх падцягнуць тэлефон, каб далажыць камандуючаму дывізіі пра абстаноўку.
Сувязны дакладвае: тэлефон знаходзіцца за дзвесце метраў адсюль, у лагчынцы.
— Я загадаў правесці тэлефон сюды!
— Таварыш гвардыі палкоўнік, провада не хапае.
— Падыдзем туды, — гаворыць Цімох Максімавіч.
Дабіраемся да той лагчынкі, і я дакладваю камандуючаму пра абстаноўку: праціўнік перагрупіроўвае сілы, відаць, наважыў прарвацца праз Лісянку.
— Назірайце і часцей дакладвайце, — загадвае камандуючы.
Вяртаемся назад, да свайго ўзгорка. Зусім сцямнела. Праходзім ля акопаў, у якіх дзесяць хвілін таму назад ляжалі нашы байцы. Ні душы. Ступаем яшчэ некалькі крокаў і заўважаем у цемры чорныя постаці.



— Стой! — хапаю за рукаў свайго нампаліта. — Чуеш?..
Прыслухоўваемся. Немцы! Яны нас таксама заўважылі і адкрылі агонь з кулямётаў. Прыйшлося шчыльней прыцiснуцца да зямлі, і адпаўзці назад.
— Сустрэнемся некалі пасля вайны, я абавязкова табе прыпомню, як ты, палітработнік, поўзаў перад гітлераўцамі на жываце.
— Не перад гітлераўцамі, а перад кулямётам, — ціха смяецца Шашла. — Некалі наш старшына не супакойваўся, пакуль на вучэннях мы не здзіралі скуру на жыватах. А тут, бач, як яго навука спатрэбілася!
Так, жартуючы і смеючыся, дабіраемся да свайго месца. І тут я проста і шчыра кажу свайму намесніку:
— Адчуваю, Цімох Максімавіч, што нам лёгка будзе разумець адзін аднаго. А гэта вельмі важна.

## 3

Акружаная пад Корсунь-Шаўчэнкаўскім нямецка-фашысцкая групіроўка была поўнасцю ліквідавана войскамі 1-га і 2-га Украінскіх франтоў. Гітлер не толькі не вызваліў свае дывізіі, якія трапілі ў акружэнне, але страціў сотні танкаў, самалётаў, тысячы гармат, пасланых на падмацаванне акружэнцам.
Пачалося вялікае вясновае наступленне 1-га і 2-га Украінскіх франтоў, якое паказала, што савецкія танкавыя часці здольныя змагацца і са стыхіяй.
Вясновае разводдзе расквасіла ўсе дарогі. Фашысты бачылі ў гэтым адзіны свой ратунак, мяркуючы, што па такім бездарожжы наша армія не зможа наступаць і яны паспеюць стварыць на Бугу і Днястры новыя абаронныя рубяжы.
Але савецкія танкавыя арміі наступалі і па бездарожжы. Мы прарвалі абарону праціўніка, фарсіравалі Днестр і ў канцы красавіка выйшлі да берагоў Прута.
У гэтых умовах ад людзей патрабавалася асаблівая вынослівасць і беражлівыя адносіны да баявой тэхнікі. І тут добры прыклад усім падаваў механік-вадзіцель Млінчанка. Не было выпадку, каб ён прысеў адпачыць або паесці, не прывёўшы ў належны парадак сваю «трыццацьчацвёрку».
Аб'язджаючы разам з падпалкоўнікам Шашлам падраздзяленні брыгады, мы спыніліся ля танка Млінчанкі.
— Васіль, ты ўжо абедаў? — спытаўся Цімох Максімавіч старшага сержанта.
— Не, таварыш падпалкоўнік. Вось праверу бартавыя фрыкцыёны, тады і паабедаю.
— І адпачнеце? — пацікавіўся я.
— Калі паспею...
Атрыманы загад: заняць новую пазіцыю.
Ідзе дождж. Дарога зусім раскісла. Камандзір танка разам з механікам-вадзіцелем Млінчанкам накіроўваюцца на рэкагнасцыроўку.
— Пройдзем? — пытаецца ў Млінчанкі камандзір.
— Пройдзем.
І праходзяць!
Днём — бой. «Трыццацьчацвёрка» Млінчанкі знішчае два танкі праціўніка і раптам спыняецца, як укапаная. У яе трапіў снарад. Матор заглух.

— Паранены стралок-радыст, — паведамляе Млінчанка камандзіру.
— Грыгор'еў зробіць перавязку, а ты ратуй машыну.
Пакуль зараджальшчык робіць перавязку, механік-вадзіцель з камандзірам выбіраюцца з танка і тушаць агонь ліпкаю гразёю. Цяпер трэба праверыць работу матора.
Гітлераўская супрацьтанкавая батарэя пачынае біць па «трыццацьчацвёрцы». Снарады рвуцца ля самай машыны. Камандзір ранены ў нагу. Асколак трапіў у грудзі зараджальшчыку. Трэці снарад разрывае ў трох месцах гусеніцу.
Па раненых прыбягаюць санітары.
— Пакінуць машыну! — ужо з насілак загадвае камандзір танка.
— Я яе выратую, — гаворыць Млінчанка.
Фашысцкая батарэя змаўкае. Расцягнутым ланцужком да танка набліжаецца група варожых аўтаматчыкаў.
Млінчанка непрыкметна, праз ніжні люк, пранікае ў танк.
Мы з Цімохам Максімавічам наглядаем за ім.
— Ён падпусціць іх на блізкую адлегласць і — дасць! — кажу я Шашлу.
Ён не адзываецца. Бінокль, нацэлены на падбіты танк, дрыжыць у яго руцэ.
Гітлераўцы прыспешваюць крок. Здалёк выдае, што яны ўжо побач з машынай.
— Агонь! — міжволі вырываецца ў мяне.
А Млінчанка маўчыць. Праходзіць яшчэ імгненне, і нарэшце з танка пачынае страчыць кулямёт. Аўтаматчыкі падаюць. Некаторыя з іх падымаюцца і паварочваюць назад. Млінчанка дае ім адбегчыся і пачынае страляць шрапнельнымі.
На флангу становіцца ціха. Млінчанка вылазіць з танка і бярэцца рамантаваць гусеніцу. Гітлераўская супрацьтанкавая батарэя зноў пачынае абстрэльваць танк, але Млінчанка не зважае на яе.
Калі ён нарэшце вяртаецца са сваёй машынай у часць, мы з Шашлам моцна абдымаем яго і цалуем. Юнак чырванее і азіраецца па баках: ці не заўважыў гэтага хто-небудзь з таварышаў.
— Дык я ж нічога такога... — нібы апраўдваючыся, гаворыць ён.

## 4

Зыход бою часта залежыць ад своечасовага забеспячэння танкаў гаручым і боепрыпасамі. На гэтым адказным участку ў нас працавалі шафёры і пажылыя пехацінцы-аўтаматчыкі.
Аднаго з іх я і цяпер помню. Гэта быў пажылы вусаты салдат з шырокім абветраным тварам і хітра прыжмуранымі вачамі. Дакладваючы начальніку, ён спачатку адкашліваўся, а потым пачынаў гаварыць, нібы адсякаючы адно слова ад другога:
— Таварыш лейтэнант! Машына з гаручым! Дакладвае Свідарчук! Пракоп Пракопавіч! Гвардыі радавы!
Да вайны Свідарчук працаваў старшым конюхам у калгасе пад Славутай. Ва ўсім у яго там быў «поўны парадак». Амаль кожны год ён атрымоўваў прэміі, ездзіў на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку, быў давераНай асобай на ўчастку, дзе ў дэпутаты Вярхоўнага Савета выбіраўся Будзённы. Пра сваю сустрэчу з Сямёнам Міхайлавічам ён мог расказваць па дваццаць разоў на дні.
— Прыязджае гэта да нас таварыш Будзённы і пытаецца: «А хто ў вас, таварышы, за коней адказвае?» Кажу: «Я, таварыш Маршал Савецкага Саюза!» Ён руку мне паціскае і зноў пытаецца: «А ці нельга мне, дарагі Пракоп Пракопавіч, на вашых коней паглядзець?» «Калі ласка! Заходзьце ў канюшню!» Заходзім. Коні ўсе, як адзін, галавы ў наш бок паварочваюць: чуюць, які чалавек да іх прыйшоў!
Таварышу Будзённаму спадабаліся мае стаеннікі. Пахваліў ён іх і зноў пытаецца: «А скажыце, дарагі Пракоп Пракопавіч, вы ў конніцы часам не служылі?» «А як жа! — адказваю я яму. — Служыў. У дваццатым пад вашым камандаваннем». Маршал паляпаў мяне па плячы і кажа: «Вось так! Рыбак рыбака бачыць здаляка».
Даведаўшыся нейкім чынам, што і я служыў у конніцы, Свідарчук збіраўся пагаварыць са мной, ды ўсё неяк не выпадала. І вось аднойчы ля Прута выпадак звёў нас, былых будзёнаўскіх коннікаў.
На калону аўтамашын з боепрыпасамі напаў атрад гітлераўскіх матацыклістаў. Шафёры і аўтаматчыкі залеглі ў кювет і пачалі адстрэльвацца. Капітан Амелін, які ўзначальваў жменьку нашых воінаў, убачыўшы, што фашыстаў у некалькі разоў больш, паслаў салдата ў суседнюю часць за дапамогай. Але той не дайшоў.
Капітан Амелін раздзяліў людзей на дзве групы і загадаў ім берагчы патроны.
Нямецкія матацыклісты заходзілі з абодвух бакоў дарогі. Свідарчук хутка, па-кашачы, падпоўз да капітана. Адкашляўся.
— Трэба падняць рукі, — зашаптаў ён
— Што?! У палон здацца?
Свідарчук зноў адкашляўся і ўсміхнуўся ў вусы:
— Ды не, таварыш капітан! Няхай падумаюць — перастануць страляць. А мы тым часам, самі разумееце...
Капітан пахваліў байца за кемлівасць і, растлумачыўшы ўсім яго думку, загадаў «галасаваць».
Матацыклісты адразу перасталі страляць.
— Выходзь, рус! — скамандаваў даўгавязы обер-лейтэнант і паказаў рукою на дарогу. — Выходзь! Кідай зброю!
Як толькі нашы байцы наблізіліся да гітлераўцаў, капітан Амелін раптам скамандаваў:
— У атаку! Ура, таварышы!
Байцы кінуліся на гітлераўцаў. Тыя не паспелі нават апамятацца. Многія пакідалі свае матацыклы і кінуліся ўцякаць. Пасля вярнуліся назад. Але нашы паспелі заняць выгадны рубеж і не адступілі да таго часу, пакуль не падышоў узвод аўтаматчыкаў з суседняй стралковай часці.
Потым, на допыце, даўгавязы обер-лейтэнант прызнаўся: «Я паверыў, і логіка была на маім баку. Вашых было мала, а ў мяне — рота на матацыклах. Вельмі хацелася прымусіць рускіх прывесці калону машын у нашу часць».
Вечарам, дакладваючы мне пра гэтае здарэнне, капітан Амелін сказаў:
— Многім мы абавязаны чырвонаармейцу Свідарчуку. Думаю прадставіць яго да ўзнагароды. Стары будзёнавец. Яшчэ ў дваццатым з белапалякамі ваяваў. Дарэчы, ён усё з вамі хоча пагаварыць....
— Пра што?
— Пра Будзённага, вядома... Пра конніцу...
— Вось як! Цікава. Прышліце яго да мяне з узнагародным лістом.
— Таварыш камбрыг! Па вашаму загаду! Гвардыі радавы Свідарчук! Пракоп Пракопавіч!

Запрашаю садзіцца. Каб ён адчуваў сябе вальней, прапаную закурыць. Адмаўляецца.

— Не курыце?

— Куру, таварыш камбрыг.

Ага, разумею: не хоча курыць у маёй прысутнасці.

— А махорачка ў вас ёсць? Засумаваў па ёй...

Свідарчук працягвае мне кісет. Зверху — акуратна нарэзаныя газетныя паперкі. Скручваю «казіную ножку» і прапаную яму зрабіць тое ж самае. Ён скручвае цыгарку, а калі я падаю яму запалкі, круціць галавой:

— Дзякуй, таварыш камбрыг. Потым...

— Помню аднойчы, калі я служыў у конніцы Будзённага, наш эскадрон застаўся без крупінкі махоркі, — пачаў я, каб развязаць салдату язык. — У атаку збіраемся, але ісці ў бой, не закурыўшы, цяжка. І раптам успомнілі: у нашага ж Цімоха цэлы мяшэчак махоркі ёсць. Быў у нас такі кавалерыст. Храбры, але душа кулацкая. Не курыў, а махорку браў і ўсё ў мяшэчак ссыпаў. Ну, мы да яго: «Выручай, Цімох. Сам бачыш — гінем!» Не даў.

— Контра, — працадзіў скрозь зубы Свідарчук. — А яшчэ коннік! У нашым конным узводзе, далажу я вам, таварыш камбрыг, такіх не было.

— Хіба вы служылі ў конніцы?

— Служыў, — аж засвяціўся Свідарчук. — У Першай коннай. Жытомір браў. Штаб Пілсудскага тады ў Бердзічаве стаяў.

— І з Сямёнам Міхайлавічам сустракаліся?

— На фронце не давялося. А пазней — сустракаўся. Калі ў Вярхоўны Савет яго выбіралі. Прыязджае гэта ён у наш калгас і пытаецца... — і Свідарчук слова ў слова паўтарае свой маналог, які ўсе тут ужо ведалі на памяць.

— У калгас не цягне, да зямлі, да коней? — пытаюся я, калі Свідарчук змаўкае.

— Чаму не цягне, таварыш камбрыг? Нашаму брату, далажу я вам, больш па душы хлеб сеяць, а не чортаў свінец. Але што зробіш! Не даб'ём фюрэраў-гебельсаў, жыцця нікому на свеце ад іх не будзе. Вы чыталі, асмелюся спытацца, што Гітлер казаў пра нас — рускіх, украінцаў, беларусаў, чэхаў? Што мы будзем яго рабамі! А гэтага ён не хацеў? — Свідарчук заварушыў пальцамі, але тут жа спахапіўся і густа пачырванеў. — Прабачце, таварыш камбрыг, але ж злосць бярэ...

— Нічога, нічога... Обер-лейтэнант, якога вы сёння ўзялі ў палон, прызнаўся, што нават аблюбаваў сабе месца пад маёнтак. Ля станцыі Крывін...

— Крывін? Гэта ж — побач з нашым калгасам! Я на тую станцыю па суперфасфат ездзіў.

Свідарчук нейкі момант маўчыць, а потым рашуча гаворыць:

— Дадому не вярнуся, пакуль на свае вочы не пабачу Гітлера на шыбеніцы. А то будзе сорамна перад таварышам Будзённым.

## 5

Мы сядзім на ўзлессі. Каб даць адпачынак стомленым нагам, разуваемся і з асалодаю выцягваем іх на мяккай маладой траве.

Над лесам узыходзіць сонца, а ў лесе, заліваючыся на ўсе лады, шчабеча галасістае птаства.



Нас — трое: падпалкоўнік Шашла, рэдактар шматтыражкі Сухамлінаў і я. Мы грэемся на ранішнім сонцы, прыслухоўваемся да пяшчотных птушыных галасоў і праклінаем вайну — самага злоснага ворага ўсяго прыгожага на зямлі.

Паступова гаворка зноў уваходзіць у рэчышча франтавых будняў. Успамінаем тых, хто не дайшоў з намі да вось гэтых гор, што пачынаюць праступаць з густога ранішняга туману. Падпалкоўнік Маляроў... На яго імя яшчэ і цяпер з усіх канцоў краіны ідуць пісьмы ад бацькоў танкістаў. Мікалай Фёдаравіч Ватуцін... Як ён чакаў таго дня, калі савецкія войскі падыдуць да Карпатаў!

— Колькі крыві праліта! — уздыхае капітан Сухамлінаў і, крыху памаўчаўшы, дадае: — Вось мы перайшлі граніцу... Але ці захочуць рускія людзі праліваць кроў за чужыя землі? Мы, канешне, выхаваны партыяй у інтэрнацыянальным духу, але ці будзе наш салдат гэтак жа самаахвярна змагацца з фашыстамі за вызваленне чужой зямлі?

Я паглядзеў на свайго нампаліта: што ён скажа на гэта?

— Таварыш капітан, вы даўно гутарылі з байцамі? — спытаўся ён.

Капітан развёў рукамі. Начальнік палітаддзела ведае, як абстаяць справы ў рэдакцыі. Штат маленькі, і рэдактару часам самому даводзіцца збіраць матэрыял у падраздзяленнях. Вось тады і гутарыш з людзьмі.

— Значыць, гутарыце?

— Гутару.

— У такім разе вас, відаць, цікавяць больш факты, чым душа чалавека.

— Таварыш падпалкоўнік...

Шашла перапыніў яго:

— Савецкі воін тым і адрозніваецца ад абалваненага гітлераўскага малойчыка, што ён усюды думае, разважае: на маршы, у час адпачынку, у баі. Палітработнікі абавязаны не толькі пранікнуць у гэтыя яго думкі, але і фармаваць іх, накіроўваць. Вы якое пытанне збіраецеся ўзняць у наступным нумары?

— Пра ўзаемадапамогу ў баі. Яшчэ надрукуем некалькі заметак пад рубрыкай: «Беражы жыццё камандзіра».

— Важныя пытанні, але я параіў бы вам прысвяціць увесь нумар пытанню: «Чырвоная Армія выконвае гістарычную місію». Як вы на гэта глядзіце, Сцяпан Фёдаравіч?

— Правільна. Няхай рэдакцыя наладзіць нешта накшталт апытання чытачоў: «Ці гатовы нашы танкісты змагацца за вызваленне народаў ад фашызму?» і надрукуе адказы. Не шкодзіла б змясціць невялікі артыкул і ў ім расказаць, што рускі народ не раз працягваў руку дапамогі сваім суседзям. Узяць хоць бы Румынію, куды мы ідзём. Нашы дзяды разам з румынамі змагаліся супраць турэцкіх захопнікаў.

У капітана Сухамлінава заблішчалі вочы.

— Таварышы, гэта вельмі цікавая думка! — падхапіўся ён і пачаў хуценька абуваць боты. — У мяне ўжо і шапка гатова для развароту. Баявая. Будзе біць проста ў лоб!..

— Каго? Чытача? — засмяяўся Шашла.

Рэдактар таксама засмяяўся. На развітанне папрасіў мяне:

— Таварыш палкоўнік, напішыце нам, калі ласка, артыкул. У такім плане, у якім вы гаварылі...

— Ну, што вы! Ніколі не пісаў...

— Напіша, напіша. — супакоіў яго Шашла і працягнуў мне свой блакнот і аўтаручку...

Гэтым відам «зброі» карыстацца мне яшчэ не даводзілася. Але калі трэба — дык трэба. Вайна... А я — салдат...

Дваццатая гвардзейская выйшла на зыходныя пазіцыі і чакала загаду камандавання. І вось у гэты час у падраздзяленне прыйшлі свежыя нумары нашай карпуснай шматтыражкі. Я з цікавасцю разгарнуў газету. На абедзвюх яе ўнутраных палосах пад загалоўкам «Ці гатовы ты змагацца за вызваленне народаў ад фашызму?» былі змешчаны адказы танкістаў на гэтае пытанне.

Вось што пісаў аўтаматчык Свідарчук:

«Мяне крыху здзівіла гэтае пытанне. Але калі просіце — адкажу. Уявіце сабе такую рэч: байцы Чырвонай Арміі вырашаюць не ваяваць з Гітлерам за межамі сваёй Радзімы і камандаванне іх падтрымлівае. Што з гэтага атрымаецца? Звер, якому мы перабілі ногі і прыціснулі морду да зямлі, набярэцца сіл і зноў кінецца на нас. Той, хто калі-небудзь удзельнічаў у аблаве на ваўкоў, ведае, што ранены звер — вельмі небяспечны.

Далей. Каго мы вызваляем? За каго будзем праліваць кроў? За капіталістаў, памешчыкаў? Нічога падобнага. Мы будзем вызваляць такіх жа простых людзей, як самі — рабочых, сялян. Я — украінец, але жыцця не пашкадую за шчасце простага, сумленнага румына».

Пад другой заметкай стаяла прозвішча старшага сержанта Тапаркова:

«Аляксандр Васільевіч Сувораў разграміў на тэрыторыі Румыніі, пад Факшанамі, турэцкі корпус Асмана-пашы. Многія рускія салдаты склалі свае галовы на румынскай зямлі. У імя чаго? Няўжо толькі за інтарэсы Расіі? Не. Яны пралілі сваю кроў і за вызваленне румынскага народа. Гэта было больш за сто пяцьдзесят год таму назад.

А цяпер? Чырвоная Армія — самая свядомая, самая перадавая армія ў свеце. Мы не прызнаём нацыянальнай варожасці. Наш абавязак — не толькі вызваліць народы, заняволеныя фашызмам, але і памагчы нямецкаму народу стаць на шлях міру».

А вось аднадушная думка самых маладых воінаў-камсамольцаў:

«...Камсамольцы танкавай роты лейтэнанта Гарбунова абавязваюцца і надалей быць бясстрашнымі ў баі ў імя вызвалення народаў Еўропы ад фашысцкага прыгнёту, у імя перамогі міру ва ўсім свеце».

## 6

Мы перайшлі Прут і рушылі ўперад, у напрамку да Яс. Яса-Кішынёўская бітва добра вядомая ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Тут Чырвоная Армія нанесла адзін з наймацнейшых удараў па ворагу.

Ясы — горад на паўночным усходзе Румыніі. Падступіцца да яго вельмі цяжка. З усіх бакоў яго акружаюць горы, скалы, кручы. Гітлераўскае камандаванне ўскладала шмат надзей на гэтыя натуральныя перашкоды і спадзявалася затрымаць тут імклівае наступленне Чырвонай Арміі.

І сапраўды, нам давялося зведаць тут шмат цяжкасцей. Фашысты, адступаючы, узарвалі чыгунку, і мы вымушаны былі падвозіць гаручае, боепрыпасы і харчаванне для арміі толькі на машынах. Па гэтай прычыне нашы тылы месцамі расцягнуліся на чатырыста кіламетраў.



Але байцы не падалі духам. Загартаваныя цяжкасцямі, натхнёныя перамогамі, яны не ведалі стомы ні ў баі, ні на маршы.

Аднойчы я пачуў такую размову:

— Свідарчук, ты калі апошні раз спаў?

— Ды яшчэ перад калядамі.

— А еў?

— У аўторак, пасля абеду.

У гэтым жарце было многа праўды. Вельмі часта нашы байцы і недасыпалі, і недаядалі.

Лінія нашай абароны праходзіла высока над узроўнем мора па рацэ Жыжыя. Танкісты далі ёй больш адпаведную назву — «Жыжа».

— Хіба гэта рака? — гаварылі яны. — Жыжа нейкая балотная... А берагі? Таксама — жыжа. Проста дзіва дый годзе: на якое ліха спатрэбілася богу нацягаць такой смярдзючай жыжы ў горы?..

Жыжыя і горы! Якія складаныя гэта перашкоды! Але іх трэба было пераадолець, і мы рыхтаваліся да гэтага: вымяралі глыбіню ракі, багны і дзе-небудзь воддаль ад варожага вока вучыліся падымаць «трыццацьчацвёркі» на голыя скалы.

Памятаю, непадалёку ад штаба брыгады, ля самага лесу, была не так каб высокая, але вельмі крутая гара. На досвітку тут сабраліся танкісты роты Лук'янава. Яны агледзелі выступы, правалы, голыя каменныя кручы і нарэшце парашылі пераваліць цераз гэтую гару.

— Спадзяюся, Сцяпан Фёдаравіч, што ты, як заўсёды, падтрымаеш хлопцаў,— сказаў, адвёўшы мяне ўбок, падпалкоўнік Шашла.

Я зірнуў на гару: зблізку яна выдавала яшчэ круцейшай, чым здалёк.

— Вядома... Толькі хто асмеліцца ісці першы?

— Усе... Зайцаў, Фаменка, Барткевіч...

Перш чым дазволіць танкістам падымацца на гару, я сам выслухаў іх довады і агледзеў месца пад'ёму.

Поспех пры пераадоленні такой перашкоды залежыць не ад камандзіра танка, а ад механіка-вадзіцеля: ад яго стойкасці, нерваў, ад яго ўмення весці машыну. Мой выбар спыніўся на Зайцаве — адным з лепшых механікаў-вадзіцеляў у брыгадзе.

— Ну што ж, мусіць, няхай Зайцаў першы,— паглядзеў я на Шашлу.

У знак згоды ён кіўнуў галавой:

— Пройдзе!

Зайцаў радасна ўсміхнуўся і падышоў да мяне.

— Таварыш гвардыі палкоўнік, дазвольце звярнуцца...

— Слухаю.

Зайцаў, выцягнуўшы рукі па швах, маўчыць. Па яго доўгай шыі ўверх і ўніз бегае кадык.

— Смялей, таварыш старшына,— падбадзёрвае яго Шашла.

— Такая, значыць, справа,— пачынае нясмела Зайцаў.— Дазвольце ўзяць запасны камплект боепрыпасаў. Як для бою...

Мяне расчуліла гэтая просьба: чалавек гатовы цаною свайго жыцця пракласці таварышам шлях да перамогі!..

Прыйшлося згадзіцца.

Зайцаў уключыў матор. Машына рванулася ўперад. Нас абдало пяском і пылам. Але ніхто не ступіў і кроку назад. Мы гатовы былі рукамі падхапіць танк, калі ён раптам пачне спаўзаць з гары.

«Трыццацьчацвёрка», зрабіўшы невялікі разгон, пачала павольна падымацца па крутой скалістай сцяне.

У гэты час да нас, ціха ступаючы, падышлі камандуючы танкавай

арміяй Краўчанка і камандзір корпуса генерал Аляксееў. Камандарм зрабіў перасцерагальны жэст: «Ціха!» і пачаў пільна сачыць за танкам.

«Трыццацьчацвёрка» паволі паўзла ўгору. Роў матор, стралялі адпрацаваныя газы. Пярэдняя частка ўсё больш і больш задзіралася ўверх. На нейкае імгненне машына раптам слізнула назад. Мы затаілі дыханне: вось зараз яна, не маючы за што зачапіцца, зваліцца ўніз!..

Камандарм міжволі падняў руку і тут жа, перадыхнуўшы, апусціў яе.

— Герой! Пайшоў далей. Хто вядзе танк?

— Старшына Зайцаў, таварыш генерал-палкоўнік.

— Выдатны механік-вадзіцель!

«Трыццацьчацвёрка» ўскарабкалася на гару, калыхнулася, перавальваючыся праз вяршыню, і, выраўняўшыся, спынілася на роўным месцы. Яна падымалася ўсяго восем хвілін. Але якія ж яны былі доўгія, гэтыя хвіліны!

— І спускацца будзе? — пацікавіўся камандарм.— Перадайце танкісту, каб крыху адпачыў.

Спусціцца ўніз танку было не лягчэй. У нас зноў заміралі сэрцы, халаднелі рукі і ногі, на целе выступаў халодны пот.

Але вось танк споўз з гары і спыніўся. Зайцаў адкрыў люк, саскочыў на зямлю і кінуўся да мяне:

— Таварыш гвардыі пал... — убачыўшы генералаў, што стаялі побач са мною, ён збянтэжыўся.

Яго выручыў камандарм:

— Ну як, старшына, па асфальту лягчэй ездзіць?

— Лягчэй, таварыш камандуючы,— засмяяўся танкіст.

— А страшнавата ўсё-такі, га? Толькі шчыра...

— Не страшнавата, а цяжкавата, таварыш камандуючы.

— Вось як! Тады паспрабуйце яшчэ раз. Выконвайце.

— Ёсць падняцца яшчэ раз! — казырнуў танкіст, павярнуўся «кругом» і чоткім крокам накіраваўся да машыны.

Камандарм засмяяўся і вярнуў яго назад.

— З вас хопіць і гэтага. Пойдуць другія.

Вечарам, калі я дакладваў генералу Краўчанку, што брыгада гатова да бою, ён спытаўся:

— Усе машыны падымаліся на гару?

— Усе.

— І ты пакатаўся?

— І я.

— Добра. У такім разе заўтра мы перакінем цябе на новае месца. Да большай горкі...

## 7

Малады танкіст башанны стралок Калайдараў ведаў капіталізм толькі па кнігах. Тут, у Румыніі, яму ўпершыню прыйшлося на свае вочы ўбачыць, што такое «чортаў капіталізм».

— Бывала, чытаеш пра яго і думаеш: «Мусіць, трохі перабольшана... Бо ў такіх умовах людзі жыць не могуць»,— расказваў ён таварышам. — І вось табе, калі ласка, той самы капіталізм... Ды яшчэ страшнейшы, чым у кнігах!

Аднойчы Калайдараў вяртаўся з батальённай кухні з двума кацялкамі гарачага гарохавага супу. Раптам насустрач яму з-за кустоў выбеглі двое дзяцей у стракатых лахманах і працягнулі да кацялкоў тоненькія, як пруцікі, ручкі.





— Вы хто такія, дзеткі? Румыны? Ці негры?

Маленькія абадранцы — дзяўчынка і хлопчык — былі амаль аднаго росту. Абое смуглявыя, з чорнымі кучаравымі валасамі, яны не зводзілі галодных вачэй з кацялкоў.

— Зразумела, — сказаў Калайдараў, — есці хочаце. Ну што ж, сядайце.

Ён пасадзіў малых на траву і паставіў ля кожнага кацялок з гарачым супам.

— Паслухайце, маленькія,— пагладзіў ён іх па галовах,— няхай суп трохі прастыне, а я тым часам хлеба прынясу,— і жэстамі паказаў, каб яны сядзелі і чакалі яго.

Вярнуўся Калайдараў не адзін — з ім прыйшоў яго таварыш, механік-вадзіцель Чарнавух. На тым месцы, дзе нядаўна сядзелі двое дзяцей, яны засталі толькі аднаго хлопчыка. Трымаючы кацялок абедзвюма рукамі, ён набгом прагна піў гарачы суп.

— Лыжку на, дурненькі! Хлеб...

Малы ўзяў хлеб, паклаў яго за пазуху і зноў узяўся цадзіць юшку з кацялка.

— Бяры лыжку!

— Не чапай яго! Не бачыш, што яму не да лыжкі?..

Хлопчык выпіў усю юшку і паставіў кацялок на зямлю. Потым апусціў руку на дно, набраў поўную жменю разваранага гароху і панёс ў рот.

Танкісты моўчкі пераглянуліся.

Нарэшце малы наеўся, выцер рукавом рот і ўстаў. Падаючы Калайдараву кацялок, ён паказаў на хаціну, што стаяла непадалёку, ля кукурузнага поля.

— Гэта ён паказвае, куды дзяўчынка твой кацялок панесла,— засмяяўся Чарнавух.

— Ліха з ім, з кацялком,— махнуў рукой Калайдараў.— Мяне цікавіць другое: чаму дзяўчынка ўцякла, а хлопчык застаўся? Давай заглянем туды.

— Усё роўна мы нічога не зразумеем. Вось каб капітана Левашова сюды. Ён разумее па-румынску...

Між тым, малы ўчапіўся за Калайдарава і настойліва цягнуў яго да хаціны.

— Бачыш, які добры хлопчык,— заўважыў Чарнавух.— Ён больш клапоціцца пра твой кацялок, чым ты сам.

— Румыны, кажуць, народ сардэчны, працавіты.

— Сардэчны,— усміхнуўся Чарнавух.— А раніцай ледзь не падпалілі твой танк...

— Антанеску прымушае.

— Антанеску — капут! — крыкнуў хлопчык і сціснуў брудныя пальцы ў кулак.— Капут, капут, капут!

— Чуеш? — абрадаваўся Калайдараў.— Пайшлі!

Ім насустрач выйшаў стары, вусаты румын. На ім была доўгая залатаная саматканая сарочка паверх вузенькіх нагавіц. З-пад густых кусцістых брывей глядзелі цёмныя, невясёлыя вочы.

— Добры дзень, паны афіцэры савецкі,— прывітаўся ён першы.
— Добры дзень,— адказалі танкісты.
— Дзе ты па-нашаму гаварыць навучыўся? — спытаўся ў румына Чарнавух.
Той не зразумеў, пра што ў яго пытаюцца.
Чарнавух растлумачыў:
— Па-нашаму гаворыш, кажу...
— Рускі цар Мікалай жыў. Панімай, пан афісьер? Я ў Хоцін — тпру, тпру! — ён паказаў, як ездзіў у Хоцін на конях.— Там рускі быў — многа, многа!
Танкісты следам за гаспадаром увайшлі ў хаціну. Пасярэдзіне яе на глінянай падлозе сядзела куча абарваных дзяцей — адно за другое меншых — і заглядвалі ў даўно апусцелы армейскі кацялок.
— Унукі,— сказаў стары.— Есці хочуць. Спасіба за зуп...
Цяпер Калайдараў зразумеў, чаму дзяўчынка ўцякла з яго кацялком: яна хацела падзяліць ежу са сваімі малодшымі брацікамі і сястрычкамі. Але дзе ж яна сама? Ага, вунь дзе! З цёмнага кутка хаты на танкістаў глядзела жанчына, за яе спіною прытаілася, дрыжучы ад страху, дзяўчынка.
— Не бойся, дзяўчынка. Хадзі сюды! Ты добра зрабіла, што падзялілася з меншымі. Маладзец!
Стары нешта сказаў дзяўчынцы па-румынску. Яна выйшла, крышачку падняла пальчыкамі падраную сукенку, агаліўшы худыя ножкі, і зрабіла кніксен.
— Не трэба, не трэба! — запратэставаў Калайдараў.
З цёмнага кутка выйшла худая жанчына, маці дзяўчынкі. Яна выцерла анучай лаву і паказала на яе танкістам: сядайце.
На сцяне пад самай столлю вісела скрыпка. Стары зняў яе, паклікаў да сябе старэйшую ўнучку і зайграў. Дзяўчынка заспявала. У яе быў цудоўны голас. І песня была цудоўная і зусім-зусім зразумелая.
... Пастушок грае на свірэлі пра цяжкае жыццё ў багатай, прыгожай краіне. Дрэнна жывецца пастушку. Ён сірата. Ніхто яго не пашкадуе; ніхто не папытаецца: галодны ён ці сыты, холадна яму ці цёпла. Усё ж пастушок не адзінокі. Яго сябры — сінія горы са срэбнымі шапкамі снягоў, блакітныя празрыстыя азёры, залатыя сонечныя зайчыкі, якія скачуць ля яго, калі ён грае на свірэлі...
Скрыпка змоўкла. Дзяўчынка нізка пакланілася і села ля маці.
— Дзеду, вашу ўнучку як завуць? — запытаўся ў старога Чарнавух.
— Марыяна.
— А дзе яна вучыцца? Ёсць тут дзе музычная дзесяцігодка?
Стары не разумеў, пра што ў яго пыталі. Танкісты, як маглі, растлумачылі, што ўнучка яго — вельмі таленавітая. Ёй абавязкова трэба вучыцца.
Румын горка ўсміхнуўся. Марыяну трэба спачатку накарміць, грамаце навучыць. Ёй пайшоў дзесяты год, а яна нідзе не вучыцца. Ды і дзе вучыцца? Школы нідзе блізка няма. У горадзе ёсць, але плаціць трэба. А дзе ўзяць грошы? Ёсць у яго маленькі ўчастак зямлі. Ураджаі, дзякуй богу, бываюць добрыя, але ж знікаюць яны, як кропля вады на гарачым камені,— даўгі! Сям'я вялікая — шасцёра дзяцей ды двое дарослых... Было цяжка, а цяпер яшчэ цяжэй будзе: ён ужо стары, які з яго работнік! І хварэе часта. Дачка таксама нездаровая. А мужа яе Антанеску на фронт забраў. Там ён і загінуў. Вясною сорак другога года. Дык хоць бы рэчы яго прыслалі — чаравікі, шынельку, гімнасцёрку, штаны, а то ўсё ў зямлю закапалі. Мёртваму ўжо ўсё роўна, а жывому трэба ж чым сваё цела прыкрыць. Вось дачка сядзіць у кутку і баіцца адтуль выйсці — чаму? Сароміцца паказацца на вочы ў такім выглядзе. А паны афіцэры кажуць: вучыцца! Няхай ужо вучацца багатыя, у каго золата ёсць...
— Вось што, дзед,— сказаў Калайдараў,— цяпер іншыя часы насталі. Захочаце — свае, новыя парадкі ў Румыніі ўстановіце. Школы адкрыеце, калгас арганізуеце...
— Кальхос?!
Калайдараў засмяяўся:
— Бач, як вас тут калгасам напалохалі... Дзеду, а Гітлер — гут?
— Бандыт! — голас у старога аж задрыжаў ад злосці.— Гітлер, Антанеску — адзін шалявек...
— Антанеску — капут! — як бы пацвердзіў дзедаву думку звонкі, урачысты дзіцячы голас.

8

Заўтра — 1 Мая. Масква ўжо сёння недзе прыбралася ў святочны ўбор. Раніцай па Краснай Плошчы пройдуць гвардзейскія часці, якія праславілі сябе ў баях за Радзіму.
Ленінград... Там увайшла ў Няву і стала на якар легендарная «Аўрора», якая абвясціла ўсяму свету пачатак новай эры.
Кіеў... У кіеўскае неба падняўся недзе срабрысты аэрастат. Пад ім, на асветленым знізу магутнымі пражэктарамі сцягу — сілуэты Маркса і Леніна. Яны відаць з любога месца горада. На іх глядзяць мая жонка, мае дзеці... Як хочацца быць там, разам з імі!
А ў нас наперадзе — Ясы. У шэсць гадзін раніцы, калі Левітан пачне чытаць першамайскі загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, мы пройдзем ужо далёка ўперад па дарозе на Ясы. Будуць страты. І, магчыма, немалыя. Нехта апошні раз у сваім жыцці ўбачыць майскае неба...
Начальнік палітаддзела Шашла знаёміцца з маім планам наступлення. Я таксама гляджу на карту. Вострыя чырвоныя стрэлы накіраваны на тоненькія кароткія сінія лініі — агнявыя кропкі праціўніка.
Падпалкоўнік Шашла ўносіць некаторыя карэктывы ў план. Згаджаюся: пяхоту ля манастыра трэба будзе падтрымаць танкамі, інакш яна не выб'е праціўніка з першай лініі абароны.
Падпалкоўнік падымае галаву і глядзіць на мяне. Я ведаю: яго трывожыць тое, ці падыдзе ў час папаўненне — танкавы батальён, які я загадзя ўключыў у аператыўны план наступлення.
Мы ведалі: батальён выгрузіўся на станцыі Хрысцінаўка (далей чыгунка была разбурана) і ішоў на фронт сваім ходам. Яму трэба было зрабіць трохсоткіламетровы марш па бездарожжы, каб разам з намі фарсіраваць Прут.
Як разлілася гэта ціхая рэчка! Калі б не вайна, мы з ахвотаю палюбаваліся б яе прыгажосцю. Але нам — не да гэтага. Вунь там, крыху ў баку ад нас, сапёры наводзяць драўляны мост. Чакаць, пакуль будзе гатовы той мост, мы не можам, і наводзім сваю пераправу: два пантоны з насціламі і трос, працягнуты з аднаго берага да другога. Паром...
На паром можна паставіць толькі адзін танк. Марудная работа! А тут яшчэ ў небе паявіўся варожы разведчык. Не прайшло і пяці хвілін, як прыляцела эскадрылля бамбардыроўшчыкаў. За ёю — другая, трэцяя, чацвёртая... Цяжкія бомбы, здавалася, усё перавярнулі: рака паднялася да неба, а неба ўпала нам пад ногі...



Першыя пяць танкаў пераправіліся на другі бераг. Уперадзе — горы, паміж імі бурны горны ручай. Яшчэ далей — голыя скалы, скалістыя кручы. У праціўніка вельмі зручная пазіцыя. Ён нас бачыць, а нам яго — не відаць.

Начальнік разведкі дакладвае: лепшае месца для сканцэнтравання танкаў — дарога ў алеі. Суседзі справа і злева — пяхотныя часці. Яны заляглі, бо ісці далей уперад нельга: дарогі замініраваны.

Што рабіць? Відавочна — у першую чаргу размініраваць дарогі. Але ў нас мала сапёраў—усяго тры чалавекі. Астатнія будуюць пераправы.

— Таварышы,— звяртаюся я да сапёраў,— сёння Першае мая. З намі ідуць у бой працоўныя ўсяго свету. Дык няўжо мы падкачаем у такі дзень?

— Таварыш гвардыі палкоўнік, дарога будзе размініравана!— урачыста заяўляе старшы групы сапёраў камсамолец Савельеў. — Ваш першамайскі загад выканаем!

Трое юнакоў з камсамольскімі значкамі на грудзях скрозь агонь прабіраюцца да замініраванай дарогі.



— Глядзі, Алёша, вось міны!

— А колькі іх тут!

— Так уцякалі, што не паспелі замаскіраваць,— гаворыць Алёша Савельеў.— Што ж, пачнем, хлопцы...

Праходзіць не болей гадзіны, і Савельеў, заціскаючы далоняй рану на шчацэ, дакладвае:

— Дарога ачышчана. Абясшкоджана каля двухсот мін. Чырвонаармеец Маркаў загінуў смерцю храбрых.

— Вы паранены?

Савельеў адказвае жартам:

— Асколачак маленькі ў рот праз шчаку трапіў. Дык я яго выплюнуў — і ўсё. Перавязку зробяць — і знаку не будзе.

З берага да месца збору брыгады падышло яшчэ некалькі «трыццацьчацвёрак». Вось каб падаспеў і той батальён, што на маршы! Камандзір таго батальёна — Юры Мяцельскі. Ён ведае, які сёння дзень. Ля пераправы яго чакае Шашла. Можна быць спакойным: усе танкі пераправяцца без ніякай затрымкі.

Трэба наступаць, наступаць і наступаць! Марудзіць нельга. Пускаю ў бой за вёску Вултуру ўсе танкі, якія паспелі пераправіцца цераз раку. Астатнія падыдуць — пашлю на падмогу.

Абганяем пяхоту і насядаем на мінамётную часць праціўніка. Правы наш фланг разбівае артылерыйскую батарэю і захоплівае дзве спраўныя гарматы. Спатрэбяцца! Нашы суседзі пехацінцы займаюць вышыні. Цудоўна! На Вултуру!

Сёння — 1 Мая. На Краснай Плошчы пачаўся парад войск. На Маўзалеі Леніна стаяць кіраўнікі камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы. Грыміць тысячагалосае «ўра»! «Ура-а-а!» — падхопліваюць нашы войскі на фронце.

•

Урываемся ў вёску Вултуру. Замацоўваемся на яе паўночнай ускраіне. У праціўніка многа супрацьтанкавых сродкаў, засад. Ён пераходзіць у контрнаступленне. Супраць нас ідуць танкі, артдывізіёны, густыя ланцугі пяхоты. Тры нашы танкі гараць, але мы не адступаем.

Зноў паветраны разведчык і эскадрыллі бамбардыроўшчыкаў. Бомба разрываецца ля майго танка. Ён уздрыгвае ад паветранай хвалі, матор спыняецца, успыхвае гаручае. Перасаджваюся на другую машыну і прадаўжаю кіраваць боем.

Дванаццаць гадзін дня. Недзе на Краснай Плошчы імклівым патокам цякуць калоны працоўных сталіцы. Ідуць тыя, хто памог Чырвонай Арміі адстаяць Маскву, тыя, хто каваў і куе для нас грозную зброю. А мы... мы ўжо страцілі ў баі чатыры машыны. З чатырох экіпажаў засталося ў страі ўсяго тры танкісты. Астатнія — загінулі. У іх ёсць сем'і: жонкі, дзеці, бацькі, сёстры, браты, якія спадзяюцца наступны Першамай сустрэць разам з імі... Будзь жа ты праклятая, крывавая разлучніца-вайна!

Праз вёску Вултуру праходзіць яская ўмацаваная паласа праціўніка. Узяць яе ў лоб не ўдаецца. Вораг зразумеў, што іменна тут мы паспрабуем прабіць яго абарону, сканцэнтраваў на гэтым участку шмат танкаў. А ў нас іх мала. Дзе папаўненне? Дзе Мяцельскі? Ці не трапіў ён пад бамбёжку па дарозе?

Мяне па рацыі выклікае начальнік палітаддзела. Голас яго ледзьледзь чуваць:

— Шашла.

— Слухаю. Шутаў.
Трэск. Піск...
— Слухаю!
Чым ён парадуе?
— Хлопци сіно привезли...
— Давай іх сюды!
— Добре.

## 9

Позна ноччу на нашым пярэднім краі, ля замаскаваных «трыццацьчацвёрак», байцы затрымалі румынскага салдата. Ён не страляў, не спрабаваў уцякаць. Падняў рукі і моўчкі пайшоў туды, куды яго павялі.

Я выклікаў капітана Левашова.

— Запытайцеся, з якім заданнем ён прыйшоў да нас і ад каго атрымаў гэтае заданне: ад нямецкага камандавання ці ад румынскага. І няхай сядзе. Дазваляю.

Калі Левашоў пераклаў мае словы, палонны пакруціў галавой: не, ён не сядзе, пры вялікім начальніку сядзець не належыць. Задання яму ніхто не даваў. Ён проста дэзерціраваў, бо не хоча больш ваяваць за фашысцкую Германію. Няхай Гітлер з Антанеску самі ваююць, а ў яго ўжо і так загінулі два браты і дзевер...

Палоннаму — гадоў трыццаць пяць. Ён прыземісты, мажны, з выпешчанымі белымі рукамі.

— Адкуль родам і што рабілі да ўступлення ў армію? — пытаецца капітан Левашоў.

Румын адказвае, што ён — з Плаешты. Працаваў рахункаводам на заводзе, які вырабляў абсталяванне для нафтавай прамысловасці. Жонка памёрла да вайны, двое дзяцей жывуць на вёсцы.

Ці праўда гэта? Ці не збіраецца ён нас абдурыць?

У мяне на стале ляжыць вялікі цыратавы бумажнік, адабраны ў яго пры вобыску. У ім — два пісьмы, фотакарткі. Пісьмы перадаю Левашову, а сам разглядаю фотакарткі. На адной з іх — група румынскіх салдат з застылымі, поснымі тварамі. Пасярэдзіне — усміхаецца генерал у эсэсаўскай форме. Побач з ім стаіць наш палонны.

— Што там яму пішуць, таварыш капітан? — пытаюся ў Левашова.

— Пісьмы цікавыя. Відаць, ад блізкай жанчыны. Дазвольце, я прачытаю некаторыя мясціны...

«...Пазаўчора непадалёку ад Плаешты расстралялі восем камуністаў: пяць мужчын і трое дзяўчат. Калі іх паставілі ля ямы, яны заспявалі «Інтэрнацыянал», а потым нехта крыкнуў: «Няхай жыве Чырвоная Армія, наша вызваліцельніца!» Нямецкія афіцэры, якія прысутнічалі пры расстрэле (румынам не давяраюць!), залажыўшы рукі за спіну, спакойна наглядалі, як румыны расстрэльваюць румынаў. Сабакі! А сёння я чула, што Антанеску ездзіў да Гітлера і той яму загадаў: забраць у армію ўсіх — старых і жанчын. Я — не пайду...»

— Па-мойму, таварыш гвардыі палкоўнік, гэта не падробка. Можа, якраз гэта і падзейнічала на яго...

— Магчыма. Але як, скажыце, прапусціла такое пісьмо цэнзура?

Пісьмо прыйшло не па пошце, растлумачыў палонны. Яго прывёз знаёмы салдат, які лячыўся ў Плаешты ў шпіталі.

— А чаму ж ён не пайшоў з вамі?

— Загінуў. Раніцай, у час першай атакі на рускіх. Ён мяне і навёў на розум: трэба, кажа, перайсці да рускіх і разам з імі ваяваць супраць Гітлера. Так мы і ўгаварыліся, ды ён загінуў...

— А што гэта за генерал? — пацікавіўся я, указваючы на фота.

Палонны расказаў вось якую гісторыю.

Вясной сорак другога года румынская часць адбівала разам з немцамі атакі рускіх ля Паўночнага Данца. Пад Лазавой савецкія войскі адышлі назад і замініравалі дарогі. На мінах падарваліся чатыры машыны з эсэсаўцамі. Тады камандзір гітлераўскай дывізіі, які сфатаграфаваны на здымку, загадаў свайму суседу — камандзіру румынскага палка, паслаць уперад батальён румынскай пяхоты. «Трэба спачатку размініраваць дарогі»,— сказаў румынскі афіцэр. Тады гітлеравец накінуўся на яго, збіў, а потым застрэліў.

— Адкуль гэта вам вядома?

— Нам расказваў камандзір роты. Яго пасля таксама расстралялі.

— За што?

Шаснаццаць афіцэраў, у тым ліку і камандзір роты, абураныя ўчынкам эсэсаўскага генерала, паднялі бунт. Іх падтрымалі салдаты. Полк адвялі ў тыл, у казармы пад Харкавам. Там яго раззброілі і потым трое сутак марылі голадам.

— Мы і без таго заўсёды галадалі. Паёк румынскага салдата быў утрая меншы, чым у нямецкага...

— Ваш полк перавялі ў тыл. Што ж далей было?

— Да нас прыляцеў на самалёце Антанеску. Полк выстраілі. Генерал ішоў уздоўж шарэнгі і, нічога не кажучы, углядаўся ў твар кожнаму салдату. З ім быў і той эсэсавец, што на фота. Глядзелі яны на нас, глядзелі, і раптам эсэсаўскі генерал як закрычыць: «Паразіты гэта, а не салдаты!»

— А Антанеску?

— Ён паглядзеў на нас з агідай, адышоў у бок, залажыў руку за борт кіцеля і сказаў: «Вы зганьбілі Румынію. Мне сорамна перад фюрэрам. Сярод вас ёсць бальшавікі. Яны сёння ж будуць перададзены ваеннаму трыбуналу». Потым дастаў з кішэні паперку, начапіў акуляры і прачытаў прозвішчы шаснаццаці чалавек. У іх ліку быў і наш камандзір роты.

— Ён і сапраўды быў бальшавік?

Палонны засмяяўся. Лейтэнант — бальшавік?! Што вы! Ён не любіў камуністаў. Казаў, што яны збіраюцца заваяваць увесь свет. І яшчэ: забараняюць людзям верыць у бога, не прызнаюць ні шлюбу, ні сям'і, ні ўласнасці. Калі ў цябе два касцюмы — адзін аддай, не аддасі — адбяруць. І дзяцей дзяржава забірае ў бацькоў у спецыяльныя ваенныя школы.

— І вы ўсяму гэтаму верылі?

— Верылі. Ён жа настаўнікам у гімназіі быў.

— А вы ж таксама чалавек пісьменны. Няўжо вы не сустракалі людзей, разумнейшых за вашага камандзіра роты?

— Сустракаў. Але ж усіх, хто гаварыў добра пра Савецкі Саюз, абвінавачвалі ў шпіянажы, у здрадзе Радзіме і кідалі ў турмы. Таму я трымаўся далей...

— З таго часу ваша ўласная думка пра Савецкі Саюз змянілася?

— У мяне ніякай сваёй думкі не было і пакуль няма.

— Калі гэта так, то чаму ж вы перайшлі на наш бок і нават гатовы змагацца разам з намі? А раптам Чырвоная Армія прынясе вашаму народу больш гора, чым Гітлер?

Румын усміхнуўся. У каго нічога няма, таму няма чаго губляць.

А што можа быць горш за гітлераўскія парадкі? Народ даведзены да галечы. Турмы перапоўнены. Кожны дзень на катаргу ў Германію адпраўляюць эшалонамі дзяўчат і падросткаў. Нямецкае камандаванне абыходзіцца са сваімі саюзнікамі горш, чым з рабамі. Узяць тое ж фота. Хіба хто пытаўся румынскіх салдат, ці хочуць яны фатаграфавацца з эсэсаўцамі! Ніхто не пытаўся. Прыйшоў фатограф, выбраў некалькі салдат, паставіў між іх эсэсаўскага генерала і пстрыкнуў апаратам. Потым у газетах з'явіўся здымак: глядзіце, маўляў, якая моцная дружба!..

— Чаму ж вы не парвалі фота?

— У нас у часці ёсць здраднікі. Данеслі б. А тады — не мінаваць суда. Што ж датычыць майго выбару паміж германскай арміяй і рускай, то я не раз думаў... Чаму ўсе вашы салдаты так па-геройску ваююць? Чаму ўся ваша армія такая? Я на свае вочы бачыў, як ваш падбіты самалёт пайшоў на таран. Лётчыкі ж маглі спусціцца на парашутах! Чаму на акупіраванай тэрыторыі ўсе рускія ідуць у партызаны? Няўжо ўсё гэта — бальшавікі? Калі бальшавікі, дык выходзіць, яны зусім не такія, як нам пра іх гавораць.

— Вось бачыце... А вы кажаце, што ў вас няма ўласнай думкі,— засмяяўся капітан Левашоў.

— Пра вашу армію ёсць. Даўно. А што датычыць наогул маёй думкі пра ўсё ваша,— не ведаю... Пажывем — пабачым...

## 10

Камандаванне загадала нашай брыгадзе пакінуць у Вултуру моцнае прыкрыццё і разам з некалькімі стралковымі часцямі павесці наступленне на Ясы ў другім месцы.

Моцным, нечаканым наскокам мы выбіваем праціўніка з пярэдняй лініі абароны, прасоўваемся ўперад і... спыняемся... Уперадзе такія горы, на якія танкам не ўзысці.

Гітлераўцы, заўважыўшы нашу замінку, кідаюць у контратаку «тыграў». Іх галоўны ўдар накіраваны супраць батальёна Мяцельскага.

— Прымаю бой,— дакладвае мне Мяцельскі па радыё.

— «Тыгры»?

— «Тыгры».

— Колькі іх?

— Штук трыццаць...

Трыццаць... А ў Мяцельскага семнаццаць танкаў.

— А дакладней?

— Да пяцідзесяці. Не трывожцеся. Усё будзе ў парадку. З «тыграмі» мы даўно знаёмы.

Савецкія танкісты яшчэ на Курскай дузе навучыліся спраўляцца з «тыграмі». Але ж семнаццаць супраць пяцідзесяці!..

— Сцяпан Фёдаравіч, я пайду да Мяцельскага,— гаворыць Шашла.

З начальнікам палітаддзела мы даўно разумелі адзін аднаго. Мне падабаецца ў ім тое, што ён заўсёды паяўляецца якраз там, дзе больш за ўсё патрэбен. Ён памагае мне распрацоўваць і вырашаць аператыўныя пытанні, клапоціцца пра бесперабойную дастаўку боепрыпасаў, гаручага, харчавання, калі ёсць у гэтым неабходнасць—ходзіць у атакі. І пры гэтым не забывае свайго асноўнага абавязку — займаецца палітычным выхаваннем танкістаў.

Мне чамусьці не хочацца пускаць яго. Нават мільгае думка: «Вось гэтак я страціў Малярова»... Але што тут зробіш...



— Ідзі. Толькі будзь асцярожны, Цімох...

Ён, як заўсёды, адказвае жартам:

— Не бойся, не паслізнуся. Там пясочкам пасыпана... Вось дзе слізка,— ужо сур'ёзна паказвае ён на карту.— Возьмем гэтую вышыню — тады можна будзе зайсці ў Араняну з тылу.

— Вазьму,— рашуча кажу я.— Пайду з ротай Лук'янава. Зайцаў павядзе галаўную машыну.

Шашла ў бінокль разглядвае вышыню.

— Лук'янаў падымецца,— гаворыць ён,— толькі табе ісці не трэба. Ты брыгадай кіраваць павінен.

— Трэба, Цімох. Загад ёсць. А то скажуць: «Два Героі — і абодва спалохаліся...»

Шашла круціць галавой і даводзіць сваё: «Камбрыг павінен кіраваць усім боем». Толькі пасля вайны ён прызнаўся, што ў тыя хвіліны думаў тое ж, што і я: «Ці ўбачымся яшчэ?»

Бой з «тыграмі» разгараецца. Са сваёй машыны бачу, якія манеўр робіць батальён Мяцельскага. Ён хутка ідзе на збліжэнне з ворагам. Добра відаць успышкі яго гармат. Ужо гараць тры «тыгры». Але дзе нашы танкі? Аказваецца, яны ішлі на збліжэнне «перабежкамі», хаваючыся за кожны ўзгорак, за кожны выступ. Выскачыўшы з прыкрыцця, яны стралялі па ворагу і тут жа скочваліся назад. Рывок уперад, задні ход і зноў рывок уперад. «Тыгры» набліжаліся вельмі хутка, і «трыццацьчацвёркі» расстрэльвалі іх з кароткай дыстанцыі.

Каб нашы танкі, пераваліўшы вышыню, пайшлі далей, на Араняну, нам патрэбен праваднік, мясцовы жыхар. Наш выбар спыняецца на тым старым румыне, да якога наведваліся Чарнавух з Калайдаравым.

— Пасадзіце яго ў машыну — і сюды,— загадаў я.— Скажыце, камандзір просіць.

«Трыццацьчацвёрка» Чарнавуха неўзабаве вяртаецца са старым румынам. Памагаем старому выбрацца з люка. Ён спалохана азіраецца і, каб не аглухнуць ад грукату, трымае бяззубы рот раскрытым.

Капітан Левашоў пытаецца старога, ці ведае ён, як прайсці да вёскі Араняну.

— А чаму ж не ведаю?.. За гэтаю гарою цягнецца зарослы асакою яр з балоцістым дном. Ёсць і сушэйшае месца, толькі крыху далей. Круг прыйдзецца даць.

— Добра, гэта якраз тое, што нам трэба. Сядай, дзеду, у мой танк і паказвай дарогу Чырвонай Арміі,— кажу я.

Стары глядзіць на гару і недаверліва ўсміхаецца. На танках? Смяюцца з яго, ці што?

— Які тут смех,— гаворыць капітан Левашоў.— Кроў усюды льецца...

— Не кожны чалавек туды падымецца, а то каб такая аграмадзіна...

— Не першы раз нам, дзеду. Сядай.

У старога перасмыкаецца твар. Дома ў яго — хворая дачка, куча ўнукаў...

— Мы ж і за іх ваюем,— гаворыць капітан Левашоў.— Дзед ваш, можа, разам з рускімі туркаў з Румыніі праганяў, а вы...

Стары адвёў вочы ўбок.

— Добра, паеду. Толькі ведайце: загінем. Не кожны чалавек ускарабкаецца на такую вышыню, не толькі што...

Шэсць «трыццацьчацвёрак», чапляючыся, як лятучыя мышы, за нябачныя выступы, метр за метрам падымаюцца ўверх. На шчасце, праціўнік, заняты батальёнам Мяцельскага і бесперапыннымі атакамі пя-

хоты, не звяртае на нас увагі. Мы шчасліва падымаемся на вяршыню гары і знікаем у зарасніках.

Выклікаю Шашлу. Ён дакладвае, што ўсё ідзе добра. Знішчана дзевяць «тыграў». Нашы страты — дзве машыны. Праціўнік паспешліва адступае. Цяжка паранены Мяцельскі...

У гэты момант, калі Шашла размаўляў са мною, варожы снарад трапіў у яго танк. Шашла на хаду патушыў камбінезон, што загарэўся на ім, выскачыў са свайго танка і перасеў на другі, каб ні на хвіліну не пакінуць батальён.

Мы з ротай Лук'янава ідзём не па дну яра, дзе было гразка, а выцягнуўшыся ў зігзагападобную лінію, прыціскаемся да правага яго схілу. Больш гадзіны «трыццацьчацвёркі» паўзуць амаль на адной гусеніцы. Нарэшце мы вырываемся з яру і, не спыняючыся, імчым да вёскі. Батарэю, якая адкрыла па нас агонь, знішчаем, утоптваючы ў зямлю гарматныя стваллы і колы. З паўднёвага ўсходу да вёскі падыходзіць Шашла.

Араняну — у нашых руках. Да Яс — шэсць кіламетраў.

Стары румын, выціраючы потны твар стаўбунаватай аўчыннай шапкай, глядзіць на нас са шчырым захапленнем.

— Скажыце свайму начальніку, — гаворыць ён капітану Левашову, — што толькі сам бог здольны на такія цуды. І яшчэ папытайцеся: чаго мы стаім? Вунь ужо Ясы... Я і туды дарогу ведаю...

## 11

Наша брыгада забіла востры клін у абарону праціўніка. Але над намі навісла пагроза акружэння: на флангах дзейнічалі вялікія танкавыя сілы ворага.

Дакладваю камандуючаму Краўчанку пра абстаноўку і атрымоўваю загад: пятага мая на світанні рушыць на Ясы.

Ноччу пайшоў дождж. Не перастаў ён і раніцай. Мы ідзём у наступленне. Вораг адкрыў ураганны агонь, але мы на яго не зважаем і прабіваемся ўперад. Перад намі гара. Не такая высокая, як тая, на якую падымаліся з праваднікам, але ўсё ж — гара. Спрабуем падняцца з танкамі — нічога не выходзіць: гара асклізла ад дажджу. Гусеніцы круцяцца, а танк спаўзае назад. Мутныя патокі вады льюцца на машыны, як вадаспады.

— Нічога сабе дождждык, — гаворыць мой механік-вадзіцель. — Відаць, пастаім мы тут, таварыш гвардыі палкоўнік...

Што яму сказаць? Крыўдна, вядома. Ясы — вунь яны, рукой падаць. Відаць дахі дамоў, сцены старажытнай крэпасці, купалы цэркваў, а падысці да горада нельга.

— Нічога, Ясы возьмем...

— Вядома, таварыш гвардыі палкоўнік, але калі?

І я хацеў бы гэта ведаць...

Праціўнік контратакуе цэлы дзень. Ён сабраў вялікія сілы і ўвесь час атрымоўвае падмацаванне. А мы — слабеем. Шашла сочыць за рамонтам машын, якія выйшлі са строю, але гарэлыя танкі ўжо не адрамантуеш, мёртвых танкістаў не вернеш у строй. Можа, лепш дачакацца ночы і адступіць? Людзей шкада, машын. Ці маю я права рызыкаваць імі?

Дакладваю камандуючаму пра становішча брыгады. Па майму тону ён усё зразумеў.



— Трымайся, Шутаў, — пасля доўгай паўзы гаворыць ён. — Табе не прывыкаць.

Не паспеў я закончыць размову з камандуючым, як праціўнік з трыццаццю танкамі пачаў заходзіць нам у тыл з левага фланга. Ён лічыў, што ў вёсцы Араняну многа савецкіх танкаў. Гэтая яго памылка вынікала, відаць, з таго, што я часта перакідваў танкі з аднаго месца на другое. Такім чынам стваралася ўражанне, што ў нас іх многа.

Мы адбілі атаку ворага. Потым — яшчэ дзесяткі такіх жа атак. І ўсё ж дзевятага мая пяць нашых машын трапілі ў акружэнне ворага. Сувязь з імі перарвалася.

Гітлераўцы не адразу адважыліся атакаваць гэтую пяцёрку савецкіх танкаў. Яны былі ўпэўнены, што акружылі цэлую танкавую брыгаду. Пазней сярод захопленых у праціўніка дакументаў мы знайшлі адно цікавае данясенне, падпісанае камандзірам танкавага злучэння і адрасаванае камандуючаму арміяй. У ім гаварылася:

« Нам удалося акружыць 20-ю рускую гвардзейскую танкавую брыгаду з арміі генерала Краўчанкі. Вядома, што гэтая брыгада ваявала на Волзе, пад Курскам, Кіевам, Корсунь-Шаўчэнкаўскім. Лічу неабходным выкарыстаць гэты момант для пад'ёму духу ў нашых танкістаў. Яны павінны пераканацца ў тым, што мы яшчэ здольны акружаць і знішчаць часці праціўніка. Прашу Вашага загаду аб аказанні мне дапамогі».

Акружаныя ворагам савецкія танкісты і аўтаматчыкі трымаліся пагеройску, як і належыць гвардзейцам.

Гітлераўцы парашылі разведаць сілу акружаных. У першы ж дзень, да самага вечара, нізка над лесам лёталі два разведчыкі. Але ім нічога не ўдалося заўважыць: капітан Мінчын добра замаскіраваў «трыццацьчацвёркі». Потым паявілася танкавая разведка. Нашы яе спалілі. Ноччу да акружэнцаў спрабавала прабрацца невялікая група лазутчыкаў: два гітлераўскія яфрэйтары, узнагароджаныя Жалезнымі крыжамі, і румынскі салдат. Першага немца застрэлілі савецкія аўтаматчыкі, другога — румынскі салдат.

У лес, асветлены з усіх бакоў варожымі ракетамі, сабраліся камуністы і камсамольцы. Капітан Мінчын расказаў аб становішчы, у якім апынулася іх група. Два танкі трэба рамантаваць. Боепрыпасы канчаюцца. З сарака чалавек тры — цяжка параненыя і шэсць маюць лёгкія раненні. З харчавання засталося 24 сухары. А ў ворага — сто з лішнім танкаў, два супрацьтанкавыя дывізіёны, тыл, чыгуначная ветка.

— Якія будуць пытанні?

Пытанняў няма.

— Прапановы?

— Трэба звязацца як-небудзь з камандаваннем брыгады і сказаць, што фашысты нас не возьмуць. Будзем біцца да апошняга дыхання,— адзываецца з цемры нейчы малады голас.

— А па-мойму, камандаванне і так ведае, што мы ні пры якіх абставінах не здадзімся,— разважліва пярэчыць нехта другі.

— Правільна,— згаджаецца парторг Куцэнка.— Становішча ў нас, таварышы, цяжкае. Нават вельмі цяжкае. Але мы, камуністы і камсамольцы, да канца застанемся верныя Радзіме, партыі, Ленінскаму сцягу. Усе, як адзін, мы выканаем свяшчэнны абавязак грамадзяніна-воіна. Ёсць прапанова разгледзець цяпер жа заявы аб прыёме ў партыю.

Лейтэнант Куцэнка зачытвае заяву аўтаматчыка Свідарчука Пракопа Пракопавіча.

— Усе ведаюць Свідарчука?

Хто не ведае гэтага паважанага чалавека і добрага аўтаматчыка!

Стары будзёнавец, шчыры таварыш. У баі смелы, адважны. Свідарчука аднагалосна прымаюць кандыдатам у члены камуністычнай партыі. А праз гадзіну пасля гэтага Свідарчук з групай сваіх аўтаматчыкаў падкрадваецца да падбітых варожых танкаў і прыносіць адтуль два кулямёты з патронамі.

Капітан Мінчын паціскае яму руку.

— Вельмі і вельмі дарэчы. Дзякуй ад імя службы.

— Служу!.. Савецкаму!.. Саюзу!..— адчаканьвае кожнае слова пасобку Свідарчук.

Вецер разганяе хмары, і на захадзе паяўляецца яркая барвовая паласа.

— Сёння нам моцна дадуць па карку, — гаворыць, пазіраючы на неба, радавы Махоцін. Ён сядзіць побач са Свідарчуком, накрыўшыся з ім адной плашч-палаткай.

— З такімі думкамі табе на печы сядзець бы, а не ваяваць,— спакойна і разважліва гаворыць Свідарчук.— Ты вунь на танкістаў паглядзі: яны нічога не баяцца.

— Ім што,— вядзе сваё Махоцін.— Іх галовы жалезам прыкрытыя. А нашаму брату маленькая куля — і капец. Вось ты ўчора раніцай на Берлін збіраўся. Чаго ж цяпер маўчыш?

— Я і цяпер скажу: возьмем Берлін. Прыйдзе рускі Іван у нямецкую сталіцу і скажа: «Ну, з Гітлерам—скончана. Хто яшчэ збіраецца ісці супраць нас?»

Махоцін весялее.

— А думаеш, будуць пасля вайны такія?

— А што, можа і будуць. Капіталісты ж яшчэ ў другіх краінах не перавядуцца...

Каля аўтаматчыкаў праходзіць парторг Куцэнка. Ён чыста паголены, на шчоках яго відаць сляды пудры.

— Пра што ў вас гаворка, таварышы? — спыняецца ён. Аўтаматчыкі паімкнуліся ўстаць, але ён махае рукой: — Сядзіце, сядзіце.

— Гэта мы тут, таварыш лейтэнант, пра Берлін разважаем,— адказвае Свідарчук. — Я кажу, што двойчы рускія войскі яго бралі.

— Бралі,— пацвярджае парторг.— У тысяча семсот шасцідзесятым і ў тысяча восемсот трыццатым. І трэці раз возьмуць. Шалёнаму сабаку хвост сякуць па самыя вушы.

У самы разгар гэтай размовы над лесам паяўляюцца фашысцкія самалёты. Яны апускаюцца нізка, наўгад строчаць з кулямётаў, наўгад скідаюць бомбы.

Пачынае абстрэл і артылерыя праціўніка. Цяжкія снарады кладуцца амаль на кожным метры.

— Яны хочуць нас выкурыць з лесу,— гаворыць Свідарчук свайму сябру Махоціну.— Помню, пад Жытомірам, калі конніца Будзённага...

Махоцін глядзіць на Свідарчука з іранічнай усмешкай. Свідарчук адводзіць вочы ўбок, і ў той жа момант у іх загараецца трывога: у дваццаці кроках успыхвае савецкі танк. Свідарчук з Махоціным кідаюцца да машыны і памагаюць танкістам выгружаць з яе боепрыпасы.

Неба зноў цямнее ад самалётаў. Равуць маторы, выюць бомбы, зямля з дрэвамі ўзлятае высока ўгору і з глухім стогнам падае ўніз. Там, дзе стаяла палатка з цяжка паранеными, ззяе глыбокая варонка.

Цяжка паранены камандзір узвода аўтаматчыкаў лейтэнант Каралькоў. З рота ў яго тонкім струменьчыкам цячэ кроў.

— Свідарчук, узводам будзеце камандаваць вы,— ледзь варушыць ён пабялелымі, непаслухмянымі вуснамі.



Лейтэнанту Куцэнку перавязваюць нагу. Кроў прасочваецца праз тоўсты слой ваты і марлі. Параненага нясуць у глыбокую варонку.

Свідарчук дакладвае капітану Мінчыну пра страты:

— Два чалавекі забіты, тры — цяжка паранены.

— Беражыце людзей,— кажа капітан.— Думаю, што хутка на нас хлынуць танкі і пяхота.

— Ёсць берагчы людзей!

Артылерыя і авіяцыя ўгаманіліся толькі пад поўдзень. Потым настала зацішша.

— Не люблю я цішыню на фронце,— з трывогай гаворыць Свідарчуку Махоцін.— Так і чакай якога-небудзь паскудства.

Раптам пачуўся нарастаючы гул. Як тараканы, з усіх бакоў пачалі выпаўзаць прыземістыя фашысцкія танкі. На башнях іх — аўтаматчыкі. Капітан Мінчын наглядае за імі. Трыццаць пяць танкаў, а ў яго — усяго чатыры. Адзін выхад — падпусціць фашыстаў на самую блізкую адлегласць і — страляць.

Варожыя танкі ідуць на вялікай хуткасці і на хаду вядуць агонь. Тры з іх падымаюцца на ўзгорак і спыняюцца. У адным асцярожна адкрываецца верхні люк, і адтуль паказваецца галава гітлераўца.

— Без майго загаду не страляць,— папярэджвае капітан Мінчын.

З групы варожых танкаў вырываецца адзін і імчыць у напрамку да лесу, дзе знаходзяцца нашы танкі.

— Прапусціць,— загадвае капітан Мінчын.

Але «тыгр» у лес не заходзіць: баіцца. Ён толькі страляе. З узгорка спускаецца яшчэ дзевяць «тыграў» і падыходзяць да таго, што вырваўся ўперад. Гітлераўцы падымаюць люкі, гучна пераклікаюцца, смяюцца. Адны гавораць, што авіяцыя і артылерыя ўжо расправіліся з нашымі танкамі, другія перасцерагаюць: «Рускія закапаліся ў зямлю. Трэба быць асцярожнымі!»

Цяпер самы час ударыць па фашыстах. Чатыры савецкія танкі пачынаюць біць амаль адначасова прамой наводкай з гармат. Снарады і кулямёты змятаюць з брані дэсантнікаў. Свідарчук са сваімі аўтаматчыкамі косяць фашысцкіх салдат, якія спрабуюць уцякаць.

Бой кароткі, але гарачы. Спалена пяць фашысцкіх машын, выведзена са строю — тры. Адзін «тыгр» застаўся цэлы. У яго пашкоджана толькі гусеніца. Экіпаж не паспеў уцячы. Як толькі сціхае бой, гітлераўскія танкісты вылазяць з люка з паднятымі ўгору рукамі.

Свідарчук, Махоцін і яшчэ адзін аўтаматчык падводзяць палонных да капітана Мінчына. Іх пяць. Лейтэнант, два обер-фельдфебелі, унтэр-афіцэр і радавы. Ва ўсіх на грудзях Жалезныя крыжы і іншыя фашысцкія ўзнагароды. На шчацэ ў лейтэнанта — глыбокая ўпадзіна, ад якой веерам разыходзяцца рубцы. У роце ў яго — ніводнага зуба.

Механік-вадзіцель Чарнавух, які крыху ведае нямецкую мову, становіцца перакладчыкам.

— Вы былі паранены? — пытаецца цераз перакладчыка капітан Мінчын.

— Так, пан капітан. Пад Курскам. Ляжаў у кракаўскім шпіталі.

— А чаму не паставілі вам пратэз?

— Не паспелі. Мерку знялі, а тут паслалі зноў на фронт.

Нямецкі лейтэнант-танкіст даў нам выключна каштоўныя звесткі, ён атрымаў іх ад свайго бацькі-палкоўніка, які прыязджаў да яго на фронт. Праціўнік рыхтуецца да новага вялікага наступлення, а перад гэтым хоча намацаць слабыя месцы ў ланцугу савецкіх войск. Нашы часці, што падышлі да Яс, звязваюць яму рукі. Таму ён вырашыў пацясніць савецкія войскі за Прут і такім чынам вызваліць сілы для таго,



каб палепшыць сваё становішча на другіх участках даволі расцягнутага фронта. З людскімі рэзервамі ў Гітлера было вельмі туга.

На другі дзень нямецкі лейтэнант запатрабаваў, каб яго неадкладна адправілі да самага галоўнага начальніка. Калі да яго прыйшлі паранены ў галаву капітан Мінчын і механік-вадзіцель Чарнавух, палонны адмовіўся з імі размаўляць.

— Я хачу бачыць вашага генерала! — настойваў ён.

— Генерал заняты. Заўтра ўбачыце.

— Зноў заўтра! — зароў гітлеравец.— Да заўтрага я тут ногі працягну. Ужо двое сутак нічога не еў. Ваеннапалонны, згодна міжнароднага дагавору... Я буду скардзіцца!..

— Маўчыце! — крыкнуў на яго Мінчын.— Будзеце крычаць — расстраляем.

На трэці дзень немец пачаў здагадвацца, што рускі капітан сам ходзіць галодны і што ў лесе акружана не брыгада, а ўсяго толькі некалькі машын.

Вечарам Чарнавух прынёс яму сухар. Махоцін, які стаяў тут жа, на варце, зірнуў на яго галодным позіркам.

— Фрыцаў кормім, а самі з голаду пухнем. Хіба гэта парадак?

— Капітан загадаў. Ён ведае, што робіць.

— Фрыц гэты ўсё роўна не выжыве. Глядзі, ужо вачэй не расплюшчвае. Ды і зубоў жа ў яго няма!

— А ты дай яму вады. Хай размочыць.

Немец з'еў размочаны ў вадзе сухар і сумна зірнуў на Махоціна.

— І вы, здаецца, сёння нічога не елі?

— Што ён кажа? — пацікавіўся Махоцін.

— Пытаецца, ці еў я сёння.

— Скажы, еў. Раніцай — амлет са смажанай бульбай, днём — суп, мяса і кісель, ды яшчэ булку з мёдам... Ты чаго смяешся? Калі скажу, што не еў, хіба ён паверыць? Што чацвёрты дзень, не еўшы, ваюем — ды яшчэ як! — паверыць?

На чацвёрты дзень нямецкі лейтэнант зусім аслабеў. Ён ляжаў нерухома і ціха стагнаў.

Махоцін далажыў Свідарчуку:

— Палонны лейтэнант богу душу аддае.

Свідарчук падышоў да немца, паглядзеў на яго і ціха паківаў галавой:

— Слабыя ў іх душы. Ніякай вытрымкі. Гэта ж, бывала, у грамадзянскую...

— У конніцы Будзённага,— падхапіў Махоцін і раптам спахапіўся: цяпер жа ён мае справу не проста са Свідарчуком, а з камандзірам узвода!



— Ну, а ты, Андрэй, колькі можаш цярпець, не еўшы? — зусім не звяртаючы ўвагі на блазенскую выхадку сябра, спытаў Свідарчук.

— Ды яшчэ дні тры, а можа і пяць. Колькі трэба будзе. Мы — людзі ваенныя.

Вечарам гітлераўская авіяцыя зноў бамбіла лес. Асколкам бомбы ў Махоціна адарвала руку. Капітан Мінчын праслаў яму паўсухара са спецыяльнага «НЗ» для цяжка параненых. Але Махоцін адмовіўся:

— Я яшчэ пакуль што магу цярпець... А ёсць жа такія, што не могуць.

Пяць сутак знаходзіліся ў акружэнні танкісты і пехацінцы капітана Мінчына. З пяці танкаў у страі засталося толькі два, з сарака чалавек — семнаццаць. Пяць сутак людзі не пілі, не елі. І толькі на шостыя суткі з дапамогай палка самаходных гармат нам удалося прабіць варожае акружэнне і выручыць таварышаў. Стомленыя, змучаныя, яны адмовіліся ад прапанаванага адпачынку.

## 12

Пасля адносна кароткага зацішша вораг сабраў сілы і ў другой палове мая перайшоў у контрнаступленне. Чатырнаццаць сутак ішлі цяжкія баі. Гітлераўцы кідалі ў бой сотні танкаў, бамбардзіроўшчыкаў, знішчальнікаў. У Берліне разумелі: яса-кішынёўскія пазіцыі маюць вялікае значэнне для ўсяго паўднёвага фронта. Гэтыя пазіцыі прыкрывалі шляхі ў глыбіню Румыніі, да яе стратэгічных пунктаў, да яе нафты.

Вядома, што Гітлер не раз, паказваючы пальцам на карту Румыніі, з пенаю на губах крычаў на сваіх генералаў: «Любой цаной утрымаць гэты ўчастак фронта! Любой цаной! Я вам дам людзей, танкі, самалёты, а вы ўтрымайце Румынію! Яна мне патрэбна для перамогі. Трымайце Кішынёў і Ясы! Яны мне патрэбны!» І, махаючы кулаком, пагражаў: «Адзін крок назад — і паляцяць вашы галовы! Знойдуцца другія, больш верныя генералы!»

Усю вясну і лета сорак чацвёртага года фашысцкае камандаванне будавала абаронны пояс. Сюды было сцягнута да пяцідзесяці дывізій. Але і мы не марнавалі дарэмна часу: адбівалі ўсе контратакі ворага і «дзіравілі» яго абарону. Пазней наша камандаванне вырашыла заняць жорсткую абарону, каб потым перайсці да рашучага наступлення па ўсяму фронту. У сувязі з гэтым дваццатая гвардзейская здала свой участак гвардзейскай часці і непрыкметна для ворага адышла на другую лінію абароны.

Мы прывялі ў парадак тэхніку, добра замаскіравалі яе і пачалі рыхтавацца да будучых баёў. У гэтыя дні асабліва ажывілася работа партыйнай і камсамольскай арганізацый.

Мы атрымалі папаўненне. Маладыя танкісты ведалі машыны і добра ўмелі з імі абыходзіцца. Але якімі б высокімі ні былі маральныя і воінскія якасці маладых байцоў, ім усё ж не ставала франтавой загартоўкі. Вось чаму палітработнікі ўзялі пад свой кантроль вучобу навічкоў. Над кожным з іх шэфстваваў вопытны танкіст. Гэтыя шэфы-агітатары карысталіся ў маладых байцоў вялікім аўтарытэтам.

Першы бой — адна з самых значных падзей у жыцці кожнага воіна. Няма таго франтавіка, які б забыў пра сваё першае баявое хрышчэнне. У першым баі навічок правярае сябе, ці храбры ён, ці ўмее ваяваць, ці не вельмі баіцца смерці. Першы бой — гэта той экзамен, вытрымаўшы які, учарашні рабочы, калгаснік, служачы становіцца воінам. Мы і рыхтавалі сваё маладое папаўненне да гэтага адказнага экзамена.

Трэцяга ліпеня маскоўскае радыё паведаміла пра новы поспех савецкіх узброеных сіл — вызваленне сталіцы Савецкай Беларусі. У нашай брыгадзе сярод байцоў і афіцэраў было нямала беларусаў, і для ўсіх нас гэта было вялікае свята.

Пазваніў камандарм, генерал Краўчанка. Ён павіншаваў мяне з вызваленнем Мінска, пацікавіўся «старычкамі», якіх ведаў асабіста, і паўтарыў тое, што гаварыў заўсёды: «Беражыце людзей. Гэта наш залаты фонд». Хвілінку памаўчаўшы, генерал дадаў з прыхаванай іранічнай ноткай у голасе:

— Шутаў, падрыхтуйся, да цябе высокапастаўлены госць едзе. Амерыканскі карэспандэнт. Глядзі, не выстаўляй напаказ свой характар.

«Саюзнічкі», як не без іроніі называлі ў нас Амерыку і Англію, якія доўга «цягнулі валынку», не адкрывалі другі фронт. Цяпер, напалоханыя поспехамі Чырвонай Арміі, яны заварушыліся. Урады ЗША і Англіі шостага чэрвеня высадзілі ў паўночнай Францыі вялікі дэсант. Так, нарэшце, быў адкрыты другі фронт. Пасля высадкі дэсанта стала вядома, што Чэрчыль настойліва дабіваецца, каб галоўны ўдар англа-амерыканскіх войск быў накіраваны на Балканы. Замест расшырэння плацдарма ў паўночнай Францыі ён прапанаваў высадзіць дэсант на Істрыйскім паўвостраве і праз Люблянскі праход рушыць у Аўстрыю і Венгрыю.

— Можа ты прымеш госця? — запытаўся я ў Шашлы.—Ты ўжо з імі сустракаўся. Баюся, што не вытрымаю, разгарачуся...

Начальнік палітаддзела ўсміхнуўся:

— Я сустракаўся з імі, Сцяпан Фёдаравіч, у горшыя часы і то ўсміхаўся. Усміхайся і ты.

Знешне амерыканскі карэспандэнт быў падобны хутчэй на вучонага, чым на журналіста. Строгі, спаласаваны маршчынамі твар, густая чупрына сівых валасоў. З-пад пенснэ, нібыта з нейкага другога свету, пазіралі маленькія вочкі. Амерыканец добра ведаў рускую мову і гаварыў кароткімі, адрывістымі фразамі.

Амерыканец быў ваенным аглядальнікам адной з буйных нью-йоркскіх газет. Калі ён назваў сваё прозвішча, мы цішком пераглянуліся. Гэта ж вельмі папулярная асоба! У пачатку вайны ўся сусветная рэакцыйная прэса перадрукавала яго вядомы артыкул «Ваенны і палітычны крах Расіі». Пачынаўся гэты артыкул такімі словамі: «Арэх раскушан. Ядро аказалася гнілое».

Карэспандэнт перахапіў нашы позіркі, але нічым не выдаў сябе.

— Я, — сказаў ён, — збіраюся напісаць пра вашу танкавую часць. Ведаю: яе ўзначальваюць два Героі Савецкага Саюза. Матэрыялы пра пана палкоўніка і яго намесніка ў мяне ёсць. Цяпер мяне цікавяць тыя, ад каго непасрэдна залежыць поспех бою. Я хацеў бы пагаварыць з людзьмі, якія пяць сутак знаходзіліся ў акружэнні. Паклічце, калі ласка, некалькі чалавек — лепшых з лепшых.

Мы выклікалі капітана Мінчына, башаннага стралка Калайдарава, Свідарчука, а самі хацелі выйсці.

— Калі ласка, застаньцеся,—папрасіў нас госць і ўпершыню ўсміхнуўся. — Вы хто па нацыянальнасці, пан капітан? Прозвішча? — звярнуўся ён да Мінчына і падрыхтаваўся запісваць.

— Рускі. Мінчын.

— А вы?

— Туркмен. Калайдараў.

— А вы?

Свідарчук адкашляўся.

— Украінец. Свідарчук. Пракоп Пракопавіч.



— О,—зірнуў амерыканец у наш бок,— вы падабралі для мяне сапраўдны трэці інтэрнацыянал.

Я ледзь не падскочыў у крэсле. Шашла наступіў мне на нагу.

— У нашай часці, пан карэспандэнт, ваююць людзі дваццаці трох нацыянальнасцей,— заўважыў Калайдараў.

— Зразумела,—ветліва перабіў амерыканец і адсунуў у бок блакнот.—Вы член камуністычнай партыі?

— Не пакуль. Камсамолец.

— Чаму «пакуль»?

— Таму, што збіраюся ўступіць у партыю. Калі заслужу...

— Вы былі ў ліку тых танкістаў, якія трапілі ў акружэнне?

— Быў, пан карэспандэнт.

— Колькі ж вы асабіста знішчылі немцаў, танкаў?

— Мала.

Амерыканец зняў пенснэ, працёр яго хусцінкай і зноў начапіў на свой птушыны нос.

— Мала, кажаце?—хіхікнуў ён і паглядзеў у наш бок:— У пана Кала... Калайдарава вялікі апетыт.

— Апетыт, пан карэспандэнт, прыходзіць у час яды,—кінуў я, ледзь выціснуўшы ўсмешку.

Амерыканец бліснуў шкельцамі пенснэ:

— У бальшавікоў заўсёды быў добры апетыт. Асабліва ён разгарэўся ў апошні час. Не паспееш азірнуцца, як вы апынецеся ля Ла-Манша.

Ваенны аглядальнік выпадкова прагаварыўся, чаго больш за ўсё баяцца яго гаспадары...

— А вы паспяшайцеся!—засмяяўся Шашла.

Я з удзячнасцю глянуў на свайго намесніка і падумаў: «І як смяецца! Дыпламат, сапраўдны дыпламат!»

Амерыканец таксама засмяяўся.

— Прыйдзецца, — і рэзка павярнуўся да Мінчына. — Вы камуніст?

— Так.

— І вы?

— Кандыдат партыі,—адказаў Свідарчук.—Якраз у акружэнні ўступіў.

Карэспандэнт зморшчыў свой квадратны лоб.

— Пан палкоўнік, беспартыйныя танкісты ў вашай часці таксама ёсць?

— Ёсць. Але ж вы прасілі лепшых з лепшых.

— Зразумела. Але мне ўсё-такі хацелася б пагаварыць з беспартыйным танкістам. Той, відаць, не такі тэндэнцыйны.

Мы паслалі па камандзіра танка Клюева.

— Вы на самай справе беспартыйны?—запытаўся карэспандэнт і коса зірнуў на ордэн Чырвонага Сцяга, які блішчэў на грудзях малодшага лейтэнанта.

— А навошта ж мне вас ашукваць, пан карэспандэнт? Тут жа не біржа, а воінская часць.

Карэспандэнт на момант апусціў вочы. О, ён выключна высокай думкі пра савецкага салдата! Але чаму пан малодшы лейтэнант беспартыйны, у той час, як усе тут—камуністы ці камсамольцы?

— Чаму? Скажу. Веруючым нядаўна быў, евангелістам. Так што грэшны трохі.

Карэспандэнт схапіў аловак і пачаў нешта запісваць у блакнот.

— Значыць, вы прадаўжаеце верыць у бога?

Клюеў пакруціў галавой:

— Што вы! Не!

— А ў чым жа вы лічыце сябе грэшным?
— У тым, што верыў і агітаваў другіх. Каб стаць камуністам, трэба змыць гэтую ганебную пляму. І я яе змыю.
— Гэтага патрабуе ад вас начальства?
— Не, сумленне. Дазвольце і мне задаць вам адно пытанне.
Карэспандэнт насцярожыўся.
— Ваша прозвішча мне знаёмае. Вы не карэспандэнт нью-йоркскай газеты?
Амерыканец кіўнуў галавой.
— А самі вы верыце ў бога?
— Веру. Я не камуніст.
— А помніце шостую запаведзь: «Не забі»? Чаму ж тады вы заклікаеце свой урад не шкадаваць сваіх саюзнікаў — рускіх і пішаце: «Чым менш іх будзе, тым лепш»?
Карэспандэнт пачырванеў. Ён хацеў усміхнуцца, але ў яго выйшла не ўсмешка, а нейкая грымаса. Прыйшлося пайсці яму на выручку.
— Пан карэспандэнт, малодшы лейтэнант вельмі заняты. Ён вам больш не патрэбен?
— Не, не,— абрадаваўся амерыканец.— Пан малодшы лейтэнант можа ісці. У мяне да яго пытанняў больш няма.

## 13

Семнаццатага жніўня мяне выклікаў камандзір корпуса генерал Аляксееў.
— Да раніцы васемнаццатага сканцэнтраваць войскі ў раёне Факуры, — сказаў ён коратка. — Ваша дваццатая, як заўсёды, галаўная. Усё!
Вяртаюся ў брыгаду. Па ўсхваляваных тварах танкістаў здагадваюся, што без мяне тут нешта адбылося.
Падпалкоўнік Шашла дакладвае: праціўнік высадзіў у размяшчэнні нашых падраздзяленняў групу лазутчыкаў. У аблаве на іх удзельнічала і мясцовае насельніцтва — румыны. Усе да аднаго шпіёны злоўлены.
На допыце обер-фельдфебель, старшы групы лазутчыкаў, прызнаўся, што перад ім была пастаўлена задача: устанавіць, дзе знаходзіцца дваццатая танкавая брыгада.
Мы знаходзіліся ўсяго за дзесяць кіламетраў ад фронта, а вораг пра гэта не ведаў.
— Магу вас абрадаваць, — сказаў я обер-фельдфебелю, — вам удалося хутка знайсці дваццатую брыгаду. Толькі вось далажыць пра гэта ўжо не давядзецца.
Пасля дэталёвай разведкі мясцовасці мы атрымалі загад аб наступленні. Загаварыла наша артылерыя. Дзве гадзіны на варожым баку стагнала зямля. Снарады клаліся так густа, што ўсё навокал завалакло дымам і агнём. Потым пайшла пяхота, за ёю — танкі.
Паблізу чыгуначнай станцыі Тыргу-Фурмас праходзіла другая лінія абароны праціўніка. Тут ён наладзіў хітра задуманую засаду. На працягу якіх пяці-шасці мінут мы страцілі чатыры танкі. Але гэта нас не спыніла. Я паставіў задачу: зараз жа ўзяць станцыю і схавацца за ёю, у нізіне. «Трыццацьчацвёркі» ўварваліся на станцыю, перакапаную траншэямі, ходамі і бліндажамі.
— Нядрэнна акапаліся,— заўважыў камандзір першага танкавага батальёна капітан Сімакоў.



— Дрэнна, калі так хутка драпанулі, пакінуўшы кухню з гатовым абедам,— запярэчыў я жартам.
Не трацячы ні мінуты, вядзём разведку. Высвятляем: праціўнік мае ў рэзерве танкавую дывізію. У яго распараджэнні дзвесце новых машын. Хаваючыся за ўзгоркамі і за высокай сцяною кукурузы, разгортваем полк самаходнай артылерыі, танкавы батальён Сімакова і пачынаем біць па ворагу. Загарэлася дзевяць гітлераўскіх «тыграў». Вораг маўчыць у сваіх засадах. Што гэта значыць? Што ён задумаў? Відаць, чакае, што мы зараз рушым у наступленне, і тады выпаўзе. Дудкі! Наступаць будзем ноччу.
І вось два танкавыя батальёны ідуць у наступленне. Яны праходзяць каля трох кіламетраў, і я даю загад :«Направа і налева па дзесяць снарадаў, агонь з усіх гармат і кулямётаў».
Ад гарматных выбухаў дрыжыць зямля. Савецкія танкісты страляюць наўгад, бо цёмна і не відаць ніводнае цэлі. Але вораг настолькі ашаломлены нашаю дзёрзкасцю, настолькі паралізаваны страхам, што нават адазвацца не асмельваецца.
— Спыніць агонь!
Прыслухоўваюся, што робіцца ў праціўніка. Паніка. Гітлераўцы з перапалоху разбягаюцца хто куды. Некалькі чалавек трапляе да нас. Сярод іх — румынскія салдаты-дэсантнікі. Яны расказваюць, што па той бок фронта салдаты ратуюцца як хто можа, пакідаючы танкі і зброю.
У некалькіх кроках ад мяне ўспыхвае агеньчык. Куля пралятае ля самага майго вуха. Углядваюся ў цемру: да мяне паўзе чорная постаць. Другі стрэл з нашага боку — і постаць замірае.
— Гэта лейтэнант Крон,— гаворыць румынскі афіцэр.— Ён — заядлы фашыст! Мы даўно хацелі перайсці да вас, ды ён усё сачыў за намі.
Раніцай падлічваем трафеі, і я з хваляваннем дакладваю камандзіру корпуса генералу Аляксееву:
— Мы спалілі дванаццаць варожых танкаў і захапілі сто шэсць спраўных. Адна танкавая дывізія праціўніка знішчана, другая адыходзіць.
У генерала дрыжаць бровы, а вочы аж ззяюць ад радасці.
— Толькі, калі ласка, не забывайцеся, — кажа ён мне, — што ўперадзе яшчэ не адна лінія абароны. Дзейнічайце, апярэджвайце ворага, знішчайце яго. Уперад, слаўная дваццатая гвардзейская!
Ідзём уперад. За тры дні наступальных баёў наша брыгада знішчыла танкавую і кавалерыйскую дывізіі, дзве горнапяхотныя дывізіі і, перадолеўшы глыбока ўмацаваную паласу, выйшла на аператыўную прастору.
Яса-кішынёўская аперацыя патрабавала вялікіх сіл і напружання. Магчыма, на долю дваццатай гвардзейскай танкавай брыгады выпала не больш цяжкасцей, чым на долю другіх брыгад і злучэнняў, якія дзейнічалі на гэтым участку фронта. Нашы поспехі былі дасягнуты толькі дзякуючы цеснаму ўзаемадзеянню ўсіх родаў войск. Была прарвана варожая абарона на абодвух напрамках — на паўночным і паўднёвым усходзе. Танкавыя злучэнні, якія хлынулі ў шырокія праходы, перахапілі важныя камунікацыі праціўніка і пачалі граміць яго тылы.
Літаральна праз некалькі мінут пасля вызвалення чыгуначнай станцыі Тудзірэшты да нас пад'ехаў камандуючы танкавымі часцямі 2-га Украінскага фронта генерал-палкоўнік Куркін. Ён павіншаваў усіх нас з поспехам і паставіў новую задачу: наступаць цераз горы ў напрамку на Рарайд і да раніцы 24 жніўня ўзяць горад Васлуй.

Дарога на Васлуй была адной з самых цяжкіх дарог, якія давялося прайсці нашай брыгадзе. Пераправіўшыся ўброд цераз раку Бырлау, мы ноччу рушылі ў горы. Машыны вядзем асцярожна, каб не сарвацца і не паляцець у бяздонне. І раптам калона спыняецца. Капітан Сімакоў перадае па радыё:

— Далей дарогі няма. Круча. Злева, справа, уперадзе.

Спяшаюся да яго. І праўда: уперадзе — вялікая расколіна. Чарнатою зеўрае бяздонне.

— Мы збіліся з дарогі,— гаворыць малодшы лейтэнант Ахметаў.— Трэба было ўзяць крыху правей.

Збіліся з дарогі... Павярнуць танкі назад нельга: мы знаходзімся ў вельмі вузкай цясніне.

— А гэтую шчыліну можна пераскочыць,— гаворыць раптам механік-вадзіцель Млінчанка.

Пераскочыць?! А ці ўдасца? Дапусцім, што ўдасца, але дзе гарантыя таго, што ўперадзе няма яшчэ большых перашкод? А тады што рабіць? Скакаць назад?..

Час ідзе. Хутка будзе світаць. Нас можа заўважыць варожая авіяцыя.

Электрычным ліхтарыкам асвятляю шчыліну. Яна сапраўды не шырокая: метра паўтара, не больш. Падыходзіць Шашла.

— Ну што ж, Сцяпан Фёдаравіч, паколькі іншага выхаду няма...

— А далей што?

— Не можа быць, каб і далей дарога была такая. Трэба ісці. Згаджаюся. Загадваю: пераскочыць цераз бяздонне.

Галаўны танк дае задні ход, робіць разгон і даволі лёгка бярэ перашкоду. За ім другі, трэці...

Кіламетраў праз пяць выходзім на дарогу, па якой павінны былі ісці. Нічога, у нас ёсць нават выйгрыш у часе...

Спускаемся з гор у нізіну і кіруем на дарогу Бачэшты—Васлуй. Узбоч дарогі, па полі, крочыць румын. Ён глядзіць на нас так, нібыта мы зваліліся з іншай планеты.

— Вы прайшлі цераз горы? — пытаецца ён. І не верыць: — Не можа быць. Па той дарозе ўдзень з канём не пройдзеш, а ноччу... Не можа быць!

## 14

За дваццаць кіламетраў ад Васлуя брыгада спынілася на запраўку. На «вілісе» да нас пад'язджае палкоўнік Галавін, камандзір часці самаходных гармат. Паўгадзіны таму назад ён вырваўся ўперад: думаў, што Васлуй ужо наш.

— Еду гэта я, а насустрач мне — машына. У ёй — нямецкі афіцэр, танкіст. Глянулі мы адзін на аднаго — і ходу... Ён — назад у Васлуй, я — сюды,— смеючыся, расказвае палкоўнік.— Відаць, гэта разведчык. І не інакш, як ён цябе шукаў, Сцяпан Фёдаравіч.

Я падзякаваў палкоўніку за перасцярогу, сеў у машыну, і брыгада рушыла ў кірунку на Васлуй.

Непадалёку ад горада нам сустрэлася фурманка. На ёй сядзелі сем румынскіх салдат і афіцэр. Афіцэр саскочыў з воза і падбег да мяне.

— Здаць зброю! — загадаў я.

Румын казырнуў і працягнуў майму шаферу пісталет. Здалі зброю і салдаты. Я даў ім пропуск і накіраваў у тыл.



— Пан палкоўнік, мой абавязак вас папярэдзіць,— сказаў румынскі афіцэр на развітанне.— Услед за намі ідуць нямецкія танкі.

— Многа?

— Баюся, каб не ўвесці вас у зман. Ва ўсякім разе, калона не маленькая.

— Дзякуй.

Чую гул танкаў праціўніка. Вось яны ўжо і відаць. Адлегласць — не больш пяцісот метраў. Хутка падцягваю свае сілы.

Непадалёку ад заходняй ускраіны Васлуя — варожы аэрадром. З яго ўзлятаюць «Ю-88». Яны скідаюць бомбы недзе далёка ад нас і зноў вяртаюцца на аэрадром. Назначаю кароткую артпадрыхтоўку — па дзесяць снарадаў з кожнага танка. Адначасова б'ём па двух цэлях: па танках праціўніка і па аэрадрому. У адным месцы палаюць самалёты, у другім — танкі. Самалёты гараць куды весялей! Ніводнаму не ўдаецца падняцца ў паветра. Тут мне памагае сусед—стралковая часць.

Схватка з танкамі праціўніка цяжкая. Вораг нясе вялікія страты, але не адступае. Прабіцца ў горад нам не ўдаецца. Толькі назаўтра, у дзевяць гадзін раніцы, падцягнуўшы свае тылавыя часці, наша брыгада зноў пачынае бой за горад. І абедаем мы — у Васлуі. Стотысячная яса-кішынёўская групіроўка гітлераўцаў поўнасцю акружана!

У васлуйскім гарадскім парку ідзе нарада камандзіраў і начальнікаў штабаў танкавых часцей. Яе склікаў генерал-лейтэнант Аляксееў. Тут жа знаходзіцца камандуючы танкавымі войскамі фронта генерал-палкоўнік Куркін і камандуючы нашай арміяй Краўчанка. Падводзяцца кароткія вынікі баёў і зачытваецца загад аб далейшым наступленні на поўдзень, на Бухарэст і Плаешты.

Пасля нарады мяне кліча генерал Аляксееў.

— Людзі вашы стаміліся? — пытаецца ён.

— Стаміліся, таварыш генерал-лейтэнант,— шчыра прызнаюся я.— Але загад мы выканаем.

— Па дарозе на Бырлад будуць вялікія баі, таварыш палкоўнік. Але веру: дваццатая не спыніцца.

— Ёсць, не спыняцца!

Пяцідзесяцікіламетровы марш робім ноччу. Механікі-вадзіцелі сядзяць за рычагамі і ледзь носам не клююць: каторую ноч без сну...

— Зайцаў, давай памяняемся, ты садзіся на маё месца, а я — на тваё,— прапануе механіку-вадзіцелю камандзір танка.— Падрэмлеш хвілін колькі...

— Нічога. Высплюся ў Берліне. На сталах імперскай канцылярыі.

— Во дзе храпу будзе! — смяецца стралок-радыст Саідаў.

— Ад нашага храпу горад будзе дрыжаць больш, чым ад амерыканскіх бомб...

Ідзём на вялікай хуткасці. На шляху сустракаюцца засады: вораг абстрэльвае нашы машыны. Адказваем некалькімі залпамі і ідзём далей. Чым бліжэй да мэты, тым мацней агрызаюцца фашысты. Мы расстрэльваем іх танкі, трушчым гарматы... Ура, Бырлад наш!

Цёпла, сардэчна сустракаюць нас жыхары вызваленага горада. Дзяўчаты закідваюць танкі кветкамі, жанчыны частуюць танкістаў малаком, гарачымі кіяхамі. Нам насустрач ідуць і ідуць людзі. Над галовамі ў іх — чырвонае палотнішча з надпісам: «Добро пожаловать,

красноармеец!» і плакат: «Спасибо». Жанчына з велізарным гліняным гаршком, поўным ружовых кукурузных ляпёшак, становіцца пасярод дарогі.

— Стойце!.. — крычыць яна.— Стойце!

Камандзір узвода лейтэнант Масквін нагінаецца з танка і на хаду бярэ з яе рук гаршчок.

— Дзякуй, маці! Прабач, спяшаемся. Гітлера дабіваць трэба. разумееш?

Жанчына ўсміхаецца і махае ўслед танку рукой.

Мы спяшаемся.

Камандзір корпуса генерал Аляксееў пад'язджае да мяне, і яго машына ідзе побач з маёю. Генерал загадвае дзейнічаць яшчэ больш імкліва. Развітваючыся, ён гаворыць:

— За Ясы, таварыш Шутаў, вы прадстаўлены да другой «Зорачкі»... Спадзяемся, урад палічыцца з нашай думкай... Ну, жадаю поспеху! За вамі — Плаешты. Папярэджваю: шлях на Плаешты не лёгкі. Ён, бадай, цяжэй, чым на Ясы і Бырлад. Немцы з усіх канцоў фронта сцягваюць на гэты ўчастак рэшткі разбітых дывізій. На хаду фарміруюцца новыя злучэнні. Улічыце, што супраць вас будуць дзейнічаць толькі гітлераўскія часці. Румынскія ўжо паварочваюць зброю супраць фашыстаў.

Генерал Аляксееў ніколі не ўтойваў ад нас цяжкасцей. Ён гаварыў пра іх проста, адкрыта. Яго жартам празвалі ў нас «метэорам», таму што ён сапраўды, як метэор, насіўся з адной брыгады ў другую, заглядваў і да рамонтнікаў, і да медыкаў, ушчуваў кухараў за не ў пару згатаваны абед. Аднойчы я дакладваю яму пра становішча тэхнікі, а ён пытаецца, чаму гэта не ўсе танкісты паголеныя.

— Галіцца трэба. Трэ-ба! Наша армія — самая цывілізаваная ў свеце, таварыш палкоўнік.

«Метэор» знік. Мне мімаволі прыходзяць на памяць яго словы: «За Ясы, таварыш Шутаў, вы прадстаўлены да другой «Зорачкі». Няўжо я буду двойчы Героем Савецкага Саюза? За якія заслугі? Мая брыгада ваюе нядрэнна, вораг яе баіцца, але гэта яшчэ нічога не азначае. Я — савецкі камандзір, камуніст і выконваю свой абавязак...

Генерал-лейтэнант загадаў нам рухацца як мага хутчэй. Трэба выканаць гэты загад. Узяўшы некалькі аўтаматчыкаў, саджуся ў машыну і выязджаю ўперад, каб разведаць дарогу. Едзем, едзем, горад ужо блізка, і нідзе ніводнага фашыста. Што за ліха? Не верыцца, каб вораг адступіў, не паспрабаваўшы якой-небудзь засадай перагарадзіць нам дарогу.

Хаваем машыну ў кустах ля дарогі, а самі паўзём далей. Траншэі. У іх гітлераўцы. Адступаць — позна, нас заўважылі. Завязваецца бой. Вопытныя пехацінцы старшы сержант Свідарчук і яфрэйтар Самойлаў адбіваюць у ворага станкавы кулямёт. Выбіваем фрыцаў з засады і спакойна вяртаемся назад. У гарачцы бою мы не заўважаем, як міма нас праносіцца машына генерал-лейтэнанта Аляксеева. І вось ужо да нас бяжыць яго паранены ад'ютант.

— Наша машына трапіла ў засаду, — крычыць ён. — Ратуйце камандзіра.

Кідаемся на дапамогу камкору. Здалёк бачым, як гітлераўцы спрабуюць узяць савецкага генерала жывога. Ён, трымаючы правую руку на сагнутай у локці левай, адстрэльваецца. Падае адзін фашыст, другі... Убачыўшы нас, фашысты расстрэльваюць генерала і адступаюць да сваёй лініі абароны.





Падбягаю да камандзіра корпуса — ён ужо мёртвы.

Генерала Аляксеева пахавалі ў Кіеве. Яму пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

За дзень да гібелі, схіліўшыся над шырокай картай-пяцівёрсткай, генерал указаў мне на тоўстыя чырвоныя стрэлы:

— Глядзіце, палкоўнік, вось па гэтай дарозе, па якой мы ідзём, ішоў некалі Сувораў. Ён праходзіў па бездарожжы сорак кіламетраў у суткі. Такія маршы давалі яму магчымасць дабівацца раптоўнасці ўдару. Факшаны, Рымнікі... І амаль у адну і тую ж пару года — цікавае супадзенне.

Генерал на момант задумаўся, а потым зноў зірнуў на карту.

— Вось і выходзіць, што там, дзе змагаліся нашы прадзеды, нам з вамі, таварыш Шутаў, суджана зноў сцвердзіць справядлівасць, праславіць рускую зброю. Як вы думаеце, мы з вамі не падвядзём камандаванне?

— Не маем права, таварыш генерал-лейтэнант.

— Глядзіце ж, — усміхнуўся камкор. — Чаго добрага, вашай брыгадзе яшчэ могуць прысвоіць імя Рымнікскай.

Не дайшоў камкор з намі да Рымнікаў. Усяго за некалькі кіламетраў да горада яго напаткала варожая куля...

Узяўшы з боем Факшаны, мы, не затрымліваючыся, пайшлі далей, на Рымнікі. Тут гітлераўскае камандаванне, як паўтараста год назад туркі, рашыла затрымаць і знішчыць рускіх. Гісторыя паўтарылася: войскі Суворава разбілі туркаў, мы — гітлераўцаў.

Паблізу ад горада захопнікі стварылі глыбокую, многаэшалонную супрацьтанкавую абарону. Перад ёю і за ёю знаходзіліся мінныя палі, воўчыя ямы. У самім горадзе вуліцы былі перагароджаны глухімі барыкадамі з байніцамі.

«Валы Ізмаіла высокія, равы глыбокія, а ўсё-такі нам трэба яго ўзяць»,— успомніліся мне словы Суворава. Так, трэба ўзяць!

— Аляксандр Васільевіч жахнуўся б, убачыўшы, якія перашкоды стаяць перад намі,— гаварылі некаторыя танкісты. Другія адказвалі:

— Калі б у яго былі «трыццацьчацвёркі», ён быў бы спакойны.

Адным словам, «глядзеннем крэпасці не возьмеш» — «сячы, калі, гані, адразай, не ўпускай, ура!»

Па-суворaўску змагаўся камсамольскі экіпаж лейтэнанта Міціна. Камандзір танка — рускі, механік-вадзіцель — украінец, зараджальшчык — туркмен, стралок-радыст — кіргіз,— усе яны жылі адною марай: хутчэй разграміць ворага.

У разведцы камсамольскі экіпаж Міціна заўважыў праціўніка, які ішоў у напрамку да горада. На вялікіх, з нізенькімі бартамі грузавіках сядзелі аўтаматчыкі, уперадзе ішлі самаходныя гарматы. Калона расцягнулася кіламетра на паўтара.

— Даць бы ім перцу па-суворaўску... Га, таварыш лейтэнант? — звярнуўся да камандзіра танка механік-вадзіцель Чарнавух.

Міцін праз трыплекс уважліва сочыць за калонай. Перш чым адважыцца ісці ў атаку, ён абдумвае ўсё да дробязі.

— Давай,— гаворыць ён нарэшце Чарнавуху.— Толькі так, каб фрыцы не паспелі развярнуць гарматы...

«Трыццацьчацвёрка» выходзіць на дарогу і, не адкрываючы агню, пачынае даганяць калону.

Гітлераўцы палічылі савецкі танк за свой і прадаўжалі ісці спакойна. Каб у іх не закралася ніякага падазрэння, Міцін адкрыў люк і высунуў адтуль галаву. Гітлераўцы, што сядзелі на апошнім грузавіку, паглядзелі на яго і зноў заняліся сваімі размовамі.



Адлегласць паміж савецкім танкам і калонай усё меншала. Станавілася небяспечна: фашысты маглі заўважыць—на бартах машыны, што ідзе за імі, няма чорнага крыжа. І тады...

Міцін хутка зачыняе люк і дае каманду:

— Гранічная хуткасць! Падрыхтавацца да стральбы!

«Трыццацьчацвёрка» набірае хуткасць. Праз мінуту яна ўрэзваецца ў калону. Скрыгат жалеза... Крыкі гітлераўцаў, агні падпаленых матораў... Танк страляе па гарматах, што спыніліся ўперадзе, кулямёт косіць гітлераўцаў, якія спрабуюць уцякаць.

— Агонь!.. Хуткасць!... Агонь!..

Чарнавух, разварочваючы танк то направа, то налева, перакульвае машыны і гарматы з дарогі ў кюветы, «прасуе» калону. Калайдараў імгненна зараджае гармату шрапнельнымі снарадамі і крычыць у танкафон:

— За смерць генерала!

— За смерць генерала,— гаворыць Урсулаў, косячы ворагаў з кулямёта.

У праціўніка ўцалела адна даўгаствольная гармата. Яна пачынае біць па танку. Міцін паварочвае башню назад. У аптычным прыцэле ён бачыць гармату і разлік.

— Агонь!

Варожая гармата ўзлятае ў паветра, а потым хобатам удараецца аб зямлю.

Вяртаючыся назад, маладыя танкісты ўбачылі ў адкрытым полі, узбоч дарогі, блакітную камфартабельную аўтамашыну. Шафёр калупаўся ў маторы, а каля яго мітусіліся два вайскоўцы. Заўважыўшы танк, усе трое кінуліся наўцёкі.

— Глядзіце, генералы! — усклікнуў Чарнавух.

— Напярэймы! Не пусціць таўсцяка! — загадаў Міцін. Але ў тое ж імгненне ў аптычным прыцэле бліснуў агонь: таўсцяк наляцеў на міну. Непадалёку ад яго падарваўся на міне другі гітлеравец.

— Міннае поле! А мы ледзь не наскочылі на яго,— паківаў галавой Чарнавух.— Хлопцы, а вунь трэці! Глядзіце: у яго на рукаве — белы чэрап і скрыжаваныя косці!

Міцін пачакаў, пакуль гітлеравец дабяжыць да машыны, і паслаў туды снарад.

— Правільна,— сказаў Чарнавух.— Страляць трэба эканомна. Нельга ж асобна па машыне і асобна — па шафёру...

Так камсамольскі экіпаж адпомсціў за смерць нашага камкора. Назаўтра Міцін і яго таварышы першыя ўварваліся ў Рымнікі.

## 15

Непадалёку ад Плаешты ёсць маленькі гарадок пад назвай Мізіл. Тут у мяне адбылася сустрэча з чатырма румынскімі генераламі, якія пасля некалькіх год вымушанага супрацоўніцтва з нямецка-фашысцкім камандаваннем сталі нашымі баявымі сябрамі.

Генералы, трэба сказаць, спачатку адчувалі сябе неяк няёмка. Але мы зрабілі ўсё, каб яны бачылі ў нас таварышаў па зброі, а не людзей злапамятных. І трэба ж было здарыцца так, што трое з гэтых чатырох генералаў ваявалі супраць нашай дванцатай гвардзейскай.

— Удары вашай брыгады пад Ясамі былі вельмі адчувальныя, усміхнуўшыся, сказаў хударлявы з абвіслымі вусамі генерал.

Мне ўсё не падабалася ў гэтым чалавеку: яго ўсмешка, голас. У ім

гучала скрытая варожасць. Затое яго сусед — сівы генерал з калматымі брывамі — адразу выклікаў сімпатыю і давер.

— О, калі б гэтыя ўдары былі нанесены толькі па гітлераўцах! — заўважыў ён. — А то ж загінулі тысячы румынскіх салдат. Ні за што, ні пра што...

Нашай брыгадзе разам з румынскімі часцямі прадстаяла ўзяць Плаешты. Я запытаўся сваіх новых саюзнікаў, калі яны будуць гатовы да гэтага.

— Праз тры-чатыры дні. Не раней.

— А калі заўтра на досвітку?..

— Гэта немагчыма,— сказаў хударлявы генерал.— У горадзе такія ўмацаванні... Я быў там у канцы мінулага тыдня і ведаю...

— Вы, пан генерал, былі там з другой арміяй. А цяпер пойдзеце з намі. Па-мойму, розніца ёсць?..

— Вядома, ёсць. І вялікая,— усміхнуўся сівы генерал.— Пастараемся вас падтрымаць.— Ён коса зірнуў на свайго суседа і дадаў: — Мы разумеем, што вызваляем румынскі горад для румынаў.

Гебельс і ўся фашысцкая прапаганда палохалі румынскіх генералаў, што яны будуць расстраляны рускімі за ўдзел у вайне супраць Савецкага Саюза. Але выйшла так, што савецкае камандаванне не толькі не пасягала на іх жыццё, але нават даверыла ім зброю!

Першы сумесны бой савецкіх воінаў і румын. Як будуць трымаць сябе нашы саюзнікі? Ці не разбягуцца яны пры першым націску праціўніка, як гэта было нядаўна, калі яны ваявалі на баку фашыстаў?

Разам з сівым румынскім генералам назіраю за полем бою.

На поўнач ад горада праціўнік перайшоў у наступленне. Перавага ў сіле — на яго баку. Румынскі батальён трапіў у вельмі цяжкае становішча. Я ўжо хацеў перакінуць сюды з другога ўчастка некалькі танкаў, як раптам два румынскія мінамётчыкі выскачылі са сховішчаў, залеглі ўперадзе стралкоў і адкрылі агонь па праціўніку, які ішоў у наступленне. Праціўнік спыніўся, а потым пачаў адступаць. Румынская пяхота паднялася, але тут жа вымушана была зноў залегчы: па ёй пачалі біць цяжкія станкавыя кулямёты. Тады мінамётчыкі, удала мяняючы пазіцыі, прымусілі замоўкнуць гэтыя кулямёты. Потым грымнула магутнае «ўра»,—батальён перайшоў у атаку. Ён прарваў першую лінію абароны і, не спыняючыся, пайшоў далей.

Сівы генерал дастаў з кішэні хусцінку, выцер мокрыя вочы. Закурыў...

— Яны ніколі раней так не ваявалі,— сказаў ён, зрабіўшы глыбокую зацяжку.— А рускае «ўра» — гэта іх знаходка, іх хітрасць... Немцы так яго баяцца...

— Гэтых мінамётчыкаў за смеласць я прадставіў бы да ўзнагароды,— асцярожна падказаў я.

Сівы генерал кіўнуў галавою: так, яны гэтага варты.

У прадмесці горада Плаешты румынскі батальён захапіў дзве выгадныя вышыні. Далей ісці ён не мог: на яго абрушылася артылерыя і авіяцыя праціўніка. Пад гэтым прыкрыццём фашысцкая пяхота пайшла ў контратаку. Румыны бязлітасна касілі яе.

На адной вышыні раптам змоўк кулямёт.

— У такі момант! — аж застагнаў сівы генерал.

— Пан палкоўнік, паглядзіце, калі ласка, вунь туды,— паказаў я яму на невялікі ўзгорак.

З узгорка, цягнучы цынкавыя скрынкі з патронамі, спаўзаў румынскі салдат. Над яго галавой з рэвам пранёсся штурмавік, гулка застрачыў кулямёт. Салдат знік у густым воблаку пылу.



Сівы генерал падаўся назад, апусціў бінокль.

— Ён жывы, пан генерал, глянькце,— абрадаваўся я.

Румынскі салдат зрабіў адну перабежку, другую... Велізарная цень штурмавіка зноў пранеслася па паляне. Салдат упаў і выпусціў з рук цынкавыя скрынкі. Не падымаючыся, ён паволі пацягнуў да кулямёта сваю ношу. Дапоўз да ўзгорка, за якім стаяў кулямёт, і тут сілы пакінулі яго. Да яго кінуліся два салдаты. Адзін узяў патроны, другі ўзваліў сабе на плечы таварыша... Прайшла яшчэ мінута, і на другой вышыні зноў застрачыў кулямёт.

— Трыццаць год я служыў у румынскай арміі. І паверце мне, такіх герояў у нас яшчэ не было,— прызнаўся сівы генерал.

— І не дзіва. Вашы байцы цяпер ведаюць, за што аддаюць жыццё.

— Згодзен, пан палкоўнік.

На другім участку наступала румынская пяхота. Фашысты не вытрымалі штыкавой схваткі. Беспарадкава адступаючы і адстрэльваючыся, яны раптам кінуліся бегчы пад ахову сваіх кулямётаў. Румынскія салдаты імкнуліся не адрывацца ад іх, каб не даць загаварыць варожым кулямётам. У гэты самы рашучы момант атакі ўпаў смяртэльна паранены камандзір. Сярод румын — замяшанне, яны на момант разгубіліся. Гітлераўцы, заўважыўшы гэта, адкрылі па іх агонь цераз галовы сваіх салдат. Секунды вырашалі лёс аперацыі. У гэты момант толькі рашучы чалавек мог выратаваць людзей ад пагібелі. І такі чалавек знайшоўся. Ён быў радавы салдат. Падняўшы высока над галавой вінтоўку, ён крыкнуў таварышам:

— Рота, слухай маю каманду! За свабодную Румынію — уперад!

Пяхота падхапілася і рынулася на ворага. Румыны на плячах адступаючых захопнікаў уварваліся ў горад і памаглі нашым танкам ачысціць ад ворага паўночную яго ўскраіну.

Горад Плаешты — вызвалены. З акна штаба брыгады гляджу на натоўп, што сабраўся ля кінатэатра. Пасярэдзіне яго Пракоп Пракопавіч Свідарчук і маладзенькі румынскі салдат па-заліхвацку, з прысвістам танцуюць украінскі гапак.

## 16

Дваццатая гвардзейская спяшалася вызваліць ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Венгрыю. Дарога падымалася ўсё ўверх і ўверх. Разам з другімі часцямі мы забраліся на Трансільванскія Альпы, якія ва ўсе часы лічыліся непераадольнай перашкодай для любой арміі. «Трыццацьчацвёркі» адолелі іх і, пераваліўшы цераз хрыбет, спусціліся на венгерскую раўніну, дзе гітлераўскае камандаванне яшчэ спадзявалася сабрацца з сіламі.

Увесь сусветны друк — нашы сябры і ворагі — захапляліся гэтым пераходам. Нават гебельсаўскія газеты крычалі: «Нечувана!» «Рускія танкі штурмавалі Паўднёвыя Карпаты паміж перавалам Прэдзял і Жалезнымі Варотамі!» Фашысцкія пісакі толькі «забыліся» дадаць: «Яны не толькі перайшлі Альпы, але і адразу, з ходу, уступілі ў бой».

Яшчэ калі мы былі ў гарах, я даведаўся, што ўрад узнагародзіў мяне другой Залатой Зоркай, прысвоіўшы мне званне двойчы Героя Савецкага Саюза. Я быў шчаслівы, што мая салдацкая праца, мая сціплая служба Радзіме адзначаны такой высокай узнагародай. Разам з тым, я адчуваў сябе неяк няёмка: я атрымаў узнагароду за тое, што не мог не рабіць, што павінен быў рабіць!

— Гэта, Сцяпан Фёдаравіч, партыя, народ паставілі табе добрую

адзнаку і кажуць: «Ідзеш правільна. Так трымаць!» Цяпер нашай дваццатай камандуе не адзін Герой Савецкага Саюза, а два, — сказаў Шашла, віншуючы мяне.

— Тры,— паправіў я яго.— Ну, цяпер возьмемся!

Увесь вечар мы складалі планы, абмяркоўвалі будучыя аперацыі і не ведалі, што ў гэты момант недзе вырашаецца мой лёс.

На другі дзень раніцай генерал-палкоўнік Краўчанка выклікаў мяне ў штаб арміі і паведаміў, што я назначан намеснікам камандзіра мотамеханізаванага корпуса.

— Брыгаду перадайце палкоўніку Жыліну, — сказаў ён.

Цяжка было расставацца з роднай дваццатай. Развітанне было кароткае, без мітынгаў, без гучных слоў. Разам з новым камбрыгам і падпалкоўнікам Шашлам я абышоў экіпажы баявых машын, паціснуў танкістам рукі, падзякаваў за службу. Ім — капітану Мінчыну, камандзіру танка Млінчанку, механіку-вадзіцелю Зайцаву, зараджальшчыку Тапаркову, камандзіру ўзвода аўтаматчыкаў Свідарчуку, башаннаму стралку Калайдараву і многім, многім другім баявым таварышам я абавязан тым, што атрымаў другую Залатую Зорку. Толькі дзякуючы іх дапамозе, іх самаадданасці я заўсёды выконваў загады камандавання. Ды і не толькі ім, але і тым, хто загінуў смерцю храбрых: лейтэнанту Казаку, камсоргу Мядзведзеву, падпалкоўніку Малярову, разведчыку Прычэпе... Памяць пра іх вечна будзе жыць у маім сэрцы.

На новай пасадзе намесніка камандзіра корпуса мне давялося папрацаваць нядоўга. На венгерскай раўніне, прарваўшы абарончыя рубяжы праціўніка, савецкія танкі, рота за ротай, батальён за батальёнам, імклівым патокам рушылі ў наступленне. Стаю на ўзгорку і назіраю рух часцей, рэгулюю, накіроўваю іх у патрэбным кірунку. Вось, як заўсёды, першай ідзе дваццатая гвардзейская. Мне чамусьці становіцца вельмі сумна. На апошняй машыне падымаецца люк, і з яго паказваецца Шашла. Ён глядзіць у мой бок і гукае:

— Сцяпан Фёдаравіч, сустрэнемся ў Будапешце. Згода?

— Дамовіліся,— махаю яму рукой.

У Будапешце мы з ім не сустрэліся. Калі падышла другая частка нашага корпуса і па ёй з флангаў пачала біць дальнабойная артылерыя ворага, я вырваўся ўперад, каб ліквідаваць пробку. Даў каманду, хацеў яшчэ нешта сказаць, ды ў гэты момант паблізу разарваўся снарад, і я ўпаў. Перасільваючы боль, падняўся і пры поўнай яшчэ прытомнасці ўбачыў, што левая рука ў мяне перабіта і матляецца ў рукаве, як чужая. Правай рукой я схапіўся за левую, каб суняць кроў, ступіў крок і зноў упаў: і ногі ў мяне былі перабіты...

З тае пары прайшло многа год, а я і цяпер не магу не ўспомніць добрым словам румынскага прафесара, які зрабіў мне аперацыю.

У мяне тады пачалася газавая гангрэна. У палату імклівым крокам увайшоў чалавек сярэдняга росту ў белым халаце. Ён агледзеў мае раны і нешта сказаў па-румынску юнаку, што стаяў ззаду яго.

— Пан прафесар знаходзіць, што вам зараз жа патрэбна аперацыя,— растлумачыў мне юнак-перакладчык.

— Ампутыраваць руку? — удакладніў я.

Румын пераклаў маё пытанне прафесару. Той паглядзеў мне проста ў вочы і кіўнуў галавой.

— Я згодзен.

Прафесар зноў нешта сказаў перакладчыку.

— Пан прафесар дзякуе рускаму афіцэру за давер'е. Ён зробіць усё, каб аперацыя была ўдалай.

— Дзякую.



Пасля аперацыі я праспаў з паўдня да самай раніцы. Калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў ля свайго ложка прафесара. Ён быў вельмі стомлены, але ўсміхнуўся мне і паціснуў маю здаровую руку, якая ляжала паверх коўдры.

Паявіўся юнак-перакладчык. Прафесар пахваліў мяне за вытрымку і параіў, як я павінен трымаць сябе ў далейшым, каб раны зажывалі хутчэй. Не сказаў толькі пра тое, што ўсю ноч ён сядзеў ля майго ложка, ды яшчэ пра тое, што калі ў час аперацыі трэба было зрабіць пераліванне крыві, ён і санітарка далі сваю кроў. Пра гэта я даведаўся ад медыцынскай сястры.

З Румыніі мяне на самалёце адправілі ў Маскву. Ляцеў я праз Кіеў. На аэрадроме мяне сустрэлі жонка і дзеці. Яны стараліся трымацца спакойна, каб я не адчуў сябе чалавекам, што выбыў са строю. Але я бачыў, чаго ім каштуе гэты іх спакой...

— Тата, я таксама буду танкістам, — сказаў старэйшы сын. — Вось пабачыш...

— І я,— падхапіў малодшы.

Я ўсміхнуўся жонцы:

— А што на гэта скажа маці?

Яна ўздыхнула:

— Я лепш бы хацела, каб ніколі не было вайны і не трэба былі танкісты. А калі ўсё-такі яны спатрэбяцца, то няхай нашы сыны будуць танкістамі. Толькі такімі, як бацька.

У Маскве да мяне ў шпіталь часта наведваліся баявыя сябры. Прыйшоў аднойчы і маршал бранятанкавых войск Якаў Мікалаевіч Федарэнка.

— Як жа гэта так! — загаварыў ён адразу з парога. — Не такі ў нас, Сцяпан Фёдаравіч, быў угавор.

— Нічога, Якаў Мікалаевіч. Сіла ў мяне засталася. Яшчэ паваюем.

— Не ўжо... Вы сваё адваявалі. І не дрэнна.

— Дарэмна вы так кажаце. Я са строю не выходжу. Я — камуніст.

— Бадай што ваша праўда. Камуніст са строю не выходзіць.

— Шутаў, Сцяпан Фёдаравіч...

Прыстаўляю свайго новага, неразлучнага «спадарожніка» — палку з медным наканечнікам — да крэсла, падымаюся. Выпростваюся і, перасільваючы пякучы боль у назе, цвёрдым крокам іду па вялікай крамлёўскай зале.

— Стары знаёмы, — пазнае мяне Міхаіл Іванавіч Калінін. Ён уручае мне другую Залатую Зорку Героя і паціскае руку. — Ад усяго сэрца віншую вас, таварыш Шутаў. Як землякі? Мусіць, недзе збіраюцца паставіць ваш бронзавы бюст?.. Добра было б, каб там, побач з вамі, паявіліся бюсты Герояў Працы, герояў мірных бітваў. І вам весялей было б. Ці ж не так?

— Згодзен, Міхаіл Іванавіч.

Хаджу па Краснай Плошчы. Мне дарагі кожны яе камень. Тут праходзілі, натхнёныя ленінскім словам, першыя атрады Чырвонай Гвардыі, тут цокала капытамі славутая будзёнаўская конніца, тут масквічы праносілі чучалы брытанскага прэм'ер-міністра і яго памагатых, якія спрабавалі запалохаць сваёй ваеннай магутнасцю маладую рабо-

ча-сялянскую дзяржаву. Па Краснай Плошчы прайшлі першыя «амаўскія» аўтамашыны, першыя сталінградскія трактары, першыя «трыццацьчацвёркі»... Тут, ля крамлёўскіх сцен, да ног мужнага народа-пераможцы былі кінуты ненавісныя павучыныя штандары разбітых гітлераўскіх орд.

Яшчэ не асеў пыл другой сусветнай вайны, а імперыялісты зноў выношваюць планы новых войнаў. Не дазволім! Мы ўсімі сіламі змагаемся за мір. Калі агрэсары ўсё ж распаляць пажар вайны, савецкія воіны — верныя абаронцы міру—назаўсёды змятуць іх з твару зямлі.

Красная Плошча, з гэтага часу ты заўсёды будзеш толькі месцам народных урачыстасцей!

Пераклад **В. ПАЛТАРАН.**
Літаратурны запіс **М. ШМУШКЕВІЧА.**



*Дарогамі сямігодкі*



**Кукурузавод-механізатар Мікалай Якаўлевіч Шакараў, які быў дэлегатам XXII з'езда КПСС.**

**Пятро ШАЎЦОЎ**

# РАДАВЫ ВЯЛІКАЙ ПАРТЫІ

Поезд, мерна пастукваючы коламі на стыках рэек, імкліва раз-разаў цемрыва ночы. Міма праплывалі агні вёсак, гарадоў; свяцілі аўтамашыны на дарогах, трактары на палях... Агні, агні, агні... Колькі іх?! Не злічыш. І ўсё ж хочацца, каб іх было яшчэ больш, каб не паравоз, а электравоз імчаў вось гэты цягнік, каб дарогі былі асветлены не толькі на станцыях, а наўсцяж, каб усе вёскі танулі ў моры святла...

Мары...

Маладжавы каржакаваты чалавек, што стаіць ля вагоннага акна, шмат перадумаў у дарозе. Глядзіць ён на той агеньчык, што свеціцца ў полі на трактары, і ўяўляе свайго калегу-механізатара. Той перапэцканы, прапахлы саляркай, пылам. Прыйдзе дадому і доўга палошчацца, каб прывесці сябе ў парадак. А колькі клопату жонцы, пакуль перамые перапэцканую вопратку?

І ўяўляецца Мікалаю Якаўлевічу Шакараву — слаўгарадскаму механізатару, што ён сядзіць на трактары з электрычным рухавіком. Чыста, акуратна... Ён упэўнены, што гэта хутка будзе! Будзе! Для гэтага ён ездзіў у Маскву, прымаў удзел у рабоце з'езда роднай партыі. Для гэтага ён разам з тысячамі другіх выбраннікаў партыі ўдзельнічаў у вялікай размове аб лёсе краіны, аб шчасці, якое нясе народу камунізм. Для

гэтага ён прагаласаваў за вялікую Праграму міру і чалавечага шчасця на зямлі.

Як хараша гаварылі дэлегаты і госці на з'ездзе партыі!

— Дарогі ў будучыню, адкрытыя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, шырацца з кожным днём!..

— Дарогі ў будучыню! Мікалай Шакараў, сын селяніна, просты калгаснік, радавы вялікай партыі, адчыніў дарогу ў будучыню! Дзе, у якія часы, у якой капіталістычнай краіне ўбачыш такое? Дзе гэта было, каб самы звычайны, просты працаўнік узняўся на такую вышыню, што яго запрашаюць на самыя высокія з'езды, дзе вырашаюцца пытанні сусветна-гістарычнага значэння...

Мікалай Якаўлевіч — самы звычайны, просты чалавек. Яго жыццёвы шлях такі ж, як і ў тысяч людзей, што нарадзіліся і выраслі пры савецкай уладзе.

Споўнілася яму трыццаць тры гады. Здаецца, нядаўна пачынаў жыццё, але, глядзі, колькі перажыта, колькі пройдзена дарог!..

Лёс не песціў гэтага чалавека, не ўсцілаў дарогі кветкамі... Як і ўсе яго аднагодкі-хлапчукі, Мікалай не трапіў на фронт у час мінулай вайны, яму тады было трынаццаць год. Хлапчук перайшоў у пяты клас, збіраўся закончыць сярэднюю школу, уяўляў сябе студэнтам універсітэта, марыў стаць выкладчыкам матэматыкі. Але жыццё наканавала яму другі шлях...

На фронце загінуў старэйшы брат Мікалая — балтыйскі марак Іван Шакараў. Гора прыкавала да пасцелі бацьку і маці. На Мікалая, як на старэйшага ў сям'і, леглі клопаты аб бацьках, аб меншых брату Федзі і сястры Ані.

Мікалай пайшоў працаваць, з камсамольскім запалам уключыўся ў работу па аднаўленню разбуранай вайною арцельнай гаспадаркі.

Зямля за час вайны здзічэла, зарасла быльнікам, хмызнякамі. Трэба было яе ачысціць, прывесці да ладу. Гэта справа выпала на долю жанчын, ды вось такіх, як Мікалай, хлопцаў. Цяжка было. Але ўсе разумелі — там, на вайне, бацькам яшчэ цяжэй...

Працы было многа, бо ўсё пачыналі спачатку. З усходу братні рускі народ пасылаў у вызваленую Магілёўшчыну трактары, сеялкі.

У Слаўгарадзе арганізавалі машынна-трактарную станцыю. Трактараў тады было не багата, ды і на тыя трактарыстаў не хапала. Пры МТС стварылі курсы. І хоць у калгасах кожны чалавек быў на ўліку, райком партыі накіроўваў на вучобу лепшых юнакоў і дзяўчат. Мікалаю не давялося доўга думаць над выбарам будучай прафесіі. Старшыня калгаса Яфім Гарэлікаў, які сам некалі быў трактарыстам, параіў Мікалаю Шакараву і яшчэ тром такім жа баявым хлопцам паступіць на гэтыя курсы.

— Не думайце, сябры, што мне лёгка адпускаць вас, — гаварыў тады Яфім Лазаравіч. — Вы лепшыя мае памочнікі, але ж трэба наперад глядзець, і я спадзяюся на вас!..

Так камсамолец Мікалай Шакараў стаў трактарыстам.

З МТС яго накіравалі ў суседні з яго роднай вёскай Слаўня калгас «Новы шлях». Тут, у Бязуевічах, юнак знайшоў сваё шчасце — ажаніўся на трактарыстцы Ніне Астахавай. І Бязуевічы сталі яго роднай вёскай...

Калі Мікалаю прыйшоў час ісці на вайсковую службу, ён папрасіўся ў школу танкістаў. Яго вабіла тэхніка, і ён імкнуўся быць бліжэй да яе. У першы год службы камандаванне прызнала Мікалая выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі, узнагародзіла яго граматамі, значком выдатніка...

Неўзабаве чалавека ў салдацкай гімнасцёрцы мы зноў бачым на шырокіх калгасных палях. Як і баявая, мірная машына паслухмяна выконвала яго волю. Зноў, як і ў вайсковым падраздзяленні, Мікалая называюць выдатнікам, перадавіком, прыкладным механізатарам. Потым ён уступае ў партыю.

Камуніст! Гэта не проста слова, назва, імя. Не! Гэта абавязацельства, клятва, прысяга перад таварышамі заўсёды, на любым пасту быць верным народу, ісці заўсёды ўперадзе, паказваць прыклад! Мікалай Шакараў, які заўсёды быў добрым працаўніком, цяпер стаў прыкладным. Партрэт маладога камуніста з'явіўся на Дошцы гонару. А ў хуткім часе яго ўзнагароджваюць медалем «За працоўную адзнаку».

Рэарганізацыю МТС Мікалай Шакараў сустрэў у калгасе імя Леніна, да якога далучыліся і Бязуеўцы. На палі аб'яднанай гаспадаркі прыйшла новая культура — кукуруза. Калгас разлічваў за два-тры гады падвоіць пагалоўе жывёлы, павысіць яе прадуктыўнасць. А вядома, што зрабіць гэта без кармоў нельга. Вось калгаснікі і зрабілі стаўку на кукурузу. Новыя планы патрабавалі новых метадаў працы. Трэба было замяніць ручную працу машынамі, рэзка знізіць сабекошт сіласу. Камуніст Мікалай Шакараў разам са сваім сябрам Церахам Радчанкам узяліся за комплексную механізацыю ўсіх працэсаў па вырошчванню кукурузы. Сябры стварылі і ўзначалілі два механізаваныя звяны.

У першы год яны пасеялі 80 гектараў кукурузы. Іх праца дала нядрэнны вынік — было атрымана з кожнага гектара па 771,5 цэнтнера зялёнай масы. Гэта быў першы поспех. Ён надаў упэўненасці ў сілах, акрыліў на новыя поспехі. Калі на калгасным сходзе падводзілі вынікі года, камуніст Шакараў сказаў:

— У новым годзе атрымаем па 800 цэнтнераў сіласу з кожнага гектара!..

Ён стрымаў сваё слова. Стрымаў так, як належыць камуністу: кожны гектар даў па 882 цэнтнеры добрага, сакавітага корму.

Камуністы — гэта людзі, якія ўвесь час твораць, дзярзаюць. Заўсёды наперад, на новыя рубяжы — такі дэвіз і ў Мікалая Шакарава. Пра свой дэвіз ён добра гаварыў аднойчы на раённай нарадзе кукурузаводаў.

— Тут вось хвалілі нас, гайшынцаў, — сказаў ён тады, — гаварылі, што мы нядрэнна папрацавалі. Згодзен, вынікі нядрэнныя. Толькі гэта не мяжа. Мы можам атрымліваць у нашых умовах не менш чым па 1000 цэнтнераў сіласу на кожным гектары. Да таго ж, можам сеяць не па 80, а па 200 гектараў на кожнае звяно.

У той жа год Мікалай Шакараў



**Агрэгат М. Я. Шакарава на ўборцы кукурузы.**

*Фота аўтара.*

сваё слова стрымаў — ды яшчэ як стрымаў! — атрымаў па 1 227 цэнтнераў сіласу з кожнага гектара. За ўкараненне комплекснай механізацыі ў вырошчванні кукурузы, за самаадданую працу Мікалай Якаўлевіч Шакараў быў удзельнікам тэматычнай выстаўкі на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР. За выдатную работу, высокія паказчыкі выстаўком узнагародзіў звеннявога-механізатара вялікім срэбраным медалем і выдаў прэмію — радыёлу «Мурамец».

Сёлета механізатары калгаса імя Леніна сеялі 240 гектараў кукурузы. І хоць умовы былі не дужа спрыяльныя, Мікалай Якаўлевіч вырасціў добрую кукурузу. На 80 гектарах атрымаў па 740, а на сарака — па 654 цэнтнеры зялёнай масы. Для жывёлы корму хопіць. На кожную карову нарыхтавана па 30 тон сіласу.

— Любая работа ў Міколы спорыцца, — гаворыць старшыня калгаса Аркадзь Авяр'янавіч Куземчыкаў. — Сёлета, напрыклад, ён узяўся ў дадатак да кукурузы за грэчку. І вось мяркуйце — кожны гектар на яго ўчастку даў па трынаццаць цэнтнераў!..

Праца ў нашай краіне — гэта справа гонару, доблесці, геройства. Героем працы з'яўляецца і Мікалай Якаўлевіч. Аб гэтым сведчаць два медалі, якія ўпрыгожваюць яго грудзі. Яны красуюцца побач са значкамі гвардзейца і выдатнага танкіста. Адлітыя з аднаго металу, яны сведчаць аб адным — той, хто іх атрымаў, здатны не толькі працаваць добра, але не забыў і сваіх салдацкіх ведаў.

Сцяпан КУХАРАЎ

# ПАРАСТКІ БУДУЧЫНІ

### Нарыс

Чалавек будучыні нараджаецца сёння.

Ён на вачах расце, дужэе, як пад сонцам дужэюць веснавыя ўсходы.

...Магілёўскі завод штучнага валакна — маладое, абсталяванае навейшай айчыннай тэхнікай прадпрыемства, дзе працуе шматтысячны калектыў. Тут больш як дваццаць цэхаў, сотні брыгад. І дзесяткі такіх, якія ў гарачым спаборніцтве заваявалі ганаровае званне калектываў камуністычнай працы.

Кіпаўцы, як называюць на заводзе людзей, што заняты ў цаху кантрольна-вымяральных прыбораў, дамагліся гэтага гонару першымі на заводзе. Чырвоны дыплом, які захоўваецца ў сейфе ў начальніка цэха Канстанціна Мікалаевіча Вараб'ёва, заваяваны старанннай упартай працай, настойлівасцю ўсіх членаў невялікага, але згуртаванага адзіным жаданнем калектыву.



Старшы майстар Іван Мікітавіч Цясленка (злева) і начальнік цэха Канстанцін Мікалаевіч Вараб'ёў сустрэліся, каб абмяняцца думкамі пасля змены.

У цэху кантрольна-вымяральных прыбораў працуюць такія ж звычайныя нашы людзі, якіх можна сустрэць на кожным прадпрыемстве, такія ж простыя і шчырыя працаўнікі, як і ў іншых цэхах завода. І разам з тым яны крыху інакшыя, яны сёння ў сваім вытворчым і духоўным росце ўзняліся на адну ступеньку вышэй за шмат якіх сваіх таварышаў па працы. Яны — гэта тыя парасткі будучыні, што нарадзіліся ўжо і гартуюцца ў працоўных буднях сённяшняга жыцця.

Цэх кантрольна-вымяральных прыбораў — своеасаблівы. Вы не ўбачыце тут памяшкання з якімі-небудзь варштатамі ці машынамі. Каб сустрэцца з кіпаўцамі, трэба пабыць у кожным цэху.

На заводзе — новая складаная тэхніка, якую кантралююць і абслугоўваюць тысячы разнастайных важных прыбораў, больш як тысяча манометраў, а таксама расходаметры, лічыльнікі, — усё гэта гаспадарка цэха кантрольна-вымяральных прыбораў.

Старшы майстар Іван Мікітавіч Цясленка маладжавы, каранасты здаравяк, з абветраным адкрытым тварам, стрыманы ў рухах, спорным, шпаркім крокам ідзе з цэха ў цэх, цярпліва расказвае мне «азы» прызначэння тых ці іншых прыбораў, ахвотна дзеліцца сваімі ўражаннямі пра людзей, з якімі ён нясе адказную вахту.

— Нялёгка нам, як самі бачыце, — з выразным рускім вымаўленнем заўважае Іван Мікітавіч, абедзвюма рукамі прыгладжваючы свае чорныя, непаслухмяныя валасы. — Цэхаў многа. Яны раскіданы. Завод працуе круглыя суткі, і ўсюды прыборы, прыборы — трэба глядзець. А прыборы — рэч дакладная, тонкая. Ля іх павінны дзяжурыць людзі, якія ўмеюць, нібы тыя дактары, іх выслухоўваць...

Мы гутарым з прыбарыстам Барысам Додзіным, які абслугоўвае цэх цэлафану. Барыс па спецыяльнасці выкладчык фізікі, скончыў педагагічны інстытут, але яго захапіла электроніка і ён паступіў на завод, асвоіў спецыяльнасць электраслесара-прыбарыста. Работа яго захапіла, і ён, каб не адстаць ад таварышаў, што працуюць пакамуністычнаму, паступіў на вячэрняе аддзяленне політэхнічнага інстытута.

— Мне падабаецца спецыяльнасць прыбарыста, — гаворыць Барыс Додзін. — Якраз тут ёсць над чым паразважаць, падумаць, а мне гэта якраз па характару...

— Новы метад аўтаматычнага рэгулявання тэмпературы вады, — зазначае старшы майстар, — гэта прапанова Барыса Якаўлевіча...

Додзін бянтэжыцца, сарамліва ўсміхаецца і гаворыць:

— Хіба я здзін гэта зрабіў — мне дапамагалі таварышы, — і ён разам з майстрам пачынае тлумачыць сэнс новага метаду, з дапамогай якога цяпер аўтаматычна рэгулюецца тэмпература вады на цэлафаннай машыне. Па прапанове рацыяналізатара зроблена рэгуляванне для вытрымкі параметра пары, і цяпер падагрэтая вада заўсёды аднолькавай тэмпературы, без адхіленняў ад нормы.



Майстар Іван Якаўлевіч Фірсаў (другі справа) студэнт-завочнік II курса Беларускага політэхнічнага інстытута. Ён прыйшоў у заводскую бібліятэку выбраць сабе цікавую кнігу.

— Нашы хлопцы любяць тэхніку, асабліва электрычныя прылады, — расказвае Іван Мікітавіч. — Кожны нешта прыдумаў, кожны над нечым працуе, думае. Рыхтуючыся да XXII з'езда партыі, мы нават у соцумове запісалі спецыяльны пункт: падаць дванаццаць рацыяналізатарскіх прапаноў. І падалі. І ўсе, здаецца, вартыя, каб іх прынялі і ўкаранілі ў вытворчасць.

— Ды што далёка хадзіць па прыклады, — падказвае Барыс Додзін. — Вось у нашым цэху вельмі цікавую знаходку прапанаваў Мікалай Чэпікаў!

— Сапраўды, — падхоплівае старшы майстар, — у цэху цэлафану доўгі час не ладзілася справа з рэгуляваннем тэмпературы асадкавай ванны. Вельмі доўга мы шукалі выйсця — ніякага зруху. І раптам Мікола Чэпікаў, просты электраслесар, які працуе на гэтым участку, прапанаваў паставіць аўтаматычны рэгулятар, каб у ванну прапускалася падагрэтая вада.

Такім чынам падтрымлівалася б патрэбная тэмпература. Гэта таксама наша рацыяналізацыя. Яна дала вялікі эфект...

У хімічным цэху № 2 асобны пакой. У ім на спецыяльных шчытах — фіксуючыя апараты разнастайных прыбораў. Прыбораў вельмі многа. Ля стала за разгорнутым вахценным журналам — дзяжурны прыбарыст, малады бялявы хлопец у спяцоўцы.

— Андрэй Медынскі, — вітаючыся, гаворыць хлопец і коратка дадае: — Электраслесар па наладцы аўтаматычных рэгулятараў.

Я прыгадваю, што дзесьці чуў гэтае прозвішча. Аказваецца, гэта пра яго ўжо расказвалі мне і начальнік цэха Вараб'ёў, і старшыня цэхавага камітэта Лонскі. Партрэт Андрэя Медынскага — на цэхавай Дошцы гонару.

Андрэй Медынскі тут, на заводзе, атрымаў атэстат сталасці і зараз займаецца завочна на пятым курсе Мінскага політэхнічнага інстытута. У яго грамадскае даручэнне — кіраўнік рэйдавай брыгады ў цэху.

— Андрэй Іванавіч, — падкрэслівае старшы майстар, — паказвае прыклад, як спецыяліст павінен выконваць свае абавязкі. Як вядома, хімічны цэх — адказны ўчастак на заводзе штучнага валакна. Тут усе працэсы механізаваны, і вядома, што ад бездакорнай дзейнасці аўтаматыкі залежыць рытмічная работа ўсіх машын і абсталявання. Прыбарыст павінен добра ведаць усю тэхніку. А не сакрэт, што бываюць выпадкі, калі тэхнолаг прапануе сваё, а прыбарыст адказвае: не, не так, а вось гэтак трэба... Медынскі — такі спецыяліст, які можа настаяць на сваім, бо добра ведае працэс вытворчасці і працуе з душой, як і належыць камуністу.

...Загудзеў гудок, і рабочыя пачалі збірацца дадому. Развітваючыся, Іван Мікітавіч падаў мне на развітанне моцную шурпатую руку і, завяршаючы пачатую размову, сказаў:

— А вы схадзіце ў нашу лабараторыю. У нас там працуе спецыяльная канструктарская група. Яна і займаецца творчымі пытаннямі. Там, здаецца, чалавекі чатыры. Хлопцы з творчай жылкай. У іх кіраўніком Мітрафанаў, Юры Аляксеевіч, прыроджаны электрык!..

**Гэта хлопцы, якія складаюць групу аўтаматыкі, што створана ў цэху кантрольна-вымяральных прыбораў.** Злева направа: **Л. Целяпнёў, А. Модлін, Ю. Мітрафанаў, Г. Ліўшыц і В. Жылін.**





**Леанід Арлоў і інжынер Ала Прышчэпа ля лічыльніка-дазатара.**

З Мітрафанавым, кіраўніком канструктарскай групы па аўтаматыцы, мне доўга не ўдавалася пагаварыць. Юры Аляксеевіч то быў пільна заняты, разбіраючы з хлопцамі нейкія схемы, то некуды спяшаўся, і яго не было аж да канца змены. Нарэшце я ўлавіў хвіліну, калі Юры Аляксеевіч прысеў на табурэцік у сваім невялічкім пакойчыку, і завёў з ім гутарку. Было бачна, што Мітрафанаў не хацеў, каб яго трывожылі. Мажліва, чалавек рашыў перадыхнуць, сабрацца з думкамі.

Мітрафанаў — шчуплы на выгляд хлапчук. На самай жа справе ў яго за плячамі немалы вопыт. Ён ужо адслужыў вайсковую службу, мае спецыяльнасць карабельнага электрыка. Камуніст. Займаецца на пятым курсе энергетычнага інстытута ў Маскве.

— Мы зрабілі яшчэ зусім мала, — выціраючы хусцінкай спацелы твар, гаворыць Мітрафанаў пасля доўгага маўчання. — Не паспелі... Нашу групу арганізавалі ў пачатку гэтага года. На першым часе працаваў я адзін, а цяпер — учатырох. Са мною яшчэ тут слесар Лёня Целяпнёў і тэхнікі Вадзім Жылін і Абрам Модлін. Працуем, як бачыце, а вынікаў — не дужа...

Юры Аляксеевіч коратка пералічыў, што за гэты час зроблена. Сканструяваны прыбор для вымярэння вільготнасці цэлафану. Заканчваецца апрабаванне прыбора для вымярэння доз вады ў каагулятарах. Рыхтуецца апрабаванне прыбора для вымярэння вільготнасці штапелю.

— Вось амаль што і ўсё, што мы паспелі зрабіць, — чамусьці ўздыхнуў Юры Аляксеевіч і дадаў: — Прыбор для вымярэння вільготнасці штапелю — складаны, высокачастотны электронны прыбор. Самі яго сабралі. У вытворчасці гэтага прыбора няма. Даводзіцца працаваць марудна, бо гэта вельмі працаёмкая работа. Мы паставілі сабе задачу шмат зрабіць па ўкараненню новых аўтаматычных прыбораў і прылад. Нас вельмі непакоіць працэс вымярэння канцэнтрацыі раствораў. Пакуль што гэта робіцца лабараторным аналізам і стрымлівае аўтаматызацыю. Думаем мы і пра тое, каб зрабіць некаторыя іншыя вельмі патрэбныя прыборы...

Неяк мы засядзеліся ў цеснай канторцы цэха. Спачатку мы былі ўдваіх з Вараб'ёвым. Канстанцін Мікалаевіч, ці, як яго многія тут называюць, Косця, нягледзячы на свой дваццацішасцігадовы ўзрост, ужо другі год узначальвае калектыў цэха кантрольна-вымяральных прыбораў. Косця — малады інжынер, у 1958 годзе скончыў Іванаўскі энергетычны інстытут. Знешнасць у Косці, як кажуць, не кід-

кая: ён не шырокі ў плячах, невялікі ростам, апранаецца проста. З твару Косця драбнаваты, смуглявы; твар увесь час у руху, у зменлівасці, і яго асабліва ажыўляюць быстрыя, з іскрынкамі-агеньчыкамі вочы. Косця ўвесь час, гутарачы, як бы цікуе за субяседнікам, імкнецца выявіць, што ты за чалавек. Расказваючы, Косця імкнецца і сам паставіць табе тое ці іншае пытанне, але робіць гэта ўмела, з патрэбным тактам.

— Як змяніліся людзі ў сваім духоўным росце, што новае з'явілася ў іх паводзінах, у характары за гэты час? — задумліва паўтарае Косця і нетаропка прыпальвае папяроску, зацягваецца. Нейкі момант маўчыць, нібы збіраючыся з думкамі, маўчанне гэта цягнецца як мне здаецца, занадта, і я спрабую ўмяшацца, але Косця нібы не заўважае гэтага. Потым бярэ ў рукі газету, што ляжыць на стале (газета ўжо, напэўна, уважліва чыталася, бо ў шмат якіх месцах пакрэслена алоўкам і чарнілам), і яго быстрыя, жвавыя вочы загараюцца незвычайным бляскам.

— Чыталі? — Косця шырокім жэстам паказвае на газетны ліст. — Вось тут, у цудоўным дакладзе Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на XXII з'ездзе КПСС, я знайшоў адказ на пытанні, што хвалююць сёння кожнага савецкага чалавека. Тое, што мы робім кожны дзень, чым мы жывём, за што змагаемся, — гэта і ёсць наш уклад у велічную справу, якая называецца камунізмам. Прачытаўшы і як мае быць узважыўшы думкі, выказаныя таварышам Хрушчовым наконт новай праграмы нашай партыі, я інакш пачаў глядзець на нашу будзённую працу, неяк з інакшага боку паглядзеў на нашых хлопцаў, з якімі працую побач, задумаўся над іх узаемаадносінамі ў калектыве. Вось паслухайце, як гэта правільна сказана ў Мікіты Сяргеевіча: «Важнейшая задача камуністычнага выхавання — пераканаць кожнага ў тым, што чалавек не можа жыць без працы, не ствараючы сродкі для жыцця. Усё добрае, што робіць савецкі чалавек, ён робіць для сябе і ўсяго грамадства».



Намесніка начальніка цэха Анатоля Аляксеевіча Пічугіна ведаюць на заводзе як здольнага рацыяналізатара. Ён сканструяваў новы механічны вымяральнік.

Паклаўшы газету ўбок, Косця працягвае, смачна зацягнуўшыся папяросай:

— Я гэта прачытаў вам дзеля таго, каб пацвердзіць, што і ў нас, у нашым рабочым калектыве ёсць новыя парасткі, ёсць добрыя прыкметы, пра якія так хораша гаварылася на XXII з'ездзе партыі. За гэтыя два гады, як паглядзіш і пачнеш параўноўваць ды прыгадваць, дык вельмі выраслі і пахарашэлі нашы людзі. І ўсё гэта, канешне, зрабіла праца, наша разнявoленая і радасная праца, у якой і праяўляе сваe лепшыя здольнасці і якасці чалавек.

У канторку заглянуў намеснік начальніка цэха, спакойны, ураўнаважаны мужчына сярэдніх год — Анатоль Аляксеевіч Пічугін, адзін з ветэранаў цэха. Здзівіўшыся незвычайнай узрушанасці Косці, ён наважыўся быў пайсці, але той затрымаў яго:

— Сядай, Анатоль Аляксеевіч, якраз дарэчы. У нас вось з таварышам цікавая гутарка пра тое, як у працэсе працы шліфуюцца нашы хлопцы...

— Ого, яшчэ як шліфуюцца! — усміхнуўшыся, загаварыў Пічугін. — Памятаю, было такое, што і гаварыць не хочацца: скажы каму-небудзь, што трэба памагчы таварышу, бо ў таго што-небудзь не ладзіцца, а ён толькі рукой махне: маўляў, мне да гэтага няма інтарэсу...

Вараб'ёў і Пічугін пачалі прыгадваць розныя выпадкі і прыклады з жыцця цэха, якія характарызуюць людзей як членаў адной дружнай працоўнай сям'і, дзе на справе выконваецца дэвіз разведчыкаў будучыні: «Чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат».

Прыгадалі той час, калі цэх уступіў у спаборніцтва за званне калектыву камуністычнай працы, як абмяркоўвалі соцумову. Пункт аб працоўнай дысцыпліне, аб добрасумленным выкананні свайго працоўнага абавязку прынялі хутка, без пярэчанняў, бо гэта было прывычнай, натуральнай з'явай. А калі загаварылі пра вучобу, то знайшліся такія, каму не зусім хацелася брацца за тое, што было ўжо, лічы, упушчана. І тут камуністы, камсамольцы кінулі кліч:

— Дапаможам!

— Калі чаго не разумееш, — запытай у таварыша.

Вось тады ў цэху і на заводскім двары з'явіліся незвычайныя лозунгі, накшталт: «Не сорамна не ведаць, сорамна не спытаць»...

Моладзь пайшла ў вячэрнія школы, у тэхнікумы, на завочныя аддзяленні інстытутаў. Вядома, нялёгкая гэта справа, адпрацаваць змену, а потым увечары сядзець над кнігамі ці бегчы на заняткі ў школу. А сярод рабочых былі ж і такія, што гадоў па пяць-дзесяць не сядзелі за партай. Усялякае было. Адным, такім, як Сямён Сяргееў, Мікалай Лонскі, што мелі ўжо свае сем'і і доўга не браліся за вучобу, дапамагалі таварышы, другім, якія не праяўлялі сваёй актыўнасці, — «паддавалі ахвоты» і на сходах, і на розных нарадах. Вучобай увесь час цікавяцца і партыйная, і камсамольская арганізацыі. Вучоба стала такім абавязкам, як і праца, як і паводзіны кожнага, хто паабяцаў вучыцца жыць і працаваць па-камуністычнаму.

Прайшло два гады. І цяпер кіпаўцы па агульнай і спецыяльнай адукацыі трымаюць першае месца на заводзе. Канешне, яны ж і па працоўнай дысцыпліне — у авангардзе.

Начальнік цэха з усмешкай задавальнення гаворыць:

— Адзін з падарункаў, якія мы падрыхтавалі да XXII з'езда



Вучні 11-й школы на вытворчай практыцы ў цэху. Праводзіць заняткі старшы майстар І. М. Цясленка.

КПСС — наша вучоба. У 1961 годзе сярэднюю школу скончылі два прыбарысты, тэхнікум — чатыры. У інстытуце вучыцца дзесяць чалавек, у тэхнікумах — дзевяць.

Адно за другім называюцца прозвішчы: Фірсаў, Шкаруба, Юкараў, Медынскі, Міронаў, Гайс, Жылін, Модлін — вучацца ў інстытутах; Лонскі, Снапкоў, Грыбоўскі і многія другія — у тэхнікумах; камсамолец Алег Касцевіч займаецца ў музыкальным вучылішчы.

У кіпаўцаў цвёрдая ўмова — да 1964 года кожнаму рабочаму мець сярэднюю адукацыю.

— Вось вам і парасткі будучыні, — усміхаючыся, гаворыць начальнік цэха. — Сённяшнія нашы радавыя рабочыя, такія, як Уладзімір Міронаў, Андрэй Медынскі, Анфір Юкараў, — заўтра будуць інжынерамі. Працуючы на заводзе, яны сталі выдатнымі спецыялістамі, у іх ёсць і хватка рабочага, і веды майстра. Гэта людзі, для якіх праца ўжо стала крыніцай творчасці, жыццёвай неабходнасцю...

— Я хацеў бы тут зрабіць невялічкую заўвагу, — уставіў сваё слова Анатоль Аляксеевіч Пічугін. — Правільна, што людзі нашы з кожным днём растуць, харашэюць. Вось нашы спецыялісты атрымалі права кляйміць многія




З хваляваннем сачылі за работай XXII з'езда КПСС заводскія камсамольцы.

прыборы самастойна, у нас у цэху зарплату атрымліваюць без касіра, кожны рабочы набыў сумежную спецыяльнасць,— гэта ўсё прыступкі, на якія мы ўзняліся, ідучы да камунізма. Тым не менш, нам яшчэ многа трэба зрабіць, каб стаць такімі людзьмі, якія ўяўляюцца нам пры камунізме. Сёння ў цэху ёсць таварышы, да якіх яшчэ ліпнуць плямы мінулага. Многа яшчэ працы з імі, асабліва з навічкамі...

— Правільная твая думка, Анатоль Аляксеевіч,— згаджаецца Вараб'ёў.— Наш дыплом калектыву камуністычнай працы — гэта святыня, гэта сцяг, якому прысягае кожны, хто становіцца пад яго!..

Кіраўнікі цэха, камуністы, якія нясуць адказнасць за выхаванне калектыву, па-сяброўску раяцца, думаюць, што яшчэ трэба зрабіць у цэху, каб людзі не заспакойваліся зробленым, а ішлі далей, да яснай мэты.

На заводскім двары сустрэліся начальнік цэха Вараб'ёў і старшы майстар Цясленка. Загаварылі.

— Што новага, Іван Мікітавіч? — спытаўся старшага майстра начальнік цэха.

— Ды, здаецца, усё ў парадку, Канстанцін Мікалаевіч. На трэцяй чарзе рамонтнікі пастараліся. Ужо ўсё амаль гатова. Лёня Арлоў заканчвае зборку лічыльніка-дазатара, і цяпер хутчэй завершым аўтаматызацыю трэцяй чаргі.

— Добра, я схаджу, пагляджу, як яны там змагаюцца...

Вараб'ёў і Цясленка прыкурваюць ад адной запалкі, яшчэ гавораць колькі хвілін, перакідваюцца ўражаннямі пра вечар у школе № 11, дзе яны гасцявалі па запрашэнню сваіх юных сяброў-дзесяцікласнікаў, успамінаюць, як прайшла апошняя паездка ў калгас «Зара» на копку бульбы і як, на здзіўленне ўсіх, там вызначыўся самы цяжкі ў іх калектыве чалавек — Іван Карташоў, і — разыходзяцца.

Вараб'ёў ідзе да прахадной, каб адправіцца на «камчатку» — трэцюю чаргу, у новыя цэхі, што за апошнія два гады сямігодкі ўступілі ў строй, а Цясленка накіроўваецца ў абход цэхаў. Ужо здалёк Іван Мікітавіч, шырока усміхаючыся, кідае:

— Ну як, Косця, прывык, ногі вытрымліваюць?..

— Нішто, трымаюць! — крычыць у адказ Вараб'ёў, весела ківаючы галавой.— Можна смела мяне запісваць у заводскую каманду футбалістаў...

Гэта, канешне, жарт, але ў кіпаўцаў сапраўды вялікая, раскіданая на сотні гектараў гаспадарка. І каб пабыць у кожным з дваццаці цэхаў, дзе нясуць вахту прыбарысты, вагаўшчыкі, рамонтнікі, трэба патраціць нямала часу. Рабочым таксама — добрая загартоўка, асабліва той групе, што абслугоўвае аддаленыя цэхі трэцяй чаргі.

Па дарозе Вараб'ёў разважае:

«Добрыя ўсё ж хлопцы падабраліся на трэцяй чарзе: Лёня Арлоў, камсорг цэха, Анатоль Шкаруба, Іван Майсееў. Адзін за другога гатовы ў агонь і ў ваду. І самае галоўнае — працу, сваю спецыяльнасць палюбілі. Здаецца, нялёгка ім: новая тэхніка, шмат цяжкасцей, іншы раз адно і тое ж даводзіцца перабіраць па некалькі разоў, пакуль да сэнсу дакапаешся. Інжынер у іх — зусім маладая, нядаўняя студэнтка. А вось скажы ім, што перавядзём на новае, больш лёгкае месца,— не пойдуць. Нічога не скажаш, дружныя, баявыя хлопцы. З такімі можна браць любыя вышыні, з такімі лёгка ісці, радасна працаваць!..»

...Лёня Арлоў схіліўся над апаратам. Побач на зашмальцаваным стале ляжаць розныя шрубкі, трубачкі, спружынкі, маткі дроту... Хлопец так захапіўся, поркаючыся ў апараце, што не заўважыў, як у пакойчык увайшоў начальнік цэха. Лёню ўжо кранула за плячо Ала Прышчэпа, інжынер-майстар, але ён нікога не заўважае вакол сябе. Чорная, густая чупрына яго амаль закрыла пукаты лоб, вялікія шэрыя вочы скіраваны ў адну кропку, а рукі, моцныя і вялікія, жвава варушацца, перабіраючы нейкія невялічкія дэталькі. Прыемна глядзець, як чалавек працуе, калі ён сапраўдны майстар і ўлюбёны ў сваю справу.

— Цішэй, цішэй, Ала Міхайлаўна,— мяккім жэстам спыняе Вараб'ёў майстра.— Няхай працуе, не будзем яму перашкаджаць...

У гэты час Лёня варухнуўся, перапэцканай рукою адкінуў назад хвалю валасоў, павярнуўся і збянтэжана ўсміхнуўся. Усмешка ў яго нейкая кволая і цёплая, нібы гэта на засяроджанаму твару нечакана прабег жвавы сонечны прамень. Лёня заўважыў начальніка цэха, прывітаўся:

— Ой, Канстанцін Мікалаевіч, прабачце. Тут яшчэ б гадзінку, і лічыльнік можна будзе ставіць. Цяжкі, халера на яго. Ледзь дабраліся да сэнсу... Вось і Ала Міхайлаўна стараецца, не адыходзіць...

— Якая табе дапамога патрэбна, Лёня? — пацікавіўся начальнік цэха, прысеўшы на зэдлік.

— Што, мне дапамога? — шчыра здзівіўся Лёня.— Здаецца, усё ў мяне ёсць: матэрыялы, якія трэба, кансультацыю Ала Міхайлаўна дае, калі спатрэбіцца... Вось толькі часу мала, не хапае.

— А што, часта пасля змены застаешся?

— Здараецца...

— І напэўна, ад жонкі добра дастаецца?

— Бывае...

Начальнік цэха нахмурыўся. Напэўна, ён прыгадаў нядаўняе, калі ўладкоўвалі новае абсталяванне ў хімічным цэху. Работы было шмат. Заставаліся ўначы і электраслесары, і майстры, і сам начальнік цэха. Лёня тады зрабіў сапраўдны подзвіг: не пакінуў рабочае месца аж пакуль не ўстанавілі ўсе прыборы. Лёня толькі што ажаніўся, і яму тады добра дасталося ад маладой жонкі за тое, што



Лепшы электраслесар Андрэй Медынскі. Фота С. Чырэшкіна.

не прыходзіў у час дадому. Але Лёня, як кажуць, не здаўся. Ён такі ж гарачы і настойлівы, як і раней, ён завадатарнічае ў шмат якіх карысных грамадскіх справах, якія праводзяць камсамольцы. Напярэдадні XXII з'езда КПСС Лёня стаў камуністам і па-ранейшаму ўзначальвае камсамольскую арганізацыю цэха.

Пагаварыўшы яшчэ колькі з Лёнем аб вытворчых справах, начальнік цэха запытаў пра тое, як камсамольцы удзельнічаюць у нядзельніках на будаўніцтве новага будынка для іх цэха. А потым паведаміў, што з Масквы з курсаў прыехала камсамолка Генрыета Майчанка і цяпер ёсць усе ўмовы ўзяцца за наладжванне самадзейнасці.

— Ёсць такія чуткі, — сказаў Канстанцін Мікалаевіч, — быццам бы ў нашым цэху па лініі самадзейнасці зацішша наступіла...

— Што вы, Канстанцін Мікалаевіч, — загарэўся Лёня, — гэтага ніколі не будзе. Мы ж, памятаеце, які вечар сваімі сіламі наладзілі! І цяпер не дадзім маху! Наша Генрыета прыехала, цяпер мы пакажам, на што здатныя кіпаўцы!

— Канешне, аматары ў нас ёсць, — згаджаецца з Лёнем начальнік цэха. — У нас спевакі і артысты ёсць, і свае дэкламатары, нават баяніста маем свайго. Але ж трэба варушыць людзей, захапляць новымі цікавымі заняткамі. І гэта ў першую чаргу абавязак камсамола!

— Зробім, Канстанцін Мікалаевіч, зробім, — сур'ёзна запэўняе свайго кіраўніка Лёня. — Вось сёння пасля змены ідзём на пасадку дрэў. Я ўжо амаль усім паведаміў, што будзем садзіць алею імя XXII з'езда КПСС. Разумееце, Канстанцін Мікалаевіч, як гэта знамянальна: мы пасадзім ліпкі і кленікі ў памятныя дні, калі ў Маскве ў новым цудоўным Палацы з'ездаў лепшыя пасланцы краіны, камуністы прынялі новую праграму роднай партыі. Наша алея будзе добрым напамінкам аб нашых днях, аб нашым пакаленні!..

— Малайчына, Лёня, — моцна, па-сяброўску абняў за плечы камсорга камуніст Вараб'ёў. — Кірунак вы ўзялі правільны, хлопцы. Так і трымайце. Не забывайце, што нам партыя ўручыла сцяг разведчыкаў будучыні, і мы яго прынясём на запаветны рубеж!

— І будзем жыць у камунізме! — натхнёна сказаў Лёня Арлоў, адказваючы сваім моцным поціскам на поціск рукі старэйшага таварыша.

Сёння на заводзе члены брыгады бабінажніц, якую ўзначальвае перадавы майстар камуніст Марыя Кавалёва, што прадстаўляла калектыў магілёўскіх тэкстыльшчыкаў на XXII з'ездзе КПСС, выступіла ініцыятарам спаборніцтва за званне калектыву будаўнікоў камунізма. У аснову сваёй соцумовы бабінажніцы паклалі маральны кодэкс будаўніка камуністычнага грамадства. Гэты рух на заводзе шырыцца, нібы паводка вясною.

Зярняты, пасеяныя дбалай рукою, далі дружныя, радасныя ўсходы-парасткі. Яны з кожным днём дужэюць, набіраюць сілу.

*Гары, камсамольскі агеньчык!*

# ПАЯДЫНАК

На карціне — чацвёра: трое юнакоў і адна дзяўчына. Іх крышачку схіленыя ў хадзе постаці і ўважлівыя, пільныя вочы насцярожваюць. Не, відаць, не проста на прагулку выйшлі Алег Жалняровіч, Пётр Клюеў, Валянціна Пачценная і Аляксандр Кручок. Хоць мастак Уладзімір Стальмашонак і назваў сваю карціну «Вечарам», але настройвае яна далёка не на лірычны, «прагулачны» лад. Вунь там, за тымі асветленымі электрычным святлом і зацямнёнымі вокнамі вялікага шматпавярховага дома, які на заднім плане заняў амаль усё палатно, людзі адпачываюць, займаюцца сваімі хатнімі справамі, вячэраюць і слухаюць музыку, гушкаюць дзяцей і рыхтуюцца да лекцый.

А Пётр, Алег, Валянціна і Аляксандр выйшлі на вахту. Яны хочуць, каб любімы горад адпачываў і спаў спакойна, каб нідзе не прагучаў крык жаху і роспачы, каб п'яны гуляка не плёснуў вам у твар бруднай лаянкай, каб...

Ды ці мала спраў у добраахвотных вартавых парадку. У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР вы ўбачыце на карціне чацвярых. А выйдзіце на вуліцу, прыгледзьцеся. Во ідзе група з чырвонымі павязкамі на рукавах, са значкамі дружыннікаў. А да гэтага дома пад'ехаў грузавік, і з кузава на асфальт выскокваюць хлопцы. Без павязак, без значкоў. Яны — з ініцыятыўнай групы...

## СЮЖЭТ НАРАДЗІЎСЯ ТАК

У абкоме партыі спрачаліся. Уладзімір Стальмашонак напісаў эскіз для новай карціны. Задума была нядрэнная: паказаць моладзь разам з Маякоўскім, і гэтым самым мастацкімі сродкамі перадаць еднасць поглядаў паэта рэвалюцыі і падрастаючага пакалення.

— Дык скажыце, у чым загана? — настойваў мастак.

— Заганы, зразумела, няма ніякай, — пераконвалі абкомаўцы. — Усё правільна. Але чаму вы, мастакі, як толькі хочаце паказаць гераізм, то заўсёды бераццёся за тэмы мінулага? Дзе сённяшні дзень?

— Тады падкажыце, дзе мне знайсці гераічнае? — не здаваўся Уладзімір Стальмашонак.

— У жыцці, — параіў сакратар абкома. Вазьміце хоць бы ініцыятыўную групу...

Назва мастаку не спадабалася: ініцыятыўная група па барацьбе за горад узорнага парадку пры Мінскім гаркоме партыі і гаркоме камсамола. Проза. А для карціны

трэба паэзія, узнёслась і, зразумела, рамантыка.

Але ўсё ж пайшоў. Раз, другі, трэці... Прыйшла нядзеля. Куды б сёння падацца? Можа, у оперны? Хацеў узяць газету, паглядзець, што там за спектакль. Але раздумаў. У памяці ўсплылі твары хлопцаў з ініцыятыўнай групы. Тады яны амаль не звярнулі ўвагі на мастака. Коратка пазнаёміліся, прыязна прапанавалі крэсла (у памяшканні іх было ўсяго тры) і далі яму поўную волю назіраць і рабіць заключэнні. Самі ж займаліся сваёй справай. Званілі, адказвалі на тэлефонныя званкі, запісвалі людзей у патрульныя групы. Адны кудысьці выходзілі, другія заходзілі. Прыводзілі і распытвалі нейкіх людзей. Пад акном фыркалі грузавікі. Было шумна, людна, але неяк па-дзелавому, без мітусні. І што заўважалася: ніхто ў пакоі не курыў, выходзілі на двор.

Мастак успомніў усё гэта, усміхнуўся і зноў пайшоў да нялаcкавых сяброў. Дамовіліся аформіць вітрыну з фотаабвінавачваннямі, напісаў плакат, хадзіў з групай па праспекце. Адзін вечар, другі... І пайшло, закруцілася. Часам нават пра карціну забываў. А як успамінаў, то пакутліва думаў, каго вылучыць, што адабраць? Ну, усе ж як на падбор! Характары, праўда, розныя, а справу робяць аднолькава: сціпла, спакойна, умела. Параіўся з хлопцамі. Тыя толькі плячыма паціскаюць, пераглядаюцца. Навошта, маўляў, ці ў нас так ужо цікава? За злачынцамі з пісталетамі не ганяемся, ніякіх зладзейскіх змоў не раскрылі. А ўрэшце, выбірай сам!

Кампазіцыя нарадзілася сама сабой. Павінна быць спакойная, дзелавая абстаноўка. І каб неяк паказаць, што горад у гэты час жыве сваім звычайным спакойным жыццём. І гэты спакой аберагаюць вось такія... Ну, хоць бы тэхнік інстытута народнай гаспадаркі студэнт-завочнік універсітэта Алег Жалняровіч, хлапчына амаль двухметровага росту. Хто ж яшчэ? Відаць, вось гэты светлавалосы баксёр, токар, шліфавальшчык, стругальшчык (усіх яго прафесій і не пералічыш) Пётр Клюеў. Падыходзіць і Саша Кручок, разважлівы і прыгожы студэнт-медык. І яшчэ трэба дзяўчыну, і каб яна была з чырвонай павязкай. Ну канешне ж, баявая Валя Пачценная са штаба народных дружын складзе разам з хлопцамі выдатную групу.

І вось у музеі вісіць гатовая карціна. А героі яе ў гэты час працуюць, вучацца, а вечарамі выходзяць на вахту. Кожны дзень здарэнні, сутыкненні, размовы з затрыманымі. І ў кожнага з іх свой лёс, свой характар, кожнаму трэба дапамагчы ўсвядоміць памылку і выправіць яе.

## ЧАЛАВЕК СТАНОВІЦЦА НА НОГІ

Быў работнік як работнік, а стаў... Ну, як назваць гэтага Мішку Артамонава? Кепачка блінам, касая чупрына навісае на вока, каўнер расхрыстаны. Хлопец не гаворыць, а цэдзіць словы праз зубы.

Сёння яго бачылі п'яным. Стаіць у магазіне, куражыцца. Людзі яго абыходзяць бокам, жанчыны спалохана захінаюць дзяцей. А Мішка абзывае прадаўшчыцу брыдкімі словамі і патрабуе гарэлкі. Сорамна нават прызнацца, што ён свой, з аўтамабільнага завода.

Назаўтра Мішка Артамонаў хадзіў з віхлястымі, абшарпанымі падлеткамі, шныраў між людзей, што стаялі ля трамвайнага прыпынку, цёрся ля касы магазіна.

А яшчэ праз дзень ён учыніў дзікую бойку.

Сабралі ўсе звесткі аб ім у адну папку — і ў дырэкцыю. І апынуўся Мішка за варотамі завода.

Прагледзелі хлопца. А можа яшчэ не позна зрабіць што-небудзь? Дружыннікі пайшлі да Мішкі. Той касавурыўся, не верыў.

— Што вы?! Чым вы паможаце? Супраць дырэктара ж не пойдзеце...

— А навошта супраць яго? — даводзілі хлопцы. — Гэта супраць цябе трэба. Ты ж нашкодзіў. Хоць давай паспрабуем вярнуць на завод.

І неўзабаве Артамонаў стаяў ля станка. Цяпер ужо з яго не спускалі вачэй. Пакутліва, з перажываннямі ламаў характар Мішка.

Цяпер Міхаіл Артамонаў стаў камсамольцам, ударнікам працы.

* * *

Алёшка Макарэвіч кінуў дом. Начаваў у люках каналізацыі, глядзеў на людзей ваўчанём і прыглядаўся, дзе б што «сцібрыць». Есці ж нешта трэба.

Яго заўважылі адразу. Але што рабіць з дванаццацігадовым хлапчанём? Прывесці ў дзіцячы пакой? А далей што? Гутаркі не памагаюць, спрабавалі гутарыць. Глядзіць, каб як уцячы.

Каму першаму прыйшла такая думка, цяпер яны ўжо не памятаюць. Але спадабалася яна ўсім: аддаць Аляксея на выхаванне брыгадзе камуністычнай працы Марыі Яфрэменкі з мотавелазавода. Хай будзе заўсёды пад наглядам, прывыкае да калектыву, да работы.

Ішоў час. Аляксей Макарэвіч стаў хадзіць у школу, спазнаў новыя радасці і пра валацужніцтва ўспамінае чырванеючы і апускаючы вочы долу. Сорамна.

* * *

Жыццё закруціла Рыту Буйніцкую. Яе сяброўкі з універмага наладжваюць дыспуты, спрачаюцца аб часе і аб сабе, а яна паторкае палачкай кашлатую галаву, улезе ў вузенькую стракатую спаднічку і на танцулькі. Ды каб музыка была замежная, каб з радыёлы, як сабакі, гаўкалі!..

Курыць пачала. І ўсё навокал здавалася ёй шэрым і пустым, як дым цыгарэты. Дакацілася да злачынства. У сваёй жа секцыі, у сваіх жа сяброўак украла з касы грошы.

Пагражаў суд, зняволенне. Што будзеш рабіць з гэтай дзяўчынай? Сапсаваць ёй жыццё? Вырашылі перавыхоўваць.

Доўгім, упартым было гэтае перавыхаванне. Уладкавалі працаваць паштальёнам, акружылі клопатамі. І раскрыліся ў Рыты вочы на жыццё, на працу, на дружбу і таварыскасць. Чалавекам стала.

## НА ПАРОЗЕ

Дзынкнуў тэлефон. Камандзір групы Адольф Пашкоў, перапытаўшы адрас: «Камсамольская, 11?», коратка загадаў:

— Уладзімір Халімоненка, з атрадам на машыну!

...У кватэры ўсё было перавернута дагары нагамі. Дванаццацігадовы Саша з нянавісцю глядзеў на бацьку і сціскаў пальцы ў кулакі.

— Так заўсёды, — дрыжачым голасам тлумачыў ён. — Паламае ўсё, пераверне, а маму паб'е.

— Чый нож?

— Яго, — кіўнуў галавой Саша. — А яшчэ ён маму ўдарыў сякерай. Гэта не сёння.

Шафёра дванаццатай аўтабазы Аляксея Піліпенку прывезлі ў штаб.

— Я выконваю план, — біў ён

**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



Барыс Льдокаў нарадзіўся ў 1929 годзе ў Новасібірску. У 1952 годзе закончыў Мінскае мастацкае вучылішча і тры гады працаваў мастаком-дэкаратарам у Дзяржаўным рускім тэатры ў г. Мінску. Потым паступіў вучыцца ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут і закончыў яго ў 1961 годзе.

Працуе ў мастацкім фондзе БССР.

кулаком у грудзі, — а астатняе вас не датычыць. Дома раблю, што хачу.

Сваю жонку Вольгу, бухгалтара фабрыкі імя Тэльмана, ён збіў толькі за тое, што яна затрымалася на сходзе.

— Я план даю, грошы прыношу, — не суніма́ўся забіяка, — а яна павінна дома быць. Ніякіх сходаў!

Высвятляецца, што Аляксей Піліпенка не толькі хуліган, а і закаранелы п'яніца. Да чаго дакаціўся чалавек: прапіў касцюмчык трохгадовай дачкі!

Што з ім рабіць, гэта штаб вырашыць сумесна з гаркомам партыі, з адміністрацыяй аўтабазы, з органамі міліцыі.

А пакуль трэба разбірацца вось з гэтым. Шафёр першага класа Уладзімір Шырко вызначаецца ваеннай выпраўкай, падцягнутасцю, залатазубай усмешкай і нахабствам. Ат, маўляў, прычапіліся блазнюкі! Не такі ўжо злодзей Шырко. Распіў бутэльку-другую гарэлкі ў буфеце. Іншыя піражныя, цукеркі ядуць, іх на салодкае цягне, а ў яго натура шырокая — хочацца падагрэць сябе. І Уладзімір Шырко выскаляецца:

— Што вы мне торкаеце ў нос законам. Самі яго не разумееце. Ну, скажыце, што законна, а што не?

— Вось што ты піў там, дзе не трэба, — гэта незаконна. А што будзеш пакараны — гэта і законна і справядліва. Парушаць парадак нікому не дазволім.

— Ха-ха-ха! — рагоча Шырко, і раптам рогат замірае на вуснах, і чалавек збянтэжана глядзіць на парог. Не чакаў, што тут можа апынуцца яго начальства. Думаў, пасмяецца, паабяцае выправіцца, а там зноў гуляй. І звяў Шырко, куды тая нахабнасць падзелася! Гэта ж усе будуць ведаць, таварышы цяпер судзіць яго стануць...

Дружыннікі часам і адпускаюць чалавека. Пад чэснае слова. Адпусцілі яны і Віктара Быкава, інжынера-гідратэхніка. Сядзелі адзін супраць другога, цераз стол — чалавек у гадах, навуковы супрацоўнік Віктар Быкаў і нядаўні армейскі шафёр юнак Адольф Пашкоў. І праўда была на баку Адольфа. Чырванеў інжынер, слухаючы бязлітасную крытыку ў свой адрас. Яго не дакаралі, а патрабавалі заўсёды, у любых умовах не траціць годнасць савецкага чалавека. І Быкаў на развітанне паабяцаў:

— Калі і прыйдзецца яшчэ раз пераступіць ваш парог, то толькі каб сказаць дзякуй.

Не ўсе кажуць дзякуй. Хто-ніхто затойвае злосць, пагражае адпомсціць. Ды ці запалохаеш такіх хлопцаў, як Юра Елеў, Роберт Касарэўскі і іх сябры. Не. Яны вымятаюць смецце з нашага вялікага сацыялістычнага горада.

У ініцыятыўнай групе пакуль што пяцьдзесят чалавек. А стане больш. Паядынак працягваецца, жорсткі і справядлівы паядынак — з усім тым, што перашкаджае нам жыць, адпачываць, весяліцца, што зацямняе святло нашай рэчаіснасці, блытаецца пад нагамі, імкнецца перашкодзіць нам узводзіць светлы будынак камунізма, абрысы якога яшчэ ярчэй сталі бачнымі пасля гістарычнага XXII з'езда партыі.

**Б. СТРАЛЬЦОЎ.**



**Загадчык кафедры фізікі і матэматыкі Канстанцін Уладзіміравіч Клубовіч** (злева) **дае чарговую кансультацыю выкладчыкам «сельфака» Чаславе Хільмановіч і Івану Саені.**
Фота **Я. Краўчанкі.**

# СЕЛЬФАКАЎЦЫ

Перад ёю тады стаяла адно пытанне: як быць далей? Звычайнае пытанне дзесяцікласніка да жыцця. Люба ўздыхнула.

«Эх, на агранамічны б!» Але ўнутраны голас адразу ж паклаў канец ілюзіям: «У цябе па фізіцы тройка, па хіміі — тройка». «Так, але ж гэтыя прадметы мне проста не даваліся». «Так яно і ёсць, але ўсё роўна крыўдуй на сябе».

Ішла па полі і ўсё думала, думала. І не было прасвету ў яе сумных думках, як у шэрым хмарным небе над галавой.

«А можа ўсё ж рызыкнуць? Не. Правалішся — засмяюць у вёсцы. Завочна? Так вучацца Леаніда Чычкан, Глафіра Гацко і нават старшыня калгаса Іван Рыгоравіч»...

Свежы з халаднаватымі, не майскімі кроплямі дажджу сустрэчны вецер шумеў у вушах: «Ты яшчэ маладая, папрацуй, павучыся...»

Лёгка сказаць — павучыся.

Іван Рыгоравіч Пахалок, чалавек пажылы і разважлівы, як быццам адгадаў яе думкі. Ён паклікаў яе да сябе і сказаў:

— Набірай сабе звяно і папрацуй. А потым вучыцца пойдзеш.

Падабрала сябровак і ў першы ж год вырасціла з імі такі ўраджай дагунцу, што ўсе зайздросцілі. У наступным годзе ўзялі на «пробу» некалькі гектараў кукурузы. І з ёю паладзілі. Многае даведалася за гэтыя два гады аб няхітрай на першы погляд, але тонкай і цяжкай рабоце льнавода Люба Крывапуст. Працавала і марыла, а ў вольныя гадзіны зноў і зноў бралася за школьныя падручнікі. У каторы раз усё спачатку. Ох, і цяжка ж!

— Не адной табе цяжка, — гаварыў пры сустрэчах Іван Рыгоравіч. — Ведаеш, колькі я ўчора біўся над адным пытаннем? Амаль што да першых пеўняў. Вось як! Давай сёлета паступай у інстытут.

— Баюся, Рыгоравіч... Здаецца, усё як след вывучыла, а боязна.

Сяброўкі таксама гаварылі:

— Люба, давай паступай ужо.

Ты ж славутая ў раёне звеннявая. Цяпер такім зялёная вуліца ў інстытуты. Іван Рыгоравіч рэкамендацыю дасць. Нават калі і на тройкі сдасі, усё роўна прымуць.

— Ні за што!

— Ну і дзівачка.

— Няхай будзе так, але скідкі не хачу.

— Гонар заядае, так? Ну што ж, працягвай зубрыць сваю хімію.

* * *

Прыйшла неяк Люба з работы, бачыць — на стале выклік у райком камсамола. Падумала: зноў на якую-небудзь нараду. Але не. Сакратар райкома, распытаўшы аб справах у звяне, сказаў:

— Чуў, ты ў сельскагаспадарчы інстытут хочаш паступіць?

Насмешка?.. Люба прыжмурыла вочы.

— Ну і што ж, калі хачу? Нельга, ці што?

— Дзівачка... Справа вось якая. Пры Інстытуце сельскай гаспадаркі ў Гродна будзе працаваць спецыяльны факультэт, падрыхтоўчы. За тры месяцы цябе там так падвучаць, што і ў акадэмію экзамен вытрымаеш. Так што едзь, са старшынёй я ўжо гаварыў. Згодзен, толькі прасіў слова з цябе ўзяць: станеш аграномам — назад у калгас. Даеш такое слова?

— Вядома.

Неўзабаве Люба ўкладвала ў чамадан падручнікі. І ўсё ж сумненні не пакідалі яе, як і многіх іншых, што пераступілі ў тыя дні парог Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута. Іх, крыху нясмелых юнакоў і дзяўчат з падрыхтоўчага факультэта, мог адрозніць ад студэнтаў бадай усякі. Трымаліся яны ў першы час неяк асобна. Стаяў, падпёршы плячом калону, Валодзя Губар, механізатар са смаргонскага калгаса «Барацьбіт за мір», і глядзеў на ўсіх здзіўленымі вачыма, раз-пораз адкідваючы з ілба пасму непаслухмяных валасоў. Потым прыехала Зіна Байздэр, лепшая даярка з мастоўскага калгаса «Савецкая Беларусь», дэмабілізаваны салдат з калгаса імя Жданава Навагрудскага раёна Леанід Гушча, шафёр з саўгаса «Поразаўскі» Раман Шалкевіч, звеннявы па кукурузе з «чужой» вобласці — з сельгасарцелі імя Куйбышава Жыткавіцкага раёна — Іван Шакалян.

Прыязджалі, паступова збіраліся ў невялікія групкі, дзяліліся сваімі неспакойнымі думкамі. Неўзабаве з'ехалася амаль дзевяноста чалавек. Камендант інстытута, дабрадушны Мікалай Парфір'евіч Крукоўскі, ветліва сустракаў кожнага і вёў у загадзя падрыхтаваныя пакоі інтэрната.

Дзевяноста хлопцаў і дзяўчат з нецярплівасцю чакалі першага дня заняткаў. І вось аднойчы раніцай у інтэрнат прыйшоў вясёлы хлопец у гімнасцёрцы.

— Будзем знаёмы. Я — дэкан падрыхтоўчага факультэта. Маё прозвішча — Севасцьяновіч. Зваць — Васіль. Заўтра ў дзевяць усім сабрацца ў дзевятай аўдыторыі. Пачнем вучыцца. Ясна?

Вядома, многае яшчэ было незразумелым для навічкоў. Але адно было вельмі ясна: прынялі іх добра, усё стараюцца зрабіць так, каб ім было лепш. Што ж больш трэба!

Так пачаў свой першы год работы «сельфак» Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута.

### А з'явіўся сельфак вось як...

Неяк вясной у госці да «сельскагаспадарнікаў» зайшлі студэнты пэдінстытута на чале з сакратаром камсамольскай арганізацыі Славам Брыкач. Замітусіліся хлопцы, прыбіраючы ў пакоі, запрашаючы дзяўчат садзіцца.

— Ды мы да вас па справе, не старайцеся, — усміхаліся дзяўчаты. — Справа, хлопцы, вось якая... Мы вырашылі стварыць пры сваім інстытуце няштатны факультэт.

І пачалі расказваць.

Не сакрэт, што, працуючы на вытворчасці, былыя дзесяцікласнікі паступова забываюць школьную праграму, а потым многія зразаюцца на экзаменах пры паступленні ў інстытуты. А гэта ж людзі з вытворчай загартоўкай, будучыя выдатнікі! Таму студэнты педінстытута вырашылі адкрыць для дзесяцікласнікаў, што працуюць на вытворчасці, трохмесячныя падрыхтоўчыя курсы на грамадскіх пачатках. Выкладчыкамі там будуць самі студэнты і, ясная справа, толькі выдатнікі. Ну як, падабаецца «сельскагаспадарнікам» такая ідэя?

— Хлопцы! — загарэліся вочы ў Косці Хмурца. — На самай справе, гэта ж добрая ідэя! Колькі такіх хлопцаў і дзяўчат у калгасах і саўгасах! Тут, у горадзе, яшчэ можна пайсці ў вячэрнюю школу, а ў вёсцы не ўсюды ўдаецца. Па сабе ведаю... Памятаю, прыйшоў з арміі, дык, ведаеце, як даводзілася карпець над падручнікамі? Усё сам і сам. Не ведаю, што б тады аддаў, толькі б хто памог...

Усе зашумелі:

— Малайцы, прыдумалі! Вельмі нават цудоўна! Трэба пагаварыць з дэканам. Нашы таксама, напэўна, згодзяцца.

Слава Брыкач, не адкладваючы справу на доўгі тэрмін, сказаў:

— Дык мы да вас вось з якою прапановай: вы нам дасце сваіх хімікаў і фізікаў, а мы вам — сваіх лепшых літаратараў, «немцаў» і «англічан». Згода?

— Вядома! — больш за ўсіх актыўнічаў Косця Хмурэц. — Вось толькі як быць з памяшканнем?

— У нас, у педагагічным, дэканат знайшоў... Сталых аўдыторый, вядома, не будзе. Але гэта — паўбяды.

Слова ўзяў Васіль Севасцьяновіч:

— Я таксама канкрэтна. Ты, Косця, будзеш чытаць хімію. Аляксей Камінскі — фізіку... Іван Часноўскі пойдзе на «рабфак»...

Пачалі лічыць выдатнікаў. Данута Ратушная, Вера Скрыбец, Валодзя Кохан, Вася Кашуй, Іван Савеня... Словам, набралася і для суседзяў, і для сябе.

Калі «педагогі» пайшлі, хлопцы правялі першае неафіцыйнае пасяджэнне дэканата. Першым «дэканам» быў аднагалосна выбран Васіль Севасцьяновіч. А каго ж яшчэ? Ён — афіцэр запасу, выдатнік, член партыі. Яму і карты, як кажуць, у рукі.

**Калі Уладзімір Губар (у цэнтры) быў сельфакаўцам, яму дапамагалі вывучаць хімію Лявон Якубовіч і Мікалай Ануфрэйчык. Цяпер былы механізатар дапамагае ім вывучаць трактар.**





Цяперашні дэкан «сельфака» І. Якубовіч.

Фота **В. Хліманава.**

Засталося невысветленым адно пытанне: як паведаміць людзям аб існаванні «сельфака»? Вырашылі параіцца ў абкоме партыі. Дамовіліся так: абком пашле ў кожны райком камсамола пісьмы з просьбай падабраць былых дзесяцікласнікаў, якія працуюць на вытворчасці і маюць патрэбу ў дапамозе студэнтаў.

Райкомы хутка адклікнуліся на гэтую просьбу. Актыўны ўдзел у стварэнні «сельфака» прынялі і выкладчыкі. Загарэліся разам з хлопцамі гэтай ідэяй загадчык кафедры хіміі дацэнт Валянцін Аляксеевіч Семакоў, загадчык кафедры фізікі і матэматыкі Канстанцін Уладзіміравіч Клубовіч, загадчык кафедры замежных моў Георгій Мелітонавіч Найдарашвілі, выкладчык Наталля Барысаўна Талстова. Разам са студэнтамі яшчэ раз прадумалі праграму вучобы. Словам, да прыезду гасцей з калгасаў і саўгасаў усё было гатова.

І тады з'явіліся ў інстытуце Люба Крывапуст, а за ёю — дзесяткі тых, хто шукае ведаў, з удзячнасцю думаючы аб бескарыслівых сэрцах студэнтаў-энтузіястаў.

* * *

Мінула тры поўныя клопатаў і хваляванняў месяцы.

Тры месяцы на «сельфаку» то ў адной, то ў другой аўдыторыі слухачы з падрыхтоўчага факультэта рашалі задачы па хіміі і фізіцы, вывучалі мовы, успаміналі забытае. А хто чаго не разумеў, ім тлумачылі да таго часу, пакуль няяснае рабілася простым і зразумелым.

І вось, нарэшце, закончыўся апошні ўрок. Як самі калісьці, хвалюючыся, чакалі студэнты-выкладчыкі разам з Васілём Севасцьяновічам вестак з пакоя, дзе ішлі прыёмныя экзамены.

— Ну, як там нашы? Не зрэжуцца? — непакоіліся хлопцы, паглядаючы ў замочную шчыліну.

Сарамліва ўсміхаючыся, выйшла ўсхваляваная Люба Крывапуст. Хлопцы кінуліся да яе:

— Ну як, Люба?

— Здаецца, здала...

Паглядзелі ў экзаменацыйны ліст і ўздыхнулі з палёгкай: нават па хіміі чацвёрка.

Парадавала камісію сваімі ведамі Зіна Байздэр. Здаў усе экзамены Леанід Гушча. Усе дзяўчаты і хлопцы з падрыхтоўчага вытрымалі экзамены без нацяжак, без скідак. Пяцьдзесят сем чалавек былі залічаны студэнтамі ў гэты ж інстытут. Астатнія падалі заявы ў іншыя ВНУ і там не падвялі свой «сельфак».

* * *

Потым здарылася непрадбачанае сельфакаўцамі: паслалі старшынёй у калгас «Запаветы Ільіча» Астравецкага раёна Васіля Севасцьяновіча.

Ад'язджаючы, Севасцьяновіч сабраў увесь дэканат і выступіў з кароткай прамовай.

— Дык вось, таварышы, еду. Глядзіце, даражыце гонарам сельфака...

Васіль гаварыў крыху ўрачыста, відаць, наўмысна, каб утаіць горач расстання з сябрамі.

— Што я хачу папрасіць вас, хлопцы... Вам, вядома, прыйдзецца выбіраць іншага дэкана... Як хочаце, а я параіў бы Ваню Якубовіча. Ён хлопец добры.

Усе згадзіліся: быць новым «дэканам» Ваню Якубовічу.

У мінулым годзе вучоба на сельфаку ўжо ішла пад яго кіраўніцтвам. Пяцьдзесят восем чалавек займалася на ім і пяцьдзесят два з іх, паспяхова здаўшы экзамены, засталіся студэнтамі Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута.

* * *

Мы ідзём з Ванем Якубовічам і гаворым аб справах сельфакаўцаў. Ваня, як заўсёды, дзелавіты, сканцэнтраваны, расказвае з захапленнем аб лёсе некаторых выпускнікоў свайго «факультэта». Многія з іх ужо на трэцім курсе і хутка стануць аграномамі, заатэхнікамі, паедуць у свае калгасы і саўгасы. А як жа, яны атрымліваюць калгасныя стыпендыі!

Некаторыя з былых слухачоў падрыхтоўчага факультэта сталі самі «выкладчыкамі» на сельфаку, вучаць іншых. Чытае хімію на падрыхтоўчых курсах і брат Вані Якубовіча Леанід, у нядаўнім мінулым трактарыст саўгаса «Рачкавічы».

— Малайцы нашы хлопцы, — гаворыць Ваня. — Вы б паглядзелі, з якім жаданнем, з якой адказнасцю вучаць яны іншых. Ого, цяпер стаць выкладчыкам сельфака не так ужо і проста. Для гэтага трэба вучыцца на круглыя пяцёркі!

... Мы паволі ішлі па цеснаватых вуліцах Гродна. Было сонечна і не па-асенняму цёпла.

У тыя дні далёка ад Гродна, у Маскве, адбываліся пасяджэнні XXII з'езда нашай партыі, і старажытны горад быў упрыгожаны лозунгамі і кумачовымі сцягамі: гродзенцы рапартавалі з'езду аб сваіх працоўных поспехах.

Рапартавалі будаўнікі азотна-тукавага камбіната: важныя аб'екты будоўлі здадзены раней тэрміну. Рапартавала дэлегатка з'езда, брыгадзір калгаса «Расія» Марыя Вачынская: сабрана з кожнага гектара пасеваў па 700 цэнтнераў цукровых буракоў.

Усё для сямігодкі — і рукі, і гарэнне сэрцаў, і творчая думка. Таму не засталіся ў баку і гэтыя дзяўчаты і хлопцы з «сельфака». Яны аддалі Радзіме, што маглі: свае веды, бескарыслівa аддалі тым, хто разам з імі будуе камунізм. А гэта і ёсць тое, што мы называем парасткамі камуністычнай маралі. І гэта вельмі добра! Гэта патрэбна нашай партыі, гэтага патрабуе яе новая праграма, рашэнні XXII з'езда, сапраўды грандыёзныя і захапляючыя.

**В. ХЛІМАНАЎ,**
**М. ГРЫГОР'ЕЎ**

# ПРЫГАЖОСЦЬ МАТЭМАТЫКІ

Некаторыя ўяўляюць матэматыкаў сумнымі людзьмі, якія валодаюць вялікім запасам формул і карыстаюцца імі пры неабходным выпадку, а матэматыку — як навуку сухую, адарваную ад жыцця. На самай справе гэта далёка не так. Усё наша жыццё ў большай ці меншай меры звязана з матэматыкай. Людзі будуюць дамы і машыны, гіганцкія электрастанцыі, шукаюць карысныя выкапні, з велізарнай хуткасцю перасякаюць кантыненты і акіяны, пранікаюць у таямніцы атама, штурмуюць сусвет — і ўсё гэта робіцца з дапамогай матэматыкі.

Карабель атрымаў прабоіну ў падводнай частцы. Што трэба зрабіць, каб выратаваць яго? На першы погляд здаецца, што трэба перш за ўсё адпампаваць ваду, якая набіраецца праз адтуліну. Напэўна, для гэтага спатрэбяцца магутныя помпы, якіх на караблі няма.

Вядомы матэматык А. М. Крылоў (1863—1945), які займаўся тэорыяй караблебудавання, прапанаваў у такім выпадку зрабіць інакш. У падводнай частцы карабля ёсць адсекі, размешчаныя з левага і правага боку. Калі здарылася прабоіна ў нейкім адсеку і ён запаўняецца вадою, то гэта выклікае крэн карабля. Каб карабель не перавярнуўся, Крылоў прапанаваў затапляць адпаведныя адсекі з супрацьлеглага боку. Затапленне трэба рабіць з належнай асцярожнасцю, па адпаведнаму разліку, які і прапанаваў матэматык.

Варта заўважыць, што метад Крылова сустрэлі варожа карабельныя інжынеры царскай Расіі. За крытыку іх Крылоў нават атрымаў вымову ў загадзе па флоту. Толькі пасля Цусімы тэорыя Крылова стала прымяняцца ў практыцы караблебудавання.

Асабліва шырока карыстаюцца матэматыкай «дакладныя навукі» — механіка, фізіка, астраномія, а таксама хімія. Іх прагрэс нельга сабе ўявіць у адрыве ад матэматыкі. З другога боку, запатрабаванні гэтых навук аказваюць спрыяльны ўплыў на развіццё матэматыкі. Важнае прымяненне яна знаходзіць і ў іншых навуках.

Без матэматыкі немагчыма і ўся сучасная тэхніка. Ні адно тэхнічнае ўдасканаленне не абыходзіцца без матэматычных разлікаў і тэарэтычных даследаванняў.

У сярэдзіне мінулага стагоддзя праз Атлантычны акіян быў пракладзены першы тэлеграфны кабель. Спачатку ён дзейнічаў вельмі дрэнна, азбука Морзе перадавалася ў выглядзе мноства знакаў, якія цяжка было разабраць. Здавалася, мільёны фунтаў стэрлінгаў былі пахаваны на дне акіяна беззваротна. Англійскі матэматык і фізік В. Томсан (1824 — 1907), да якога звярнуліся з гэтым пытаннем, правёў адпаведныя разлікі, і яны паказалі, што трэба зрабіць, каб кабель дзейнічаў спраўна.

На аснове матэматычных разлікаў у 1846 годзе была адкрыта планета Нептун, адна з самых далёкіх планет у сонечнай сістэме. Аналізуючы няправільнасці руху планеты Уран, астраномы Адамс і Левер'е прыйшлі да заключэння, што гэтыя няправільнасці выклікаюцца прыцягненнем іншай планеты. На аснове законаў механікі і закону прыцягнення Левер'е вылічыў, дзе тая планета павінна знаходзіцца. Назіральнік, якому паведамілі аб выніках вылічэння, убачыў праз тэлескоп яе іменна там, дзе ўказаў астраном.

Кожны чалавек у наш час шырока карыстаецца радыё. У адкрыцці яго вялікую ролю адыгралі вынікі чыста матэматычнага вываду. Гэта было так. Англійскі фізік Максвел, абагульняючы доследным шляхам законы электрамагнітных з'яў, выразіў іх з дапамогай ураўненняў. З іх ён чыста матэматычным шляхам давёў, што могуць існаваць электрамагнітныя хвалі і што яны павінны распаўсюджвацца з хуткасцю святла. Вывад Максвела штурхнуў вучоных на пошукі электрамагнітных хваляў электрычнага паходжання. Такія хвалі сапраўды былі адкрыты нямецкім вучоным Герцам. Наш суайчыннік А. С. Папоў знайшоў сродкі ўзбуджэння, перадачы і прыёму электрамагнітных ваганняў, вызначыў галіну іх практычнага прымянення і паклаў пачатак усёй радыётэхніцы.

У сярэдзіне XIX стагоддзя, калі пачалі ўзнікаць вялікія і магутныя паравыя машыны, на парадак дня было пастаўлена пытанне аб паляпшэнні спосабаў перадачы руху ад поршня рухавіка да рабочай машыны. Механізмы, якія існавалі тады для гэтай мэты — паралелепіпеды — мелі сур'ёзныя недахопы, якія прыводзілі да хуткага зносу машын. Гэтае пытанне захапіла славутага рускага матэматыка П. Л. Чэбышава. Рашаючы сваю задуму, Чэбышаў распрацаваў новы метад, які з'явіўся вытокам новай галіны матэматыкі — тэорыі набліжэння функцый. Гэтая тэорыя ўзмоцнена развіваецца і ў наш час, яна адыгрывае важную ролю ў вылічальнай матэматыцы, значэнне якой цяжка пераацаніць.

Як вядома, развіццё новых галін матэматыкі выклікаецца патрэбамі практыкі. Сувязь тэорыі і практыкі — неабходная ўмова як для развіцця тэорыі, так і для ўдасканалення практыкі. Гэтую сувязь, вядома, нельга ўяўляць спрошчана і разглядаць матэматыку як зборнік формул і правіл для вырашэння вялікага кола задач. Матэматыка мае таксама свае ўнутраныя пытанні, яна развіваецца дзякуючы сіле логікі самога яе прадмета.

Асноўныя паняцці матэматыкі ўзніклі з практыкі, яны запазычаны з навакольнай рэчаіснасці. Да такіх паняццяў адносіцца паняцце ліку, фігуры, велічыні і шмат іншых. Некаторыя паняцці ўзніклі ўнутры самой матэматыкі, у працэсе яе развіцця. Напрыклад, уяўныя лікі з'явіліся на свет у алгебры, у выніку неабходнасці рашэння ўраўненняў віду $x^2=a^2$. Доўгі час рэальны сэнс уяўных лікаў заставаўся незразумелым. Аднак пасля таго, як ім было дадзена геаметрычнае тлумачэнне, уяўныя лікі трывала ўмацаваліся ў матэматыцы. З'явілася новая галіна матэматыкі — тэорыя функцый комплекснай пераменнай. Гэтая тэорыя стала рэальным сродкам для вырашэння шмат якіх пытанняў тэхнікі, напрыклад, пытання аб прасочванні вады пад плацінамі. З дапамогай гэтай тэорыі даказана асноўная тэарэма аб пад'ёмнай сіле крыла самалёта. Доказ тэарэмы даў М. Я. Жукоўскі (1847—1921), якога У. І. Ленін назваў бацькам рускай авіяцыі. Творчасць М. Я. Жукоўскага з'яўляецца ўзорам паспяховага прымянення матэматыкі да разнастайных і важных праблем практыкі. Між іншым, Жукоўскі яшчэ ў 1898 годзе сказаў: «Чалавек не мае крылляў



**Б. Льдокаў. Мора кліча.**



**У. Стальмашонак. Вечарам.** З рэспубліканскай мастацкай выстаўкі 1961 года.



«Каралева балю» — выкладчыца школы-інтэрната Таміла Норкіна.

Залатая восень

Залатая восень — назвалі сваё свята працаўнікі палескага калгаса «Расія», што знаходзіцца ў пасёлку Целяханы Лагішынскага раёна. У Доме культуры сабраліся майстры высокіх ураджаяў, перадавікі жывёлагадоўлі, механізатары. У госці да іх прыйшлі лепшыя людзі Целяханскага дрэваапрацоўчага камбіната, прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі. Падводзячы вынікі года, калгаснікі расказвалі, як яны выконвалі свае высокія абавязацельствы, як мяркуюць у далейшым удасканальваць працу, каб яна была дастойна вялікай эпохі будаўніцтва камуністычнага грамадства. Тут жа была адкрыта выстаўка, на якой плён калгаснай працы суседнічаў з прадметамі вытворчасці камбіната. Адбыўся вялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці, які ператварыўся ў баль.

Удзельніцы канцэрта даяркі Надзежда Дзягцярык і Надзежда Саўчук, якія выканалі вясёлыя частушкі аб сваім жыцці.





Баль у разгары.

Нацюрморт з выстаўкі.

Фота А. Дзятлава.



і ў адносінах вагі свайго цела да вагі мускулаў у 72 разы слабейшы за птушку... Але я думаю, што ён паляціць, абапіраючыся не на сілу сваіх мускулаў, а на сілу свайго розуму».

Сёння кожны бачыць, якія гэта прарочыя словы. На крылах свайго розуму чалавек не толькі ўзняўся над зямлёй, але і пранік у касмічную прастору.

Геаметрыю, якую мы вывучаем у сярэдняй школе, упершыню ў стройным лагічным выглядзе выклаў вядомы грэчаскі вучоны Эўклід яшчэ ў III стагоддзі нашай эры. У сваёй вялікай працы «Пачаткі» ён на аснове аксіёматычнага метаду пабудаваў элементарную геаметрыю. Доказы ўсіх тэарэм грунтаваліся на аксіёмах (меркаваннях, якія прымаюцца без доказу) і на выніках папярэдніх тэарэм. Сярод іх была і аксіёма аб паралельных, якую ў больш познія часы матэматыкі спрабавалі даказаць (і не выключаць яе з ліку аксіём). У аксіёме аб паралельных гаворыцца, што праз адну кропку, якая не ляжыць на дадзенай прамой, можна правесці толькі адну прамую, якая не перасякае дадзеную. Нягледзячы на тое, што гэтыя спробы рабіліся вядомымі вучонымі, доказ аксіёмы не ўдалося атрымаць. Геніяльны рускі матэматык М. І. Лабачэўскі (1792—1857) у пачатку сваёй навуковай дзейнасці таксама імкнуўся даказаць аксіёму аб паралельных. Пацярпеўшы няўдачу, ён выпрашыў увесці новую аксіёму, якую называюць цяпер аксіёмай Лабачэўскага. У ёй сцвярджалася, што праз адну кропку па-за прамой можна правесці па меншай меры дзве прамыя, якія не перасякаюць дадзеную. На аснове атрыманай сістэмы аксіём Лабачэўскі развіў новую геаметрыю, якая адрозніваецца ад геаметрыі Эўкліда і называецца цяпер геаметрыяй Лабачэўскага. Сам матэматык называў яе «ўяўнай», бо не мог указаць яе рэальнага прымянення, хоць і быў упэўнены, што такое прымяненне знойдзецца. Вывады яго геаметрыі многім здаваліся не толькі «ўяўнымі», але нават проста бязглуздымі. Тым не менш, гэтыя ідэі паклалі пачатак новаму развіццю геаметрыі, стварэнню тэорый розных неэўклідавых прастораў, потым яны паслужылі адной з асноў агульнай тэорыі адноснасці.

У сярэдняй школе вучні знаёмяцца з невялікай галіной матэматычнай навукі — з элементарнай матэматыкай. Аднак сілу і прыгажосць матэматыкі як навукі цяжка ўявіць, калі не пазнаёмішся з вышэйшай матэматыкай.

Вялікае значэнне ў практыцы маюць так званыя экстрэмальныя задачы — гэта задачы, рашэнне якіх зводзіцца да пошукаў найбольшых і найменшых значэнняў. Да іх адносяцца, напрыклад, наступныя задачы: 1. З квадратнага ліста бляхі з бокам А, выразаючы па вуглах роўныя квадраты і згінаючы краі, складаюць роўны прамавугольны карабок. Якім чынам атрымаць карабок з найбольшай умяшчальнасцю? 2. З усіх прамавугольных паралелепіпедаў, якія маюць суму трох вымярэнняў, роўную зададзенаму ліку А, знайсці той, аб'ём якога найбольшы.

Спосабы рашэння падобных задач з дапамогай элементарнай матэматыкі будуць даволі складаныя, а некаторыя з іх нельга зусім рашыць элементарнымі метадамі. Своеасаблівыя і хітрыя прыёмы ў такіх выпадках будуць лішнія, калі карыстацца дыферэнцыяльным вылічэннем, гэта значыць, вучэннем аб вытворнай і яе прымяненнях. Пад вытворнай у матэматыцы разумеецца мяжа адносіны прырошчвання функцыі да прырошчвання аргумента, калі апошняе імкнецца да нуля (прырошчванне пераменнай — розніца між двума яе значэннямі).

Вытворная дадзенай функцыі ў дадзенай кропцы (пры зададзеным значэнні аргумента) роўна тангенсу вугла нахілу датыкальнай да графіка гэтай функцыі ў адпаведнай кропцы. Адсюль вынікае магчымасць пабудовы датыкальнай да любой крывой у любой яе кропцы (у сярэдняй школе вучні могуць пабудаваць датыкальную да адзінай крывой — акружнасці). Пры пераходзе ад аднаго значэння аргумента да другога атрымліваюць і другое значэнне вытворнай. Выходзіць, што вытворная ўяўляе сабой некаторую функцыю аргумента. Энгельс некалі пісаў: «Паваротным пунктам у матэматыцы была Дэкартава пераменная велічыня. Дзякуючы гэтаму, у матэматыку ўвайшлі рух і дыялектыка, і дзякуючы гэтаму ж стала зараз жа неабходна дыферэнцыяльнае і інтэгральнае вылічэнне. Дыферэнцыяльнае вылічэнне дае прыродазнаўству магчымасць адлюстроўваць матэматычна не толькі стан, але і працэсы: рух».

Вучням добра вядома, якімі цяжкімі з'яўляюцца доказы формул для плошчаў паверхняў і аб'ёмаў колькі-небудзь складаных фігур. Шмат пакут даводзіцца мець з формуламі аб'ёмаў піраміды, конуса, шара, паверхні шара. Асабліва непрыемна, што для вываду кожнай з гэтых формул карыстаюцца рознымі прыёмамі. Метад, з дапамогай якога вызначаецца плошча круга, — адзінай крывалінейнай фігуры, з якой знаёмяцца ў школе, — не дае паняцця аб тым, як рашаць такія задачы. Але варта азнаёміцца ўсяго з пачаткамі інтэгральнага вылічэння, як стане вядома, што плошча фігур, абмежаваных крывымі лініямі, вылічаецца аднастайным і простым спосабам, з дапамогай адпаведных інтэгралаў.

Пры даследаванні розных працэсаў і з'яў важнае прымяненне знаходзяць дыферэнцыяльныя ўраўненні — ураўненні, якія звязваюць незалежную пераменную функцыю, якую шукаюць, і яе вытворныя. Рашэннем дыферэнцыяльнага ўраўнення з'яўляецца пэўная (пры некаторых дадатковых дадзеных) функцыя, якая характарызуе закон праходжання адпаведнага працэсу і з'явы. З дапамогай дыферэнцыяльнага ўраўнення параўнаўча проста запісваюцца законы руху нябесных цел пад уздзеяннем сусветнага прыцягнення, заканамернасці работы радыётэхнічных схем, заканамернасці размеркавання напружанняў у розных механічных канструкцыях і г. д. Распрацоўка метадаў рашэння розных класаў дыфэрэнцыяльных ураўненняў з'яўляецца адной з асноўных задач, якія ставяць перад матэматыкай прыродазнаўства і тэхніка.

У сучасны момант адкрываюцца неабмежаваныя магчымасці для прымянення матэматыкі. Наша эпоха — час бурнага развіцця прамысловасці, час разнастайных выключнай важнасці навуковых даследаванняў, пачатак эры касмічных палётаў. З кожным годам, з кожным днём імкліва расце колькасць самых разнастайных матэматычных задач, якія належыць абавязкова вырашыць. Ад гэтага залежыць поспех і тэмпы далейшага развіцця шмат якіх галін навукі і тэхнікі.

З дапамогай вывадаў сучаснай матэматычнай тэорыі ў прынцыпе можна рашаць самыя разнастайныя задачы. Аднак прынцыповай схемы рашэння яшчэ недастаткова, калі жадаюць атрымаць адпаведны лічбовы вынік. Пры рашэнні некаторых важных практычных задач неабходна праводзіць вялікую колькасць арыфметычных дзеянняў (дзесяткі і нават сотні мільёнаў). Караблебудаўнічыя разлікі, разлікі, звязаныя з пабудовай плацін вялікіх электрастанцый, займаюць месяцы або нават гады работы спецыяльных вылічальных бюро. Шмат часу трацяць і на вылічэнні для прадказання надвор'я, што зусім непажадана, бо звесткі спазняюцца і трацяць сваю актуальнасць.

Усё гэта прывяло да неабходнасці ўдасканальваць машынную вылічальную тэхніку. З'явіліся электронныя вылічальныя машыны, якія поўнасцю вызваляюць чалавека ад цяжкай механічнай работы і паскараюць вырашэнне актуальных праблем навукі і тэхнікі.

Вядома, што гэта галіна прымянення вылічальных машын з'яўляецца першай, але далёка не апошняй. Часта вылічальныя машыны падключаюцца да прыбораў, якія кіруюць аўтаматычна тым ці іншым працэсам. Калі кіраванне хуткім працэсам патрабуе складаных вылічэнняў, што грунтуюцца на дадзеных, атрыманых у ходзе гэтага працэсу, то без хуткасных вылічальных машын такую задачу наогул ажыццявіць нельга.

У развіццё матэматычнай навукі вялікі ўклад унеслі рускія і савецкія матэматыкі. Вучоныя нашай

краіны дасягнулі вялікіх поспехаў, па многіх галінах матэматыкі нам належыць вядучае месца ў свеце.

У Савецкім Саюзе, а таксама і за рубяжом шырока вядомы імёны нашых матэматыкаў-акадэмікаў П. С. Аляксандрава, М. У. Келдыша (цяперашні прэзідэнт Акадэміі навук СССР) А. М. Калмагорава, М. А. Лаўрэнцьева, А. І. Манцава, П. С. Новікава, І. Г. Пятроўскага, У. І. Смірнова, С. Л. Собалева і многіх іншых. Паспяхова праяўляе сябе ў матэматыцы і наша таленавітая моладзь.

У апошняе дзесяцігоддзе ўзмоцнена развіваецца матэматыка і ў нашай рэспубліцы. У Беларусі працуюць вядомыя вучоныя, акадэмікі АН БССР М. П. Яругін, і В. І. Крылоў, член-карэспандэнт Д. А. Супруненка і другія.

Не трэба думаць, што ў матэматыцы цяжэй, чым у іншых навуках, зрабіць што-небудзь новае. Маладыя матэматыкі часта з поспехам спаборнічаюць з вядомымі вучонымі. Сюды можна аднесці і задачы, якія на першы погляд здаюцца недаступнымі, асабліва калі ўлічыць, што імі без поспеху займаліся відныя вучоныя.

«Для геаметра матэматыка, — пісаў вядомы матэматык і механік А. Н. Крылоў, — сама па сабе ёсць канчатковая мэта, для інжынера — гэта ёсць сродак, гэта... інструмент такі ж, як штангель, зубіла, напільнік для слесара ці паўсажань, сякера і піла для цесляра. Інжынер павінен па сваёй спецыяльнасці ўмець валодаць сваім інструментам, але ён зусім не павінен умець яго рабіць, цясляр не павінен умець выкоўваць сякеру, але павінен умець адрозніць добрую сякеру ад дрэннай, слесар не павінен умець насякаць напільнік, але павінен умець выбраць той напільнік, які яму патрэбен. Дык вось геаметра, які стварае новыя матэматычныя метады, можна прыраўняць да нейкага ўяўнага інструментальшчыка, які рыхтуе на склад інструмент для ўсякай патрэбы; ён робіць усё, пачынаючы ад кувалды і канчаючы дакладным мікраскопам і дакладным хранометрам. Геаметр стварае метады рашэнняў пытанняў, што не толькі ўзнікаюць у выніку сучасных патрэб, але і для будучых, якія ўзнікнуць, мажліва, заўтра, мажліва, праз тысячу год».

Матэматыку-творцу вялікую радасць дае адкрыццё новых тэарэм, доказ сцверджанняў, выказаных раней без довадаў, рашэнне буйных задач тэарэтычнага ці прыкладнога характару. Ён адчувае пры гэтым сапраўднае задавальненне, усведамляючы, што атрыманы вынік сапраўды з'яўляецца новым, што яго не здолелі атрымаць іншыя, хоць і спрабавалі дамагчыся, што новы вынік з'яўляецца ўкладам у навуку, цаглінай у велічны будынак сучаснай матэматыкі.

Іншы раз перабольшваюць, думаючы, што для вывучэння і разумення матэматыкі патрабуюцца спецыяльныя здольнасці. Звычайна, кожнаму чалавеку пад сілу не толькі курс матэматыкі сярэдняй школы, але і элементы вышэйшай матэматычнай навукі. Праўда, розныя людзі ўспрымаюць матэматычныя разважанні, рашаюць матэматычныя задачы ці — на больш высокай ступені — прыходзяць да новых адкрыццяў з рознай хуткасцю, лёгкасцю і поспехам. Аб матэматычных здольнасцях чалавека нельга меркаваць на аснове яго добрай памяці. Вядома, добрая памяць у матэматыцы, як і ва ўсякай іншай справе, з'яўляецца карыснай, але не ў ёй — галоўнае. Адным з істотных бакоў матэматычных здольнасцей з'яўляецца майстэрства паслядоўнага, правільна расчлянёнага, лагічнага разважання.

Матэматычныя здольнасці, як правіла, праяўляюцца ў даволі раннім узросце і патрабуюць няспынных практыкаванняў. Аб гэтым трэба памятаць усім, хто паступае на матэматычныя аддзяленні вышэйшых навучальных устаноў пасля працы на вытворчасці.

**Аляксей ГУСАК,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**



**У музеі заўсёды людна. Вось і сёння студэнты А. Іванова, І. Ляскоўскі, А. Шымбарэцкая і В. Пахучы прыйшлі, каб пазнаёміцца з калекцыяй мінералаў.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

# КАМЕННЫЯ СКАРБЫ

Мінералагічны музей Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна — цудоўная скарбніца мінералаў, своеасаблівая «лабараторыя», якая раскрывае таямніцы зямлі. Дзверы музея адкрыты для ўсіх.

Аглядаючы шматлікія экспанаты, пранікаешся пачуццём захаплення скарбамі мінералагічнай «кладоўкі» нашай вялікай сацыялістычнай Радзімы. Наведвальнік, кім бы ён ні быў, знойдзе для сябе ў музеі цікавае і каштоўнае. Шклароба, напэўна, зацікавяць узоры сілікатных пяскоў Беларусі, муляра — агнястойкія гліны, оптыка — крышталі ісландскага шпату, сталявара — экспазіцыя металічных руд...

Экспанатная гаспадарка музея надзвычай багатая.

Вось, да прыкладу, узоры гранітаў, базальтаў, гнейсаў, мармураў... Іх столькі, што можна разгубіцца.

Вы чулі што-небудзь пра яшму? Гэта цудоўны дэкаратыўны мінерал, гордасць Урала, ён здзіўляе сваёй выключнай прыгажосцю.

Калекцыя каменняў на кафедры геалогіі існуе з 1921 года, з часу заснавання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Музей узнік пазней — у 1930 годзе. У час мінулай вайны амаль усе калекцыі музея былі знішчаны.

За пасляваенныя гады музей створаны занава. Накоплены новыя, багатыя калекцыі. Партыю мінералаў прыслала Акадэмія навук СССР, маскоўская фабрыка вучэбных дапаможнікаў «Прырода і школа» і іншыя ўстановы.

Асабліва ажывілася работа ў музеі, калі яго ўзначаліў геолаг-практык — старшы навуковы супрацоўнік Уральскага філіяла Акадэміі навук СССР Уладзімір Георгіевіч Спірыдонаў, які па сваёй ахвоце паехаў у Беларусь.

Разам са студэнтамі — сябрамі свайго музея — Уладзімір Георгіевіч зрабіў мінералагічную экспедыцыю на Урал. Удзельнікі экспедыцыі пабылі ў Салікамску, сабралі каштоўныя ўзоры солей Верхнекамскага месцанараджэння, агледзелі калійны камбінат, руднікі, наведалі шматлікія важныя запаведнікі і месцанараджэнні. Студэнты праехалі і прайшлі больш як 8 тысяч кіламетраў. У Ільменях, пра якія вядомы рускі мінеролаг П. В. Ерамееў сказаў: «Здаецца зямля знарок вывернула скарбніцу сваіх нетраў і як бы сказала чалавеку: «На, глядзі, любуйся і вучыся», будучыя геолагі здабылі ўзоры рэдкіх мінералаў, такіх, як вядомыя ільменскія тапазы, аквамарыны, шэрлы, гранаты і іншыя. Пабылі яны і на месцанараджэнні п'езакварцаў.

У Орскім месцанараджэнні мелі магчымасць сваімі вачамі паглядзець на рэдкія экземпляры незвычайнай прыгажосці каменяяшмы.

Пасля паездкі на Урал вакол музея згрупаваўся добры студэнцкі актыў. Сябры музея памагаюць Уладзіміру Георгіевічу апрацоўваць экспанаты, рыхтаваць стэнды. У сваім музеі студэнты рыхтуюцца да экзаменаў і залікаў, пішуць дыпломныя работы. Тут наладжваюцца семінары і таварыскія дыспуты. У сваю чаргу Уладзімір Георгіевіч памагае студэнтам-дыпломнікам кансультацыямі і каштоўнымі парадамі знаўцы мінералаў.

Музей мае шмат сяброў з ліку прафесараў і выкладчыкаў. Доктар геалагічных навук А. І. Гінзбург падараваў мінчанам цікавую калекцыю лепідалітаў — узораў парод Калбінскага хрыбта, аднаго з адрсгаў Алтайскай складкавай сістэмы. Вядомы палеантолаг прафесар А. В. Фурсенка перадаў музею рэдкі збор каўказскіх мінералаў. Пад яго кіраўніцтвам студэнты сабралі калекцыю ўзораў мінералаў і металічных руд у басейне ўральскай ракі Сім. Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР В. Н. Шчарбіна падараваў музею ўзоры соляў Паміра.

Не забываюць свой музей і былыя выпускнікі. Час ад часу ў Мінск, на адрас мінералагічнага музея БДУ імя Леніна, прыбываюць лісты і пасылкі. Былая студэнтка Зоя Дзікалава, якая цяпер працуе інжынерам-геолагаразведчыкам на Алтаі, прыслала некалькі характэрных экземпляраў балтыйскага бурштыну, які меўся ў яе. Гертруда Белавусава, якая працуе ў Краснаярскім краі, перадала музею ўзоры самароднай медзі Горнай Шорыі. Зусім нядаўна інжынер-геолаг Ніна Сплашнова, прыехаўшы ў адпачынак, завітала да Уладзіміра Георгіевіча з падарункам — узорамі мінералаў з паўднёваўральскіх Вішнёвых гор.

Такіх дарункаў многа. Яны — гонар музея.

У цяперашні час усё шырэй развіваюцца міжфакультэцкія сувязі музея. Хоць аддзялення геолагаразведкі пры геафаку ўжо не існуе, але сярод студэнтаў-географаў ёсць нямала аматараў, якія захапляюцца мінералогіяй. Яны склалі асяродак мінералагічнага гуртка, якім кіруюць прафесар Фурсенка і загадчык музея Спірыдонаў.

Нярэдка ў музей звяртаюцца і студэнты фізічнага і хімічнага факультэтаў, калі ідуць на педпрактыку ў школу.

Той, хто хоць на некалькі гадзін загляне ў мінералагічны музей Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, адчуе сапраўднае душэўнае задавальненне.

**Х. САЛАМОНІК.**

## *Крытыка і бібліяграфія*

**М. І. ЖЫРКЕВІЧ,**
**дацэнт.**

# КУПАЛАВА СЛОВА

> **Як жыло ты з намі — будзеш вечна жыці,**
> **Грамадой мільёнаў з светам гаманіці...**
>
> (Янка Купала «Роднае слова»).

А. М. Горкі гаварыў, што «літаратары з стыхійнага патоку гутарковай бытавой мовы зрабілі найстражэйшы адбор найбольш трапных, і найбольш асэнсаваных слоў».

Калі мы гаворым пра Янку Купалу, які разам з Якубам Коласам з'яўляецца пачынальнікам і заснавальнікам сучаснай беларускай мовы і адзначаем, што новае пакаленне беларускіх пісьменнікаў працягвала справу развіцця літаратурнай мовы на той аснове, якая была закладзена народнымі паэтамі Беларусі, то паўстае законнае пытанне: наколькі даследавана праца Я. Купалы і Я. Коласа над моваю і стылем сваіх мастацкіх твораў, наколькі раскрыта лабараторыя іх творчасці, каб больш упэўнена гаварыць аб тым, як яны беларускім словам, простым і зразумелым, выказвалі глыбокія думы і пачуцці працоўнага люду, гаварылі з «грамадой мільёнаў».

Вось што гаворыць Я. Купала аб пачатку сваёй творчасці: «Пры якіх акалічнасцях стварaліся мае першыя вершы? Цяжка сказаць. Калі займаўся земляробствам, былі адны акалічнасці, калі працаваў на заводзе — другія, але і ў тым і ў другім выпадку папера і аловак былі заўсёды пры мне. І вось, на працы ў полі, або ў дарозе, або на начлезе прыйдзе думка — і я пішу. На заводзе тое ж самае — ухітраюся адлучыцца, або нават у часе самой працы, калі павінен толькі назіраць, таксама пішу. Часам уначы, у пацёмку запісваю, а днём перапісваю».

Праца Янкі Купалы над рукапісамі сваіх твораў, яго аўтарская праўка памагаюць нам зразумець індывідуальную своеасаблівасць паэта ў адборы слоў і выразаў

агульнанароднай мовы, у іх стылёвай апрацоўцы і ўвядзенні ў літаратурны ўжытак.

Купала добра ведаў жывую народную мову, фальклор, глыбока адчуваў слова, умела, трапна і эканомна выкарыстоўваў моўныя сродкі ў адпаведнасці са зместам сваіх твораў, з ідэйнай іх задумай.

«І бадай ніхто з нашых пісьменнікаў не аддаваў столькі ўвагі мове, маючы на ўвазе яе практычнае прыстасаванне, як Янка Купала», — гаворыць П. Глебка.

З гэтым трэба згадзіцца і дадаць, што творчасць Я. Купалы, яго мастацкае слова мае вялікае значэнне для развіцця беларускай літаратурнай мовы, вывучэння яе гісторыі.

У музеі Янкі Купалы ёсць толькі невялікая частка рукапісаў паэта, чарнавых і перабеленых, астатнія загінулі ў час вайны.

Але і тая адносна невялікая колькасць рукапісаў, накідаў, запісаў, варыянтаў, выпраўленняў, якія прыйшлося разгледзець і параўнаць, выразна гавораць аб тым, што Янка Купала заўсёды шукаў, выбіраў, адбіраў тыя словы і выразы, якія выказваюць думку з найбольшай паўнатою і дакладнасцю.

Прывядзем некалькі прыкладаў з вершаваных твораў Я. Купалы, дзе найбольш яскрава бачна імкненне да выразнасці, дакладнасці паэтычнага слова. Возьмем усім нам вядомую паэму «Курган».

Першапачатковы варыянт:

Дуб голлё распусціў каранасты
над ім,
Палын-зелле у грудзі ўпілося,
Вецер стогне над ім уздыханнем
глухім,—
Аб мінуўшчыне ў жальбе галосе.
А там птушкі лятуць, галасіста
пяюць,
Стада воўчае вые зімою.
Косы сонца днём залатыя снуюць,
Ночкай зоры глядзяць чарадою.

Канчатковая рэдакцыя:

Дуб галлё распусціў каранасты
над ім,
Сухазелле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем
глухім,—
Аб мінуўшчыне ў жальбе галосе.
На купалле там птушка садзіцца,
пяе,
У піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы
свае;
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Як бачна, пасля праўкі апошняя страфа загучала больш выразна і дакладна.

А вось яшчэ адзін прыклад з той жа паэмы:

Рукапіс:

У нагах у яго рассцілаўся
абшар
Сонных вёсак і пахані чорнай,
Хат амшалых, як мар,
З чарадою душ сумных,
пакорных.

Канчатковая рэдакцыя:

У нагах у яго рассцілаўся абшар
Хвоек гонкіх і пахані чорнай,
Сонных вёсак шары, хат амшалых,
як мар,
Хат з сям'ёй душ падданых,
пакорных.

Замена адных выразаў другімі зрабіла страфу гучнай, глыбокай па зместу.

У музеі Я. Купалы ёсць толькі белавы рукапіс паэмы «Бандароўна». З мэтай дакладнасці ў перадачы думкі ў гэтым рукапісу паэтам зроблены папраўкі. Напрыклад, у главе дзесятай спачатку было: «Пазлацістыя на пальцы персцені ўскладалі, у замшовы чаравічкі ножкі абувалі». Слова «ўскладалі» Купала замяніў другім, дакладнейшым: — «уздзявалі». У выніку паэтычныя радкі сталі больш выразныя: «Пазлацістыя на пальцы персцені ўздзявалі, у замшовы чаравічкі ножкі абувалі».

У главе адзінаццатай гэтай жа паэмы спачатку было: «Шоўку, золата, атласу браці, колькі хваце, кутасамі залатымі ўвакруг абчапаці». Прыслоўе «ўвакруг» было заменена канкрэтным назоўнікам і атрымалася мілагучная і змястоўная страфа: «Шоўку, золата, атласу браці, колькі хваце, кутасамі залатымі труну абчапаці».

Аб уважлівым выбары слоў і выразаў гаворыць і такі прыклад з верша «Маладая Беларусь», напісанага ў 1911 годзе і змешчанага ў зборніку вершаў «Шляхам жыцця».



Першапачатковы варыянт:

Падымайся з нізін, сакаліна
сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над
курганамі,
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між
славянамі.

Канчатковая рэдакцыя:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над
нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.

Замена слоў «між славянамі» словамі «між народамі» паглыбіла змест усяго твора: Янка Купала ў апошняй рэдакцыі твора гаворыць, што беларусы зоймуць сваё пачэснае месца сярод народаў усяго свету. Прадбачанне Я. Купалы збылося ў савецкі час — Беларусь стала суверэннай дзяржавай, яна выйшла на міжнародную арэну і заняла свой «пачэсны пасад між народамі».

Цікавыя стылёвыя праўкі, пошукі трапнага, выразнага слова, неабходных сінанімічных сродкаў бачны і ў другіх рукапісах твораў народнага паэта. Спынімся на варыянце адной страфы верша «Брату»:

Першапачатковы варыянт:

Пытай пана, пытай чына, сваіх
пут,
Ці мы людзі, ці скаціна,
Хто мы тут?

Другая рэдакцыя:

Свайго пана, свайго чына,
Спытай кволай кажурыны,
дзюрак, лат,
Ці мы людзі, ці скаціна
Хто мы, брат?

Апошняя рэдакцыя:

Запытайся сваёй долі,
Сваіх пут,
Ці мы людзі, ці скаціна,
Хто мы тут?

Перабудаваная, стылёва апрацаваная страфа загучала, як заклік да працоўнага люду Беларусі пастаяць за сваю чалавечую годнасць, усвядоміць сябе як барацьбітоў за лепшую долю.

Праўкі былі зроблены Я. Купалам і ў рукапісу твора «Хлопчык і лётчык на вайне».

Першапачатковы варыянт:

Ты будзеш глядзець
самалёта,
Туды, дзе іх зброд,
кіраваць
І буду страляць з
кулямёта
І бомбы на гадаў скідаць.

Другі варыянт:

Ты будзеш глядзець
самалёта,
А бомбы скідаць буду я
І буду страляць з
кулямёта,
Дзе ўбачу я кучу звяр'я.

Канчатковая рэдакцыя:

Ты будзеш глядзець
самалёта,
А бомбы скідаць буду я,
І буду страляць
з кулямёта
Ў сабачыя сэрцы звяр'я.

У канчатковай рэдакцыі гэтая страфа верша гучыць выразна, зразумела.

У гады Айчыннай вайны Купала напісаў верш «Хлопчык і лётчык на вайне». І вось якія выпраўленні былі зроблены ў адной са строф гэтага верша.

Першапачатковы варыянт:

Фашыстаў мы так будзем
ніштожыць,
Гаціць імі топкую гаць,
З зямлі нашай роднай
прыгожай
Будзем грабежнікаў гнаць.

Канчатковы варыянт:

Мы гітлераўцаў будзем
ніштожыць,
Гаціць імі топкую гаць,
З кутоў нашых родных
прыгожых
Грабежніцкі зброд
выганяць.

Стылёвая праўка гэтай страфы верша выразна падкрэслівае любоў паэта да роднай савецкай зямлі.

У творы «Зноў будзем шчасце мець і волю» («Лютуе Гітлер ашалелы») знаходзім такія аўтарскія праўкі:

Першапачатковы варыянт:

Народам волю абязвечыў,
Спраўляе баль пад звон
кайданаў.
Ускормлен мясам чалавечым,
Крывёй народнаю скупаны.

Канчатковая рэдакцыя:

Ускормлен мясам чалавечым,
Крывёй народнаю скупаны,
Народам волю абязвечыў,
Лютуе кат пад звон
кайданаў.

Тут страфа перабудована ў плане інверсійнасці, апрача гэтага, замест выразу «спраўляе баль», які не так моцны па сіле выражэння гневу і агіды да Гітлера, ужыты больш трапны выраз «лютуе кат».

Цікавыя аўтарскія праўкі зроблены ў камедыі «Паўлінка».

Каб індывідуалізаваць мову дзеючых асоб, паказаць іх унутраны стан, узаемаадносіны, погляды на жыццё, Я. Купала зрабіў шэраг правак, бо ён ведаў, што ў драматычным творы вельмі важным з'яўляецца «верная, адпаведная характарам асоб мова» (Л. Талстой).

Вось два прыклады з камедыі «Паўлінка», якія паказваюць, як умелае карыстанне мастацкім словам спрыяе глыбокай характарыстыцы вобраза, яго індывідуалізацыі.

У першапачатковым варыянце было:

Паўлінка. Што ж гэта пана Адольфа конь хацеў разнесці?

Адольф. А як жа! Паўтары сотні вясной заплаціў, і толькі клопату нажыў.

Каб больш выразна падкрэсліць невуцтва і самахвальства ганарыстага шляхціца Быкоўскага, Я. Купала робіць такую папраўку:

Паўлінка. Што ж гэта пана Адольфа конь хацеў разнесці?

Адольф. А як жа! Тры сотні вясной заплаціў і толькі клопату нажыў.

Янка Купала ідзе далей у паказе разумовай абмежаванасці і невуцтва пана Быкоўскага.

Першапачатковы варыянт:

Адольф (пяе няскладна, махаючы хустачкай па твары):

Лётае голэмбі,
Плывае лабэндзі,
З нашэго кахання,
Пэўна, ніц не бэндзе.

Апошняя рэдакцыя:

Адольф (пяе няскладна, махаючы хустачкай па твары):

Плывае голэмбі,
Лётае лабэндзі;
З нашэго кахання,
Пэўна, ніц не бэндзе.

Замена слоў «летаё голэмбі, плывае лабэндзі» словамі «плывае голэмбі, летаё лабэндзі» падкрэсліла моўную бязглуздзіцу ў вуснах пана Быкоўскага, з якое ўсе смяюцца, хоць ганарысты, разумова абмежаваны шляхціц не разумее гэтага смеху.

З мэтай канчатковага выкрыцця шляхціца Быкоўскага Я. Купала прымушае яго спяваць, перакручваючы словы з пушкінскай песні «Чорная шаль». Спачатку ў першапачатковай рэдакцыі было: «Гляджу я без толку на хладную сталь, чорную душу церзае печаль». У апошняй рэдакцыі гэта месца пададзена так: «Гляджу я без толку на хладную шаль, і чорную душу церзае печаль».

Мастацкае слова Я. Купалы было моцным сродкам уздзеяння на працоўных, заклікам да лепшай долі, да шчаслівага жыцця, да барацьбы з прыгнятальнікамі ў дарэвалюцыйны час, да бязлітаснага змагання з захопнікамі — у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. У наш час творчасць выдатнага мастака з'яўляецца заклікам да стваральнай працы савецкага народа, гімнам новаму жыццю.

Творы Я. Купалы — сведчанне вялікай павагі да роднага слова, умелага карыстання ім у мастацкай творчасці.

Я. Купала не толькі адзін са стваральнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, але і змагар за яе культуру, чысціню. Ён заўсёды патрабаваў яснасці, выразнасці і дакладнасці ўжывання кожнага слова і выразу.



# У ПОШУКАХ СВАІХ ДАРОГ

Пра нашу савецкую моладзь напісана нямала кніг. І тым не менш, кожная новая кніга на маладзёжную, — як крытыкі кажуць, — тэму выклікае ў нас самую жывую зацікаўленасць. Гэта і зразумела, бо выхоўваць моладзь смелай, настойлівай, працавітай, гатовай без ваганняў заняць сваё месца ў радах вялікай арміі будаўнікоў камунізма — гэта сапраўды ўдзячная і высакародная задача мастацтва.

Не абыдзена ўвагай чытачоў і новая аповесць Міколы Ваданосава «Пераломнае лета» *. Аповесць гэтая напісана на жывым матэрыяле нашай сучаснасці і расказвае пра маладых людзей, учарашніх дзесяцікласнікаў, пра іх радасці, няўдачы і пошукі сваіх дарог.

Змітрака Асташонка на парозе сталасці напаткала вялікае гора: памерлі яго бацькі. Ён, старэйшы ў сям'і, застаўся адзінай апорай для сваіх малодшых брата і сястры. Пакідае Змітрака і яго сяброўка Іна Коўшык, якую ён кахаў. На нейкі момант Змітраку здаецца, што ў яго ўжо ніколі не будзе шчасця ў жыцці. У гэты цяжкі для хлопца час былыя яго аднакласнікі, абібокі Раман і Ігар, робяць спробу ўцягнуць і яго ў сваю кампанію. Але за Змітрака змагаецца калектыў заводскай моладзі, сярод якой ён потым знаходзіць сваё месца і сваё асабістае шчасце.

Іна Коўшык — поўная праціглегласць Змітраку. За яе паказной развважлівасцю хаваецца звычайная абмежаванасць.

«Вы — абывацелька, — гаворыць Іне адзін з герояў аповесці, Іван Азарчук, — бо вызначаеце вартасць карціны па бляску рамы».

* Мікола Ваданосаў. Пераломнае лета. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1961.

Захапленне знешнім бляскам, жаданне ўзяць ад жыцця ўсё, не даўшы яму нічога, погляд на шчасце, як на матэрыяльную забяспечанасць, — усё гэта гаворыць аб тым, што Іна Коўшык асуджана прайсці праз жыццё пустацветам, не прынёсшы нікому радасці, не зрабіўшы ніводнай добрай справы.

Іна і Змітрок — цэнтральныя фігуры аповесці. Вакол іх, у залежнасці ад поглядаў на жыццё і сваё месца ў ім, групуюцца другія героі твора.

Да акружэння Іны належаць Раман і Ігар, наведвальнікі рэстаранаў і пустуючых дач, мачыха Іны Каця, жанчына лёгкадумная і пустая, Артур, шукальнік лёгкага жыцця і яшчэ больш лёгкага кахання.

Вакол Асташонка групуюцца токар Іван Азарчук, Галя Ждан, майстар Забаўскі.

Анатоль Кручанюк — на раздарожжы, паміж адным і другім лагерамі. Ён то знаходзіцца ў асяроддзі Іны Коўшык, то зноў прыходзіць да сваіх старых сяброў рабочых. Да Іны яго прыцягвае не толькі каханне. З ёй і яе асяроддзем яго родняць эгаізм, самаўлюбёнасць, празмерная пераацэнка сваёй асобы. Іменна гэта не дае яму магчымасці цалкам стаць на бок Асташонка і яго сяброў. І толькі ў апошні момант Анатоль вяртаецца да сваіх былых сяброў, вінаваты і прысаромлены.

Такая расстаноўка дзеючых асоб аповесці абумоўлена сутыкненнем двух працілеглых поглядаў моладзі на жыццё. Яна дае магчымасць сфармуляваць галоўную ідэю твора: толькі працоўнай дзейнасцю павінна пачынаць сваё самастойнае жыццё наша моладзь, бо толькі гэта дапаможа ёй набыць жыццёвы вопыт і правільна выбраць свой шлях.

Як бачым, асэнсаванне пісьменнікам жыццёвага матэрыялу не выклікае ніякіх пярэчанняў. У аповесці ёсць свежыя, жывыя назіранні, намечаны цікавыя мастацкія характары. Ды і дзеянне ў ёй разгортваецца даволі жыва, засяроджваючы на сабе ўвагу чытача. І ўсё ж, прачытаўшы аповесць да канца, адчуваеш, што

яна неяк мала цябе кранула, усхвалявала, што тыя ж факты і падзеі, калі іх сустракаеш у жыцці, хвалююць куды больш, чым у кнізе. Чаму гэта так?

Сапраўднае мастацтва заўсёды хвалюе, бо кожны мастацкі твор — гэта тое таямнічае акно, праз якое мы глядзім на знаёмую нам рэчаіснасць з новага і таму незвычайнага пункту гледжання.

Але каб сказаць у творы нешта новае, пісьменнік павінен мець жыццёвы вопыт, значна багацейшы за жыццёвы вопыт чытача. Вось гэтага глыбокага ведання жыцця, усебаковага яго асэнсавання і нестае М. Ваданосаву, аўтару «Пераломнага лета».

Героі аповесці — у нейкай меры душэўна і разумова абмежаваныя людзі. Калі гэта апраўдана ў адносінах адмоўных персанажаў, то ў адносінах станоўчых гэта проста незразумела. Маладосць — пара кахання. Але ці адно каханне хвалюе нашу моладзь? Між тым, М. Ваданосаў спрабуе ўсю гаму перажыванняў моладзі звесці да аднаго любоўнага пачуцця. Чытач не становіцца сведкам спрэчак, роздумаў герояў аб жыцці, не заўважае, каб іх асабліва цікавіла тое, што дзеецца на свеце. Усе іх інтарэсы канцэнтруюцца вакол іх саміх.

Моладзь любіць марыць. Але героі Ваданосава надзелены небагатай фантазіяй. Нават спорт, які заўсёды хвалюе моладзь, застаўся далёка за межамі іх інтарэсаў. Калі ж, напрыклад, Азарчук ці Кручанюк у нейкай ступені закранаюць пытанні сваёй працы, дык яны ці пачынаюць сыпаць сухімі лічбамі, ці абыходзяцца жартамі, якія, дарэчы, не заўсёды бываюць трапныя.

Цікава намечаныя характары раскрываюцца ў аповесці павярхоўна. Індывідуалізацыя іх — чыста знешняя, схематычна-партрэтная. Непаслядоўнасць псіхалагічных матывіровак прыводзіць да таго, што героі часам пачынаюць дзейнічаць самастойна, пярэчачы аўтарскай трактоўцы іх характару.

Змітрок Асташонак задуманы як станоўчы персанаж. Але як дапасаваць да гэтай задумы яго празмернае самалюбства, яго пасіўнасць, грубасць з таварышамі? Выходзіць, што пісьменнік, будуючы адной рукой, разбурае пабудаванае другой.

Каханне ў аповесці з'яўляецца галоўным матывам усіх учынкаў герояў. Але яно ў іх надзвычай нетрывалае і лёгкадумнае. Варта дзяўчыне злёгку закрануць самалюбства хлопца, як ён пачынае параўноўваць яе з гадзюкай, жадае ёй падавіцца, і, нарэшце, яе адносіны з другім чалавекам характарызуе адным грубым словам: «знюхаліся»... Такую градацыю пачуццяў у адносінах да дзяўчыны, — ад бурнай закаханасці да брудных думак аб ёй, — мы назіраем у Змітрака Асташонка.

Галя Ждан кахае Івана Азарчука, але дастаткова было ёй пазнаёміцца са Змітраком, каб адно каханне саступіла месца другому.

Характар чалавека настолькі складаны, што зусім заканамерна спалучэнне ў ім адмоўных і станоўчых рыс. Але механічнае, штучнае спалучэнне іх пры стварэнні літаратурнага персанажа, жаданне «паглыбіць» характар пры дапамозе працілеглых якасцей, нарэшце, ураўнаважыць станоўчае адмоўным прыводзіць да таго, што замест жывога чалавека на старонках твора з'яўляецца лялька, якая пакорліва робіць усё, што ўздумаецца аўтару. Трэба яму, каб герой перавыхаваўся, — калі ласка. Спатрэбіцца, каб станоўчы герой памыліўся (для разнастайнасці), — ніякай цяжкасці: загадана — зроблена.

У літаратуры, як і ў другіх відах мастацтва, ёсць свае ўмоўнасці, але чытач не павінен іх заўважаць. У аповесці ж М. Ваданосава ўмоўнае выступае на першы план.

У пісьменніка ёсць глыбокая зацікаўленасць жыццём моладзі. Гэта яго пастаянная тэма. Трэба спадзявацца, што па меры паглыблення ў гэтую тэму пісьменнік будзе даследаваць яе ўсё больш дэталёва і ўсебакова і пакажа нашу моладзь ва ўсім яе духоўным багацці і харастве, з усімі яе пошукамі і сумненнямі і з той велізарнай духоўнай і творчай энергіяй, з якой яна будуе найлепшае ў свеце грамадства — камунізм.

**Аляксандр РАЕЦКІ.**



# ПРОЗА ПАЭТА

«— Што ж, напэўна, у яго асаблівы зрок, калі ён бачыць прыгажосць нават там, дзе мы нічога не заўважылі б... І, ведаеш, мы, напэўна, самі вінаваты ў тым, што рамантызм вымірае: не прызвычаіліся бачыць прыгажосць нават у бочцы з зялёнай вадою ля плота, нават у зламанай вярбе... А такія, як ён, заўсёды трошкі дзеці. Ён чакае, ён верыць — і жыццё пойдзе яму насустрач. Я ведаю, ён ва ўсім бачыць надзвычайны бок. Выпадак, які для нас проста смешны, для яго паўстае ў такім павароце, што ён бачыць: гэта казка, гэта паэзія».

Гэтыя словы, сказаныя пра аднаго з герояў кнігі У. Караткевіча «Блакіт і золата дня» *, у нейкай меры можна аднесці і да самога аўтара, які ў кожным са сваіх апавяданняў імкнецца паказаць чытачу, што ў любым чалавеку, у любой з'яве прыроды вакол нас ёсць нешта прыгожае і паэтычнае, ці, як кажуць яго героі, рамантычнае.

Ну што, здавалася б, можна расказаць цікавага пра дзяўчынку, якой яшчэ не споўнілася двух год, акрамя таго, што яна ўмее маляваць няроўныя авалы і больш за ўсё на свеце баіцца пыласоса. А вось Караткевіч у маленькім апавяданні-мініятуры «Як звяргаюцца ідалы» змог паказаць не толькі разнастайны духоўны свет дзяўчынкі, але і прасачыць за тым, як гэты свет шырэе і ўзбагачаецца.

Тое ж самае можна сказаць і пра Карнея з апавядання «Карней — мышыная смерць». Усё жыццё хадзіў гэты чалавек па суседзях і труціў мышэй і пацукоў. Усе лічылі яго блазнам. Але вось настаў час, і людзі ўбачылі, на што здатны гэты дзівакаваты чалавек і якая добрая ў яго душа. Ён памагае жанчыне, удаве, вучыць сына ў інстытуце, а калі пачалася вайна, жорстка помсціць акупантам, узрываючы свой дом, у якім знаходзіліся нямецкія афіцэры.

Адметнай рысай Караткевіча-празаіка з'яўляецца імкненне ў штодзённым, звыклым знайсці незвычайнае, паэтычнае і як мага ярчэй паказаць яго.

Ужо ў першым, найменш характэрным для пісьменніка, апавяданні «У шалашы» мы бачым, як рамантычныя адносіны да працы робяць яе крыніцай асалоды для чалавека. З глыбокім захапленнем і гарачым жаданнем пранікнуць праз тоўшчу зямлі і стагоддзяў у сівую даўніну нашай радзімы робіць сваю справу малады геолаг Мар'яна.

«Я вельмі люблю свой шлях, — гаворыць яна, — мне нельга без яго, я без яго памру. Водар зямлі... Сонца... Аліўкавыя старыя камені. Знаходкі. Боль у плячах. І вечная думка, што вось адкапаеш, ускрыеш нейкі склеп, а адтуль выпырхне песня, старая, забытая на зямлі...»

Гэта тое шчаслівае спалучэнне, калі маральная задаволенасць вынікам працы супадае з эстэтычнай асалодай ад самога працэсу працы, спалучэнне, якое робіць жыццё паэзіяй.

Пытанне аб ролі рамантычнага ідэалу ў жыцці чалавека асабліва востра пастаўлена ў апавяданні «Лятучы галандзец».

«Чалавек — гэта ўсё, — з энтузіязмам даказвае герой гэтага апавядання Моршч. — Гэта метад кесоннай адліўкі і язычаскія абрадавыя песні, сучасная філасофія і лятучы галандзец, атамная фізіка і вершы галіярдаў... Што ж, адабраць у дзяцей беларускія легенды, адабраць Пакаці-

* Уладзімір Караткевіч. Блакіт і золата дня. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1961.

лу, Яна Прыгожага? Хто з іх вырасце? Голыя практыкі без фантазіі. Я не ведаю, але я ўпэўнены, што Эйнштэйн чытаў казкі Андэрсена».

Праціўнік Маршча, рэжысёр Грабоўскі разам са сваімі сябрамі прытрымліваецца погляду, што чалавек-рамантык у наш век — тое самае, што жывы мамант. Яны лічаць, што мара заўжды разаб'ецца аб жыццё, як шклянка аб чыгун. З мэтай пацвердзіць свае доказы яны знаёмяць паэта-рамантыка Касачэўскага з артысткай Якубовіч, у душы якой, па іх меркаваннях, няма рамантыкі «ані на шэлег».

Праціўнікі рамантызму хацелі пасмяяцца з людзей, якія маюць светлыя, паэтычныя мары, чыстыя думкі і шчырыя сэрцы, але жыццё пасмяялася з іх саміх. Рамантык Касачэўскі і рэалістка Якубовіч не толькі не сталі ворагамі, але вельмі хутка зразумелі і горача пакахалі адно аднаго.

Паэтызацыя жыцця, якой прасякнуты лепшыя творы Караткевіча, найбольш ярка выражана ў апавяданні «Блакіт і золата дня», назва якога дала назву ўсяму зборніку. Пісьменнік малюе велічную ў сваёй прыгажосці карціну паводкі на Палессі і на гэтым фоне — каханне вясковага хлопца Юркі і амаль яшчэ дзяўчынкі Наталі. Свежасцю і нейкай вялікай маральнай чысцінёй павявае ад іх пачуццяў.

Героі У. Караткевіча — гэта людзі вялікай жыццёвай сілы. Яны не стамляюцца шукаць прыгожае ў жыцці, радавацца і здзіўляцца сваім знаходкам, і зноў шукаць і здзіўляцца. І ў гэтым іх вялікая маральная перавага.

У апавяданні «Блакіт і золата дня» У. Караткевіч здолеў так апаэтызаваць узаемаадносіны Юркі і Наталі, што чытач з вялікім захапленнем сочыць за кожным словам, кожным рухам герояў. У маладога празаіка — свая апавядальная манера. Скупы, сціслы дыялаг часта перабіваецца лірычным умяшаннем аўтара, які ў жэстах, мініцы герояў бачыць значна больш, чым у словах. Пры гэтым ён як бы пастаянна перабівае і самога сябе: то скажа некалькі слоў пра герояў, то дасць невялікую, але вельмі выразную і прыгожую замалёўку навакольнай прыроды. А ў перадачы карцін прыроды У. Караткевіч сапраўдны паэт. Вось прыклад, як ён спалучае апісанне паводзін герояў з паэтычным малюнкам прыроды:

«Урэшце яна пацягнула хустку вышэй, але адразу ёй стала шкада гэтых махроў, што сталі варушыцца дарэмна, і яна зноў апусціла хустку ніжэй. І ён усміхнуўся, зноў адчуўшы ласкавы дотык.

Чаўны плылі і плылі ў блакітным і залатым. Гэта лазурнае толькі часам прарывалася празрыстай сцяной затопленага лесу, — і зноў загаралася іскрамі. Сплюшчылі павекі, глыбокая цеплыня перапаўняла цела. Блакітнае і залатое, залатое і блакітнае.

Без канца. Без краю. Без мяжы».

Не-не ды і прамільгне ў кожным з апавяданняў дэталь, якая падкрэслівае, што гэтыя празаічныя творы напісаны чалавекам, які пачаў свой творчы шлях, як паэт. Вершамі ў прозе гучаць многія лірычныя адступленні пісьменніка.

Выкарыстанне паэтычных сродкаў робіць лепшыя апавяданні У. Караткевіча маляўнічымі, глыбока эмацыянальнымі.

Але бывае і так, што некаторым апавяданням маладога празаіка якраз і шкодзяць тыя ж паэтычныя сродкі. Шматступенчатыя асацыяцыі, характэрныя для паэзіі Караткевіча, абцяжарваюць і неяк нават зацямняюць думку ў апавяданні «Ідылія ў духу Вато». Мы прызнаем эрудыцыю аўтара ў пытаннях гісторыі, фальклору і мастацтва. Але пастаянныя экскурсы ў гісторыю мастацтва адцягваюць увагу ад галоўнага — трагедыі чалавека, на якога ўзведзены паклёп і які без віны пацярпеў. Апавяданне значна выйграла б, калі б аўтар шырэй карыстаўся метадам псіхалагічнага аналізу. Імкненне ж перадаць складаныя душэўныя перажыванні праз калейдаскоп знешніх дэталей не дасягае мэты.

Апавяданням У. Караткевіча ў значна меншай ступені, чым яго вершам, уласціва літаратуршчына, кніжнасць. І ўсё ж гэта непажадана нават у такой «прапорцыі». Апавяданне «Лятучы галандзец», напрыклад, гучала б куды больш натуральна, калі б у ім не было штучнага эпізода з легендарным караблём «Лятучы галандзец» і ўсёй надуманай сцэны знаёмства Касачэўскага з артысткай Якубовіч. Паэзіі, прыгажосці, рамантыкі значна больш у натуральным, непрыдуманым апавяданні «Блакіт і золата дня», чым у некаторых выдуманых эпізодах з «Лятучага галандца».

У зборнік, акрамя апавяданняў, уваходзяць таксама дзве аповесці на гістарычную тэму. Першая з іх — «Сівая легенда» — расказвае пра барацьбу беларускіх сялян супраць сваіх прыгнятальнікаў у XVII стагоддзі. Каларытная, з глыбокім адчуваннем часу, з яркімі самабытнымі вобразамі і сакавітай мовай, гэтая аповесць зойме сваё належнае месца сярод твораў, напісаных нашымі беларускімі пісьменнікамі на гістарычную тэму.

Другая аповесць — «Цыганскі кароль» напісана ў сатырычным плане. І тут многа дакладных і праўдзівых карцін гаспадарання на Беларусі польскіх магнатаў і іх стаўленікаў. Аднак празмерная сімволіка затуманьвае галоўную думку твора. У гэтым — адзін з асноўных яго недахопаў.

Нягледзячы на ўсё гэта, кніга У. Караткевіча «Блакіт і золата дня» пакідае прыемнае ўражанне. Пісьменнік зрабіў першыя крокі ў прозе, не ступаючы ў чужыя сляды. Што ж да яго аповесцей, то яны даюць падставу сцвярджаць, што У. Караткевіч пры належным старанні можа зрабіць нямала дзеля развіцця ў нашай літаратуры жанра гістарычнай аповесці або рамана.

**Барыс КЛЮСАЎ.**

# Агрэхі стылю

**«Чытаеш такую фразу, усё роўна як мякіну жуеш —ніяк праглынуць не можаш».**

**К. КРАПІВА.**

«Люся звала Ніну на вуліцу. Ніна прытуліла грудзі да шыбы і паказала, што яна пераапранаецца».

«Боль у назе сабралася ў адзін цяжкі камяк і сціснулася ў сэрцы».

«Маці стаяла ля сына і ўвесь час то гладзіла яго па валасах, то праз сарочку прашчупвала косьці».

«Паліць снег босыя ногі, але яны ведаюць, што праз кілометр іх абагрэе печ».

«Жоўты намоклы пясок абапал траншэй успухлымі пісягамі ляжаў на роднай зямлі».

«Ад камандзіра Рыгор выйшаў задаволены: цяпер ён быў пры поўнай сваёй сіле і кемлівасці».

«У той вечар Рыгор не западозрываў Валю, што яна адносіцца да яго толькі з-за маці. Большую частку добрых адносін ад дзяўчыны ён ускладваў на сваё становішча пры новым парадку».

«Салдат стаяў, як скамянелы, і толькі позірк маленькіх вачэй з-пад картузікаў белых павек іншы раз зрываўся на юнака».

«Васіль шырока разявіў вочы, у якіх блішчэў і страх, і цікаўнасць і нешта такое, чаго нельга сказаць словамі».

«Жаданне ў афіцэра не атрымалася, ён надзеў пальчаткі і падышоў да юнака».

«—Што ты малюеш? — праз плечы зарагатаў Міхась».

«Камандзір папрасіў вялікай асцярожнасці з боку хлопцаў».

«Калі ў сцішаную мінуту я рабіў заходы на развітанне, кожны раз да маіх плечаў працягваліся белыя манжэты Паўла».

«Як два танкі, сыходзіліся сябры, раскінуўшы да абдымкаў рукі, і, стукнуўшыся грудзямі, абняліся і моцна пацаваліся».

«Марцін настойлівы да мяжы».

«Роўныя высокія дубы ў ясныя дні стаялі маўклівa, а калі надыходзіла хмара і дзьмуў магутны вецер, яны стагналі і абаранялі сад ад бур».

**З рукапісаў, дасланых у рэдакцыю.**



## Спорт

# НАДЗЕІ НЕ СПРАЎДЗІЛІСЯ

**Да вынікаў чэмпіянату краіны па футболу 1961 года**

Прагнозы і спадзяванні — рэч надзвычай ненадзейная. У гэтым кожны з нас не раз мог пераканацца. Нават бюро надвор'я, маючы ўсе неабходныя прыборы і патрэбныя звесткі, і тое нярэдка памыляецца. Быць жа «аракулам» у спорце асабліва цяжка. Тут прыходзіцца рабіць прагнозы, як кажуць, «на вока», да таго ж абавязкова станеш на бок сваёй любімай каманды.

У нашых аматараў футбола мінулай вясной, перад пачаткам розыгрышу першынства краіны, былі ўсе падставы разлічваць, што «Беларусь» трапіць пасля папярэдніх гульняў у першую дзесятку. Як вядома, для гэтага ёй неабходна было ў сваёй падгрупе заняць не ніжэй пятага месца. Цяжка? Безумоўна! Але ж дасягальна!

Так думалі не толькі радавыя аматары футбола. Былы старшы трэнер каманды «Беларусь» В. Новікаў не раз заяўляў аб гэтым у час сустрэч нашых майстроў скуранога мяча са спартыўнай грамадскасцю. І, слухаючы яго шчырыя запэўненні, што «калектыў улічыць памылкі мінулага года і парадуе сваіх прыхільнікаў выдатнай ігрой», хацелася яму верыць. Змог жа мінскі «Спартак» у 1954 годзе заняць ва ўсесаюзным чэмпіянаце трэцяе месца і заваяваць бронзавыя медалі! Дык чаму ж «Беларусі» не паўтарыць праз сем год гэты поспех! Тым больш, што наша каманда ў сезоне 1960 года зрабіла першую заяўку на ўваход у кагорту мацнейшых каманд краіны. Няхай яна заняла тады 11-е месца, але ж у асобных матчах беларускія футбалісты ні ў чым не ўступалі мацнейшым футбольным асам.

Трэніровачны збор у Сочы, першыя перамогі «Беларусі» ў кантрольных матчах давалі аматарам футбола падставу спадзявацца на поспех. Самі ж футбалісты ўжо тады адчувалі, што калектыў яшчэ не «адрэгуляваны» як след. Вядучыя ігракі былі далёкія ад сваёй лепшай спартыўнай формы. Але часу для «наладкі» каманды не заставалася. Непаладкі прыходзілася выпраўляць непасрэдна ў ходзе каляндарных матчаў на першынства краіны.

Першая сустрэча — з кішынёўскай «Малдовай» — асабліва не хвалявала ні старшага трэнера, ні ігракоў «Беларусі». Футбалісты Малдавіі вельмі няўдала выступалі ў чэмпіянаце краіны 1960 года.

Напярэдадні адкрыцця чэмпіянату краіны па беларускаму радыё выступаў майстар спорту, былы ігрок мінскага «Спартака» Уладзімір Ходзін. У сёлетнім сезоне яго ўключылі ў лік суддзяў, якім даручалася праводзіць матчы каманд класа «А». Знаходзячыся на зборы на поўдні краіны, Ходзіну давялося бачыць «Малдову» і ў час трэніровак, і ў таварыскіх матчах. Сваімі ўражаннямі ён падзяліўся з радыёслухачамі: яны былі далёка не ў карысць малдаўскай каманды. Ходзін прама заявіў, што «Беларусь» куды мацней за «Малдову».

Так лічылі і самі футбалісты «Беларусі». «Каго-каго, а «Малдову» абыграем!» Але гэтая залішняя ўпэўненасць моцна падвяла нашу каманду. І хоць у матчы з «Малдовай» беларускія футбалісты амаль увесь час атакавалі, забіць гол ім так і не ўдалося. Больш таго, яны прайгралі сустрэчу з лікам 0:1!

Каманда, амаль уся без выключэння, іграла надзвычай дрэнна, без якога-небудзь прадуманага плана. Многа «мазалі» нападаючыя. І нават такі вопытны і звычайна найбольш надзейны абаронца, як Міхаіл Радунскі, атрымаў за гэты першы каляндарны матч «2». Такім жа балам ацаніў трэнер ігру нападаючых В. Мустыгіна, У. Церахава, А. Фядулава

і В. Арбутава. Толькі адзін — абаронца Эдуард Зарэмба — атрымаў «4», астатнія ж ігракі «зарабілі тройкі».

Пройгрыш «Малдове» з'явіўся першым сігналам, што ў камандзе «Беларусь» не ўсё добра. Пасля бурнай размовы ў час разбору гэтай гульні футбалісты ў наступных матчах пачалі гуляць лепш. «Беларусь» аказала ўпорнае супраціўленне дынамаўцам Кіева — уладальнікам сярэбраных медаляў у чэмпіянаце 1960 года. Але ўсё ж мінчане зноў прайгралі з лікам 1:2.

Праз некалькі дзён там жа, у Кіеве, «Беларусь» праводзіла свой трэці матч. Яна іграла з ленінградскім «Зенітам», які, таксама, як і мінчане, прайграў абедзве першыя сустрэчы. Аднак футбалісты «Беларусі» зноў расчаравалі сваіх прыхільнікаў, прайграўшы матч з лікам 1:3. Гэтае паражэнне было ўжо непапраўнай трагедыяй. Ігракі «Беларусі» канчаткова страцілі веру ў свае сілы. Пачынаюцца перастаноўкі ігракоў у лініі нападзення. Але гэта не дапамагло. Каманда па-ранейшаму кацілася ўніз: яна прайграла на сваім полі ташкенцкаму «Пахтакору» (1:3), затым зрабіла нічыю з ерэванскім «Спартаком» (1:1) і зноў пацярпела паражэнне з лікам 0:1 ад алмаацінскага «Кайрата».

Шэсць гульняў — адно ачко!

Што ж здарылася з камандай?

Няўжо яе ігракі за зімовы перыяд настолькі развучыліся іграць у футбол, што не могуць устояць перад іншымі камандамі?

Высветлілася, што міжсезонная падрыхтоўка футбалістаў «Беларусі» аказалася недастатковай і малаэфектыўнай. Некаторыя з іх не толькі не ўзбагацілі свой тэхнічны арсенал, але і страцілі былую спартыўную форму. Гэта ў першую чаргу датычыць ігракоў асноўнага складу майстроў спорту Віталія Арбутава і Уладзіміра Церахава. Прыходзілася замяняць іх Уладзімірам Ганчаровым, Мікалаем Чаргінцом, Анатолем Фядулавым. Затым у нападзенне сталі падключаць паўабаронцу Леаніда Ерахаўца, а Генадзь Хасін «вандраваў» з месца цэнтральнага нападаючага на левы край і назад. Партнёры мяняліся, не паспяваючы сыгрвацца. Усё нападзенне «ліхаманіла», а гэта выклікала нервознасць і ў абаронцаў. Адсюль — непапраўныя памылкі, паражэнні...

У час многіх матчаў мы бачылі, што футбалісты «Беларусі» ўступаюць сваім праціўнікам у хуткасці. За выключэннем Г. Хасіна, мала калі нападаючыя рабілі спробы самастойна прарвацца да варот праціўніка. Як правіла, кожны з іх імкнуўся адразу ж перадаць мяч партнёру. А паколькі перадачы часта бывалі недакладнымі, уся атака зводзілася на нішто. Вось і атрымлівалася, што «Беларусь» атакуе, атакуе, а карысці мала.

Яшчэ горш абстаіць справа ў камандзе з завяршаючымі ўдарамі. Не навучыліся да гэтага часу нападаючыя «Беларусі» дакладна біць па варотах. Таму яны імкнуцца падвесці мяч як мага бліжэй да варот, каб можна было не забіць, а закаціць яго ў сетку. А гэта ўдаецца рэдка. Калі атака губляе сваю вастрыню, то абаронцам другой каманды хапае часу заняць выгадную пазіцыю ля сваіх варот. Дробныя перадачы нападаючых менш небяспечныя, чым імклівыя прарывы, выхады на «свабоднае» месца, удары з сярэдняй і нават далёкай адлегласці.

Карацей кажучы, камандзе «Беларусь» не хапае разнастайнага арсеналу тэхнічных прыёмаў. Тэхніка футбола рухаецца ўперад. Цяпер ад майстроў скуранога мяча патрабуецца і добры бег, і ўменне хутка «апрацоўваць» мяч, лёгка арыентавацца на полі, умела выбіраць месца і момант для атакі. Іменна гэтых якасцей і не хапала нападаючым «Беларусі» ў сёлетнім сезоне. Да таго ж большасць матчаў яны праводзілі абыякава, без патрэбнага напружання і волі да перамогі.

Атрымалася так, што «Беларусь» па ступені сваёй «бяздольнасці» адступіла на крок назад, у той час як яе праціўнікі вельмі старанна падрыхтаваліся да сезона. І цяпер для «Беларусі» алмаацінскі «Кайрат» ці ташкенцкі «Пахтакор» сталі такімі ж небяспечнымі супернікамі, як маскоўскі «Спартак» або кіеўскае «Дынама». Многія калектывы класа «А» ўзялі на «ўзбраенне» так званую «бразільскую» сістэму расстаноўкі ігракоў: 3+3+4. Адцягваючы ў паўабарону аднаго нападаючага, яны стваралі для астатніх чатырох «аператыўную» прастору і адначасова ўмацоўвалі свае абаронныя лініі.

Мінчане ж нярэдка залішне «аберагалі» свае вароты, пакідаючы ў нападзенні толькі трох нападаючых. Гэта ўжо не «масіраваная» абарона, а баязлівасць, няўпэўненасць у сваіх сілах.

Было і так, што, гледзячы на бездапаможнасць сваіх нападаючых, у далёкія рэйсы да варот праціўніка кідаўся абаронца Міхаіл Радунскі. А пакуль ён вяртаўся на сваё месца, там ужо «гаспадарылі» ігракі праціўніка.

Некаторы пералом у гульнях «Беларусі» адбыўся пасля прыходу ў каманду майстра спорту Івана Мозера. Мінчане добра памятаюць гэтага невысокага, каржакаватага іграка, які валодае высокай тэхнікай. Некалі ён выступаў за мінскі «Спартак» і ў 1954 годзе ў гэтым жа калектыве атрымаў званне майстра спорту, а затым перайшоў у маскоўскі «Спартак». Мозер заняў сваё месца правага паўсярэдняга. Першы ж матч з яго ўдзелам прынёс «Беларусі» доўгачаканую перамогу: у Таліне мінчане выйгралі ў «Калева» з лікам 2:1 і пакінулі апошняе месца ў сваёй падгрупе.

А затым адбылося штосьці зусім неверагоднае: «Беларусь» у прысутнасці 35 тысяч мінчан нанесла першае паражэнне ў чэмпіянаце краіны маскоўскаму «Спартаку». Спачатку Л. Ерахавец забіў гол з 11-мятровага штрафнога ўдару, а затым Г. Хасін падвоіў лік. Іван Мозер не ўдзельнічаў у гэтым матчы. Мінчане, такім чынам, перамаглі сваімі ўласнымі сіламі. Яны ігралі з вялікім уздымам, непахісная воляй да перамогі. Калі б так пачалі яны сезон, то не засталіся б у канцы турнірнай табліцы.

Хапіла ў футбалістаў «Беларусі» запалу і на наступны матч з яшчэ адным грозным супернікам — камандай ЦСКА. Мінчане ў першым тайме адкрылі лік, але масквічы забілі гол у адказ, а пасля перапынку замацавалі сваю перамогу другім голам. І ўсё ж, калі беларускія футбалісты пакідалі поле, гледачы, прамоклыя пад праліўным дажджом, віталі іх дружнымі апладысментамі. Нягледзячы на паражэнне, мінчане ігралі зладжана і дружна. Не хапала ў іх толькі аднаго: моцных і дакладных удараў па варотах.

Першы круг «Беларусь» закончыла ўсяго з пяццю ачкамі і заняла ў другой падгрупе перадапошняе, дзевятае месца. І хоць другі круг розыгрышу каманда правяла лепш, выправіць становішча было немагчыма. Так і не ўдалося мінчанам падняцца вышэй 9 месца ў падгрупе. Цяпер ім прадстаяла барацьба за 11—22 месца. Запаветная дзесятка аказалася недасягальнай.

Праўда, такі ж лёс напаткаў і неаднаразовага чэмпіёна краіны — маскоўскае «Дынама». Яго «выбілі» з першай дзесяткі мінчане. Гэта адбылося ў час апошняй сустрэчы папярэдніх спаборніцтваў. Дынамаўцы Масквы пасля трыумфальных перамог над кіеўскім «Дынама» (5:0) і сталічным «Спартаком» (3:1) прыехалі ў Мінск на матч з «Беларуссю», як кажуць, з «агрэсіўнымі намерамі». Каб трапіць у фінальны турнір, дзе будуць аспрэчвацца 1—10 месца, масквічам патрэбна была толькі перамога. І вось замест жаданых двух ачкоў яны атрымалі нуль. Як і ў матчы са сталічным «Спартаком» (у першым крузе), футбалісты «Беларусі» зноў бліснулі выдатнай ігрой. Героем спаборніцтва быў Генадзь Хасін. Ён двойчы прымусіў славутага варатара масквічоў Льва Яшына вынуць мяч з сеткі сваіх варот. Дынамаўцы ж так і не змаглі забіць гол варатару мінчан Альберту Дзенісенку. Упершыню ў гісторыі розыгрышу першынства краіны па футболу маскоўскае «Дынама» не ўдзельнічала ў розыгрышу ганаровага звання чэмпіёна СССР па футболу. І ўсё «па віне» мінчан! У агульнай табліцы чэмпіянату краіны маскоўскае «Дынама» заняло 11 месца.

«Беларусь» правяла заключныя гульні без асаблівага ўздыму, але куды лепш, чым папярэднія. Мінчане двойчы абыгралі рыжскую «Даўгаву», узялі па два ачкі ў вільнюскага «Спартака» і бакінскага «Нафтавіка» і па аднаму — у «Адміралцейца» (Ленінград), «Працы» (Варонеж) і «Шахцёра» (Данецк). У канчатковым выніку «Беларусь» набрала ў 32 матчах 24 ачкі і заняла 19 месца, пакінуўшы ззаду каманды: «Спартак» (Вільнюс) — 19 ачкоў, «Даугава» (Рыга) — 17 ачкоў і «Калеў» (Талін) — 10 ачкоў. Мінчане забілі ў вароты сваіх супернікаў 29 мячоў і прапусцілі ў свае 44. Хваліцца, як бачыце, няма чым! Зноў мала забітых мячоў, а гэта сведчыць аб слабасці лініі нападзення.

У «залатой дзесятцы», якая аспрэчвала 1—10 месцы, выдатна фінішыравалі дынамаўцы Кіева. Яны набралі ў 30 матчах 45 ачкоў і ўпершыню ў гісторыі розыгрышу першынства краіны па футболу сталі ўладальнікамі залатых медаляў чэмпіёнаў Савецкага Саюза. Срэбныя медалі дасталіся мінулагоднім чэмпіёнам— тарпедаўцам Масквы, у якіх 41 ачко. На трэцім месцы маскоўскі «Спартак» — 40 ачкоў.

Закончыліся футбольныя баталіі. Апусцелі трыбуны стадыёнаў. Для футбалістаў наступіў час адпачынку. А потым— зноў трэніровачныя заняткі, зноў падрыхтоўка да новага футбольнага сезона. Не будзем гадаць, што прынясе ён нашай камандзе «Беларусь». Будзем спадзявацца, што новае кіраўніцтва лепшага футбольнага калектыву рэспублікі зробіць, нарэшце, належныя вывады з няўдач сёлетняга сезона.

Новы футбольны сезон «Беларусь» павінна сустрэць дружным, маналітным калектывам, які б здолеў з поспехам адстаяць спартыўны гонар нашай рэспублікі і парадаваць сваіх шматлікіх прыхільнікаў прыгожай, зладжанай, высокатэхнічнай ігрой. Магчымасці для гэтага ёсць. Галоўнае — своечасова і правільна ўкамплектаваць каманду здольнымі ігракамі, усебакова падрыхтаваць яе да новых захапляючых паядынкаў на футбольным полі.

**Л. СЕВАСЦЬЯНАЎ.**

# Шахматы

пад рэдакцыяй міжнароднага майстра
А. СУЭЦІНА

*На чарговым кангрэсе Міжнароднай шахматнай федэрацыі, які адбыўся ў верасні 1961 года ў г. Сафіі, рэдактару нашага шахматнага аддзела чэмпіёну Беларусі майстру спорту СССР А. Суэціну прысвоена званне міжнароднага майстра па шахматах. Гэтае званне А. Суэцін заваяваў на юбілейным міжнародным турніры ў г. Дэбрэцэне (Венгрыя) у ліпені 1961 года. Часопіс «Маладосць» віншуе свайго шматгадовага рэдактара шахматнага аддзела з заслужанай перамогай.*

## БАРАЦЬБА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Пасля паражэння М. Таля ў матч-рэваншы з М. Батвіннікам на званне чэмпіёна свету многія спецыялісты лічылі, што Таль наўрад ці зможа хутка прыйсці да добрай спартыўнай формы. Але міжнародны турнір гросмайстраў у Бледзе (Югаславія), які адбыўся нядаўна, абвергнуў гэтыя прагнозы.

Першы міжнародны турнір гросмайстраў быў праведзены ў 1931 годзе і закончыўся трыумфальнай перамогай першага рускага чэмпіёна свету Аляксандра Алёхіна, які апярэдзіў бліжэйшага канкурэнта на $5^1/_2$ ачкоў.

У другім турніры — у Бледзе — прысутнічалі лепшыя і вядомыя ўсяму свету замежныя шахматысты. Наша шахматная арганізацыя таксама паслала сваіх лепшых прадстаўнікоў: М. Таля, П. Кераса, Т. Петрасяна, Е. Гелера.

Вынікі гэтай захапляючай, але надзвычай цяжкай барацьбы былі вельмі нечаканыя — ва ўпартых шахматных баях перамогу літаральна «выхапіў» у іншых прэтэндэнтаў Міхаіл Таль. На гэты раз асноўным яго канкурэнтам быў самы малады гросмайстар свету васемнаццацігадовы амерыканец Роберт Фішар.

Старэйшым турнірным удзельнікам — П. Керасу, Т. Петрасяну (СССР) і С. Глігорычу (Югаславія) прыйшлося задаволіцца падзелам трэцяга, чацвёртага і пятага месца.

І вось Таль зноў зрабіўся адным з самых папулярных шахматыстаў свету. 8 лістапада яму споўнілася 25 год — узрост, калі найбольш інтэнсіўна развіваюцца творчыя магчымасці. Калі ўлічыць, што ў гульні Таля яшчэ шмат юначай няўстойлівасці, пошукаў, можна спадзявацца на новы рост яго майстэрства ў бліжэйшы час.

Таль, як і раней, застаецца адным з самых сур'ёзных прэтэндэнтаў на сусветную шахматную карону. Як відаць, ён — самы моцны турнірны (іменна турнірны!) баец сярод усіх шахматыстаў свету. Таму можна сцвярджаць, што






Р. Фішар (ЗША) і М. Таль (СССР) на Міжнародным турніры ў г. Блед (Югаславія).

яго шансы на наступным турніры прэтэндэнтаў у маі 1962 года будуць вельмі значныя.

Цікавая турнірная тактыка Таля. У адрозненне ад многіх лепшых турнірных байцоў мінулых часоў — Э. Ласкера, А. Алёхіна і другіх, якія імкнуліся перш за ўсё перамагчы сваіх галоўных канкурэнтаў, Таль перш за ўсё імкнецца атрымаць максімальны працэнтны вынік. Амаль у кожнай партыі турніраў Таль гуляе на поўную сваю сілу. Таму найбольш церпяць ад яго «серадняткі» і «аўтсайдары».

Але каб зрабіцца чэмпіёнам свету, Таль павінен навучыцца на такім жа ўзроўні весці матчавыя баі. А гэта, як паказаў яго апошні матч з М. Батвіннікам, для Таля яшчэ вельмі цяжкая задача.

Аматараў шахмат, вядома, цікавіць пытанне, ці заканамерны вынік, атрыманы Р. Фішарам. Такі вялікі яго поспех, як заваяванне другога месца, — гэта перамога буйнага маштаба. Упершыню Фішар здолеў паспяхова закончыць партыі з савецкімі гросмайстрамі, набраўшы супраць іх $3^1/_2$ ачка з чатырох. Праўда, у некаторай меры гэта тлумачыцца тым, што Фішару, як кажуць, «пашанцавала» — Таль і Гелер зрабілі сур'ёзныя памылкі ўжо ў дэбюце, Петрасян груба памыліўся ў цэйтноце.

Але факт застаецца фактам — поспех Фішара неабвержны. Несумненна, што Фішар не толькі самы перспектыўны, але і самы моцны зарубежны гросмайстар. Здаецца, толькі ён і будзе дастойным канкурэнтам нашым шахматыстам у будучай барацьбе на званне чэмпіёна свету, хоць шлях да матча з Батвіннікам вельмі цяжкі. Нездарма гавораць, што прэтэндэнты на сусветную шахматную карону — «у сямі водах вымыты». Турніру ж прэтэндэнтаў папярэднічае так званы міжзанальны турнір, які збірае лепшых прадстаўнікоў усіх кантынентаў і краін свету. Такі турнір на гэты раз было намечана правесці ў студзені 1962 года ў Галандыі. Аднак учынкі галандскага ўрада, які зрывае адно за другім афіцыйныя міжнародныя спаборніцтвы, робяць немагчымым правядзенне міжзанальнага турніра ў гэтай краіне.

Савецкая шахматная арганізацыя ўнесла на абмеркаванне і зацверджанне прапанову аб правядзенні такога турніра ў Маскве. У бліжэйшы час будуць вядомы вынікі абмеркавання і, магчыма, сталіца нашай Радзімы —

«шахматная мека», як называюць яе зарубежныя шахматысты, — зімой, у пачатку 1962 года, будзе гасцінна сустракаць лепшых шахматыстаў зямнога шара, у тым ліку і прадстаўнікоў краін далёкай Аўстраліі і азіяцкіх краін.

Шэсць прадстаўнікоў міжзанальнага турніра і савецкія гросмайстры М. Таль і П. Керас — вось склад наступнага турніра прэтэндэнтаў.

А ў чэрвені 1962 года вызначыцца і той шчаслівы чалавек, які будзе мець гонар змагацца за першынство свету па шахматах з М. Батвіннікам.

Найбольш нецярплівым аматарам шахмат хочацца як мага хутчэй пачуць прозвішча новага шахматнага «фаварыта лёсу». Але ў тым і цікавасць вострых спартыўных адчуванняў, што наперад прадказаць пераможцу нават самым лепшым знаўцам шахматнага жыцця немагчыма.

Пераможца вызначыцца ў барацьбе, і будзе ім той гросмайстар, які здолее ўкласці ў сваю гульню ўсе сілы і веды, усе свае здольнасці. А гэта патрабуе вельмі і вельмі ўмелай падрыхтоўкі і правільнай трэніроўкі. Прычым, метады яе правядзення — гэта пакуль што задача, як гаворыцца, з трыма невядомымі.

Хто ведае, што больш мэтазгодна — ці то займацца ў хатніх умовах у адзіночку, ці ўключацца ў якое-небудзь буйнае спаборніцтва (напрыклад, у фінал першынства СССР) і папрацаваць перад стартам у сусветным чэмпіянаце на поўную моц, на вачах у шматлікіх гледачоў? Ці, як найлепш загартоўваць свае якасці фізічныя і маральныя? Усё гэта вырашае сам шахматыст, якому і трэба будзе расплачвацца за ўсе свае памылкі ў час падрыхтоўкі.

Хто будзе пераможцам — Керас або Петрасян, Таль або Фішар, Смыслоў або Глігорыч? Гэта — невядома. Але, як скала, несакрушальны да гэтага часу М. Батвіннік! Аб яго жалезную логіку ў час гульні разбіваюцца адна за другой ярасныя атакі прэтэндэнтаў.

Ці доўга будзе яшчэ кіраваць шахматным светам М. Батвіннік? Гэта пытанне цікавіць усіх. Адзін з прадказальнікаў жартам сцвярджаў нават, што матчы з Батвіннікам будуць вывучацца яшчэ пасля ўстанаўлення рэгулярнай сувязі з лунный станцыяй. А як думаеце вы, паважаныя чытачы?





# „Ай лаў ю“...

**Гумарэска**

Уладзімір Раслякоў, выпускнік філалагічнага факультэта, і яго зямляк Аркаша Курачкін, студэнт першага курса, сядзелі ў аўдыторыі і размаўлялі аб карысці і метадах вывучэння англійскай мовы. Уладзімір, пакручваючы ў руках англа-рускі слоўнік, які перад тым старанна вывучаў першакурснік, з лёгкім задуменнем паўтараў:

— Ту спік... Ту райт... Ту рынг... Грыз і я калісьці англійскія дзеясловы ў розных часах і станах... Бр-ррр! Як успомню, дык адразу зубы балець пачынаюць. Нават у сне, кажуць, выкрыкваў розныя англійскія словы. Роўна два гады адпакутаваў, аднак нічога не выйшла — англійскія выданні Шэкспіра, Шоў і Грына так і не дачакаліся майго дапытлівага розуму.

— Практыкі, мусіць, малавата было,— спачувальна сказаў першакурснік Аркаша. — Я, асабіста, думаю ўступіць у гурток аматараў англійскай мовы.

— Шчаслівага шляху! — іранічна заўважыў Уладзімір. — Будзеш удзельнічаць у выпуску англійскай насценгазеты, іграць ролю ў аднаактоўцы і атрымліваць лішні бал ад англічанкі за самааданасць у барацьбе з дзеепрыметнікамі цяперашняга часу незалежнага стану...

— Не, гэта не метад, — працягваў пасля мінутнай паўзы выпускнік. — Гэта, як казаў Марк Твэн, — лухта з банцікамі. Так, так, дружа. Хоць метад гэты распрацаваны разумнымі людзьмі з акадэмічнымі тытуламі, але яны не ўлічылі нашага загартаванага гадамі лёгкадумства ў гэтым прадмеце, які для нас, звычайных студэнтаў, з'яўляецца непераадольнай сцяной. Праз яе пералазяць толькі адзінкі, і тое, як правіла, — дзяўчаты... І не пярэч, дружа. Дзяўчаты ў вывучэнні замежных моў — неверагодна вынослівыя.

— А Мікалай Бабрыка? — спытаўся першакурснік. — Нам англічанка яго кожны раз у прыклад ставіць.

— Мікалай — унікум, выключна арыгінальны чалавек, хоць гэта ад яго і не залежыць. Я якраз і хацеў расказаць табе яго гісторыю, якая з'яўляецца прыкладам новага метаду вывучэння англійскай мовы. Іменна метад і выпадак, а не Колькава арыгінальнасць, вывелі яго ў людзі.

Здарылася гэта недзе на другім курсе. Прыкладна ў тыя часы, я канчаў зубрыць нестандартныя дзеясловы. У інтэрнацкім пакоі нас жыло тады пяцёра: я, Колька, Толік, Генка і Лёва. Гэты Колька і будзіў мяне, калі я ў сне крычаў англійскія дзеясловы. Ён цярпець іх не мог. І, адпаведна, меў тады па англійскай мове адны стромкія «калы», якія толькі ў канцы семестра ўмудраўся нейкім чынам зводзіць да выратавальнай «удачкі».

Стойкі ў той час быў хлапец і нічым асаблівым у навуках не вылучаўся. Адзінае, што яго вызначала, гэта незвычайная сарамлівасць у адносінах з дзяўчатамі. Ты бачыў, які ён з выгляду? Правільна, нічога асаблівага. Але з пункту гледжання ўсіх аднакурсніц і нават старшакурсніц ён да гэтай пары яўляе сабой цуд мужнасці і яшчэ ліха ведае чаго там такога.

